Сяргей Шупа

# падарожжа ў БНР

Архіўны раман

Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода

**Сяргей Шупа. Падарожжа ў БНР. Архіўны раман.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2018. 282 с. + 56 с. укладка: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Аляксандар Лукашук*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Вінцук Вячорка*

Кніга «Падарожжа ў БНР» уяўляе сабой дасьціпны і ўпарадкаваны паказ у гістарычным кантэксьце арыгінальных дакумэнтаў і матэрыялаў, якія захоўваюцца ў фондах БНР у архівах Менску і Вільні. Яна занадта маляўнічая, каб быць гістарычнай манаграфіяй, і занадта стрыманая ў аўтаравай фантазіі, каб быць літаратурным творам, адсюль і жанр — «архіўны раман». На яе старонках у трох сотнях кароткіх фрагмэнтаў апісваецца ўзьнікненьне цуду, які адбыўся 100 гадоў таму, — незалежнай Беларусі.


FOL

ISBN 978-0-929849-30-0

# ЗЬМЕСТ

## ЛЕСЬВІЦА Ў МІНУЛАЕ, ЯКАЯ ВЯДЗЕ ЎВЕРХ

У мінулае можна ўпасьці, як у бездань, можна ўзьляцець, як у мару, а можна спусьціцца, як па лесьвіцы, дзе пад кожнай прыступкай закладзеная міна — крок за крокам, любы зь якіх можа стаць апошнім, і таму нельга нічога прапусьціць і трэба ўсё спраўдзіць на свае вочы і перамацаць сваімі рукамі:

цыдулку за цыдулкай,

ліст за лістом,

даведку за даведкай,

рахунак за рахункам,

ордэр за ордэрам,

мандат за мандатам,

пасьведчаньне за пасьведчаньнем,

расьпіску за расьпіскай,

загад за загадам,

мэмарандум за мэмарандумам,

тэлеграму за тэлеграмай,

пратакол за пратаколам,

пастанову за пастановай,

акт за актам,

грамату за граматай, —

і толькі тады можна запрашаць у гэтае падарожжа іншых, і, куды б яны ні йшлі, яны выйдуць на сьвятло, бо гэтая лесьвіца заўсёды вядзе ўверх.

*Аляксандар Лукашук, Радыё Свабода*

## ПАРА СЛОВАЎ АД АЎТАРА ПРА ДВА ТАМЫ «АРХІВАЎ БНР»

Неяк зімою на пачатку 1990-х у хату на віленскім Антокалі, дзе я тады жыў, завітаў адзін менскі знаёмец, літаратуразнаўца з архіўнымі схільнасьцямі, і агаломшыў мяне сэнсацыяй: ён знайшоў у Літоўскім дзяржаўным архіве ліставаньне паміж двума найстрашнейшымі ворагамі ў беларускім сьвеце — Антонам Луцкевічам і Вацлавам Ластоўскім! Гэтыя два слупы нацыянальнага адраджэньня былі сапраўднымі жыцьцёвымі антыподамі і вечнымі канкурэнтамі на лідэрства ў беларускім руху — перапіску паміж імі было цяжка сабе ўявіць.

Слова за слова, госьць прагаварыўся пра нумар архіўнага фонду, а я наўсьлеп узяў з паліцы манаграфію нейкага савецкага мастадонта, дасьледніка «беларускай контрарэвалюцыі» — і расчаравана ўздыхнуў: ніякай сэнсацыі, згаданы фонд ужо даўно ня быў ніякім сакрэтам. Толькі што раней ён быў закрыты, дазвол працаваць зь ім давалі кампэтэнтныя органы, таму звычайныя беларусы да яго доступу ня мелі. А цяпер — у 1992-м — тэарэтычна мелі, але ж у тую Вільню ўжо так проста не наезьдзісься...

Назаўтра выбраўся я сам з аднаго канца Антокалю ў другі — у той самы архіў — і... выйшаў зь яго праз шэсьць гадоў з двума тамамі вагою на два з паловай кіляграмы, у якія ўвайшлі 3873 дакумэнты на 1722 старонках.

Кароткае апісаньне маіх заняткаў у выходных зьвестках падаецца так: «Укладаньне, падрыхтоўка тэксту, уступны артыкул, камэнтары, пераклады, паказальнік, кампутарны набор, макет».

Выданьне арганізаваў нью-ёрскі Беларускі інстытут навукі й мастацтва на чале зь яго бязьзьменным дырэктарам Вітаўтам Кіпелем, макет падрыхтавалі калегі зь віленскага Таварыства беларускага пісьменства, а з друкам дапамаглі знаёмыя з элітнага выдавецтва «baltos lankos».

Так мне давялося пабыць гісторыкам і нават трапіць у энцыкляпэдыю і ў бібліяграфію ўнівэрсытэцкіх курсаў.

…А ліставаньня Луцкевіча з Ластоўскім там ніякага і не было. Гэта тупы энкавэдысцкі архівіст так назваў адну са справаў фонду, не разабраўшыся як сьлед у адрасатах і адрасантах.

Віленская частка Архіваў БНР — 135 справаў у двух вопісах. 135 тэчак рознай таўшчыні і глыбіні, апрацаваныя архівістамі савецкіх спэцслужбаў у канцы 1940-х. І гэта толькі частка раскіданага па сьвеце і часткова страчанага або яшчэ ня знойдзенага цэлага. Прыблізна гэткая самая паводле аб’ёму частка захоўваецца ў Менску. За магчымасьць дыстанцыйнага карыстаньня менскай часткай я ўдзячны калегу Ўладзімеру Ляхоўскаму.

Седзячы ў архіве і перабіраючы справы старонка за старонкай, я адкрыў для сябе новы невядомы сьвет, краіну і эпоху. Найбольш мяне ўразіла тое, што Беларуская Народная Рэспубліка

была зусім не такою, як яе выстаўлялі савецкія гісторыкі і прапагандысты, і не зусім такою, як яе бачылі прыхільнікі ідэі БНР — пераважна ў эміграцыі. І адны і другія лічылі яе «буржуазна-нацыяналістычнай» у сутнасьці, толькі першыя яе за гэта ганілі, а другія хвалілі. А насамрэч яна такім спрошчаным дэфініцыям не падлягае.

І яшчэ — я ўва ўсім гэтым дакумэнтальным масіве ўбачыў матэрыял нават не для гістарычных манаграфіяў, а для літаратуры. Дзьве кнігі «Архіваў БНР» можна чытаць проста як постмадэрнісцкі раман — пачаўшы з кожнага месца і далей па спасылках.

# СЬВІТАНЬНЕ

## сакавік 1917 — люты 1918

**Расейская рэвалюцыя.**
**Беларускае абуджэньне.**
**Бальшавіцкі пераварот.**
**Усебеларускі Зьезд**

# 1914–1916

1 жніўня 1914 — Нямеччына абвяшчае вайну Расеі, пачынаецца Першая сусьветная вайна

7 (20) жніўня 1915 — з набліжэньнем да Вільні расейска-нямецкага фронту спыняецца выхад «Нашай нівы»

18 верасьня 1915 — немцы займаюць Вільню

15 лютага 1916 — у Вільні пачынае выходзіць газэта «Гоман»

# 1917

23 лютага (8 сакавіка) — 3 (16) сакавіка — у Расеі адбываецца Лютаўская рэвалюцыя, цар Мікалай II адракаецца ад пасаду

25–27 сакавіка (7–9 красавіка) — у Менску адбываецца Зьезд беларускіх нацыянальных арганізацыяў, які абірае Беларускі нацыянальны камітэт

8–12 (21–25) ліпеня — у Менску праходзіць Зьезд беларускіх арганізацыяў і партыяў, утвараецца Цэнтральная рада беларускіх арганізацыяў

30 ліпеня (12 жніўня) — у Менскую гарадзкую думу выбраныя будучыя дзеячы БНР Аркадзь Смоліч і Лявон Заяц

5–6 (18–19) жніўня — у Менску адбываецца першая сэсія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацыяў

15–17 (28–30) кастрычніка — адбываецца другая сэсія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацыяў, утвараецца Вялікая беларуская рада

24–25 кастрычніка (6–7 лістапада) — бальшавікі ўчыняюць у Петраградзе дзяржаўны пераварот

27 кастрычніка (9 лістапада) — Вялікая беларуская рада асуджае бальшавіцкі пераварот як праяву анархіі

2 (15) лістапада — бальшавікі захапляюць уладу ў Менску

7 (20) лістапада — Украінская Цэнтральная Рада абвяшчае аўтаномію Ўкраінскай Народнай Рэспублікі ў складзе Расеі

13–15 (26–28) лістапада — праходзяць выбары ў расейскі Ўстаноўчы сход у беларускіх губэрнях, дзе галасавалі ня толькі мясцовыя жыхары, але і расейскія вайскоўцы Заходняга фронту, большыня галасоў аддадзеная за бальшавікоў і эсэраў, Беларуская сацыялістычная грамада набірае 0,3%

27 лістапада (10 сьнежня) — утвараецца Выканаўчы камітэт Заходняй вобласьці і фронту (Облискомзап)

30 лістапада (13 сьнежня) — Курултай крымскататарскага народу абвяшчае ў Бахчысараі стварэньне Крымскай Народнай Рэспублікі

5 (18) сьнежня — у гарадзкім тэатры ў Менску (цяпер — тэатар імя Янкі Купалы) пачынае працу Ўсебеларускі Зьезд

7 (20) сьнежня — створаная Ўсерасейская надзвычайная камісія па барацьбе з контрарэвалюцыяй і сабатажам (ЧК) на чале з Фэліксам Дзяржынскім

9 (22) сьнежня — у Берасьці пачынаюцца расейска-нямецкія мірныя перамовы

17–18 (30–31) сьнежня, ноч — бальшавікі разганяюць Усебеларускі Зьезд

4 (17) сьнежня — Фінляндыя абвяшчае незалежнасьць

21 сьнежня (3 студзеня 1918) — утвараецца Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду

# 1918

8 студзеня — прэзыдэнт ЗША Вудра Ўілсан выступае з сваімі «14 пунктамі» ўмоваў міру, якія будуць пакладзеныя ў аснову Вэрсальскай мірнай дамовы

6 (19) студзеня — бальшавікі разганяюць расейскі Ўстаноўчы сход, у якім пераважалі эсэры

11 (24) студзеня — Украінская Цэнтральная Рада абвяшчае незалежнасьць Украінскай Народнай Рэспублікі

12 (25) студзеня — Першы польскі корпус Доўбар-Мусьніцкага абвяшчае вайну бальшавікам, займае Бабруйск і на працягу некалькіх месяцаў кантралюе тэрыторыю трох навакольных паветаў

15 (28) студзеня — СНК РСФСР падпісвае дэкрэт аб стварэньні Рабоча-сялянскай чырвонай арміі

24 студзеня (6 лютага) — Малдова абвяшчае незалежнасьць

31 студзеня (13 лютага) — у Петраградзе ствараецца Беларускі нацыянальны камісарыят (Белнацком)

1 (14) лютага — Расея і падкантрольныя ёй тэрыторыі пераходзяць на грэгарыянскі каляндар, пасьля 31 студзеня настае 14 лютага

16 лютага — Літва абвяшчае незалежнасьць

16 лютага — Кубанская краявая вайсковая рада абвяшчае незалежнасьць Кубанскай Народнай Рэспублікі

18 лютага — пачынаецца агульны наступ нямецкіх войскаў на ўсход, у выніку якога будуць занятыя краіны Балтыі, Беларусь, частка Расеі, Украіна, частка Паўночнага Каўказу

## Перад БНР

Пачаткі беларускага нацыянальнага варушэньня ў Менску ў Архівах БНР, натуральна, не зафіксаваныя, але з пачаткамі заўсёды так — усё пачынаецца нашмат раней, чым пачынаецца. Але тут ня будзем згадваць Старажытны Полацак, Вялікае Княства Літоўскае ці Першую сусьветную вайну, а перанясемся ў часе роўна на год раней за дату абвяшчэньня незалежнасьці БНР 25 сакавіка 1918 году.

Вось жа 25 сакавіка 1917-га ў Менску ўсё беларускае, што толькі магло знайсьціся, сабралася на Зьезд беларускіх нацыянальных арганізацыяў. У авангардзе гэтай падзеі быў Менскі беларускі нацыянальны камітэт, у які адразу пасьля расейскай лютаўскай рэвалюцыі перайменаваў сябе Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны.

Зьезд вітаў Часовы ўрад Расеі і выказаўся — упершыню — за аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расеі. На зьезьдзе быў створаны орган палітычнага прадстаўніцтва беларускага руху — Беларускі нацыянальны камітэт на чале з буйным земляўласьнікам Раманам Скірмунтам, але бальшыню сяброў камітэту склалі прадстаўнікі Беларускай сацыялістычнай грамады.

Скірмунта паслалі ў Петраград дамаўляцца аб аўтаноміі, але ні пра што дамовіцца не ўдалося. У ліпені ў Менску на Зьезьдзе беларускіх арганi-

зацыяў і партыяў левыя адсунулі правых убок і абралі новы прадстаўнічы орган — Цэнтральную раду беларускіх арганізацыяў на чале з выканкамам, дзе ўжо вялі рэй дзеячы Беларускай сацыялістычнай грамады.

Важна зазначыць, што ў тыя першыя месяцы — вясной і летам 1917-га — у Менску, будучай сталіцы Беларусі, упершыню ў публічную прастору ўварвалася беларуская мова. Яна гучала на сходах і мітынгах, на ёй друкаваліся ўлёткі і адозвы, а ў траўні пачала выходзіць першая ў Менску беларуская газэта — «Вольная Беларусь».

## Што ўперад — сацыялізм ці нацыя

Першая сэсія Цэнтральнай рады беларускіх арганізацыяў 5 жніўня 1917-га распачалася спрэчкамі аб мове. Абраны прысутнымі старшыня Станіслаў Петрашкевіч, узяўшы слова, выбачыўся, што, «не знаючы акуратне беларускай мовы, будзе гаварыць па-расейску». І пайшло-паехала...

Першым бараніць моўныя пазыцыі кінуўся нацыянальна сьведамы ксёндз Аляксандар Сак, запатрабаваўшы, каб старшыня пакінуў сваё месца або гаварыў па-беларуску. Але талерантныя калегі — Шантыр, Равінскі, Цьвікевіч — патлумачылі чалавеку ў сутане, што «дзеля насільства старога ладу, выгнаўшага мову са школы, толькі хто-ніхто спаміж сьвядомых беларусоў можа гаварыць па-беларуску». Абураны стаўленьнем сходу да гэтай важнай справы, ксёндз Сак пакінуў залю.

Яшчэ адным месцам буксаваньня на сэсіі сталася пытаньне выбару палітычных прыярытэтаў. Тут на-

зіраўся гендэрны дысбалянс — спрэчка абышлася без мужчынаў. Правая Ванда Лявіцкая закінула прамоўцам, што яны замала ўвагі зьвяртаюць на нацыю. Левая Палута Бадунова тут жа абвясьціла, што «ўперад сацыялізм, а пасьля нацыя».

## Пад белым сьцягам з чырвонай стужкай...

На першай сэсіі Цэнтральнай рады 6 жніўня быў прыняты Статут беларускіх нацыянальных культурна-прасьветных гурткоў у войску. Гэта быў адзін зь першых дакумэнтаў, у якім экспліцытна згадваецца беларуская нацыянальная сымболіка. У пункце 19 Статуту напісана: «Кожны член беларускай грамады ў войску павінен насіць беларускі нацыянальны знак: белая стужка з чырвонай палоскай пасярэдзіне; усе тры палоскі — белая, чырвоная і белая — аднэй шырыні».

## Сьлёзы на схуднелых шчоках Беларусі

Падзеі Ўсебеларускага Зьезду, які адбываўся ў Менску ў сьнежні 1917-га, нагадвалі тэатральную дзею — такую сабе эпічную драму.

Менск, гарадзкі тэатар (сёньняшні Купалаўскі), 7 (20) сьнежня 1917, 8 гадзін 45 хвілін вечара.

Пачынае старшыня Зьезду Рак-Міхайлоўскі: «Народ Беларускі! Мне выпаў вялікі гонар адкрыць гэты зьезд. Праз вашы плечы я бачу ўсю Беларусь! Яна стаіць перад вамі змардаваная, поўная тугі і надзеі. Па яе схуднелым шчокам цякуць сьлёзы. Беларусы! Вы прыйшлі сюды сказаць сваё слова.

Дык працуйце на дабро свайго народу. Няхай жыве Вольная Беларусь!».

Заля сустракае гэтыя словы бурлівымі воплескамі. Вайсковы аркестар грае Марсэльезу. Крыкі «Ўра!» Словы Марсэльезы. Адзін дэлегат абвяшчае: «Няхай жыве Беларуская Рэспубліка!» Авацыі. Зноў Марсэльеза.

Дэлегат зь лёжы запрашае ўшанаваць уставаньнем памяць усіх, хто паклаў сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну і свабоду. Усе ўстаюць. Аркестар грае пахавальны марш.

Тым часам ззаду стала прэзыдыюму становіцца хор у нацыянальных строях. Як толькі хор заняў месца, зь яго выходзіць юная яго ўдзельніца і ў гарачай прамове вітае Зьезд ад вучаніц-беларусак. Зьезд адказвае ёй бурлівымі воплескамі.

Вітае Зьезд кіраўнік Першага таварыства беларускай драмы і камэдыі Флярыян Ждановіч. Воплескі. Сьледам за гэтым зноў сьпевы: беларуская Марсэльеза «Адвеку мы спалі», беларускі гімн «А хто там ідзе» і беларускі рэвалюцыйны гімн «Кроў нашу льюць даўно ўжо каты». Пасьля кожнага выкананьня бурлівыя воплескі...

## Бальшавіка вывалокваюць за сцэну

Эўфарыю ўрачыстага адкрыцьця Зьезду азмрочыў першы канфлікт зь цёмнымі сіламі. На сцэну выйшаў прадстаўнік латыскай сэкцыі пры Менскім камітэце РСДРП, а заадно і наркам унутраных справаў Заходняй вобласьці Людвіг Рэзаўскі і заявіў: «Мы стоим за братство всех народов. Не должно быть деления на нации».

Для ілюстрацыі сваёй тэзы бальшавік паказаў на беларускі сьцяг над трыбунай і запатрабаваў «скинуть этот флаг», назваўшы яго «национальной тряпкой», і замяніць яго «красным знаменем интернационала». У зале ўсчаўся неверагодны вэрхал, крыкі «Прэч! Далоў!» Да аратара кінуўся немалы натоўп дэлегатаў, яны вывалаклі яго за сцэну.

Дэпутат Зьезду генэрал Канстанцін Аляксееўскі падышоў да трыбуны і пацалаваў сьцяг.

## «Произвести переворот умов» не ўдаецца

Бальшавікам, якія далі дазвол на правядзеньне Зьезду, з кожным днём ён падабаўся ўсё менш і менш. Нейкі час яны спрабавалі ўплываць на яго працу знутры. Галоўнакамандуючы Заходнім фронтам, адзін з бальшавіцкіх верхаводаў Аляксандар Мясьнікоў даслаў тэлеграму бальшавіцка-леваэсэраўскаму крылу Зьезду:

«Сообщите товарищам, чтобы на съезде белорусов… они произвели переворот умов раскол и выяснили буржуазность его. Это требуется».

Пераварот «умоў» правесьці не ўдалося — Зьезд працягваў гнуць сваю лінію, і тады падключылі іншыя мэханізмы. Старшыня Вайскова-рэвалюцыйнага камітэту Заходняга фронту Карл Ландэр шле загад Людвігу Рэзаўскаму:

«Предписывается Вам, имея в своем распоряжении достаточную вооруженную силу, оцепить здание, где происходит заседание Белорусского съезда, арестовать президиум Съезда, а равно избранный орган краевой власти; оставить со Съезда

т.т. Большевиков и стоящих на точке зрения советской власти, а сам Съезд объявить распущенным».

## «Под видом мягких лайковых перчаток...»

Разгон Зьезду стаўся першым адкрытым сутыкненьнем беларусаў з расейскім бальшавізмам.

Уначы з 17 на 18 сьнежня пачалося галасаваньне за рэзалюцыю. Сакратар пачаў зачытваць першы зь пятнаццаці пунктаў, калі раптам да стала прэзыдыюму падышлі трое — начальнік менскага гарнізону Крывашэін, наркам унутраных справаў Заходняга фронту Рэзаўскі і камандзір «першага рэвалюцыйнага палку» Рамнёў.

Старшыня дае слова Крывашэіну, п'яны начальнік гарнізону нешта сіпіць, кепска чуваць, язык заплятаецца, чуваць толькі словы: «Под видом мягких лайковых перчаток, под видом мягкой пуховой постели...»

Гэтыя словы могуць застацца ў гісторыі такой самай крылатай фразай, як вядомае «Караул устал» матроса Жалезьнякова, прамоўленае тры тыдні пазьней у Петраградзе ў падобных умовах пры разгоне расейскага Ўстаноўчага сходу.

Замяшаньне перапыняе Рэзаўскі, які абвяшчае, што распускае Зьезд, лічыць прэзыдыюм арыштаваным і загадвае Рамнёву ўвесьці ў залю сваіх ваякаў.

## Узводзяцца барыкады

«Усё завалтузілася, загаманіла, нібы пчолы ў вульлі», — так удзельнік Зьезду Макар Косьцевіч апісвае пачатак першага бою за беларускую свабоду.

Безабаронная сялянская і салдацкая маса кінулася ратаваць прэзыдыюм. Але сілы няроўныя, арыштаваны прэзыдыюм выводзяць — абаронцы Зьезду зацягваюць «Марсэльезу», з другога канца залі чуваць «Адвеку мы спалі…»

На месцы арыштаванага зьяўляецца новы прэзыдыюм, пасярод залі вырастаюць барыкады, прымаецца рэзалюцыя пратэсту. Дэлегаты Зьезду забыліся пра ўнутраныя падзелы і фракцыі і бароняць свае грамадзянскія правы перад дзікунствам і гвалтам.

У мітусьні вакол новага прэзыдыюму Крывашэін падыходзіць да прадстаўніцы Беларускага абласнога камітэту Зінаіды Юр'евай, «грэнадзёрскага выгляду дзяўчыны», і кажа: «Ты, красотка, поедешь со мной в автомобиле». Юр'ева б'е Крывашэіна па твары... Крык... гоман... гукі жалобнага маршу.

Зразумеўшы марнасьць далейшага супраціву, Зьезд пакідае залю. На вуліцы ўжо днее — пятая гадзіна раніцы. Удзельнікі сходу накіроўваюцца за арыштаванымі ў штаб бальшавікоў на Падгорнай вуліцы, сьпяваючы рэвалюцыйныя гімны.

## Сьведчыць палескі Агасфэн

У Архівах БНР захавалася сьведчаньне невядомага ўдзельніка Зьезду, якое ўражвае цыцэронаўскім стылем (абодва асобнікі тэксту падпісаныя псэўданімамі — «Язэп Палескі» і «Агасфэн»):

«В момент, когда так называвшийся начальник Минского гарнизона “большевик” Кривошеин, надвинув фуражку на брови и зажав в зубах папиросу произносил свою патетическую “речь” перед

подлинными избранниками белорусского народа, а большевистский сатрап Резаузский метался из стороны в сторону по эстраде, пытаясь найти сторонников своего подлого дела, я почувствовал, что совершается величайшее событие в истории белорусского национально-политического возрождения, просыпается народ-богатырь, вековечным сном спавший под тяжестью беспросветного классового гнета, поругания человеческих и национальных прав, насилия над личностью гражданина.

Я понял и воочию увидел рождение народа, воскресение национального самосознания, полное необычайной внутренней красоты и окруженное ореолом мученичества. Меня затем уже не испугал ни топот ворвавшихся вооруженных инфантеристов, ни грохот мгновенно вырастающих баррикад, ни даже направленные на меня штыки и приклады безответных рабов лжесоциализма.

Народ родился! Воскрес Народ! Белорус пришел в мир, что бы дать мир всему миру…

Пышным букетом расцвела в душе радость за судьбу Белоруссии, хотелось обнимать братьев-белорусов и вместе с ними умирать ради воскресения страдальца-народа.

Напряжение достигло кульминационного момента. Под скрещенными штыками Президиум Съезда прошел на Галгофу… На секунду замерла серая масса землеробов и воинов и в ответ на шорох молчания раздались святые звуки революционного гимна сначала вполголоса, затем все сильнее и сильнее и, наконец, зал дрогнул от оваций и приветствий первым избранникам народным силою железа уводимым от народа…

И в этот момент и полупьяный Кривошеин и отупевшие от неожиданности большевистские жандармы стали такими ничтожными пигмеями, присутствия которых никто не замечал…

Ибо что значили они в сравнении с той величественной литургией, которую совершал обновленный очищенный от всякой скверны и отныне свободный белорусский народ!

Да! Акт, совершившийся 17 декабря в Национальном доме положил предел прежней страдальческой жизни белорусского народа и указал ему истинный путь к солнцу, свободе, равенству и братству, путь к национальному самоустроению.

Слава тебе, Белорус!..»

## Троцкі пляміць сваю рэпутацыю

Разгон Усебеларускага Зьезду абмяркоўваўся і на нямецка-бальшавіцкіх мірных перамовах у Берасьці ў студзені 1918-га. За беларусаў заступіўся і згадаў пра разгон бліскучы апанэнт кіраўніка бальшавіцкай дэлегацыі на тых перамовах Льва Троцкага нямецкі генэрал Макс Гофман (той, які, паводле Троцкага, «ставіў свой салдацкі бот на стол перамоваў»). На што Троцкі заявіў, што Ўсебеларускі Зьезд складаўся з буйных земляўласьнікаў і спрабаваў скасаваць права працоўнага народу на зямлю, а таму быў разагнаны «беларускімі, украінскімі і велікарускімі войскамі».

Супраць гэтай заявы бальшавіцкага лідэра выступіў Выканкам Рады Зьезду, нагадаўшы, што сярод 1167 правамоцных дэлегатаў не было ніводнага абшарніка, Зьезд прыняў рэзалюцыю пра бяс-

платную перадачу зямлі працоўнаму народу і быў разагнаны «сатрапамі народных камісараў Заходняй вобласьці і фронту». Адказ Троцкага ў гэтым пытаньні Выканкам Рады назваў «гнусной ложью, недостойной социалиста».

Пратэст, як зазначана ў архіўных дакумэнтах, быў разасланы рэдакцыям расейскіх, украінскіх, беларускіх, польскіх, латыскіх, латгальскіх, літоўскіх, габрэйскіх, эстонскіх, фінскіх, армянскіх, татарскіх, башкірскіх, грузінскіх, румынскіх, нямецкіх, францускіх, ангельскіх і іншых газэт.

## У падпольлі на чыгунцы

Рэшткі абранай Усебеларускім Зьездам Рады сышлі ў глыбокае падпольле. Прытулак ім далі найбольш адданыя беларускай справе рэвалюцыянэры — чыгуначнікі. Першае пасьля разгону паседжаньне Рады адбылося ўжо наступнай раніцай у чыгуначным дэпо Лібава-Роменскай чыгункі.

## Легальна на вул. Паліцэйскай

Пасьля вызваленьня з-пад арышту сяброў Рады Зьезду (бальшавікі пратрымалі іх у сябе толькі адну ноч) яны пачалі зьяўляцца на патаемных пасяджэньнях Рады, якая засядала вельмі часта ў розных месцах гораду. На адным з гэткіх пасяджэньняў быў выбраны Выканаўчы Камітэт Рады Зьезду з 17 чалавек на чале з журналістам Язэпам Варонкам.

Тым часам Цэнтральная вайсковая беларуская рада чамусьці бальшавікамі не была зьліквідаваная

і працавала зусім легальна, вывесіўшы вялізны беларускі штандар у доме № 2 на Паліцэйскай вуліцы (сёньня на тым месцы задні двор цырку). У кватэры Вайсковай рады нейкі час жыў старшыня Выканаўчага Камітэту Варонка, аж пакуль бальшавікі не дабраліся да самой Вайсковай рады.

## Арыштаваць хлопчыка Апанаса

31 студзеня 1918-га Вайсковая рада была аточаная салдатамі й матросамі, як расказвалі, забойцамі генэрала Духоніна. У загадзе, які падпісаў старшыня Аддзелу барацьбы з контрарэвалюцыяй і спэкуляцыяй Рэзаўскі, гаварылася: «Предписывается Вам отправиться в Белорусскую войсковую раду, дом № 2, кв. 10, по Полицейской улице, для производства обыска и ареста всех лиц, там находящихся, в том числе и посыльного мальчика Афанасия».

Аднак «чрэзвычайка» падышла да выкананьня загаду нядбала і з «находящихся там лиц» затрымала толькі сяброў Вайсковай рады Кастуся Езавітава і Васіля Захарку, якія назваліся, хто яны, а таксама 14-гадовага хлопчыка Апанаса. Рэшту выпусьцілі праз абстаўленую салдатамі лесьвіцу.

Цікавасьць да хлопчыка Апанаса была невыпадковая. Бальшавікі атрымалі інфармацыю, што ў памяшканьні на Паліцэйскай вуліцы захоўваліся стрэльбы і скрыня з бомбамі, аднак усё гэтае багацьце падазраваныя пасьпелі схаваць, дакладней, затапіць у Сьвіслачы каля мосту ў Губэрнатарскім садзе. А хлопчык Апанас нібыта ведае тое месца.

## Бомбы пад ложкам

Захаваўся пратакол допыту Апанаса Юхневіча, веставога Вайсковай рады:

«Мне 14 лет. Я ў Радзе служу з 1915 года. Раньшэ я быў пры рэдакцыі “Вольная Беларусь”. Пры арышце Рады я прысутстваваў. Вінтовак у Радзе было штук 10. Яны абразавалісь ад салдатаў, якія прыяжджалі ў 289 полк, са сваімі вінтоўкамі. Знаю, што вінтоўкі яны палучалі ў 289-м палку.

Калі было нейкае засяданьне, яны нас праганялі, казалі — “зьдзесь ня ваша дзела!” Нас, значыць, мяне і другога хлопца Фралова Канстанціна.

Дзе вінтоўкі дзеліся пры арышце і вобыску, я ня знаю. Там быў маленькі пакойчык, у калідоры, названы складам. Фамілію загадчыка я ня помню. Яшчык з бомбамі стаяў каля рэдакцыі ў пакоі пад ложкам, на якім ніхто ня спаў. Колькі бомбаў было, не магу сказаць. Бомбы з ручкай. Яшчык быў небальшы. Дзяншчык Ярашэвіча быўшы мабыць, як я чуў па разгаворам, унёс гэтыя бомбы, а куды я ня знаю».

Арышт хлопчыка Апанаса і допыт гэтага, паводле ўспамінаў Макара Косьцевіча, «непаўналетняга блазна», ня даў бальшавікам нічога новага. Менш чым праз тры тыдні яны ў страшэнным пярэпалаху пакінуць і сваю «Западную область», і фактычна памерлы «Западный фронт».

# ДЗЕНЬ

**люты — сьнежань 1918**

**Нямецкая акупацыя. Абвяшчэньне БНР.
Незалежнасьць. Менск**

# 1918

19 лютага — бальшавікі ўцякаюць зь Менску, утвараецца Народны Сакратарыят Беларусі на чале зь Язэпам Варонкам

21 лютага — Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду выдае Першую Ўстаўную Грамату і абвяшчае сябе тымчасовай уладай у Беларусі

21 лютага — у Менск уваходзяць немцы

24 лютага — Эстонія абвяшчае незалежнасьць

3 сакавіка — Расея і Цэнтральныя дзяржавы (Нямеччына, Аўстра-Вугоршчына, Асманская імпэрыя і Баўгарыя) падпісваюць у Берасьці сэпаратную мірную дамову

9 сакавіка — Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Зьезду выдае Другую Ўстаўную Грамату, у якой абвяшчае Беларусь Народнай Рэспублікай і фармулюе асновы дзяржаўнага ладу, правы і свабоды грамадзянаў

25 сакавіка — Рада Беларускай Народнай Рэспублікі выдае Трэцюю Ўстаўную Грамату, якой абвяшчае незалежнасьць БНР

3 красавіка — беларуская мова абвешчаная дзяржаўнай мовай БНР

26 красавіка — кіраўніцтва Рады БНР дасылае тэлеграму нямецкаму кайзэру Вільгельму

29 красавіка — у выніку перавароту ва Ўкраіне распускаецца Ўкраінская Цэнтральная Рада, да ўлады прыходзіць гетман Паўло Скарападзкі

11 траўня — Саюз аб'яднаных горцаў Паўночнага Каўказу, Дагестану і Абхазіі абвяшчае незалежнасьць Горскай Рэспублікі

14 траўня — прадстаўнік правых Раман Скірмунт атрымлівае мандат на фармаваньне новага складу Народнага Сакратарыяту БНР

18 траўня — абвяшчаецца незалежнасьць Данской Рэспублікі са сталіцай у Новачаркаску

21 траўня — нямецкія акупацыйныя ўлады прымаюць пастанову аб дэмабілізацыі польскага корпусу генэрала Доўбар-Мусьніцкага

26 траўня — абвяшчаецца незалежнасьць Грузінскай Дэмакратычнай Рэспублікі

28 траўня — абвяшчаецца незалежнасьць Дэмакратычнай Рэспублікі Армэніі

28 траўня — абвяшчаецца незалежнасьць Азэрбайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі

12 чэрвеня — штаб нямецкай 10-й Арміі пераяжджае зь Вільні ў Менск

9–11 ліпеня — у Радзе БНР адбываецца спроба перавароту, Раман Скірмунт робіць другую спробу сфармаваць урад

20 ліпеня — пасьля адмовы Язэпа Варонкі перадаць справы ўрадаваму кабінэту Рамана Скірмунта апошні падае ў адстаўку

23 ліпеня — новым старшынём Народнага Сакратарыяту прызначаецца Янка Серада

5 жніўня — бел-чырвона-белы сьцяг зацьверджаны Дзяржаўным сьцягам БНР

27 жніўня — Расея і Нямеччына падпісваюць дадатковую дамову, паводле якой немцы маюць адступіць да Бярэзіны

1 верасьня — у Менску адкрываецца краёвая выстава

10 верасьня — віленская газэта «Гоман» пераходзіць на правапіс Браніслава Тарашкевіча

11 кастрычніка — прымаецца Часовая канстытуцыя БНР

19 кастрычніка — у Львове абвяшчаецца незалежная Заходнеўкраінская Народная Рэспубліка

28 кастрычніка — Чэхаславаччына абвяшчае незалежнасьць

9 лістапада — у Нямеччыне адбываецца рэвалюцыя, кайзэр адракаецца ад пасаду, Нямеччына абвяшчаецца рэспублікай

11 лістапада — краіны Антанты і Нямеччына падпісваюць у чыгуначным вагоне ў Камп’енскім лесе на поўначы Францыі пагадненьне аб замірэньні, гэты акт лічыцца канцом Першай сусьветнай вайны

11 лістапада — камэндант падпольнай Польскай вайсковай арганізацыі Юзэф Пілсудзкі пераймае вайсковую ўладу ў Польшчы з рук Рэгенцыйнай рады ў Варшаве, гэты дзень адзначаецца як Дзень незалежнасьці Польшчы

14 лістапада — Дырэкторыя УНР адхіляе ад улады гетмана Паўла Скарападзкага

18 лістапада — Латвія абвяшчае незалежнасьць

22 лістапада — Народны Сакратарыят БНР ператвараецца ў Раду Народных Міністраў, старшынём РНМ прызначаецца Антон Луцкевіч

1 сьнежня — узьнікае Каралеўства Сэрбаў, Харватаў і Славенцаў (будучая Югаславія)

1–3 сьнежня — Урад БНР выяжджае зь Менску ў Вільню

## Канец першых бальшавікоў

Калі 18 лютага 1918 году немцы пачалі наступ, бальшавіцкія ўлады ахапіла паніка. У ноч на 19-га Савет народных камісараў пастанавіў пакінуць Менск бяз бою і выехаць у Смаленск. Чырвоныя ўцякалі як толькі маглі, у бязладзьдзі, балагане, пярэпалаху, вазамі-коньмі, машынамі, санямі, кідаючы майно, праз галовы і целы, у поўнай дэзарганізацыі і дэмаралізацыі.

Тут сваю нацыянальную сьпеласьць выявілі чыгуначнікі: работнікі менскага дэпо Лібава-Роменскай чыгункі катэгарычна адмовіліся спрыяць бальшавіцкай эвакуацыі, патрабуючы выплаты заробкаў за тры месяцы. Нават штабны цягнік «глаўказапа» Мясьнікова ня мог выправіцца, і гэты камісар, праседзеўшы на станцыі каля сутак, здолеў выехаць у апошні момант санітарным цягнікам.

«Радзімая старонка наша апынулася ў новым цяжкім становішчы. Дзе цяпер уласьць, што тут была, німа ведама...» — такімі словамі пачнецца прынятая празь дзень Першая Ўстаўная Грамата да народаў Беларусі.

21 лютага каля 10-й гадзіны раніцы ў горад Менск прыбылі перадавыя часткі немцаў, якія ўяўляў сабой эшалён 346-га пяхотнага палка. Паміж гэтымі двума пунктамі ў часе — ноч з 18 на 19-га і раніца 21-га — два дні, калі беларусы мелі рэальную ўладу на сваёй зямлі. І хоць улада гэтая пашыралася толькі на маленькі лапік зямлі — паўночна-заходнюю палову Менску, сэрцам якой быў Пляц Волі, — улада гэтая была не сымбалічная.

## Першая Ўстаўная Грамата

### УСТАУНАЯ ГРАМАТА
### Да народаў Беларусі

Радзімая старонка наша апынілася у новым цяжкім палажэнню. Дзе цяпер уласьць, што тут была, німа ведама. Мы стаімо перад тым, што наш край можа быць заняты нямецкім войскам.

Мы павінны узяць сваю долю у свае уласныя рукі.

Беларускі народ павінен зьдзейсьніць свае права на поўнае самавызначэнне, а нацыянальныя меньшасьці на нацыянальна-пэрсанальную аутаномію.

Права нацыяу павінно знайсьці свае зьдзейсьненне шляхам склікання на дэмакратычных пачатках УСТАНОУЧАГО СОЙМУ.

Але і да склікання Сойму уся улада на Беларусі павінна належаць тым народам, якія на ей жывуць.

ВЫКАНАУЧЫ КАМІТЭТ РАДЫ ПЕРШАГО УСЕБЕЛАРУСКАГО ЗЬЕЗДУ, даданы прэдстаунікамі рэвалюцыйнай дэмакратыі нацыянальных меньшасьцяу, зьдзейсьняючы задання Зьезду, абвяшчае сябе тымчасоваю Уладаю на Беларусі, падходзячаю да кіравання краям і да найхутчэйшаго склікання УСЕБЕЛАРУСКАГО УСТАНОУЧАГО СОЙМУ, на аснові агульнаго, простаго, роунаго, таемнаго і прапарцыянальнаго выбарнаго права, дзеля усяго дарослаго насялення, ні рахуючы з нацыянальнасьцю, рэлігіяй і полам.

Тымчасовую народную уладу краю, якая паставіць сабе задання абароны і зацьвярджэння здабыткау рэвалюцыі, будзе зьдзейсьняць створаны намі НАРОДНЫ СЭКРЭТАРЫЯТ БЕЛАРУСІ, які з гэтаго дня пачау выпоуняць свае абавязкі. Асабісты склад Сэкрэтарыяту будзе апублікованы потым.

Дана у МІНСКУ-БЕЛАРУСКІМ 21 Лютаго 1918 року.

Выканаучы Камітэт Рады 1-го Усебеларускаго Зьезду

## Юнакі і дзяўчаты

21 лютага на вуліцах Менску зьявілася абвестка са складам Народнага Сакратарыяту Беларусі. Колькі гадоў было тым, хто рабіў беларускую нацыянальную рэвалюцыю?

Язэп Варонка — старшыня НС і народны сакратар міжнародных справаў — 26 гадоў.

Аркадзь Смоліч — народны сакратар прасьветы — 26 гадоў.

Яфім Бялевіч — справядлівасьці — 28 гадоў.

Іван Серада — народнай гаспадаркі — 38 гадоў.

Палута Бадунова — апекі — 32 гады.

Пётра Крачэўскі — кантролю — 38 гадоў.

Тамаш Грыб — земляробства — 22 гады.

Кастусь Езавітаў — упаўнаважаны вайсковых справаў — 24 гады.

Лявон Заяц — загадчык справаў — 27 гадоў.

У сьпісе былі яшчэ пяць народных сакратароў, але яны неўзабаве пакінулі Народны Сакратарыят, і зьвестак пра гады іх нараджэньня знайсьці не ўдалося. Сярэдні век астатніх — 29 гадоў!

Тут варта згадаць і пра віленскіх «патрыярхаў» беларускага руху: Антон Луцкевіч — 34 гады, Іван Луцкевіч — 36 гадоў, Вацлаў Ластоўскі — 34 гады. Яшчэ аднаму будучаму прэм’еру Ўраду БНР Аляксандру Цьвікевічу ў лютым 1918-га было 29.

Найстарэйшым дзеячом БНР у той момант быў скарбнік Народнага Сакратарыяту Васіль Захарка — 40 гадоў.

## Мова — з Мэтрыкі і Статутаў ВКЛ

Падчас усіх абмеркаваньняў моўнага пытаньня на розных прадстаўнічых форумах, сходах і зьездах 1917–1918 гадоў амаль кожны аратар лічыць патрэбным адзначыць ролю беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім. Тэма слаўнай мінуласьці беларускае мовы праходзіць чырвонай ніткай праз усе грамадзка-палітычныя дыскурсы тых гадоў.

У рэзалюцыі Культурна-прасьветнай сэкцыі Ўсебеларускага Зьезду пра гэта гаворыцца так:

«З розных неспрыяльных гістарычных прычынаў наша народная беларуская мова, што ляжыць у аснове той пісьмовай мовы, якая служыла некалі ў Літоўска-Рускай дзяржаве літаратурнай і афіцыйнай мовай і на якой напісана мноства ацалелых літаратурных помнікаў, не магла аднак атрымаць належнага разьвіцьця, літаратурнай апрацоўкі і пашырэньня і на працягу многіх стагодзьдзяў заставалася толькі размоўнай мовай пераважна сельскага насельніцтва...»

## Уся ўлада народам Беларусі

Узьнікненьне новай нацыянальнай улады не магло не турбаваць меншасьці. А ў палітычных элітах, мясцовых самаўрадах, у прыватнасьці ў Менскай гарадзкой думе, нацыянальнай меншасьцю былі самыя беларусы.

Айцы БНР ставіліся да пытаньня карэктна і асьцярожна. У Першай Устаўной Грамаце дэкляравалася права меншасьцяў на нацыянальна-пэр-

санальную аўтаномію. «Да скліканьня Сойму ўся ўлада на Беларусі павінна належаць тым народам (не народу. — С. Ш.), якія на ёй жывуць».

Толькі што прынятую Грамату тут жа зачытаў у Гарадзкой думе яе гласны (дэпутат з правам голасу) Аркадзь Смоліч, ужо прызначаны народным сакратаром асьветы. Думе Грамата спадабалася, асабліва пункт пра нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію. Народнаму Сакратарыяту Беларусі абяцалася падтрымка, заадно яму было нагадана пра неабходнасьць «цеснай сувязі з дэмакратычнай Расеяй». Пратакол Гарадзкой думы засьведчыла яе сакратарка, перакладніца Марксавага «Капіталу» і ўплывовая бундыстка Яўгенія Гурвіч.

## Нават два матацыклы

З адыходам бальшавікоў Народны Сакратарыят разьмясьціўся ў Губэрнатарскім доме.

«Нацыянальная рэвалюцыя, ўходзіла ў свае правы. Губэрнатарскі дом стаў як бы мініятураю таго, што год назад, у лютым 1917 году, выяўляў сабою Таўрыдзкі палац у Петраградзе. Сюды сьцягвалі розны хлам, зусім у доме Ўраду непатрэбны; шоколяда, шынка, цукер, шынялі, нейкія салдацкія ў нязьмерным ліку дзягі, кулямёты розных сыстэмаў, навет два мотоцыклі можна было бачыць у пакоях быўшага Губэрнатарскага дому», — успамінаў атмасфэру першых дзён іх актыўны ўдзельнік Макар Косьцевіч.

## Немцы думаюць пра Беларусь

Немцы зайшлі ў Менск раніцай 21-га, аддыхаліся, разьмясьціліся, агледзеліся, а раніцай у панядзелак, 25 лютага, заняліся навядзеньнем парадку. У памяшканьне Народнага Сакратарыяту прыйшоў нямецкі камэндант і збройнай сілай выселіў беларускую ўладу, скінуў сьцяг.

Новыя акупанты забралі касу Сакратарыяту, дзе захоўвалася 341 тысяча рублёў, прыхапілі іншыя рэчы, што дрэнна ляжалі, улучна з друкавальнымі машынкамі (10 штук) і канцылярскімі прыладамі. Свае грошы і маёмасьць Народны Сакратарыят больш ніколі ня ўбачыць, хоць будзе змагацца за іх да апошняга дня нямецкай акупацыі.

341 тысяча царскіх рублёў — гэта шмат ці мала? На іх у Менску ў 1918 годзе можна было купіць 70 000 кг мукі, 20 000 кг цукру, 6 000 кг масла. За іх можна было выдаць 115 кніжак фармату зборніка Алеся Гаруна «Матчын дар». Стрэлачнік на чыгунцы зарабляў 60 рублёў, дарожны майстар — 125 рублёў, радны Рады БНР — 600 рублёў.

## Чаму Менск — сталіца Беларусі

Як наагул Менск зрабіўся сталіцай БНР? Бо ж у кантэксьце новага беларускага адраджэньня пачатку XX стагодзьдзя Менск у нацыянальна-беларускім сэнсе быў глухой правінцыяй — ані беларускіх газэтаў, ані культурнай эліты, ані палітычных тусовак... Усё гэта жыло ў Вільні.

Сталіцаю Менск зрабілі немцы. Ну, вядома ж, яны пра гэта і не здагадваліся, але ўсё вызначыла

лінія, на якой у верасьні 1915 году спыніўся нямецкі наступ. Гэтая лінія адрэзала Вільню ад этнаграфічнай Беларусі, і таму ў наступныя два гады беларуская палітычная фэрмэнтацыя перамясьцілася ў Менск.

Калі б немцы спыніліся на тыя пару гадоў — 1915–1918 — на захад ад Вільні, незалежнасьць Беларусі хутчэй за ўсё была б абвешчаная там, а незалежнасьць Літвы — у Коўне.

## Мары пра Вільню

Яшчэ ў 1917-м ува ўсіх беларускіх рэзалюцыях, адозвах, мэмарандумах — у шырокім грамадзкім дыскурсе — Вільня лічылася сваёй, тагачасная беларуская грамадзкасьць не магла сабе ўявіць, што гэты горад можа зрабіцца «замежжам». Зь Вільняй зьвязваліся самыя розныя палітычныя, грамадзкія, культурныя пляны на «паваенныя часы».

Існавалі праекты аднаўленьня працы Віленскага ўнівэрсытэту — найвышэйшай навучальнай установы ў «сваім» краі. Ня вечна ж Вільня будзе заставацца пад нямецкай акупацыяй. Пакуль што, тымчасова, месцам працы адноўленага Віленскага ўнівэрсытэту прапанавалася зрабіць Полацак, які меў найдаўнейшыя ў Беларусі акадэмічныя традыцыі.

Праўда, як падзяліць Вільню зь іншымі на яе прэтэндэнтамі — перадусім літоўцамі — уяўлялася туманна, ідэі на гэты конт выказваліся вельмі асьцярожныя, яшчэ жылі спадзяваньні на магчымасьць стварэньня «новага ВКЛ» з супольнай сталіцай і — што немалаважна — з выхадам да мора.

## Разьвітаньне з ВКЛ

Незалежнасьць Літвы была абвешчаная ў Вільні 16 лютага, Беларусі — у Менску 25 сакавіка. Якія думкі хадзілі ў галовах беларускай палітычнай эліты ў Вільні за гэтыя месяц зь нечым? Абраная ў канцы студзеня Віленская беларуская рада выклала гэтыя думкі ў лісьце Райхсканцлеру Нямеччыны:

«Рада <...> проситъ Ваше Превосходительство повергнуть к стопамъ Его Величества Германскаго Императора выраженіе глубокой благодарности бѣлоруссовъ окупированныхъ областей за признаніе Литвы самостоятельнымъ свободнымъ государствомъ, усматривая въ этомъ признаніи первый шагъ къ осуществленію завѣтныхъ стремленій бѣлорусскаго народа къ возстановленію свободнаго и самостоятельнаго Великаго Княжества Литовскаго...»

Да гэтай мэты, піша Антон Луцкевіч з паплечнікамі, «скіраваныя ўсе думкі і імкненьні беларускага народу па гэты і па той бок штучна створанай мяжы». Беларусы зварачалі ўвагу райхсканцлера на тое, што літоўцы ў Літве (у межах ВКЛ!) складаюць усяго каля 40% насельніцтва, а таму ня могуць лічыцца прадстаўніцтвам усяго краю.

…Райхсканцлер гэты ліст праігнараваў, нічога не зьмянілася, і гэтак надзея адраджэньня ВКЛ памерла апошняй, літаральна напярэдадні 25 сакавіка.

## Шашка Менскага казначэйства

На ўзбраеньні БНР была і доўгаклінковая колюча-сякучая халодная зброя, пазначаная ў архіўных дакумэнтах як шашка Менскага казначэйства.

А 7-й гадзіне раніцы 21 лютага (у гэтыя два дні паміж бальшавікамі і немцамі, мабыць, ніхто ў горадзе і ня клаўся спаць) у памяшканьне ўвайшоў прадстаўнік Рады БНР Сьцяпан Нямкевіч у суправаджэньні ўзброеных салдатаў і запатрабаваў аддаць яму касу для «дастаўленьня ў Раду».

Гэтаму патрабаваньню спрабавалі супраціўляцца службоўцы, якія ў гэты момант падлічвалі наяўныя грошы і каштоўнасьці, што засталіся ў казначэйстве пасьля ўцёкаў бальшавікоў. Аднак зброя ў руках беларускага патруля была больш пераканаўчым аргумэнтам. Каля дваццаці тысяч рублёў папоўнілі касу Народнага Сакратарыяту.

Заадно Сьцяпан Нямкевіч, чалавек просты і вайсковы, прыхапіў з сабой шашку — не для сябе, вядома, а для маладой беларускай улады. Шашка з усёй пашанай захоўвалася ў пакоях Народнага Сакратарыяту ў Губэрнатарскім доме і прапала разам з усім набыткам, калі ў дом прыйшлі новыя гаспадары — немцы — і забралі ўсё, што там знайшлі.

Казначэйства яшчэ спрабавала тузаць Народны Сакратарыят патрабаваньнем вярнуць шашку (мабыць, шашка была не абы-якая), але беларускі ўрад адаслаў былых гаспадароў да немцаў.

## Рэч Паспалітая Бабруйская

Вялікім галаўным болем беларускіх незалежнікаў вясною 1918-га зрабілася польскае пытаньне. Створаны летам 1917 году ў яшчэ дэмакратычнай Расеі Першы польскі корпус пад камандай генэрала Доўбар-Мусьніцкага пасьля бальшавіцкага перавароту абвясьціў свой нэўтралітэт ва ўнутрырасейскіх закалотах і адмовіўся падпарадкоўвацца савецкай уладзе.

29 студзеня 1918-га корпус заняў Бабруйск, які стаў фактычнай сталіцай польскае квазідзяржавы ў межах трох паветаў — Бабруйскага, Рагачоўскага і Магілёўскага. Польская ўлада пратрымалася там да траўня, калі немцы вырашылі зь ёй пакончыць, расфармаваць корпус і выправіць яго ў Варшаву. Аднак за гэтыя пару месяцаў (яскрава апісаных у гістарычным трылеры Флярыяна Чарнушэвіча «Надбярэзінцы») польскія легіянэры займаліся рэквізыцыямі, рабункамі і гвалтам у дачыненьні да мясцовага беларускага і габрэйскага насельніцтва.

Легіянэры корпусу зьявіліся і ў Менску ў кароткім прамежку паміж бальшавікамі і немцамі і дзялілі ўладу зь беларускім Народным Сакратарыятам. Беларусы займалі паўночна-заходнюю частку гораду, палякі — паўднёва-ўсходнюю, мяжа праходзіла па Койданаўскім тракце і Захараўскай вуліцы. Аднак, маючы рэальную вайсковую сілу, палякі здолелі «нарэквізаваць» у Менску ўсё што толькі маглі, пакінуўшы беларусаў фактычна з пустымі рукамі.

## Ужо БНР, яшчэ не незалежная

Аўтары Першай Устаўной Граматы абвясьцілі сябе тымчасовай народнай уладай у Беларусі. У Другой Грамаце 9 сакавіка Беларусь была абвешчаная Народнай Рэспублікай, там былі выкладзеныя асновы дзяржаўнага ладу, дэкляраваныя правы і свабоды.

Абвяшчалася свабода слова і сумленьня, нацыянальна-пэрсанальная аўтаномія ўсіх народаў Беларусі, роўнае права ўсіх моваў тых народаў. Права прыватнай уласнасьці на зямлю касавалася, зямля перадавалася бяз выкупу тым, хто на ёй працуе. (Бяз права ўласнасьці? Тут трошкі незразумела...) Пра дачыненьні з Расеяй, у склад якой Беларусь яшчэ дэ-юрэ ўваходзіла — як і ў Першай Грамаце — ані слова. Яно й ясна. Што там увогуле ў той Расеі робіцца і колькі яна яшчэ будзе існаваць — невядома.

## Другая Ўстаўная Грамата

### УСТАУНАЯ ГРАМАТА ДА НАРОДАУ БЕЛАРУСІ

У часе сусьветнай вайны, што бурыць адны моцные дзержавы і аслабаняе другіе, абудзілася Беларусь да дзержаунаго жыцця. Пасьля трох съ паловаю вякоу і няволі ізноу на увесь сьвет кажа беларускі народ аб тымъ, што ен жыве і будзе жыць.

Вялікі Народны Збор — Усебеларускі Зьезд 5—17 сьнежня 1917 року, дбаючы аб долі Беларусі, зацьвердзіу на яе землях рэспубліканскі лад. Выпауняючы волю Зьезду і баронючы дзержауные правы народу, Спауняючы Камітэт Рады Зьезду гетак пастанауляе аб дзержауным устрою Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народау:

1. Беларусь у рубяжох разсялення і лічбеннай перавагі беларускаго народу абвешчаецца Народнаю Рэспублікай.

2. Осноуные законы Беларускай Народнай Рэспублікі зацьвердзіць Установучы Сойм Беларусі, скліканы на асновах агульнаго, роунаго, простаго, патаемнаго і прапорцыянальнаго выборчаго права, ні зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.

3. Да часу, пакуль зьбярэцца Установучы Сойм Беларусі, законодаучая улада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Усебеларускаго Зьезду, дапоуненай предстаунікамі нацыянальных меншасьцяу Беларусі.

4. Спауняючая і адміністратыуная улада у Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, які назначаецца Радаю Зьезду і перадъ ею трымае атвет.

5. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвешчаецца вольнасьць слова, друку, сходау, забастовак, хаурусау; безумоуная вольнасьць сумленьня, нізачэпнасьць асобы і памешкання.

6. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсональную аутаномію; абвешчаецца роунае права усіх мовау народау Беларусі.

7. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі права прыватнае уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тымъ, хто самі на ей працуюць. Лясы, вазеры і нутро зямлі абвешчаюцца уласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

8. У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі устанауляецца найбольшы 8-і гадзіновы рабочы дзень.

Абвешчаючы усе гэтые правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларускай Народнай Рэспублікі, мы, Спауняючы Камітэт Рады Зьезду, абавязуемся пільнаваць законнаго парадку жыцьця у Рэспубліцы, сьцерагчы інтарэсау усіх грамадзян і народау Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьці працоунаго люду. А так сама даложым усіх сілау, каб склікаць у найбліжэйшым часі Установучы Сойм Беларусі.

Усіх верных сыноу Беларускай зямлі клічам памагчы нам у цяжкой і атветнай нашай працы.

Спауняючы Камітэт Рады 1-го Усебеларускаго Зьезду
Выдана у Мінску Беларускім 9 сакавіка 1918 року.

## Не хапае літараў «а»

Пры наборы Другой Устаўной Граматы ў друкарні Грынблата ўзьнікла нечаканая праблема — у наборнай касе скончылася літара «а». Друкарня, разьлічаная на расейскамоўны друк, ня мела дастатковага запасу гэтай самай частай літары беларускіх тэкстаў.

Вырашаць гэтую праблему давялося сьпешным парадкам. Відаць, магчымасьцяў папоўніць касу не было, таму друкары, пачынаючы ад 7-га пункту Граматы, пачалі замест малой «а» ўстаўляць вялікую «А», а каб яна надта не вытыркалася, дабіралі словы крыху большым кеглем.

Але ўрэшце не хапіла і вялікіх «А», і таму апошні фрагмэнт тэксту Граматы (ад «Абвяшчаючы ўсе гэтыя правы...») набіраўся істотна большым кеглем. На самым фінішы Граматы скончыўся запас «а» і ў гэтым кеглі, і ў апошніх трох словах зноў бяруцца вялікія «А» і словы дабіраюцца яшчэ большым кеглем...

На «ў» і «ё» друкары трох Устаўных Граматаў ужо проста махнулі рукой.

## Менская гарадзкая дума дае 10 тысяч

З Другой Устаўной Граматай беларуская ўлада зноў ідзе ў Менскую гарадзкую думу — адзіную ацалелую ўстанову прадстаўнічай улады цяпер ужо былой дэмакратычнай Расеі, якая здолела перацярпець некалькі месяцаў бальшавіцкага тэрору.

Народны сакратар Цьвікевіч (так ён названы ў думскім пратаколе, хоць у сьпісах народных са-

кратароў яго не было) зрабіў драматычны даклад пра міжнародную сытуацыю ў «цяперашні грозны мамэнт». На землі Беларусі, паводле яго, квапяцца іншыя народы — ён пералічвае Літву, Украіну і Польшчу. Таму важна, каб Беларусь вызначыла сябе як дзяржаўны арганізм і абараніла сваю тэрыторыю і ўласнасьць. Тымчасовая ўлада — Выканкам Рады Ўсебеларускага Зьезду — зьвяртаецца да Менскай гарадзкой думы з прапановай дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў у Раду Зьезду і дапамагчы матэрыяльна.

Другая Ўстаўная Грамата — як і Першая — дэпутатам Думы спадабалася. Яны дэлегавалі ў Раду 10 прадстаўнікоў і выдзелілі Беларускай Уладзе 10000 рублёў. Аднак у пастанове зноў нагадалі пра непарыўную сувязь з усімі народамі Расейскай Фэдэрацыйнай Дэмакратычнай Рэспублікі. Яны яшчэ верылі ў яе існаваньне.

## Жыцьцёва важныя аб’екты

Што ва ўяўленьні Народнага Сакратарыяту БНР уваходзіла ў сьпіс жыцьцёва важных аб’ектаў? 21 сакавіка 1918-га НС разаслаў установам ліст з паведамленьнем, што яны ўжо ад 9 сакавіка — задняй датай — лічацца дзяржаўнымі ўстановамі БНР і ажыцьцяўляюць свае функцыі ад яе імя. Сьпіс адрасатаў быў такі:

Менскі акруговы суд

Менская губэранская камора («присутствие», орган кантролю за мясцовым самакіраваньнем)

Менскае аддзяленьне Дзяржаўнага банку

Менская губэранская акцызная ўправа
Менская скарбовая палата
Управа дзяржаўнай маёмасьці Менскай губэрні
Менская паштова-тэлеграфная акруга
Управа Лібава-Роменскай чыгункі
Дырэкцыя народных вучэльняў Менскай губэрні
Пракурор Менскага акруговага суду

## Дом на Валадарскага

Памяшканьне ў Губэрнатарскім доме акупацыйныя ўлады забралі сабе, і беларуская ўлада мусіла шукаць сабе новы дом.

Разам з бальшавікамі зь Менску паўцякалі ўсе арганізацыі і ўстановы расейскай улады, вызваліўшы розныя рэпрэзэнтацыйныя прасторы. Народнаму Сакратарыяту спадабалася заля і прылеглыя да яе два пакоі, якія да ўцёкаў займаў гэтак званы «Стройзап» — будаўніча-тэхнічны аддзел Заходняга фронту — у доме на вуліцы Захараўскай, 43 (цяпер вуліца Валадарскага, 9).

Памяшканьні былі вольныя, але Народны Сакратарыят самаўпраўствам займацца ня стаў і з просьбай саступіць яму згаданыя памяшканьні зьвярнуўся 20 сакавіка да Менскай гарадзкой управы. Гарадзкая ўправа пайшла насустрач, і праз чатыры дні заля былога «Стройзапу» адыграла надзвычайную ролю ў найноўшай беларускай гісторыі.

## 25 сакавіка дзеляць тэатральныя касьцюмы

Дата 25 сакавіка 1918 году адзначылася і ў беларускім тэатральным календары. Кіраўнік Таварыства беларускай культуры Кастусь Мядзёлка запрасіў на гэты дзень намесьніка старшыні дырэкцыі Беларускага нацыянальнага тэатру Язэпа Варонку на паседжаньне трацейскага суду, дзе мелася разьбірацца спрэчка аб прыналежнасьці тэатральных касьцюмаў паміж дырэкцыяй названага тэатру і Першым таварыствам беларускай драмы і камэдыі.

Няясна, чаго ў гэтай справе было больш — драмы ці камэдыі, але сталася так, што Язэп Варонка (які быў яшчэ і пры пасадах старшыні Народнага Сакратарыяту ды народнага сакратара заграпічных справаў) меў у гэты дзень пільнейшыя справы...

## Гісторыя рассылае свае позвы

У адзін зь веснавых дзён 1918 году, не раней серады 20-га і не пазьней нядзелі 24 сакавіка, сябры Рады БНР, усяго 71 чалавек, атрымалі на рукі паведамленьне: «Прэзыдыюм Рады Беларускай Народнай Рэспублікі гэтым паведамляе, што чарговае пасяджэньне Рады адбудзецца ў нядзелю 24-га сакавіка (марца) а 5-й гадзіне (па сярэдне-эўрап.) увечары ў доме пад № 43 на Захараўскай вуліцы (3-ці паверх 1-га ад Серпухаўскай вуліцы пад'езду)». У позьве-запрашэньні нічога не прарочыла, чым скончыцца гэтае чарговае пасяджэньне.

## Госьці зь Вільні

Вырашальную ролю ў тым, што адбылося ў залі «Стройзапу» 25 сакавіка 1918 году, адыгралі госьці зь Вільні. У Менск выехалі дэлегаваныя Віленскай беларускай радай браты Іван і Антон Луцкевічы, Янка Станкевіч, Язэп Туркевіч і Дамінік Сямашка (які, праўда, у Менску «згубіўся» і ні ў якіх падзеях удзелу ня браў). Падарожжа ў неацепленым вагоне доўжылася 24 гадзіны, Іван Луцкевіч ужо тады быў цяжка хворы на грудзі і харкаў крывёй…

Госьці наведалі Народны Сакратарыят, дзе на адмысловай нарадзе ясна паставілі пытаньне аб незалежнасьці. Менскія паплечнікі былі яшчэ не зусім гатовыя адмовіцца ад канцэпцыі фэдэрацыі з дэмакратычнай Расеяй, аднак палітычнае становішча прымушала і іх зьмяніць свае пазыцыі.

У выніку было вырашана склікаць пленарнае пасяджэньне Рады 24 сакавіка. Напярэдадні адбыўся і пленарны сход Беларускай сацыялістычнай грамады, якая дамінавала ў Радзе. Удзельнікі сходу аднагалосна выказаліся за незалежнасьць.

## Раптоўная прапанова

3-е пасяджэньне II сэсіі Рады БНР адкрылася а 6-й гадзіне вечара 24 сакавіка. Старшыня Янка Серада абвясьціў пра прысутнасьць віленскіх гасьцей, а яго намесьнік Язэп Варонка выступіў з прамовай аб значэньні Вільні ў гісторыі беларускага Адраджэньня і заслугах заснавальнікаў беларускага руху братоў Луцкевічаў. «Беларусы, — усклікнуў прамоўца, — сёньня ў нас Вялікдзень. Сёньня зноў

злучаюцца духоўна Вільня і Менск — душа і цела. Сёньня Беларус уваскрос».

У адказ Антон Луцкевіч зрабіў грунтоўны даклад аб дзейнасьці беларускіх арганізацыяў на Віленшчыне і Горадзеншчыне. Пасьля гэтага на прапанову Варонкі Рада ўшанавала ўставаньнем памяць памерлай у Вільні заснавальніцы Беларускай сацыялістычнай грамады Аляізы Пашкевіч (Цёткі).

І тут — калі ўсе селі — фракцыя Беларускай сацыялістычнай грамады раптам вынесла на абмеркаваньне не запісаную загадзя ў парадку дня прапанову аб абвяшчэньні незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапанова гэтая выклікала пратэст часткі Рады, але большасьцю галасоў было прынятая.

## «Новае сьвятло нарадзілася на Беларусі!»

Даклад аб палітычным становішчы Беларусі і прычынах, якія патрабуюць абвяшчэньня незалежнасьці, зрабіў старшыня фракцыі БСГ Аркадзь Смоліч.

Пасьля перапынку пачаліся спрэчкі, якія працягваліся няспынна дзесяць гадзін. Супраць прапановы беларускіх сацыялістаў выступалі «земцы», кааптаваныя ў Раду дэпутаты Менскай гарадзкой думы і таксама бундаўцы — яны цягнулі за еднасьць з Расеяй. Выступілі 26 прамоўцаў з абодвух бакоў.

Атмасфэра наэлектрызавалася. Надышоў вырашальны момант. Рэзалюцыя, прапанаваная «незалежнікамі», абвяшчала: «Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчае Рэспубліку незалежнай, пра што выдае адпаведную Ўстаўную Грамату».

Група Рады Рэспублікі, вылучаная 1-м Усебеларускім Зьездам, галасавала аднагалосна за незалежнасьць, а гарадзкая група і прадстаўнікі Бунду — супраць (але засталіся ў Радзе). Земская група пакінула Раду. Ад галасаваньня ўстрымаліся прадстаўнікі Аб'яднанай габрэйскай сацыялістычнай партыі, партыі «Паалей-Цыён» і расейскія эсэры.

У выніку а 6-й гадзіне раніцы 25 сакавіка рэзалюцыя была прынятая пераважнай большасьцю галасоў.

«Новае сьвятло нарадзілася на Беларусі!» — прыгадваў пасьля нечы вокліч Антон Луцкевіч.

І быццам у адказ гэтаму воклічу ў залю ўліліся ясныя промні сонца, якое толькі што ўзышло і з-над дахаў камяніц зазірнула ў залю.

Гаснуць электрычныя лямпачкі.

«А старое сьвятло згасла!» — адказаў Іван Луцкевіч.

## Новая Беларусь

Пасьля прыняцьця рэзалюцыі пасяджэньне было перапынена і аднавілася а 12-й гадзіне дня 25 сакавіка. Дзённае пасяджэньне было прысьвечанае прыняцьцю пункт за пунктам тэксту Трэцяй Устаўной Граматы. Зноў дыскусіі, зноў спрэчкі за кожнае слова, апанэнты незалежнасьці спрабуюць хоць кантрабандай працягнуць у тэкст згадкі пра сувязь з Расеяй — але дарэмна.

Канчатковы тэкст Граматы быў прыняты а трэцяй гадзіне дня. Ён быў зараз жа перакладзены на розныя мовы, і вестка пра нараджэньне незалежнай Беларусі паляцела ў сьвет.

## Трэцяя Ўстаўная Грамата

### УСТАУНАЯ ГРАМАТА
### РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ.

Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо расійскаго царызму, які найцяжэй прыціснуу быу Беларусь; ні пытаючыся народу, ен укінуу наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускіе.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднаго краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскіе цары на наш вольны і нізалежны край.

Ад гэтаго часу **Беларуская Народная Рэспубліка абвешчаецца Нізалежнай і Вольнай Дзяржавай**. Самі народы Беларусі, у асобі свайго **Установучаго Сойму**, пастановяць аб будучых дзяржауных зьвязах Беларусі.

На моцы гэтаго трацяць сілу усе старыя дзяржауныя зьвязі, якія далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Берэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелючы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтаго урад Беларускай Народнай Рэспублікі мае увайсьці у адносіны з зацікауленымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часьціну **Берэсьцейскаго Трактату**, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваеваушымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: **Магілеушчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гроднай, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаушчыны і сумежныя часьці суседніх губерняу, заселеныя беларусамі**.

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае усе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народау Беларусі, якія абвешчаны **Устауной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году**.

Абвешчаючы аб нізалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што **усе любячые**

**волю народы** дапамогуць беларускаму народу у поунай меры здейсьніць яго палітычна-дзяржауные ідэалы.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.

Дана у Менску-Беларускім
25 сакавіка 1918 году.

## Менчукі чытаюць газэты на чатырох мовах

Адкуль жыхары Менску ў 1918 годзе даведваліся, што адбываецца ў горадзе і сьвеце? Апрача «вулічнага тэлеграфу», адзіным рэгулярным сродкам масавай інфармацыі ў той час былі газэты.

Якія штодзённыя газэты выходзілі ў Менску часоў БНР? Выбар быў даволі шырокі — на ўсіх мясцовых мовах і на ўсе грамадзкія густы. У канцылярыю Народнага Сакратарыяту БНР дасылалі штодня гэткія газэты: лібэральна-кадэцкая «Минская газета», арыентаваная на габрэйскую грамадзкасьць расейскай культуры; лібэральна-буржуазны «Минскій голосъ»; незалежная «Минская мысль»; эсэраўская «Дело труда»; польская беспартыйная дэмакратычная «Dziennik Miński»; беларускія — крыху лявейшая «Вольная Беларусь» і крыху правейшы «Беларускі шлях»; бундаўскі «Der Veker».

І ўсе яны пісалі пра БНР.

## Новыя канкурэнты старых сацыялістаў

На права быць мясцовай уладай пад нямецкай акупацыяй прэтэндавалі ня толькі структуры БНР, якія абапіралі сваю легітымнасьць на грунце прадстаўніцтва на Ўсебеларускім зьезьдзе. На зьезьдзе фактычна не былі прадстаўленыя несацыялістыч-

ныя элемэнты, таму беларусы правых палітычных поглядаў, адсунутыя зь беларускай палітычнай сцэны летам 1917 году, адчулі сябе па-за гульнёй і заявілі прэтэнзіі на месца пад сонцам. Яны ўтварылі Менскае беларускае прадстаўніцтва і спрабавалі канкураваць з Радай БНР.

У выніку абодва бакі беларускага спэктру здолелі дамовіцца, і 10 чалавек ад Прадстаўніцтва былі кааптаваныя ў Раду БНР. Гэтак у будынак БНР была закладзеная міна, якая да канца 1918 году яшчэ ня раз выбухне.

Яшчэ адна сіла, якая рвала коўдру на сябе, — рэшткі інстытуцыяў гарадзкога і земскага самакіраваньня, што ўзьніклі за некалькі месяцаў дэмакратычнай Расеі, а таксама дзеячы «агульнарасейскіх» партыяў і арганізацыяў. Ужо пасьля абвяшчэньня незалежнасьці 25 сакавіка мясцовыя расейскія эсэры палічылі, што беларускія «сэпаратысты» іх падманулі, і адклікалі з Народнага Сакратарыяту сваіх сяброў.

Урэшце, Польская рада Менскай зямлі заявіла, што безь яе гаворка пра мясцовую ўладу весьціся ня можа, што Ўстаўныя Граматы ня маюць правамоцнасьці і ні да чога нікога не абавязваюць. Аднак прадстаўнікі ПРМЗ былі гатовыя супрацоўнічаць з Народным Сакратарыятам, праўда, выставілі свае ўмовы.

## Менск, Магілёў... Дзе астатнія гарады

У праекце Статуту Рады БНР, падрыхтаваным у сакавіку 1918 году, ёсьць адзін пункт, які дае ўяўленьне пра рэальную геаграфію Беларускай На-

роднай Рэспублікі ў часе абвяшчэньня незалежнасьці. Так, у склад Рады маюць увайсьці прадстаўнікі гарадоў. «Да скліканьня Ўсебеларускага зьезду гарадоў гарадзкая група прадстаўляецца 5 членамі Менскай гарадзкой і 5 членамі Магілёўскай гарадзкой думаў», — запісана ў праекце.

А дзе былі ўсе астатнія вялікія беларускія гарады — губэранскія, пазьнейшыя абласныя цэнтры? А вось дзе.

Віцебск — у бальшавіцкай Расеі. Гомель і Берасьце — паводле Берасьцейскага міру, ва Ўкраінскай Народнай Рэспубліцы (у фармулёўцы Народнага Сакратарыяту — «часова акупаваныя Ўкраінай»). Горадня — пад нямецкай акупацыяй, рыхтавалася далучэньне яе да новай Польшчы. Вільня — у новаабвешчанай незалежнай Літве.

Можна згадаць яшчэ Смаленск, дзе 1 студзеня 1919 году абвесьцяць БССР. Смаленскае жыцьцё пад бальшавікамі ў 1918 годзе маляўніча апісаў Максім Гарэцкі ў рамане «Дзьве душы» — там адбываецца дзея другой часткі кнігі. А землі «за дэмаркацыйнай лініяй», куды ходзяць у рамане беларускія актывісты, — гэта і ёсьць БНР пад нямецкай акупацыяй.

## Напачатку будзе мова. Дакладней — мовы

Народны Сакратарыят неадкладна заняўся дзяржаўным будаўніцтвам. 3 красавіка была прынятая пастанова пра абвяшчэньне беларускае мовы дзяржаўнай і абавязковай мовай Рэспублікі. Пры гэтым нацыянальным меншыням Беларусі гарантавалася права карыстацца сваімі мовамі ў зносінах зь дзяржаўнымі ўстановамі. Аднак усе акты, дакумэнты і

афіцыйная перапіска ўрадавых установаў мусілі весьціся на дзяржаўнай беларускай мове.

Тут варта нагадаць, што на той час яшчэ не існавала адзінага «афіцыйнага» беларускага правапісу: менская «Вольная Беларусь» друкавалася лёсікаўкай, віленскі «Гоман» — луцкевіцай. «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча зьявіцца ў Менску толькі ў верасьні.

## На гербе — каса і граблі

Што да сымболікі. 3 красавіка Народны Сакратарыят БНР замовіў у менскага гравэра Ізакава сваю афіцыйную вялікую круглую пячатку «з надпісам кругом двума шрыфтамі RADA BIEŁARUSKAJ NARODNAJ RESPUBLIKI (першы круг), РАДА БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ (другі круг), а ўсярэдзіне сноп, граблі і каса...»

Пра тое, як прымалася адпаведнае рашэньне і хто аўтар такой геральдычнай навінкі, архівы маўчаць. Але з увагі на ідэалёгію, якая панавала сярод дзеячоў БНР «першага прызыву», такая сымболіка дзіўнай не здаецца.

## Чырвоная БНР крыху бялее

На старце каманда БНР была амаль выключна сацыялістычнай, тон у ёй задавалі дзеячы Беларускай сацыялістычнай грамады, лёзунгі свабоды, роўнасьці і братэрства яшчэ не былі дыскрэдытаваныя бальшавіцкімі ўзурпатарамі. Аднак такі выразна левы кірунак, узяты Радай БНР, на думку галоўных стратэгаў незалежнасьці братоў Івана і

Антона Луцкевічаў, абмяжоўваў магчымасьці дыпляматычных манэўраў.

Палітыкі правай арыентацыі на чале з буйным земляўласьнікам Раманам Скірмунтам трымаліся ад занадта чырвонай БНР убаку. Віленскія браты бачылі выйсьце ў аб’яднаньні і штурхалі да яго абодва флянгі беларускай палітыкі. Так, 7 красавіка Антон Луцкевіч пісаў Скірмунту і ягоным паплечнікам: «Вы як людзі сьвядомыя спраў палітычных больш, чым хто іншы, найлепей зразумееце вагу ролі, якая Вам прыпадае. Вы можаце ўнесьці новы дух у Раду Рэспублікі — дух эўрапейскай дыпляматыі. А ён цяпер асабліва патрэбен».

У выніку ў сярэдзіне красавіка ў Раду БНР былі кааптаваныя правыя — усе сябры Менскага беларускага прадстаўніцтва.

## Драўляная валюта Пётры Крачэўскага

Народны сакратар фінансаў Пётра Крачэўскі распрацаваў плян неадкладных фінансавых захадаў, у тым ліку выпуск уласных беларускіх грошай. Унікальнасьць пляну была ў тым, што забясьпечвацца гэтыя грошы меліся ня золатам, дыямэнтамі ці іншымі традыцыйнымі скарбамі, а... драўнінай.

Асноўным фондам, які забясьпечваў валюту, меліся быць дзяржаўныя лясы плошчаю 1 000 000 дзесяцінаў на суму паводле даваеннай сярэдняй расцэнкі 5 мільярдаў рублёў. А калі выдаць закон, паводле якога ў дзяржаўную ўласнасьць адыдуць і прыватныя лясы, то фонд склаў бы 6 000 000 дзесяцінаў на суму 30 мільярдаў рублёў.

Тым часам у месяцы нямецкай акупацыі асноўнымі грашовымі адзінкамі на тэрыторыі Беларусі былі «царскія» рублі і нямецкія ост-рублі, паралельна, але ў меншым абсягу ўжываліся таксама «думскія» і «керанскія» рублі і нямецкія імпэрскія маркі.

## Пры ўсіх хатах збудаваць клязэты

Нямецкія ўлады завялі на беларускіх землях акупацыйны рэжым і навязалі беларускім людзям новыя парадкі. Так, у загадзе камэнданта Старасельскай воласьці падуладным жыхарам абвяшчалася:

Усе мужчыны — мясцовыя жыхары — мусяць кланяцца нямецкім афіцэрам, зьняўшы шапкі;

Вытворчасьць водкі (самагонкі) з збожжа, бульбы або іншых прадуктаў, прыдатных для ўжытку людзям або жывёле, строга забараняецца;

З усіх двароў у дамах мусіць быць прыбраны гной і вывезены ў поле;

Пры ўсіх хатах жыхары мусяць збудаваць клязэты для бясьпекі ад мух;

Вуліцы, двары мусяць утрымлівацца ў чысьціні і ахайнасьці. Сьмецьце забараняецца выкідаць паблізу жытла, а зьбіраць у памыйныя ямы, накрытыя шчыльна, каб не было доступу мухам, або прыбіраць штодзённа на поле.

## Змаганьне за «Ундэрвуд № 3»

Дзяржаўнае будаўніцтва на пачатку XX стагодзьдзя было немагчымае без друкарскай машынкі. Але яшчэ за месяц да абвяшчэньня незалежнасьці

БНР, 25 лютага немцы выгналі Народны Сакратарыят з займанага ім памяшканьня ў Губэрнатарскім доме і забралі ўвесь ягоны набытак. Апрача грошай, балючай стратай была рэквізыцыя дзесяці друкавальных машынак. Бязь іх дзяржаўнае справаводзтва было б паралізаванае, таму беларуская ўлада напазычала машынкі дзе толькі магла.

Пра герархію ўлады і субардынацыю красамоўна сьведчыць адзін дакумэнт. Беларуская вучнёўская грамада правяла ў Менску скарбонкавы збор і папрасіла Народны Сакратарыят налічыць ёй за гэта належны заробак. На гэтай пісьмовай просьбе стаіць рэзалюцыя загадчыка справаў НС Лявона Зайца: «Лічу патрэбным выдаць ім хаця 50 р., а то яны могуць з абразы, як нічога не дамо, адабраць сваю пішучую машынку».

На гэтым гісторыя ня скончылася — празь месяц вучні запатрабавалі вярнуць ім іхны «Ундэрвуд № 3», бо «ў гэтым часе Вучнёўская грамада занята вельмі пільнай працай па адбудаваньню Расейска-Беларускага славара і пракладаў Расейскай літэратуры на Беларускую мову». Дзелавод Народнага Сакратарыяту робіць на лісьце такую прыпіску: «Пан Варонка сказаў, што машынка нам надта патрэбна, а матывы, тут напісаныя, не прымаюцца пад увагу».

## Немцы на баку бальшавікоў супраць беларусаў

Просьба надрукаваць Трэцюю Ўстаўную Грамату. Просьба дазволіць выдаваць штодзённую газэту. Просьба вызваліць ахвяраў масавага хапуну ў Менску. Просьба дазволіць правесьці рэгістрацыю насельніцтва...

Да гэтых ды іншых просьбаў Народнага Сакратарыяту нямецкія ўлады ў першыя месяцы гаспадараньня ў Беларусі заставаліся глухаватыя. Немцы надалей трымаліся рашэньняў Берасьцейскага міру: не падтрымліваць на акупаванай тэрыторыі Расеі ніякіх новых дзяржаўных утварэньняў. Беларусам у гэтым сэнсе не пашанцавала так, як літоўцам і ўкраінцам, чые новаабвешчаныя дзяржавы былі на той момант ужо прызнаныя Нямеччынай. Пытаньне прызнаньня стала рубам.

## Прага прызнаньня

Найбольш стараньняў у справе прызнаньня незалежнасьці Беларусі прыкладаў беларускі дыпляматычны авангард — высланая адразу пасьля 25 сакавіка ў Кіеў Дэлегацыя Народнага Сакратарыяту ў справе перамоваў. Яе ўзначаліў дасьведчаны юрыст Аляксандар Цьвікевіч. Найбольш абяцальна выглядала справа прызнаньня Украінай, але і там ніхто асабліва не сьпяшаўся з рашэньнямі: галоўнай праблемай заставалася беларуска-ўкраінская мяжа.

Паралельна вяліся перамовы зь нямецкімі дыпляматамі ў Кіеве. Ім 25 красавіка быў пададзены мэмарыял, аўтары якога хадайнічалі аб прызнаньні Беларусі і яе ўлады, прасілі падтрымкі ў адваяваньні ўсходняй Беларусі ад бальшавікоў, а таксама выказвалі настойлівае жаданьне захаваць Беларусь у яе натуральных межах. Асаблівы ўпор рабіўся на Вільню, бо «гэты горад цяпер — гэта разумовы цэнтар Беларусі, які найбольш жыва ўсьведамляе ідэю беларускай дзяржаўнай самастойнасьці».

У такім кантэксьце ўзьнікла тэлеграма Рады БНР нямецкаму кайзэру Вільгельму. Гэта быў першы сур'ёзны вынік «паправеньня» Рады пасьля далучэньня да яе Скірмунта і яго паплечнікаў. Тэлеграма выклікала першы раскол у лягеры беларускіх незалежнікаў.

## У пошуках нямецкай падтрымкі

Тэлеграма кайзэру выглядала так:

«Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, як выбраная прадстаўніца Беларускага Народу, зварачаецца да Вашай Імпэратарскай Вялікасьці з словамі глыбокае падзякі за вызваленьне Беларусі нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску, чужога пануючага зьдзеку і анархіі. Рада Беларускае Народнае Рэспублікі дэкляравала незалежнасьць цэлае і непадзельнае Беларусі і просіць Вашую Імпэратарскую Вялікасьць аб абароне у яе кіраваньнях дзеля ўмацаваньня дзяржаўнае незалежнасьці і непадзельнасьці краю у сувязі з Германскай Імпэрыяй. Толькі пад абаронай Германскай Імпэрыі бачыць край Сваю добрую долю у будучыні.

Прэзыдэнт Рады — Іван Серада

Прэзыдэнт Сакратарыяту — Язэп Варонка

Сябры Рады — Раман фон-Скірмунт, Антон Аўсянік, Паўлюк Аляксюк, Петра Крэчэўскі, Язэп Лёсік».

Тэкст тэлеграмы быў прыняты 31 голасам супраць 4.

## Старшыня Язэп Варонка заморваецца і расхіствае здароўе

Пра закулісьсе тэлеграмы расказвае Язэп Варонка ў лісьце Антону Луцкевічу:

«Справа гэта нарабіла тутака многа шуму. Голас грамадзянства разьдзяліўся на дзьве часткі: адны хваляць, другія называюць нас здрайцамі, нямецкімі падданымі. Што зрабіць. Чы ж усім дагадзіць. Чы разумеюць яны нашу боль, нашыя мэты... Чакаю Вас. Не дачакаўся да тэлеграмы. Бяз Вас я многа чаго ня знаю, як рабіць. Адзін я тут, замарыўся. Але ўсё ж такі Скірмунту, Алексюку і Гадлеўскаму — ня веру... Тэкст тэлеграмы мой, Скірмунт даў саўсім другі, яго мы адкінулі...»

Праз пару тыдняў першы старшыня Народнага Сакратарыяту Язэп Варонка папросіцца ў месячны адпачынак «дзеля папраўленьня расхістанага бесьперапыннай гадавой працай здароўя».

## Ці дойдзе да кайзэра тая тэлеграма...

Ініцыятарамі дасланьня тэлеграмы кайзэру, пэўна, былі браты Луцкевічы. Намаўляючы беларускіх правых далучыцца да Рады Рэспублікі, Антон Луцкевіч, сярод іншага, тлумачыў:

«Мы, седзячы in medias res нямецкай палітыкі, ведаем аб кожным кроку нямецкай дыпляматыі. Нам — збоку — найлепей відаць, якімі дарогамі йдзе нямецкая ўласьць. Яна ніколі ня пойдзе на рэч няпэўную. І толькі на грунце злучэньня ўсіх беларускіх сіл можна ёй даць тую пэўнасьць, якой яна жадае».

Вось жа за першым крокам — злучэньнем беларускіх сілаў — ішоў другі. Засьведчыўшы немцам «пэўнасьць», беларусы паведамілі пра сваю геапалітычную арыентацыю і згадалі пра сваю незалежнасьць «у сувязі з Германскай Імпэрыяй».

Аднак разьлік беларускіх палітыкаў ня спраўдзіўся. Справе прызнаньня тэлеграма нічым не дапамагла — хутчэй за ўсё нямецкі кайзэр ніколі яе й не пабачыў. Затое беларускія дзеячы пераствараліся — 

## Менская дума перадумвае

Не зразумелі новага курсу Рады БНР і ў Менскай гарадзкой думе, якая з часоў Першай Устаўной Граматы была збольшага прыхільная Беларускай Рэспубліцы і нават была асыгнавала грошы на дзейнасьць новай улады.

Цяпер жа Дума палічыла, што «абвяшчэньне Беларусі адарванай ад Расеі і незалежнай Народнай Рэспублікай і далейшыя пастановы, прынятыя Радай у тым самым кірунку, адхіляюць арыентацыю і палітычную лінію Рады ад той, якая намечаная ўсёй дэмакратыяй нашага краю, у тым ліку і першым Усебеларускім Зьездам». Дума адклікала з Рады БНР усіх сваіх прадстаўнікоў і спыніла далейшую выплату асыгнаваных Радзе сродкаў.

## УНР запісвае беларусаў ва ўкраінцы

28 красавіка 1918 году Беларуская нацыянальная рада ў Адэсе прыняла рэзалюцыю з катэгарычным пратэстам супраць таго, што Ўкраінская Цэнтральная Рада законам 2 сьнежня 1917 году прызнала за некаторымі народнасьцямі нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, але беларусы ў сьпіс тых народнасьцяў ня трапілі, хоць на тэрыторыі Ўкраіны, паводле аўтараў рэзалюцыі, беларусаў налічвалася каля мільёну. Сьпіс той, што праўда, быў кароткі — габрэі, палякі і велікаросы, але пытаньне ў тым, ці ўкраінскія палітыкі наагул лічылі беларусамі тых беларусаў, што жылі на тэрыторыі УНР ад Берасьця да Гомля.

## Адна БНР, чатыры Беларусі

Яшчэ крыху палітычнай геаграфіі. Апрача Беларусі БНРаўскай (пад нямецкай акупацыяй зь лютага 1918-га), Беларусі падбальшавіцкай (за дэмаркацыйнай лініяй, на якой спыніўся нямецкі наступ), Беларусі падукраінскай (паветы, што адышлі да УНР паводле Берасьцейскага міру), была яшчэ Беларусь «заакопная» — у зоне «старой» нямецкай акупацыі 1915 году. Кіраваньне гэтай часткай Беларусі ажыцьцяўлялася зь Беластоку, далейшы палітычны лёс гэтых земляў заставаўся няясны.

Пра беларускі рух і падзеі ў Менску тамтэйшае насельніцтва даведалася з прамовы генэрала фон Гофмана ў Берасьці, а пасьля чытала ў «заакопных» газэтах — «Гомане», «Русском вестнике», «Dzienniku

Wileńskim». Пра гэта Народнаму Сакратарыяту расказаў неназваны «хадок з Наваградку».

## Так званая РФСР

У красавіку беларускія палітыкі яшчэ вагаюцца, ці прызнаваць новыя палітычныя рэаліі, і называюць тое, што ўтварылася на ўсход ад дэмаркацыйнай лініі, «так званай "Расейскай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікай"».

## Заля выбухае нястрымным рогатам

Рада БНР засядае 1 траўня. Прадстаўнік польскіх сацыялістаў Аляксандар Прыстар выступае ў пытаньні рэканструкцыі і выбараў Прэзыдыюму. Пасьля сканчэньня выступу Прыстара, які гаворыць толькі па-польску, устае Палута Бадунова і просіць перакласьці ягоную прамову на беларускую мову. Старшыня паседжаньня задавальняе гэтую просьбу.

Празь нейкі час выступае сама Бадунова, якая гаворыць толькі па-расейску. Пасьля яе выступу радны Макар Косьцевіч просіць перакласьці яе прамову па-беларуску. Заля выбухае нястрымным рогатам. Фракцыя беларускіх эсэраў — пяць чалавек улучна са «злополучной ораторшей», як пісалі газэты, — узьнімаюць шум і пратэст.

## Рэвалюцыянэр Тамаш Грыб абураецца

Тэлеграма нямецкаму кайзэру паспрыяла разьвіцьцю беларускага палітычнага плюралізму. Наскрозь левая ад сваіх пачаткаў БНР пачала набываць іншыя колеры і выразна направела. А левы флянг пакрыўдзіўся і абурыўся. Тамаш Грыб, народны сакратар земляробства, «як удзельнік Вялікай расейскай рэвалюцыі» назваў учынак паплечнікаў здрадай ідэі рэвалюцыйнага сацыялізму.

«Не пад апекай буржуазіі, не пад абцасам нямецкага жаўнера я бачу лепшую будучыню нашай зруйнаванай і зьнішчанай старонкі і забітага абкрадзенага люду», — піша ён у заяве аб выхадзе з Народнага Сакратарыяту.

## Дзеці Грамады

Скандал вакол тэлеграмы кайзэру прывёў да расколу найстарэйшай беларускай палітычнай партыі — Беларускай сацыялістычнай грамады, створанай яшчэ ў 1902 годзе.

На руінах БСГ за лета 1918-га сфармаваліся тры новыя партыі — леванародніцкая Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (сярод лідэраў — Бадунова, Грыб, Мамонька, Заяц) з апорай на сялянства, цэнтрысцкая Беларуская партыя сацыялістаў-фэдэралістаў (Крачэўскі, Захарка, Варонка, Езавітаў), якая разьлічвала на падтрымку заможнага сялянства, інтэлігенцыі і службоўцаў, і найменш левая ды найбольш інтэлектуальная Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (браты Луцкевічы, Лёсік, Смоліч, Тарашкевіч).

## Пагоня. Не спыніць, не стрымаць

«Народны Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі, разглядзеўшы даклад Старшыні І. Я. Варонкі аб устанаўленьні дзяржаўнай пячаткі Рэспублікі, аднагалосна прыняў прапанову дакладчыка і зацьвердзіў малюнак пячаткі беларуска-літоўскага князя Міндоўга пачатку XIII стагодзьдзя. У цэнтры пячаткі зьмешчаны малюнак “Пагоня” ў выпуклым і квадратным арнамэнце з старажытнабеларускім узорам па баках. Гунька на кані з трыма зубцамі, у адрозьненьне ад круглай; па кругу надпіс у стылі летапісаў: “Беларуская Народная Рэспубліка”...»

Гэтым скончылася эпоха БНР з касою і граблямі.

## Чырвона-зялёны сьцяг. Літоўскі

Са сьцягам узьніклі складанасьці:

«Вялікія ўскладненьні ў гэтым пытаньні ўзьніклі ў сувязі з тым, што літоўцы, якія сапраўды ня мелі ніякай нацыянальна-палітычнай эмблемы ў выглядзе сьцяга, запазычылі некаторыя эмблемы ў беларусаў. Як вядома, тэрмін “Літоўская Русь” ужываўся ў тэрытарыяльным разуменьні і ніколі не існавала тэрміну “Руская Літва”; разам зь няправільным вытлумачэньнем першага тэрміну літоўцы і прэтэндуюць на правы пераважнай (і пераважнай здаўна) большасьці (нацыянальнай і культурнай) — беларусаў».

Жоўта-зялёна-чырвоны літоўскі трыкалёр быў прыняты Тарыбай у якасьці дзяржаўнага сьцяга толькі 25 красавіка 1918 году. Цэлы год перад тым

існаваў варыянт, прапанаваны мастаком Жмуйдзінавічусам, — чырвона-зялёны...

## Памыі на Варонку

Запіска невядомай асобы Язэпу Варонку. Дата і абставіны невядомыя: «Дзядзька Язэп. Гатоўцеся на Вас будуць выліваць памыі».

## Гэтаму даюць, гэтаму не даюць

Антон Луцкевіч, адукаваны эўрапейскі інтэлектуал, мякка кажучы, вельмі не любіў Вацлава Ластоўскага, таленавітага і амбітнага самавука, які змагаўся зь ім за лідэрства на палітычным і грамадзка-культурным полі. (Блізкая сяброўка сям'і Луцкевічаў Юліяна Вітан-Дубейкаўская ўспамінала, што ў Ластоўскага «была хваравлівая амбіцыя, ён ня мог прымірыцца, чаму ня ён, а браты Луцкевічы, асабліва Іван, іграюць першую скрыпку сярод беларусаў».)

Пад канец красавіка абодва беларускія антыподы зьбіраліся наведаць Менск, аднак Ластоўскаму немцы далі на гэта дазвол, а Луцкевічу — не, і той піша менскім палітыкам: «Папярэджваю, што пан Ластоўскі ані ад Рады, ані ад Беларускага камітэту, ані ад якой-колечы іншай агульнабеларускай установы ніякага паўнамочча ў Менск ня мае».

Менскія прынялі інфармацыю да ведама, але не да дзеяньня — Ластоўскага яны прынялі, ён гасьцяваў у іх ад 4 да 8 траўня. А на разьвітаньне прызналі яго «паўнамоцтвы» — перадалі зь ім для Луцкевіча пакет з важнымі матэрыяламі.

## Едуць камісары. Украінскія

Дыпляматычная місія на чале з Аляксандрам Цьвікевічам, якая выправілася ў Кіеў яшчэ 26 сакавіка, так і не давяла справу далей за прызнаньне з боку УНР дэ-факта. Самым балючым пытаньнем была беларуска-ўкраінская мяжа. Беларускія дзеячы вагаліся — ціснуць на ўкраінцаў ці не, бо лёс мяжы так ці йначай вырашаўся на ўкраінска-расейскіх перамовах, якія пачаліся 29 красавіка ў Курску і пасьля працягваліся ў Кіеве.

Бальшавікі на перамовах выступалі як гаспадары беларускіх земляў, часова акупаваных немцамі, і не дапускалі нават думкі пра існаваньне незалежнай Беларусі. На перамовы ні ў Курск, ні ў Кіеў беларусы ня трапілі, і ўсё вырашалася бязь іх.

Тым часам у беларускія паветы пад кантролем УНР (Гомельскі, Рэчыцкі, Мазырскі, Пінскі) пачалі прыяжджаць новапрызначаныя ўкраінскія камісары, пра што беларускія дыпляматы даведаліся не ад сваіх украінскіх калегаў, а з паведамленьняў зь месцаў.

Беларуская дэлегацыя падала ўладам УНР пратэст, запэўніўшы, што «ў братэрскіх дачыненьнях Украіны і Беларусі ніколі не было і, мы верым, ніколі ня будзе абвостранасьці і ўзаемных крыўдаў, спароджаных аднабаковымі распараджэньнямі або ўзаемнай непаінфармаванасьцю».

## Гомель хоча абвясьціць сябе вольным горадам

Гомель і Гомельшчына на сваю палітычную будучыню мелі свой асобны погляд. Калі ў Кіеве рых-

таваўся працяг украінска-расейскіх перамоваў аб межах, старшыня Гомельскай гарадзкой управы Багданаў накіраваў дэлегацыі БНР у Кіеве ліст з патрабаваньнем даць права жыхарам Гомля і Гомельшчыны свабодна вырашыць пытаньне аб дзяржаўнай прыналежнасьці праз рэфэрэндум.

Да ліста была далучаная копія пастановы Гомельскага павятовага земскага сходу «выбраць дэлегацыю з двух чалавек, упаўнаважыць іх дамагчыся на мірнай Кіеўскай канфэрэнцыі прызнаньня за Гомельскім паветам правоў на самавызначэньне, і калі гэткія будуць дадзеныя, то хадайнічаць аб вызваленьні павету ад адміністрацыйных і вайсковых уладаў усіх дзяржаваў».

Але вольнасьці горад Гомель так і не атрымаў — ні ад Менску, ні ад Кіева, ні ад Масквы.

## Эўропа ў Менску, Менск у Эўропе

У пачатку траўня ў Менску адкрыліся дзьве «палявыя кнігарні», куды паступіла маса мастацкіх, бэлетрыстычных, гістарычных і этнаграфічных выданьняў, кніг, альбомаў і картаў, што датычылі Беларусі, Літвы, Курляндыі ды іншых акупаваных краёў.

Апрача таго, жыхары сталіцы БНР рэгулярна і апэратыўна (на другі дзень пасьля выхаду) атрымлівалі замежную прэсу: віленскія, беластоцкія, варшаўскія, чанстахоўскія і больш за 20 назваў нямецкіх і аўстрыйскіх газэт, а таксама ілюстраваныя часопісы. У тых самых кнігарнях можна было купіць і беларускія выданьні зь Вільні.

## Польскі народны дом робіцца Беларускім

12 траўня споўніўся год з дня сьмерці ў Ялце паэта Максіма Багдановіча. З гэтай нагоды былы Польскі народны дом, які перайшоў у распараджэньне беларускіх арганізацыяў, быў перайменаваны ў Беларускі народны дом імя Максіма Багдановіча. Дом мясьціўся на вуліцы Ніжне-Ляхаўскай, 7. (Такіх вуліц у Менску было чатыры, але нумар 7 мела толькі адна — пазьней яна называлася вуліцай Гірша Лекерта, цяпер гэта пешы праход з усходняга боку стадыёну «Дынама».)

Пры Народным доме меліся ісьці курсы і лекцыі беларусазнаўства, арганізавацца школа для непісьменных, тамсама плянавалася адкрыць Беларускі народны клюб.

## Цалкам нечуваныя прыпеўкі

Адкрыўся Народны дом у нядзелю 19 траўня тэатральнай імпрэзай — была пастаўленая п’еса Ўладзімера Галубка «Бязьвінная кроў» у выкананьні Таварыства беларускай драмы і камэдыі, рэжысэр Флярыян Ждановіч. Сярод выканаўцаў галоўных роляў выступілі і былі пахваленыя крытыкай і драматург, і рэжысэр. Затое «некалькі сонна правёў ролю сына сацыяліста п. Фальскі».

У заключэньні спэктаклю ў дывэртысмэнце выступіў упершыню новы беларускі хор Пярэсьпенскай царквы, «явивший большой успех исполнением совершенно не слыханных доселе белорусских частушек и дум».

## Тэрарысты рыхтуюць замахі на беларускіх дзеячоў

Беларуская партызанская арганізацыя «Зялёны Дуб» праславілася сваімі дзеяньнямі — пераважна ўзброеным змаганьнем з бальшавікамі — на пачатку 1920-х. Аднак гэтая назва гучала ў Менску ўжо ў 1918 годзе. «Па горадзе ходзяць чуткі, — пісалася ў газэтах, — пра арганізаваную нібыта ў Менску групу тэрарыстаў “Зялёны Дуб”, якая мае за мэту ўчыненьне тэрарыстычных актаў супраць цэлага шэрагу беларускіх дзеячоў. На сьлед гэтай арганізацыі ўжо напалі...»

Праўда, маладзёвая арганізацыя з такой самай назвай, арыентаваная на сялянства і інтэлігенцыю, зьявілася ў Расеі ўжо ў 1910 годзе. Але што за зеленадубаўцы фігуравалі ў тых чутках? Ці іх злавілі і хто іх лавіў? Хто гэта — той «шэраг беларускіх дзеячоў»? Ці не было гэта нейкае рэха палітычнага расколу сярод беларускіх незалежнікаў? Няма адказу...

## Хто такія сагайдакі

На пачатку XX стагодзьдзя па сьвеце пачаў шырыцца скаўцкі рух. Не засталася ад яго ўбаку і беларуская моладзь часоў БНР. Менская вучнёўская грамада (тая самая, што змагалася з Народным Сакратарыятам за сваю друкавальную машынку) ініцыявала заснаваньне новага культурна-асьветнага і спартовага таварыства на манер скаўцкага. Беларускія скаўты меліся звацца «сагайдакі». Сагайдакам у даўнія часы называўся боекамплект коннага лучніка — лук у чахле і калчан са стрэламі.

Мэтай таварыства было фізычнае і маральнае выхаваньне пад дэвізам «Няхай жыве Незалежная Беларусь».

## Раман Скірмунт спрабуе стаць прэм'ерам

14 траўня першы склад Народнага Сакратарыяту, праіснаваўшы тры месяцы («тэрмін вельмі рэдкі для ўлады, арганізаванай рэвалюцыйным шляхам»), склаў свае паўнамоцтвы. Першы незалежніцкі ўрад выразна сацыялістычнага кірунку за гэты час страціў дзьве траціны складу і ў выніку палітычнага крызісу саступіў месца правым сілам.

Фармаваньне новага кабінэту было даручана буйному землеўласьніку Раману Скірмунту, прапановы ўвайсьці ў новы ўрад атрымалі Язэп Варонка, генэрал Кіпрыян Кандратовіч, былы менскі гарадзкі галава Станіслаў Хржанстоўскі. Зьмянілася і кіраўніцтва Рады БНР, на пасадзе старшыні Янку Сераду замяніў Язэп Лёсік. Аднак пройдзе два месяцы, і новы ўрад сыдзе з палітычнай сцэны, так фактычна і не прыступіўшы да выкананьня абавязкаў.

## У Віцебску «распрадаюць Беларусь гуртам і ўраздроб...»

У акупаваным бальшавікамі Віцебску праца беларускіх арганізацыяў была цалкам паралізаваная. Беларускія грамадзка-палітычныя дзеячы былі часткова разагнаныя, часткова тэрарызаваныя і загнаныя ў падпольле. Віцебская арганізацыя Беларускай сацыялістычнай грамады на чале

зь Міхаілам Мялешкам перайшла на нелегальнае становішча, Вайсковая рада Паўночнага фронту разагнаная і закрытая.

Затое шырокае поле дзейнасьці бальшавікі пакінулі палякам, а менавіта «1-му Польскаму рэвалюцыйнаму палку». Полк гэты, афіцыйна чырвонаармейскі, нічым не адрозьніваўся ад бабруйскіх палкоў Доўбар-Мусьніцкага, улучна з сымболікай — арлы. У Менску абураліся: «У Віцебску польская акупацыя дае сябе адчуць мацней за бальшавіцкую, а гэта, мабыць, і ёсьць праграмай дзейнасьці ленінскіх “саўнаркомаў”, якія распрадаюць Беларусь направа і налева, гуртам і ўраздроб...»

## У Маскве думаюць пра Беларусь

У Маскве тымчасам зьявіліся і беларускія бальшавікі. Група дзеячоў, не задаволеная ігнараваньнем іх бальшынёю беларускіх арганізацыяў, пайшла на службу да маскоўскіх бальшавікоў. Савет народных камісараў даў ім грошай на выданьне беларускай газэты «Дзяньніца» і арганізацыю нацыянальнага камісарыяту ў Маскве. Уплыў гэтай бальшавіцкай установы пашыраўся на Смаленскую і частку Віцебскай губэрняў.

«Большую частку сваёй працы члены Беларускага бальшавіцкага камісарыяту грамадзяне Жылуновіч, Чарвякоў, Скарынка, Войтка і інш. аддаюць тыднёвай газэце “Дзяньніца”, дзе няспынна пішуць усялякія нісянеціцы пра паўнамоцныя беларускія цэнтральныя арганізацыі ў Вільні і Менску, пішуць у газэце даносы на паасобных дзеячоў, заклікаюць чытачоў “да барацьбы” зь імі і пад.

І ўсё гэта за некалькі дзясяткаў тысячаў рублёў, седзячы ў цёплых апартамэнтах сацыялізаванага маскоўскага асабняка, далёка ад шматпакутнага беларускага народу і ад цэнтраў беларускай культуры і дзяржаўнага жыцьця», — інфармаваў грамадзкасьць Народны Сакратарыят у Менску.

«Газэту вядзе Жылуновіч і на нас усіх разам з вамі сабак вешае…», — наракаў Язэп Варонка ў лісьце Антону Луцкевічу.

## Ядзімыя прадукты для сталоўкі

Рада БНР мела сваю сталоўку, якая забясьпечвала будзённыя патрэбы радных, пэрсаналу і наведнікаў. Яе забесьпячэньнем займаліся самі палітыкі, пасылаючы харчовых кур'ераў у менскае навакольле: «Гэтым сьведчым, што грамадзяніну Івану Макарчуку даручана Народным Сакратарыятам закупіць у м. Сьмілавічах і ў ваколіцах ядзімых прадуктаў для сталоўкі пры Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі».

Праз тыдзень становіцца вядома пра вынікі харчовай экспэдыцыі: Народны Сакратарыят просіць у нямецкага камэнданта Менску дазволу, каб Іван Макарчук правёз са Сьмілавічаў 15 пудоў бульбы і 4 пуды аўса для коней, «што знаходзяцца ў распараджэньні НС БНР».

## «Отторжение от России»

Рада БНР і Народны Сакратарыят былі не адзінымі прэтэндэнтамі на мясцовую ўладу ў Беларусі ва ўмовах акупацыі і ў далейшай пэрспэктыве.

З уцёкамі бальшавікоў адрадзілася дзейнасьць органаў улады дэмакратычнай Расеі, у Менску прадстаўленых Менскім губэранскім земствам і Менскай гарадзкой думай.

20 траўня на губэранскім земскім сходзе гэтыя сілы прынялі рэзалюцыю ў беларускім пытаньні. Яны пацьвердзілі вернасьць пастановам Усебеларускага Зьезду (пра аўтаномію Беларусі ў складзе Расеі), прызналі правільным выдзяленьне грошай Радзе БНР «у пачатку яе дзейнасьці», асудзілі курс Рады і НС БНР на «отторжение от России».

Пытаньне палітычнай будучыні Беларусі, паводле земцаў і думцаў, «можа быць вырашана толькі Беларускім Устаноўчым сходам, а не самазвана групай грамадзянаў, якою зьяўляецца цяперашні склад Беларускай Рады, які страціў усялякую сувязь з Усебеларускім Зьездам і беларускім народам».

Рада БНР прызначыла скліканьне Ўстаноўчага Сходу на 1 сьнежня 1918 году, але тады ўжо будзе не да зьездаў...

## Пінчуцкая мова

24 траўня Народны Сакратарыят вырашаў пытаньні прамоцыі беларускай справы праз друкаваныя выданьні. Было пастаноўлена асыгнаваць сродкі на газэты-тыднёвікі ў Кіеве, Маскве, Петраградзе, Віцебску, Смаленску, Магілёве, Горадні, Вільні, Беластоку, Пінску, Гомлі, Полацку і на ўсялякі выпадак у Менску.

Пасьля Пінску ў дужках прыпісана — нотабэнэ! — «выдаваць на пінчуцкай мове».

## Юбілейны дом на Архірэйскай гары

У чэрвені Рада БНР з памяшканьня «Стройзапу» (на рагу Захараўскай і Серпухаўскай) пачала перабірацца ў больш рэпрэзэнтацыйны будынак — Юбілейны дом, што на Архірэйскай гары. Тамсама на асобным паверсе меўся разьмясьціцца Народны Сакратарыят. Заля паседжаньняў была абсталяваная згодна з найнавейшымі патрабаваньнямі: адмыслова падрыхтаваныя месца для Прэзыдыюму, трыбуна і лёжы для публікі.

Аднак празь нейкі час выявілася скандальная сытуацыя. Будынак быў арандаваны дзеячамі Менскага беларускага прадстаўніцтва (Аляксюк, Вернікоўскі ды інш.) не для Рады, а для нейкага арганізаванага імі клюбу, і яны ніяк не пагадзіліся «саступіць» Юбілейны дом Народнаму Сакратарыяту.

Такім чынам, Рада і НС і надалей засталіся ў доме № 43 на Захараўскай вуліцы, займаючы там каля 20 пакояў на 3-м паверсе. На самым гэтым доме ўжо красавалася шыльда «Народны Сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі». (З справаздачы касы НС: «За вывеску для Секретариата и кручки — 34 р. 20 к.».)

## «Канцлер Рэчы Паспалітай Беларускай»

Камісія, што займалася выпрацоўкай дзяржаўнай сымболікі і ўвядзеньнем гістарычных дзяржаўных тэрмінаў, пасьпела замяніць касу́ з граблямі на Пагоню. Адным з наступных крокаў была замена ўсёй дзяржаўнай тэрміналёгіі. У адмысловым праекце прапаноўвалася зрабіць такія зьмены:

Беларуская Народная Рэспубліка — Рэч Паспалітая Беларуская

Рада БНР — Вальны Сойм РПБ

Старшыня Рады — Галоўны Маршалак

Народны Сакратарыят — Рада Рэчы Паспалітай Беларускай

Старшыня Народнага Сакратарыяту — Канцлер Рэчы Паспалітай Беларускай

Народны сакратар фінансаў — Падскарбі земскі

Кіраўнік справаў — Генэральны пісар

Сябры Рады — Паслы Вальнага Сойму

Правінцыйныя рады — Соймікі

Установчы Сход — Вялікі Вальны Сойм

Старшыні — Маршалкі

Гарадзкі галава — Войт

Гласныя (сябры гарадзкой рады) — Лаўнікі

Урадавыя распараджэньні і акты — Устаўныя Граматы, Унівэрсалы

і г. д.

Праект гэты «сустрэў спачуваньне ў новым Сакратарыяце» (Скірмунтавым) і меўся быць зацьверджаны яшчэ ягоным папярэднікам, першым складам Народнага Сакратарыяту. Ой, не — Радаю Рэчы Паспалітай… Але, відаць, там сядзелі людзі крыху менш рамантычныя.

## Стаць прэм'ерам не ўдаецца, Скірмунт выяжджае ў Кіеў

Спроба стварэньня новага кабінэту пад кіраўніцтвам Скірмунта скончылася нічым, празь дзесяць дзён пасьля даручэньня яму сфармаваць урад ён вяртае мандат Народнаму Сакратарыяту. У гэтай

сытуацыі чакалася дапамога Антона Луцкевіча, які тады быў у Вільні. Аднак нямецкія ўлады яго, ініцыятара далучэньня да БНР беларускіх правых, у Менск так і не пусьцілі.

У выніку Раман Скірмунт быў прызначаны надзвычайным паслом Беларусі ва Ўкраіне з паўнамоцтвамі весьці перамовы аб усталяваньні міждзяржаўных дачыненьняў паміж БНР і Ўкраінскай Дзяржавай і выехаў у Кіеў. Разьлік быў на тое, што з гетманам Скарападзкім лягчэй дамовіцца клясава блізкі яму чалавек.

## Дамо астатні бой за Рэспубліку і пойдзем спаць

26 траўня ў старшыні Народнага Сакратарыяту Язэпа Варонкі адбыўся банкет. (Пра нагоду нічога не вядома.) Удзельнікі банкету — кіраўнікі БНР — пакінулі на адмысловым аркушы памятныя надпісы:

Крачэўскі (нар. сакр. фінансаў): «Павінны даць астатні бой за Рэспубліку».

Аўсянік (нар. сакр. унутраных справаў): «Незалежнасьць і ніпадзялімасьць».

Лёсік (старшыня Рады БНР): «Ніхай станецца, як жадаецца».

Захарка (скарбнік НС): «Палепшыць жыцьцё нашага беднага народу можэ толькі Народная Рэспубліка».

Заяц (нар. сакр. юстыцыі і кіраўнік справаў НС): «Будзьце ўсе ў душы шчырымі і праўдзівымі беларусамі — тады нам будуць верыць».

А. Смоліч (нар. сакр. асьветы і нацыянальных справаў): «Я з усімі згаджаюся, бо пара спаць».

## «Прыязнае стаўленьне нямецкага ўраду»

27 чэрвеня беларускую дэлегацыю на чале з Варонкам прыняў галоўнакамандуючы нямецкай 10-й Арміі генэрал Эрых фон Фалькенгайн. Штаб арміі пераяжджаў зь Вільні ў Менск (дзе ён афіцыйна абжывецца 12 чэрвеня), і вялікі начальнік папярэдне знаёміўся з сытуацыяй на новым месцы.

Беларуская дэлегацыя была першай, якую ён прыняў у будынку Дваранскага сходу, дзе мясьцілася нямецкае вайсковае камандаваньне. Генэрал адзначыў «прыязнае стаўленьне нямецкага ўраду да адраджэньня Беларусі» і заўважыў, што «ранейшыя непаразуменьні былі плёнам не ўсталяваных сяброўскіх узаемадачыненьняў вайсковых уладаў і беларускіх арганізацый».

Язэп Варонка падсумаваў гутарку так: «Час знаёмства прайшоў; мы ўступаем у пэрыяд супольнай творчай працы».

## Езавітава не расстрэльваюць

Паручнік расейскай арміі Кастусь Езавітаў у першым складзе Народнага Сакратарыяту меў пасаду ўпаўнаважанага ў вайсковых справах і стаў беларускім вайсковым камэндантам Менску. Дзеля адпаведнасьці пасадзе Езавітаў у беларускім кантэксьце быў павышаны рангам да палкоўніка.

Праз пару дзён пасьля прыходу немцаў ён атрымаў загад распусьціць падначалены яму беларускі полк (які палком лічыўся толькі намінальна, ён налічваў некалькі дзясяткаў чалавек). Пасьля гэ-

тага Езавітаў склаў зь сябе ўсе абавязкі і звольніўся з займаных пасадаў.

У «Хроніцы для газэтаў» за 27 красавіка паведамлялася, што палкоўнік Езавітаў «атрымаў месячны адпачынак і выехаў на Поўдзень для выпраўленьня здароўя».

Аднак праз нейкі час да Менску даходзяць чуткі, што Езавітаў расстраляны бальшавікамі ў Віцебску, куды ён быў выехаў (у сямейных справах?). Чуткі не пацьвердзіліся, і ў сярэдзіне чэрвеня паручнік-палкоўнік зьявіўся ў Менску.

Выглядае, што да тэмы «Езавітаў у Віцебску» мае дачыненьне загадкавае паведамленьне ў адной неназванай газэце: «У Віцебск прыбыў вайсковы міністар Беларусі і прапанаваў саўдэпу здаць горад беларусам. Саўдэп адмовіў міністру ў ягонай просьбе».

## Глядзім на Аўстрыю і бачым славянскую манархію

Беларуская дыпляматычная дэлегацыя ў Кіеве, якая ня трапіла на ўкраінска-расейскія перамовы, рабіла ў справе прызнаньня БНР што магла. Чарговай спробай быў зварот да Аўстра-Вугоршчыны праз яе прадстаўніка ў Кіеве.

«Беларусь заўсёды глядзела і глядзіць на Аўстрыю як на вялікую славянскую манархію, у якой жыцьцё славянаў выяўляецца ў найбольш адпаведнай форме і знаходзіць нацыянальнае прызнаньне», таму «беларускі ўрад і народ можа знайсьці ў Аўстрыі свайго натуральнага саюзьніка

і апекуна ў тую цяжкую хвіліну, якую перажывае цяпер наша краіна».

Да скону вялікай славянскай манархіі заставалася крыху болей за чатыры месяцы…

## Рэвэранс Цьвікевіча бальшавікам

Зьвярнуліся з адмысловым мэмарандумам беларускія дыпляматы ў Кіеве і да бальшавікоў у асобе Хрысьціяна Ракоўскага, старшыні расейскай дэлегацыі для перамоваў з Украінскай дзяржавай. Просьба аб прызнаньні беларускай незалежнасьці Саветам народных камісараў канчаецца рэвэрансам:

«Лічу неабходным ад імя ўраду Беларускай Рэспублікі выказаць глыбокую ўпэўненасьць, што сацыялістычны ўрад Савецкай Расейскай Рэспублікі, які першы ў сьвеце зацьвердзіў на сваім чырвоным сьцягу сьвяты прынцып самавызначэньня народаў, пойдзе насустрач беларускаму народу ў ягонай барацьбе за сваю дзяржаўную самастойнасьць, за сваё адзінства і за цэласьць сваёй зямлі і тым закладзе трывалыя асновы прыязнага сужыцьця двух братніх народаў».

Падпісаў старшыня дэлегацыі Аляксандар Цьвікевіч. Ракоўскі мэмарандуму не прыняў.

## 1800 яек Боруха Левіна як сьведчаньне дзяржаўнасьці

Ва ўваходнай дакумэнтацыі Народнага Сакратарыяту ў чэрвені істотна павялічылася колькасьць дасыланых зь беларускай правінцыі скаргаў на нямецкія акупацыйныя ўлады. Прыкладам, Борух Левін зь мястэчка Ільля Вялейскага павету паскардзіўся Народнаму Сакратарыяту БНР на тое, што нямецкія жаўнеры забралі ў яго 1800 яек, закупленых для жыхароў мястэчка на юдэйскае сьвята Пяцідзясятніцы (на якое традыцыйна пякуцца розныя бліны і пірагі).

Беларускі ўрад, такім чынам, паступова пачаў успрымацца як заступнік інтарэсаў жыхарства акупаваных беларускіх тэрыторыяў. На сустрэчы з начальнікам штабу 10-й Арміі фон Штапфам 21 чэрвеня Язэп Варонка дамовіўся аб прызначэньні па ўсёй Беларусі адмысловых дараднікаў пры нямецкіх павятовых камэндантах для ўрэгуляваньня дачыненьняў народу зь нямецкім войскам.

## Палесьсе наша, а Вільня — хто яе ведае

Дараднікаў ад Народнага Сакратарыяту БНР плянавалася прызначыць у гэткія гарады: Барысаў, Быхаў, Рагачоў, Гомель, Мазыр, Рэчыцу, Баранавічы, Пінск, Берасьце, Ваўкавыск, Ліду, Ашмяну, Слонім, Шклоў, Менск, Будслаў, Наваградак, Жлобін, Стоўпцы, Лунінец і Койданава.

Гэты сьпіс дае ўяўленьне пра геаграфію патэнцыйных уплываў беларускай улады. Відавочная гатовасьць змагацца за Поўдзень з Украінай і пры гэтым асьцярожнасьць што да Вільні і Горадні.

## «Бледнеют ужасы варварства»

Так бачылася БНР з Масквы (на мітынгу беларусаў Масквы і ваколіцаў, скліканым беларускай сэкцыяй пры ЦК левых эсэраў):

«Образуемая немецкими империалистами, совместно с белорусской буржуазией, так называемая “Незалежная Белорусская Республика” является ничем иным, как средством к экономическому и политическому закабалению белорусских крестьян и рабочих, которые принесли неисчислимые жертвы ради завоеваний социальной революции и которые подвергаются теперь всем ужасам того оккупационного режима, перед которым бледнеют ужасы варварства турецких башибузуков.

Самозванная, предательская рада, не имеющая ничего общего с белорусским трудовым народом, не имеет права выступать от имени последнего, не имеет права торговать его кровью, его будущим в Берлине и Киеве, не имеют права предавать его навсегда в лапы германского империализма и ввергать его в порабощение местной буржуазии, так как воля белорусского трудового народа направлена к тесному единению и братскому союзу со всеми великорусскими рабочими и крестьянами, со всей Советской Россией, высоко держащей знамя борьбы за право и вольности трудящихся всех стран, всех наций и т. д. и т. п…»

## «Даць сабе самому па мордзе»

Справа незалежнай беларускай культуры і асьветы часам выклікала немалыя эмоцыі і прымушала пісаць крывёю, як гэта зрабіў ува ўсіх дачыненьнях калярытны пэрсанаж, зьбіральнік беларускай старасьвеччыны інжынэр Рамуальд Зямкевіч:

«Маю гонар давясьці да Вашаго ведама, што я катэгорычна пратэстую проціў самадзержаўных і самазванных пастункаў і кіраваннеў так называемаго Сэкрэтара беларускае народнае прасьветы А. Смоліча — беларускаго міністра прасьветы.

Было надруковано ў газэтах і з апаведальнеў вядома, што помпадурны А. Смоліч паручыў пералажыць з расейскае мовы на беларускую школьные кніжкі: арытмэтыку, алгебру ды геомэтрыю.

Уважаючы, што есьць у нас арыгінальные пэдагогічные сілы, каторые трэба было б выкарыстаць і звярнуць нарэшці на шлях праўдзівай, культурнай, беларусам карыстнай працы, мушу вельмі энэргічна пратэставаць проціў гэткаго самазванства, самадзержавія дамарослых нашых нідавучак-безштаннікоў. Ясна што ў гэткай важнай справе павінны пастанаўляць спэцыялісты, якім справа беларускаго адраджэньня праўдзіва ляжыць на сэрцы.

Пералажыць школьные кніжкі з чужой мовы на беларускую, маючы свае ды ні абы якія пэдагагічныя сілы, уважаю дзелам аднолькавым з тым, што даць сабе самаму па мордзі, прызнаючы беларускую безсільнасць і бездарнасць і вазвялічываючы чужые, варожые нам літаратуры.

На гэтае дзела пусьціцца можа толькі скрыты вораг беларускае індывідуальнасьці ды грамадзкі шкоднік.

Можа быць Вам пакажэцца непрыемным і дзіўным, што я так востра пішу, але я на гэта маю права, калі не абавязак. Звык пісаць крывей, а не чарніламі».

## Скірмунт вяртаецца

Раман Скірмунт замест тыдня правёў у адʼезьдзе месяц і вярнуўся ў Менск пад канец чэрвеня. Асаблівых вынікаў ягоная кіеўская місія не прынесла.

## У Радзе Рэспублікі ўзьнімаюцца спрэчкі і шум

Праз чатыры месяцы пасьля стварэньня Рада БНР больш нагадвала ўжо ня лягер рамантыкаў-аднадумцаў, а звычайны ўсходнеэўрапейскі парлямэнт — са сваркамі, абразамі і мала што ня бойкамі. На 11-е паседжаньне II сэсіі Рады 28 чэрвеня 1918 году з 55 радных (за два месяцы з розных прычынаў выбылі 26 чалавек) прыйшлі каля трыццаці, але і гэтага хапіла, каб распаліліся жарсьці.

Выступаючы ў першым пункце парадку дня (пытаньне ўцекачоў), радны ад новаўзьніклай партыі беларускіх эсэраў Тамаш Грыб «в своей несуразной речи, сопровождавшейся чтением очередной декларации, наносит ряд оскорблений Народному Секретариату и отдельным членам Рады, как-то:

гг. Смоличу, Воронко, Овсяннику, Скирмунту и др., что вызывает бурные протесты пленума Рады».

Старшыня Лёсік двойчы спыняе прамову Грыба і прапануе забраць у яго слова. Канчаецца тым, што абражаны Варонка адмаўляецца выступаць у трэцім пункце парадку дня (міжнароднае становішча). Узьнімаюцца спрэчкі і шум. Прэзыдыюм пакідае залю пасяджэньняў, абвясьціўшы сход закрытым.

## Партфэль Людвіга Рэзаўскага

Гісторыя рэчаў. У ліпені 1918-га сябра Рады БНР Язэп Мамонька едзе зь Менску ва ўрочышча Залесьсе Пагосцкай воласьці Слуцкага павету за невядомым клопатам. Нямецкі камэндант мястэчка Пагост затрымлівае яго і рэквізуе скураны партфэль з асабістай манаграмай і дакумэнтамі.

Згадка пра партфэль вяртае нас на пару месяцаў назад. Уначы 19 лютага зь Менску ўцякаюць бальшавікі — «так перапуджаныя, што пакінулі ўсё, ратуючы сваю партыйную шкуру», — апісвае тыя ўцёкі Макар Косьцевіч. І вось партфэль бальшавіцкага камісара ўнутраных справаў Людвіга Рэзаўскага, «героя» разгону Ўсебеларускага Зьезду, «дастаўся на памятку» ў рукі Мамонькі.

З увагі на род заняткаў Рэзаўскага застаецца здагадвацца, каму ён належаў да яго. І — што зь ім стала пасьля…

## Лыжачкі, шклянкі, кубачкі, талеркі — «без денег»

«Народный Секретаріатъ Б.Н.Р. проситъ Отдѣлъ мѣстнаго хозяйства не отказать въ любезности отпустить въ пользованіе Народнаго Секретаріата большой самоваръ съ чайникомъ и подносомъ за деньги и, если можно, безъ денегъ — ложечки, стаканы, кружки, тарелки, ножи, вилки и полотенца».

На момант падачы гэтай просьбы ў касе НС заставалася крыху больш за 3 тысячы рублёў (для арыентацыі: месячная пэнсія — заробак — раднага БНР складала 600 рублёў). Але ж без самавара ніяк…

## У паветры застаецца нешта злавеснае і таямнічае

12-е пасяджэньне II сэсіі Рады БНР, якое расьцягнулася на тры дні — 9–11 ліпеня — скончылася парлямэнцкім пераваротам. З розных прычынаў (службовыя справы, культурная праца на месцах, сямейныя абставіны) да Менску не даехаў зь дзясятак радных ад левага крыла Рады. Правыя на чале са Скірмунтам, карыстаючыся колькаснай перавагай, прынялі яшчэ чатырох новых радных, якія папоўнілі іхныя шэрагі.

Скірмунт узяў назад сваю адмову сфармаваць кабінэт і выступіў з дэклярацыяй. У новы кабінэт, апрача Скірмунта (старшыня і міжнародныя справы), запрашаліся Кіпрыян Кандратовіч (унутраныя справы), Радаслаў Астроўскі (асьвета),

Станіслаў Хржанстоўскі (фінансы) і Павал Аляксюк (кіраўнік справаў).

Усе «новыя міністры», ня будучы раднымі, паўнапраўна галасавалі ў паседжаньні сэсіі. У выніку, нягледзячы на пратэсты левых, якія вінавацілі правых, «новапамалёваных пад беларускі колер людзей», у палянафільстве і апартунізьме, Скірмунт і яго каманда цалкам кантралявалі пасяджэньне і перамаглі ўва ўсіх галасаваньнях. Кульмінацыя прыходзіць падчас галасаваньня аб камісіях Рады — правыя вырашаюць спыніць на лета працу ўсіх камісіяў.

«Настае магільная ціша, — распавядае справаздача. — Шаргацяць толькі складаныя аркушы паперы і ціхія крокі. Блёк [Зьезду і БСГ] і далучаныя да яго эсэры, не падаўшы ніводнага гуку, пакідаюць Раду. Радны Вернікоўскі, адзін зь лідэраў Менскага прадстаўніцтва, крычыць ім усьлед: “Сабралі манаткі і скацерцю дарога!” Застаецца ў Радзе фактычна адно Менскае прадстаўніцтва. Палова залі пустая».

Паўпустая заля прымае пастанову распусьціць Раду на «летнія канікулы» да 15 верасьня. «Але ў паветры застаецца нешта злавеснае, пакуль няяснае і таямнічае…»

## Ксяндза ловяць за руку

У справаздачы пра пасяджэньне асабліва дасталася на арэхі ксяндзу Вінцэнту Гадлеўскаму, які, узяўшы слова, найперш «аблаяў дзеяньні старога складу» Народнага Сакратарыяту.

Падчас галасаваньня за дэклярацыю кабінэту Скірмунта і за новы склад НС «адбываецца надта прыкры выпадак»: ксяндза ловяць за руку, калі ён у таемным галасаваньні спрабуе прасунуць два галасы («як выяўляецца, за ксяндза Каральчука, які пайшоў спаць»), і толькі пасьля выбачэньня перад прэзыдыюмам яго вызваляюць ад адказнасьці.

## Усплывае Рада Ўсебеларускага Зьезду

Рада 1-га Ўсебеларускага Зьезду, як выявілася, з стварэньнем Рады БНР нікуды не прапала і ў адказ на спробу перавароту ў Радзе БНР выступіла з Унівэрсалам, дзе скасавала ўсе пастановы 9–11 ліпеня, прызнала ўсе паўнамоцтвы за Народным Сакратарыятам 1-га складу і даручыла яму пры падтрымцы праўнай камісіі Рады і з згодай і дапамогай нямецкіх акупацыйных уладаў стварыць новую Раду на працягу месяца.

З гэтай нагоды Народны Сакратарыят 1-га складу нават назваў сябе Часовым Урадам БНР.

## Раман Скірмунт спрабуе стаць прэм'ерам яшчэ раз

13 ліпеня а 6-й гадзіне вечара Радаслаў Астроўскі, намесьнік новапрызначанага старшыні НС Скірмунта, і Павал Аляксюк у якасьці новага кіраўніка справаў прыйшлі ў сядзібу Народнага Сакратарыяту на вуліцы Захараўскай, 43, і запатрабавалі перадаць ім справы як новаму кабінэту. У якасьці падмацаваньня зь імі былі старшыня Рады Лёсік і ягоны намесьнік Уласаў.

Варонка справы перадаваць адмовіўся, зазначыўшы, што абмяркоўваць гэта будзе толькі з самім Скірмунтам. Заадно выявілася, што пасьведчаньні, на моцы якіх дзейнічалі Астроўскі з Алексюком, былі сфальшаваныя. Пасьля некалькіх гадзінаў бясплённых дыскусіяў госьці, «продолжавшие негодовать», пакінулі памяшканьне Сакратарыяту.

## Скірмунт у адстаўцы, Варонка ў адʼезьдзе, Серада на кані

Каб разьвязаць менскі палітычны канфлікт, 15 ліпеня ў Менск зь Вільні прыехаў — ужо вельмі хворы — віленскі палітычны аўтарытэт Іван Луцкевіч, які з братам Антонам надалей трымаў у руках пульт дыстанцыйнага кіраваньня беларускай палітыкай. Але ягонае ўмяшаньне не прынесла ніякіх вынікаў. 20 ліпеня, так і не прыняўшы справаў ад НС 1-га складу, кабінэт Скірмунта падаў у адстаўку. 23 ліпеня пасаду старшыні Народнага Сакратарыяту заняў Янка Серада.

Язэп Варонка меўся ў якасьці надзвычайнага пасланьніка БНР у Літву, Украіну, Малдову, Грузію «і іншыя паўдзённыя рэспублікі» выехаць у адмысловую дыпляматычную паездку, аднак у выдаванай Народным Сакратарыятам «Хроніцы для газэт» паведамляецца, што Варонка перадаў Серадзе свае функцыі і «выехаў на правінцыю ў сваіх асабістых справах». Пазьней НС прыме пастанову: «У гэты палітычны момант паездка Надзвычайнага пасла к памянёным дзяржавам зьяўляецца ні на часе, таму НС БНР гэтую паездку затрымлівае».

## Не хапае Ў і Ё

У ліпені набыла крытычную вастрыню праблема з друкам беларускіх выданьняў — недахоп спэцыфічных беларускіх літараў! З гэтай нагоды было вырашана выправіць друкара Якава Грынблата, з чыёй друкарні выйшлі, сярод іншага, тры Ўстаўныя Граматы, у Петраград «дзеля набыцьця нехапаючых для беларускай альфабэты шрыфтоў (літэраў «ў», «ё», «ц» і «з»), патрэбных для друкаваньня беларускіх газэтаў і часапісаў». Якаў Грынблат з сынам Натанам выехаў у Петраград у жніўні.

## Нямецкая духавая музыка

Народны Сакратарыят тым часам далей змагаўся за сваю прастору. У Юбілейны дом дзеячы Беларускага прадстаўніцтва яго пакуль што так і не пускалі. А на трэцім паверсе дому на Захараўскай, 43, які цяпер займаў Народны Сакратарыят, прадметам змаганьня сталі тры пакоі, якія НС арандаваў раней і якія цяпер былі «беспадстаўна занятыя нямецкім вайсковым аркестрам».

Магчыма, праблема тут была ня гэтулькі ў недахопе мэтражу, як у недастатковай гукаізаляцыі…

## Купала зьбіраецца ў Менск, але так і не прыяжджае

4 жніўня ў памяшканьні таварыства «Сокал» на рагу Магазыннай і Падгорнай Беларускі нацыянальны тэатар пад кіраўніцтвам Флярыяна Ждановіча ставіў Купалава «Раскіданае гняздо». Прэм’ера

спэктаклю адбылася за год да таго — 10 ліпеня 1917-га, у пастаноўцы таго самага Ждановіча.

Тымчасам сам аўтар сваёй п’есы на сцэне яшчэ ня бачыў — ад 1916 году ён жыў у Смаленску. Цяперашняя пастаноўка мелася быць прымеркаваная да прыезду ў Менск самога Купалы. Яшчэ 20 ліпеня Народны Сакратарыят выпісаў яму пасьведчаньне аб грамадзянстве БНР і патрэбе вярнуцца ў Менск.

3 жніўня выпісваецца яшчэ адно пасьведчаньне: «Паказчык гэтага, грамадзянін-беларус Янка Луцэвіч (Беларускі паэт Янка Купала) быў камандзірован у места Смаленск у сваім часе Народным Сакратарыятам Беларускай Народнай Рэспублікі для збору калекцый для Беларускай выстаўкі ў месьце Менску, а таксама для выясьненьня, у якім палажэньні знаходзіцца там яго сямейства і звароту сям’і ў м. Менск, дзе ён мае пастаяннае местажыцельства».

Купала вернецца толькі ў студзені 1919-га, калі Менск будзе ўжо бальшавіцкі.

## Аляхновіч прыходзіць пехатою зь Вільні ў Менск

Яшчэ на пачатку ліпеня ў Менск зь Вільні пехатою прыйшоў адзін зь вядучых тагачасных драматургаў Францішак Аляхновіч і быў прызначаны загадчыкам рэпэртуарнай часткі Беларускага дзяржаўнага тэатру. Аднак мясцовыя тэатралы ягонаму «прышэсьцю» асабліва ня ўзрадаваліся.

У выніку ў БДТ адбыўся раскол. Прыхільнікі Флярыяна Ждановіча, якім Народны Сакратарыят Янкі Серады адмовіўся выдаваць субсыдыю («дзеля нястачы грошай»), аддзяліліся і перанялі

старую назву, а Аляхновіч узначаліў новы — Беларускі народны — тэатар. Віленскі аўтар не дазволіў ставіць канкурэнтам свае п’есы, і таму плянаваны на 2 жніўня спэктакль «Бутрым Няміра» быў заменены іншым «з прычыны адсутнасьці ў тэатры таварыства “Сокал” неабходных дэкарацыяў».

Затое ў тым самым «Сокале» дырэкцыя пасьля кожнага спэктаклю ладзіла танцы пад духавы аркестар, «дабы среди прочих культивировать и белорусские национальные танцы — “лявониху”, “юрку” и др.»

## Загадкавыя сацыялісты-фэдэралісты

Самай экзатычнай з партыяў, на якія летам 1918 году раскалолася Беларуская сацыялістычная грамада, выглядала Беларуская партыя сацыялістаў-фэдэралістаў. Галоўнае праграмнае палажэньне партыі: пасьля паваеннага аднаўленьня жыцьця Беларусь мусіць увайсьці ў фэдэрацыю з суседзямі (як і было пастаноўлена на Ўсебеларускім зьезьдзе). Кожнаму сябру партыі дазваляецца прытрымлівацца любой з наступных арыентацыяў:

— беларускай;
— расейскай;
— нямецкай;
— украінскай;
— літоўскай;
— ліфляндзка-курляндзкай.

Няцяжка голым вокам заўважыць, каго ў сьпісе не хапае… У гэтай партыі няясным выглядае фактычна ўсё. Прытым у Статуце партыі ні разу не

сустракаецца слова «незалежнасьць». Застаецца пералічыць яе найвіднейшых прадстаўнікоў: Я. Серада, Я. Варонка, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Цьвікевіч, К. Езавітаў, П. Крачэўскі, В. Захарка, А. Аўсянік.

## Забраныя грошы

Кабінэт Янкі Серады атрымаў у спадчыну ад папярэднікаў цяганіну зь немцамі за грошы, якія нямецкі камэндант Менску маёр Эгерс сканфіскаваў з касы Народнага Сакратарыяту ў Губэрнатарскім доме 25 лютага.

Зноў і зноў пішуць беларусы лісты да Armeeoberkommando-10 з просьбай вярнуць 300 тысячаў рублёў. Грошы вельмі патрэбныя, пішуць яны, для пабудовы ў Будславе беларускай гімназіі, для адкрыцьця ў Менску Беларускага ўнівэрсытэту, для разьвіцьця дзейнасьці Беларускай гандлёвай палаты. Заадно просяць вярнуць забраныя тады «10 друкавальных машынак, пісчую паперу і канцылярскія прыналежнасьці ў колькасьці адной шафы і чатырох скрынак».

Праз тыдзень на просьбу прыходзіць патрабаваньне обэркватармайстра штабу 10-й Арміі паведаміць, адкуль паходзяць згаданыя 300 тысячаў рублёў. (Працяг яшчэ будзе.)

## БНР бярэ Юбілейны дом

17 жніўня Народны Сакратарыят пасьля трох з паловай месяцаў стараньняў і намаганьняў нарэшце пераяжджае ў сваё новае памяшканьне ў Юбілейным доме.

## Кансуляты ёсьць, прызнаньня няма

Лінія галоўнага дыпляматычнага фронту БНР праходзіла ў Кіеве — сталіцы падобнага пострасейскага дзяржаўнага ўтварэньня, але ўжо прызнанага бліжэйшымі і далейшымі суседзямі. Да прызнаньня Ўкраінаю было найбліжэй, але самой Украіне было тады не да таго.

Адбываліся ў Кіеве і кантакты з дыпляматамі іншых дзяржаваў — Нямеччыны, Аўстрыі, бальшавіцкай Расеі. Былі прызначаныя генэральныя консулы ў Кіеве і Маскве — Павал Трамповіч і Аляксандар Бурбіс, выканаўца абавязкаў консула на Паўночным Каўказе (Данская рэспубліка Краснова) — Аляксандар Вальковіч, правамоцны прадстаўнік БНР пры ўрадах Румыніі і Малдовы — Павал Манцэвіч.

Але без паўнацэннага дыпляматычнага прызнаньня гэтыя прызначэньні былі збольшага намінальнымі.

## Польскі элемэнт і як зь ім змагацца

Фармаваньне новага кабінэту Янкі Серады зацягнулася на некалькі тыдняў. За адсутнасьцю народных сакратароў іхную працу вялі адпаведныя камісіі Рады. Справаводзтва таго пэрыяду не захавалася, але тыя падзеі рэгулярна асьвятляла газэтная хроніка. «Былыя міністры», якія складалі ядро першага кабінэту, уваходзіць у новы ўрад не сьпяшаліся і працавалі ў камісіях, засяродзіўшыся на «барацьбе з польскім элемэнтам у Беларусі».

Занепакоенасьць польскай пагрозай узрасла пасьля таго, як у Менску заснавалася рыма-каталіц-

кая біскупская катэдра і 14 жніўня сюды прыехаў біскуп Лазінскі. Беларускіх незалежнікаў гэта занепакоіла, і яны шукалі спосабаў умацаваць беларускае нацыянальнае адраджэньне.

## Плён драмы і камэдыі

«Что может быть плодотворнее для темного белорусского захолустья, как не белорусская комедия или драма на родном языке народа, жаждущего света и мирной жизни…» — не хавае захапленьня аўтар газэтнага паведамленьня пра гастролі тэатральнай трупы Флярыяна Ждановіча ў беларускай правінцыі.

## Памяць аж праз вякі

Пётра Крачэўскі пра Ўсебеларускі Зьезд: «Мімаволі прыгадваецца мінулае. Сьмерць Усяслава Васількавіча ў 1181 г. Гэтак жа шумна і з такімі самымі гарачымі спрэчкамі, як і на зьезьдзе 17 сьнежня, Полацкае княства было абвешчана Рэспублікай…»

## Подзьвіг тэатралаў у Ракаве

Пра гастролі Беларускага нацыянальнага тэатру ў правінцыі: «Мястэчка Ракаў і яго ваколіца зьяўляюцца самай апалячанай часткай Менскай губэрні, таму жаданьне даць некалькі беларускіх спэктакляў у такім асяродзьдзі можна лічыць свайго роду подзьвігам».

## БНР ужо без «Ундэрвуда»

Тым часам Беларуская вучнёўская грамада ня склала зброі ў змаганьні з Народным Сакратарыятам за друкавальную машынку «Ундэрвуд». 5 верасьня вучні дасылаюць новае патрабаваньне вярнуць належную ім маёмасьць. Народны Сакратарыят у асобе Лявона Зайца адказвае: позна, машынка ўжо перададзеная іншай установе — Цэнтральнай гандлёвай палаце, усе просьбы надалей кіруйце туды.

## Культурна-прасьветна, па-расейску

Культурна-прасьветнае таварыства «Бацькаўшчына», створанае яшчэ ў ліпені пад старшынствам эсэфа Варонкі, апекавалася рознага роду культурніцкай дзейнасьцю. 9 верасьня «Бацькаўшчына» папрасіла Народны Сакратарыят БНР перадаць яму ў часовае карыстаньне друкарню НС. Ліст ад беларускай культурна-прасьветнай арганізацыі беларускаму ўраду за подпісам яшчэ аднаго эсэфа — Езавітава — напісаны… па-расейску.

## На арэну выходзіць Антон Луцкевіч

22 верасьня ў Кіеў прыбыла новая Надзвычайная дэлегацыя БНР у справах замежных перамоваў на чале зь вядучым беларускім палітыкам Антонам Луцкевічам. Гэта ўжо была сапраўды цяжкая дыпляматычная артылерыя.

На другі дзень беларускія дыпляматы нанесьлі візыт бальшавіцкаму прадстаўніку Хрысьціяну Ракоўскаму і ўручылі яму дэклярацыю пратэсту Рады БНР з прычыны дадатковай расейска-нямецкай дамовы.

Дамова была падпісаная 28 жніўня, паводле яе немцы меліся адступіць да Бярэзіны і аддаць бальшавікам беларускія землі на ўсход ад яе, а таксама «ніякім чынам ня ўмешвацца ў дачыненьні паміж Расейскай дзяржавай і яе асобнымі абласьцямі… не выклікаць і не падтрымліваць утварэньня самастойных дзяржаўных арганізмаў у гэтых абласьцях».

Апошняе непасрэдна тычылася БНР і яе шанцаў на прызнаньне з боку Нямеччыны. З Ракоўскім правялі ў спрэчках тры з паловай гадзіны, і «гэтым візытам місія дэлегацыі ня вычарпалася».

## «Просим вас, господ Белорусской Рады...»

З усіх куткоў Беларусі ў Народны Сакратарыят ішлі скаргі сялянаў на гвалт з боку нямецкіх акупантаў, якія, адчуваючы блізкі канец экскурсіі ў Беларусь, абдзіралі яе як маглі.

«Просим вас, господ Белорусской Рады, обратить внимание на непосильные реквизиции…», — пішуць у звароце сяляне вёскі Часнакі Івянецкай воласьці, падпісваецца ўся вёска — 12 чалавек.

## Хуткая сьмерць імпэрыяў

Усё пасыпалася з пачаткам лістапада. 6-га аўстра-вугорскі імпэратар Карл I адракаецца ад пасаду. Імпэрыя спыняе існаваньне і распадаецца на новыя нацыянальныя дзяржавы, але яшчэ нейкі час Народны Сакратарыят будзе дасылаць сваім кіеўскім дыплятам даверныя лісты на вядзеньне перамоваў з прадстаўнікамі Аўстра-Вугоршчыны «аб прызнаньні незалежнасьці БНР і ў іншых пытаньнях»…

9 лістапада ў Нямеччыне выбухае рэвалюцыя. Беларускія незалежнікі паўсталі перад пагрозай бальшавіцкай акупацыі. Неадкладна арганізуецца Вайсковая калегія БНР. Генэралу Кандратовічу і палкоўнікам Езавітаву і Тароцьку даручаецца ўтварыць штаб 1-га Беларускага палка. Тым часам Язэп Лёсік і Іван Луцкевіч, едучы зь Нямеччыны і Швайцарыі ў Менск і Вільню, заехалі ў Бэрлін і перадалі нямецкаму сацыялістычнаму ўраду свой мэмарандум з просьбай аб прызнаньні незалежнасьці.

## Янку Сераду здымаюць з пасады за «двулічную палітыку»

У Менску 10 лістапада ў памяшканьні Менскай земскай управы зьбіраецца нарада прадстаўнікоў земстваў, гарадоў, сацыялістычных партыяў і каапэратываў. Нарада прымае рэзалюцыю аб часовай перадачы краёвай улады да склікання Ўстаноўчага Сойму Беларусі земскім і гарадзкім самаўрадам.

Дзеячы БНР заяўляюць аб спробе ўзурпацыі ўлады. Народны Сакратарыят (кабінэт Янкі Се-

рады) «у сувязі з падзеямі апошняга часу» падае ў адстаўку. Былыя калегі абвінавацілі Сераду ў «двулічнай палітыцы, якая выявілася ў недастатковым захаваньні інтарэсаў Рады з мэтай дагадзіць інтарэсам Менскага губэранскага земства, дзе ён таксама састаяў на службе». Рада БНР засядае кожны дзень…

## Немцы грошай не аддаюць

Народны Сакратарыят да апошняга моманту ня страчваў надзеі вярнуць 300 тысячаў рублёў, канфіскаваныя нямецкімі акупантамі падчас высяленьня беларускай улады з Губэрнатарскага дому. На патрабаваньне немцаў паведаміць аб паходжаньні грошай Народны Сакратарыят адказвае, што грошы ў касу НС унесьлі казначэйства і паштовыя ўстановы гораду Менску, чыя маёмасьць загадам НС № 1 была абвешчаная набыткам беларускага народу.

На што начальнік штабу 10-й Арміі адказаў: ага, ну дык тады дзеля таго, што гэтыя грошы былі расейскай дзяржаўнай маёмасьцю, іх канфіскацыя была абсалютна законная, і больш вы іх ня ўбачыце. А адкуль, нагадайце, узяліся друкавальныя машынкі і канцылярскае абсталяваньне?

Пра грошы Народны Сакратарыят ужо і ня згадваў. Машынкі і астатняе, пісалася ў адказе, былі набытыя НС за ўласныя сродкі. І цяпер вельмі неадкладна патрэбныя. Але немцам ужо было не да машынак — на тым перапіска ў гэтым пытаньні спынілася. Працягу ня будзе.

## Зварот да Вудра Ўілсана

Адзін з апошніх дыпляматычных актаў Рады БНР перад немінучай пагрозай бальшавіцкай навалы — гэта сапраўдны крык адчаю, зь якім яна зьвяртаецца да прэзыдэнта Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў:

«У імя культуры і чалавечнасьці, у імя пачаткаў гуманнасьці, абвешчаных панам Прэзыдэнтам Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Рада Беларускай Народнай Рэспублікі просіць уратаваць бездапаможную Беларусь ад разгрому і ў гэтых мэтах ужо цяпер да адыходу акупацыйнай арміі забясьпечыць ёй вонкавую недатыкальнасьць прызнаньнем Яе самастойнасьці і Незалежнасьці і ўнутраную бясьпеку перадачай у рукі Рады Цывільнага Кіраваньня Краем».

## Дыпляматы ні з чым вяртаюцца з Кіева...

Надзвычайная дэлегацыя Рады БНР у Кіеве, прабыўшы там паўтара месяца, рабіла ўсе магчымыя захады для прызнаньня Ўкраінай незалежнасьці БНР. І хоць фактычнае прызнаньне ў кантактах з дэлегацыяй пацьвярджалі і гетман Скарападзкі, і ўкраінскія ўрадоўцы, пытаньне аб афіцыйным прызнаньні ў Радзе міністраў Украінскай дзяржавы так і не было разгледжанае.

Дэлегацыя на чале з Антонам Луцкевічам 5 лістапада заявіла, што «кожны дзень зацяжкі, стаўляючы Беларусь перад фактам акупацыі Савецкай Рэспублікай усё новых і новых абшараў Беларусі, абясцэньвае эвэнтуальную помач беларусам са ста-

раны Ўкраінскае дзяржавы, каторая можа аказацца спозьненай». Папрасіўшы паскорыць разгляд пытаньня, дэлегацыя палічыла сваё далейшае знаходжаньне ў Кіеве беспатрэбным і выехала ў Менск.

## ...а таксама з Бэрліну, Варшавы, Вільні і Бэрну

На пачатку лістапада вярнуліся ў Менск надзвычайныя дыпляматычныя дэлегацыі, якія Рада БНР дасылала, апрача Кіева, яшчэ ў Нямеччыну, Польшчу, Літву і Швайцарыю. «Матэрыялы, здабытыя дэлегацыямі, пасунулі беларускую справу значна наперад», аптымістычна адзначае афіцыйная хроніка для газэт. Аднак факт застаецца фактам: да акупацыі тэрыторыі Беларусі бальшавікамі ў сьнежні афіцыйнага прызнаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі дамагчыся не ўдалося.

## 11 лістапада 1918 году. Канец вайне. Але не ў Беларусі

11 лістапада скончылася Першая сусьветная вайна. У гэты дзень у Менску адбылося пасяджэньне Рады БНР, дзе Народны Сакратарыят быў рэфармаваны ў Раду Народных Міністраў. Рада абрала старшынём Рады Народных Міністраў Антона Луцкевіча, які толькі што вярнуўся з Кіева. Сакратарыяты зьмяніліся народнымі міністэрствамі, а народныя сакратары — народнымі міністрамі.

Але хоць у гэты дзень быў абвешчаны канец вайны, у Беларусь мір не прыйшоў. Тут вайна — ужо зь іншымі ўдзельнікамі, але зь ня меншай шкодай

для краю і яго народу — працягнецца яшчэ больш за два гады і скончыцца падпісаньнем Рыскага міру, які падзеліць Беларусь напалам.

## Чацьверты ўрад за дзевяць месяцаў

22 лістапада кабінэт Антона Луцкевіча — чацьверты Ўрад БНР — выступае з дэклярацыяй і абвяшчае сьпіс народных міністраў. Імі сталі Вацлаў Іваноўскі (прасьвета), Аляксандар Цьвікевіч (суды), Аркадзь Смоліч (земляробства і маёмасьць), Язэп Варонка, Васіль Захарка і Тамаш Грыб (усе трое — міністры без партфэляў). Міністэрства замежных справаў Луцкевіч узяў на сябе.

## Апошняя Грамата БНР

28 лістапада Рада БНР выдае сваю апошнюю Грамату да беларускага народу:

«ГРАМАТА РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ

Народзе Беларускі і ўсе народы Беларускай зямлі!

Слухай голасу тваіх прадстаўнікоў, што працуюць тваім імянем і дзеля твайго шчасьця.

Шмат сотняў гадоў панавалі на Беларусі чужынцы, а працоўны народ наш гібеў у зьдзеку, няволі і цемнаце. Бесканечныя войны палівалі нашую старонку рэкамі крыві, а звадкі між народамі і верамі ў самой Беларусі атручвалі дух народны, зьнішчалі ўсе здабыткі культуры і не давалі тварыцца новым.

Аж зразумелі ўрэшце лепшыя сыны Беларусі, што прычына ўсіх няшчасьцяў — гэта палітычны заняпад народу Беларускага, яго няволя і пакора, і прагалосілі яны на ўсю Беларусь, што

павінен устаць Беларускі народ, скінуць путы няволі і з парабка гаспадаром зрабіцца на сваёй зямлі.

Разыйшоўся голас гэты па Беларусі і абудзіўся Народ. І на вялікі ўсенародны сход, які адбыўся ў сьнежні месяцы 1917 г. у Менску і называецца Ўсебеларускім Зьездам, прыслаў Народ Беларускі каля дзьвюх тысяч чалавек сваіх лепшых прадстаўнікоў з усіх частак, усіх валасьцей, усіх закуткаў Беларускай Зямлі.

Не збаяўшыся цёмных сілаў, што тады панавалі на Беларусі, перад наведзенымі кулямётамі і навіслымі штыкамі сказаў Зьезд волю Народу Беларускага аб яго будучыні. Народ Беларускі выракаецца сваіх няпрошаных апякуноў. Ён устанаўляе на сваёй зямлі Дэмакратычную Рэспубліку і хоча прамаўляць на сусьветным міравым кангрэсе вуснамі сваіх уласных прадстаўнікоў. Ён творыць войска для абароны свайго права і даручае ўладу ў Беларусі выбранай на зьезьдзе Радзе і яе Спаўняючаму Камітэту.

Паны камісары разагналі Ўсебеларускі Зьезд і шукалі спосабу зьнішчыць Раду Зьезду. Ды не ўдалося гэта ім. Пасьля іхняга ўцёку зь Менску ўлада перайшла да Спаўняючага Камітэту Рады Зьезду і той стварыў тады першае Міністэрства Беларускае — Народны Сакратарыят, а таксама пачаў тварыць беларускае Народнае войска.

Пасьля вякоў няволі ізноў запанаваў на сваёй зямлі Беларускі Народ. Але нядоўгае было гэтае панаваньне. Цераз тры дні прыйшлі ў Менск войскі нямецкага імпэратара. Яны гвалтам адабралі ад Народнага Сакратарыяту ўладу і спынілі яго работу.

Патаемна мусіў пасьля таго зьбірацца Беларускі Ўрад, хаваючыся ад нямецкіх жандармаў, але ні на мінуту не забываўся ён аб вялікіх абавязках, на яго Народам узложаных.

9 сакавіка 1918 г. Спаўняючы Камітэт Рады Зьезду выдаў Устаўную Грамату, якая тлумачыла тыя правы працоўнага народу, што выдаў Усебеларускі Зьезд.

А 25 сакавіка ён, злучыўшыся з прадстаўнікамі Земстваў і Гарадоў і ўтварыўшы разам РАДУ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ абвесьціў Беларусь незалежнай і вольнай Дзяржаваю, каб не дазволіць далей чужынцам камандаваць Беларускім Народам, разрываць яго на часткі ды гандляваць Беларусьсю на сусьветным рынку. Так былі скінуты зь Беларускага Народу апошнія путы няволі, якія цiснулі яго празь вякі.

Ішоў час, але не зьменшаўся ўціск нямецкага імпэратарскага Ўраду. З усяго краю надыходзілі да Рады Беларускай Народнай Рэспублікі скаргі і пратэсты проці гэтага ўціску, а Рада нічога не магла зрабіць, бо яшчэ не пасьпеў сабраць Беларускі Народ сілы свае і моцным плячом падперці сваю Раду.

Ня маючы сілы Рада Рэспублікі надзеялася хоць сваёю пакораю зьмягчыць цяжкае палажэньне Беларусі. Яна некалькі разоў зьвярталася да нямецкага ўраду, просячы, каб той прызнаў Беларускі Народ вольным і незалежным і даў яму можнасьць самому ўпраўляць сваёю зямлёю. Нямецкі ўрад кожны раз адказываў адмоўна.

Тым часам у Нямеччыне сталася рэвалюцыя, і нямецкае войска ня хоча больш аставацца ў нашай зямлі, зь якой гэтак несправядліва зрабіў яго даўнейшы імпэратарскі ўрад. Беларусь ізноў астаецца вольнаю і яе ўрад мае абвесьціць выбары да Беларускага Ўстаноўчага Сойму, які сваім голасам умацуе правы народу і ўстановіць дзяржаўны лад Беларусі.

Але хоць шмат зьмяніла рэвалюцыя, ды не зьмяніла яна нешчасьлівай долі Беларускай. Ня хочуць панаехаўшыя ў наш край чужынцы выпускаць са сваіх рук лейцаў, у якіх трымалі дагэтуль Беларускі Народ. У Менску, у Кіеве разам з нашымі адступнікамі яны твораць фальшывыя ўрады і крычаць аб сваім праве на панаваньне над Беларускім Народам, аб тым, што Беларусь ніяк ня можа быць вольнаю, а павінна канечне ісьці зноў у ярмо.

Пры гэтым яны не шкадуюць выдумак, каб ачарніць Раду Рэспублікі і словамі сваімі апаганіць яе працу. Уся мэта гэтых людзей — пасварыць беларусаў між сабою, а пасьля, абясьсіліўшы іх, аддаць у даўнейшую няволю, пад панаваньне новага цара і яго чыноўнікаў.

Рада Рэспублікі аднак верыць у сьветлы і здаровы розум народу Беларускага і ўсіх дэмакратычных народаў Беларусі, якія не дадуць сябе ашукаць хітрым ворагам Рэспублікі. Яна вядзе далей сваю працу, а для спаўненьня сваіх загадаў, яна устанавіла новы склад Рады Беларускіх Народных Міністраў, які павінен вывесьці Беларусь на сьветлы лепшы шлях, абараніць праўдзівую яе незалежнасьць і даць працоўнаму малазямельнаму народу зямлю, а работнікам дагаднейшыя варункі працы і склікаць Устаноўчы Сойм Беларускай Народнай Рэспублікі.

Перад сьвітаньнем новага дня, які суліць нашай Бацькаўшчыне культурны росквіт і дзяржаўную незалежнасьць, павінны абудзіцца ўсе жывыя дэмакратычныя сілы Беларусі.

Усе, хто хоча бачыць сваю многапакутную Бацькаўшчыну — Беларусь вольнай, багатай і шчасьлівай, усе хто хоча, каб працоўны народ Беларусі ня знаў больш зьдзеку над сабою і няволі, няхай усюды злучаюць свае сілы, СТВАРАЮЧЫ НА МЕЙСЦАХ БЕЛАРУСКІЯ РАДЫ і зьвязуючы іх з Радаю Рэспублікі.

Толькі ім, гэтым арганізацыям працоўнага Народу Беларусі, належыць цяпер, да созыву Ўстаноўчага Сойму, улада на мейсцах, а ня Земству, не чыноўнікам, не ўсякім самазванцам і чужынцам. Толькі на іх павінен апірацца Беларускі Народны Ўрад у сваёй чыннасьці.

Сам народ, абуджаны рэвалюцыяй, няхай бароніць сваю волю і незалежнасьць, права на сваю родную зямлю і мейсца на сьвеце сярод усіх Народаў.

Чувайце грамадзяне Беларускай Народнай Рэспублікі! Надыходзе гадзіна апошняга суду над народамі. Няхай жа не пагасьне ў сэрцах вашых жывы агонь замілаваньня да волі і агульна-грамадзянскага шчасьця.

Няхай жыве незалежная Беларуская Народная Рэспубліка!

Няхай жыве працоўны народ Беларусі і салідарнасьць вольных народаў!

Няхай растуць Беларускія сялянскія і работніцкія Рады па ўсёй Беларусі!

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі.
28.11.1918
м. Менск».

Гэтую Грамату і дэклярацыю «Ад Рады Народных Міністраў» доўга відаць было на рагох некаторых менскіх вуліц нават і пасьля прыходу бальшавікоў, прыгадвае Макар Косьцевіч. Грамата гэтая была разьвітаньнем. Праз пяць дзён яе аўтары пакінуць Менск.

## Часовы выезд, часам назаўсёды

3 сьнежня 1918 году Рада Народных Міністраў і большая частка Рады Беларускай Народнай Рэспублікі выехалі ў Вільню. Інспэктар Менскіх курсаў беларусазнаўства Кастусь Езавітаў дасылае заяву ў аддзел асьветы Менскай гарадзкой управы: «Сим извещаю отдел, что по обстоятельствам политического характера я временно выезжаю из Минска».

Абставіны гэтага характару склаліся так, што часовае разьвітаньне шмат для каго зь беларускіх дзеячоў сталася апошнім і канчатковым.

# Зьмест

## Досьвіткі дзівоснай пары
(Вільня, студзень 1916)

У віленскай кавярні «Чырвоны Штраль» студзеньскім вечарам бавіла вечар заўсёдная стракатая кампанія тутэйшых інтэлігентаў.

На той час ужо паўгода край жыў пад нямецкай акупацыяй. Віленскія палякі, літоўцы і беларусы пачыналі адкрыта гаварыць пра тое, пра што яшчэ зусім нядаўна, пад расейцамі, не спрабавалі нават думаць.

Згаданая кампанія ў «Штралі» ўпершыню счапілася за палітыку. Счапілася сур'ёзна, за рэзкімі словамі пайшлі рэзкія рухі. Спрачаліся за Вільню. Абражаны нечаканымі прэтэнзіямі беларусаў, заяты паляк архівіст Вацлаў Студніцкі вырашыў спрэчку радыкальна, паслаўшы ў накаўт свайго хваравітага апанэнта беларускага лідэра Івана Луцкевіча, якога паплечнікам давялося выносіць са «Штралю» на руках.

Гэтую сцэну маляўніча апісаў у сваім дзённіку будучы літоўскі дыплямат Пятрас Клімас, не хаваючы злараднага задавальненьня — хай сабе канкурэнты тузаюцца між сабою. Клімас, аднак, ня ведаў, што гэты інцыдэнт быў адным зь першых імпульсаў, які падштурхнуў Івана і Антона Луцкевічаў — тагачасных правадыроў беларускага палітычнага руху — да выхаду на новы палітычны шлях. Ці ёсьць сэнс марыць пра Вялікія Княствы і Рэчы Паспалітыя з такімі прагнымі і падступнымі хаўруснікамі? Незалежнасьць. Толькі незалежнасьць.

***

Ад таго часу падзеі пачалі разьвівацца штораз хутчэй. Сталіцай беларускага руху ў 1917-м упершыню і канчаткова зрабіўся Менск. І вось, прыехаўшы ў сакавіку 18-га ў Менск, дэлегацыя віленскіх беларусаў на чале з братамі Луцкевічамі публічна вынесла даўно абдуманую і высьпеленую ідэю незалежнасьці на дзённае сьвятло. Менскія беларусы — не бяз шоку — бо раней больш чым пра аўтаномію і ня марылі — падтрымалі гэтую ідэю.

І хоць Беларуская Народная Рэспубліка захоўвала рэальны кантроль на рэальнай тэрыторыі зусім нядоўга, ужо і гэтага было дастаткова, каб сон палітыкаў-культурнікаў стаўся явай. Наступствы тых, здавалася б, напачатку зусім незаўважных, эфэмэрных, выпадковых падзеяў мы бачым сёньня на карце Эўропы.

Падзеі Першай сусьветнай вайны, якая ў Беларусі працягвалася сем гадоў, найдаўжэй у сьвеце, не пакінулі БНР шанцаў на спакойнае жыцьцё. Сталіца — сядзіба кіраўніцтва — зь Менску перасунулася ў Вільню, пасьля ў Горадню, адтуль у Бэрлін, Рыгу, Коўна, Прагу, Парыж, а адтуль і наагул за акіян, дзе застаецца і цяпер. Аднак з самой Беларусі БНР так ніколі й ня зьнікла, а ператварылася ў прывід, які ўвесь гэты час жыў у беларускім доме сваім таямнічым жыцьцём, палохаючы адных яго насельнікаў і навяваючы рамантычны настрой другім, а ў канцы XX стагодзьдзя вырваўся на вуліцы і плошчы, захапіў парлямэнт і ўрад, выявіўся на пашпартах, грошах, дзяржаўных сымбалях, каб праз некалькі гадоў адысьці ўбок і зноў чакаць свайго вяртаньня, непазьбежнага, як узыход сонца.

## Дыпкур'ерка Аўгіньня
(Варшава — Камянец — Варшава, ліпень 1919)

...Яна зьявілася ўначы, як здань. Проста ніадкуль, бо што яна прайшла — жывая і некранутая — бальшавіцкія пазыцыі, паверыць было немагчыма. Аднак, пабачыўшы афіцыйныя паперы зь дзяржаўнай пячаткай, афіцэр передавой каманды ўкраінскага войска адчуў, што гэтае дзяўчо — важная птушка, і загадаў з пашанай даставіць яе ў Камянец-Падольскі, у сядзібу ўраду.

Ня менш быў зьдзіўлены і прэм'ер-міністар Барыс Мартас, пабачыўшы акрэдытыў на паўтара мільёна карбованцаў і паперы, падпісаныя яго папярэднікам — прэм'ерам Украінскай Народнай Рэспублікі Ўладзімірам Чахоўскім, якія падала яму дзяўчына, назваўшыся дыпкур'ерам Аўгіньняй Аляксюк. Ён адразу зрабіў усё, аб чым яна папрасіла, — перапісаў акрэдытыў на аўстрыйскі банк і прыдзяліў ёй вайсковы канвой на зваротную дарогу, перадаўшы зь ёю ліст да беларускага ўраду:

«Прийнявши Вашого дипльоматичного гонця і одержавши відомости про те становище, в якому перебуває зараз Білоруський Нарід і його теріторія, страждаючи і терплючи від знущань і глуму одвічних ворогів так Білоруського як і Українського Народів — московських червоних імперіялістів-большовиків, я дозволяю собі від імени Соборної України висловити щире співчуття Українського Народу — Народові Білоруському.

Україна [...] засилає Білоруській Народній Республіці свій братний привіт і бажання Їй як найшвидче подолати ворога, аби Вона могла стати Вільною і Незалежною Республікою, що, як єдино-правильне

і справедливе, Україна буде завжди підтримувати від щирого серця».

А пачалася надзвычайна сакрэтная місія 10 ліпеня 1919 году. Ураду БНР, які тады працаваў у Бэрліне, нямецкі Райхсбанк адмовіўся выплаціць грошы за акрэдытыў на паўтара мільёна карбованцаў — частку пазыкі ад украінскага ўраду — бо на ўкраінскія грошы нямецкія ўлады наклалі арышт.

Адзіным выйсьцем было перапісаць акрэдытыў на банк у іншай краіне, а для гэтага трэба было зрабіць амаль немагчымае — атрымаць ад украінскага ўраду новыя паперы, прычым не апошнім пытаньнем было яшчэ і тое, дзе шукаць сам той урад. Місія на чале з паслом Цьвікевічам здолела дабрацца толькі да Варшавы.

Далей давялося дзейнічаць нелегальна. Было пастаноўлена, што выканаць амаль немагчымае заданьне мог толькі адзін чалавек — 20-гадовая Аўгіньня Алексючанка, дыпляматычны кур'ер Рады Народных Міністраў БНР, якая на той час мела ўжо немалы досьвед пераезду і правозу дакумэнтаў праз франтавыя зоны.

І вось 10 ліпеня Алексючанка выехала з Варшавы, з надзвычайнымі цяжкасьцямі дабралася да Луцку, адкуль, пераапрануўшыся сялянкаю, прайшла празь лінію польска-бальшавіцкага фронту.

На бальшавіцкім баку яе арыштавалі, аднак за 500 аўстрыяцкіх кронаў (дзе ў той час хадзілі якія грошы — наагул разабрацца вялікая праблема) ёй удалося адкупіцца і нават атрымаць ахоўны дакумэнт да Астрогу. Па дарозе да ўкраінскай мяжы ўначы ў гатэлі бальшавікі ўчыніліператрус і рэквізавалі ў кур'еркі ўсе грошы, адзеньне, багаж і нават чаравікі. Калі ў яе і на ёй не засталося амаль нічога, апрача нейкім цудам уратаваных дакумэнтаў, яна

на досьвітку ўцякае з гатэлю, за які ўжо не было чым плаціць.

На самай бальшавіцка-ўкраінскай мяжы Алексючанку зноў арыштоўваюць чырвоныя байцы — для высьвятленьня асобы — але азнаёміцца зь ейнай асобай ім ужо не давядзецца: уначы разам зь дзьвюма ўкраінкамі, затрыманымі з той самай мэтай, яна выломвае акно арыштанцкай, уцякае і пад няспынным баявым агнём пераходзіць лінію ўкраінска-бальшавіцкага фронту. Там яе й сустракае перадавая каманда ўкраінскага войска.

Цяпер, пасьля цёплага прыёму ўкраінскім урадам і залагоджаньня ўсіх справаў, застаецца ўсяго толькі вярнуцца ў Варшаву той самай дарогай. Пачэсны ўкраінскі канвой вакольнымі дарогамі — у абыход бальшавікоў — давозіць дзяўчыну да польскай мяжы ў Збруч, пакідаючы яе далей на волю лёсу. На мяжы яе ўмомант арыштоўваюць палякі, але яна і да іх знаходзіць свой таемны ключ.

Як будзе напісана пазьней у пратаколах Ураду БНР, «дзякуючы надзвычайнаму спрыту і лоўкасьці, яна арыштаваная і пад канвоем жандармаў, згодна зь яе просьбамі была дастаўленая ў Варшаву», дзе была ўзятая пад арышт для праверкі асобы.

Праз колькі дзён яе ўдаецца вызваліць, аднак з-пад арышту ў гатэлі яна ўжо выходзіць безь ніякіх дакумэнтаў. Усе паперы і перапісаны акрэдытыў яна пасьпявае перадаць у патрэбныя рукі яшчэ ў першую ноч свайго зьняволеньня.

Фінал гэтай гісторыі даволі сумны. Рада Народных Міністраў выказала Аўгіньні Алексючанцы шчырую падзяку і выдала мізэрную прэмію. Сама кур'ерка, вярнуўшыся ў родную Горадню, позьнюю восень і зіму 1919 году моцна хварэла і марна прасіла Ўрад аб дапамозе. Пасьля, падчас адной зь місіяў,

пазычыла сама сабе з грошай, што мелася перадаць трэцяй асобе, належную, на ейную думку, суму і за гэткае злачынства была звольненая з працы.

Пра тое, што было з Аўгіньняй Алексючанкай да і пасьля апісаных бурлівых падзеяў, вядома вельмі мала. Упершыню яна зьяўляецца на беларускіх даляглядах у красавіку 18-га, калі Рада БНР дасылае яе з кур'ерскім даручэньнем у Бабруйск, акупаваны польскім корпусам Доўбар-Мусьніцкага. У пасьведчаньні пазначана, што яна — «бежанка Горадзенскай губэрні, мае 19 гадоў і жывец у Менску».

Застаецца дадаць, што Аўгіньня — малодшая сястра вядомага беларускага дзеяча, прыхільніка супрацоўніцтва з Польшчай Паўла Алексюка.

Пасьля пераезду беларускіх палітыкаў у канцы 1918 году зь Менску у Вільню, а пасьля ў Горадню Алексючанка бярэ актыўны ўдзел у тамтэйшым палітычным жыцьці, працуе ў Горадзенскім беларускім камітэце, Беларускім клюбе, рэдагуе газэту «Зорка». І, між іншага, зьвяртае на сябе ўвагу. Вось як згадвае яе ў сваім дзёньніку тагачасны прэм'ер БНР Антон Луцкевіч:

«Быў я ў павятовай Радзе. Там сядзіць Алексючанка Аўгіньня. Працуе добра — многа мае энэргіі і задору. Нічога разьбіраецца ў палітыцэ на гродзенскім грунце, хоць надзвычайнай інтэлігенцыяй, здаецца, не грашыць».

Цяжка сказаць, чым выкліканая апошняя рэмарка Луцкевіча, але яе пэўным чынам падсьвечваюць словы са справаздачы Рады БНР аб нацыянальнай працы ў Горадні мясцовага актывіста Янкі Чарапука:

«…панна Алексючанка з ахвіцэрамі ўсіх рангаў і нацыяў спагулівае, а ўрад ёй плаціць заробак».

Можна па-рознаму інтэрпрэтаваць адзначаныя гэтымі дзеячамі рысы 20-гадовай кур'еркі, аднак на

шматлікіх тысячах старонак Архіваў БНР гэта бадай што адзіны выпадак, калі на некага зьвяртаюць увагу як на жанчыну.

Апошні раз зорка Аўгіньні Аляксюк бліснула на беларускім палітычным небе ў красавіку 1923 году. На гэтак званым беластоцкім «Працэсе 45-ці», на якім судзілі ўдзельнікаў антыпольскай беларускай партызанскай дзейнасьці, падчас паказаньняў сьведкаў адбыўся амаль камічны выпадак.

Сьведка ў сваёй нуднай і даўгой прамове назваў камандзераў партызанскіх групаў, што дзейнічалі ў белавескіх лясох. Сярод іх даволі нечакана прагучала прозьвішча Аляксюк. Старшыня суду, які быў пачынаў засынаць, раптам здрыгануўся, пачуўшы ў такім недарэчным кантэксьце прозьвішча ляяльнага ўладам чалавека. І тады яму патлумачылі, што гаворка йшла зусім не пра яго, а пра яе — таямнічую, няўлоўную, амаль нерэальную...

## Прыгоды консула Некрашэвіча
(Адэса, верасень 1918 — сьнежань 1919)

Летнім надвячоркам па Садовай вуліцы, раз-пораз азіраючыся, ішоў чалавек у капелюшы і цёмных акулярах з акуратнай бародкай і крыху падкручанымі дагары вусамі...

Мінуўшы Рышэльеўскую гімназію і пошту, ён на хвіліну агледзеўся і задумаўся — нешта няўлоўна зьмянілася за гэты дзень, што ён правёў за нястомнай культурніцкай працай. Разважыўшы, ён усё ж зьвярнуў на Дэрыбасаўскую — там было лягчэй згубіцца ў натоўпе.

Нават неспрактыкаваны назіральнік мог здагадацца, што чалавек гэты ад некага хаваецца. Даўшы

круга дзеля пэўнасьці, ён праз чорны двор увайшоў у кватэрку, якую апошнія два месяцы здымаў у мадам Розы. Мадам Роза сустрэла яго ў дзьвярах:

— Господин консул, уже снимите с глаз ваши очки, они вам портят фигуру. Большевики ушли. У нас, кажется, обратно новая власть.

І сапраўды, у горадзе відавочна паспакайнела, бальшавіцкія патрулі зьніклі, а неўзабаве зьявіліся новыя гаспадары — вайскоўцы Добраахвотніцкай арміі Дзянікіна. За няпоўны год, што беларускі консул Сьцяпан Некрашэвіч правёў у Адэсе, гэта была ўжо шостая ўлада. Лішне казаць, частыя зьмены не спрыялі пашырэньню палітычна-грамадзкай дзейнасьці такой сумнеўнай з гледзішча ўсіх гэтых уладаў установы, як Кансулят Беларускай Народнай Рэспублікі.

Лёс занёс Некрашэвіча ў Адэсу ў верасьні 1918 году — калі Ўрад БНР адкрыў новы дыпляматычны фронт ва Ўкраіне. У Кіеве працавала Надзвычайная дэлегацыя ўраду пад кіраўніцтвам Антона Луцкевіча. У Адэсе дзейнічаў кансулят, які пераважна займаўся справамі вайскоўцаў колішніх беларускіх частак Румынскага фронту ды шматлікіх уцекачоў. Першыя два месяцы працы консул Некрашэвіч займаўся рэгістрацыяй беларускіх жыхароў Адэсы і выданьнем пропускаў ахвочым выехаць на Бацькаўшчыну.

Аднак ужо ў лістападзе нетрывалае зацішша, якое панавала ў гетманскай Украіне пад нямецкай акупацыяй, было парушанае выбухам паўстаньня ўкраінскіх сацыялістаў. Паўстаньне дакацілася да Адэсы, і 12 сьнежня яна была занятая войскам Дырэкторыі атамана Грэкава. Беларускі консул сам прымаў непасрэдны ўдзел у адэскіх падзеях. Украінскі аддзел, які заняў Адэсу, на чвэрць быў

укамплектаваны зь беларусаў, таемна дасыланых зь ведама Некрашэвіча ва ўкраінскі штаб.

Аднак сілы ў Дырэкторыі Ўкраінскай Народнай Рэспублікі былі заслабыя. Небясьпечную канкурэнцыю ў барацьбе за ўладу ёй складалі бальшавікі, добраахвотнікі Дзянікіна і інтэрвэнцыйныя войскі саюзьнікаў, якія ад канца лістапада пачалі прыбываць у Адэсу для барацьбы з бальшавізмам. Не прайшло і тыдня, як горад перайшоў пад кантроль войскаў добраахвотніцкага генэрала Грышына-Алмазава і французаў пад кіраўніцтвам генэрала Барыюса. Войска Дырэкторыі здало зброю і пакінула Адэсу. Бальшавікі сышлі ў падпольле.

У гэтым часе ў Адэсу прыехаў францускі консул Энно. Дзеючы паводле наказу прэм'ера Луцкевіча, Некрашэвіч пабываў у яго, у сваёй прамове прывітаў яго як прадстаўніка дзяржаваў Антанты і пекнай Францыі, выклаў яму нарыс беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня і ў канцы запэўніў, што беларусы маюць моцнае жаданьне як найхутчэй скінуць зь сябе ярмо бальшавізму. На сваё вялікае зьдзіўленьне, Некрашэвіч заўважыў, што консул Энно быў абсалютна не паінфармаваны ў беларускім пытаньні.

Тым часам як беларускі консул паступова разьвіваў заходні вэктар палітычнай дзейнасьці, у Адэсе нечакана адкрыўся ўнутраны беларускі фронт, змаганьне на якім на некалькі месяцаў прымусіла адкласьці ўсе астатнія дзяржаўныя справы.

З пачаткам зімы ў Адэсу пачалі прыяжджаць удзельнікі гэтак званай Кіеўскай нарады беларускіх грамадзка-палітычных дзеячоў — створанай увосень 1918 году арганізацыі расейскіх афіцэраў манархічнага кірунку. Гэтыя дзеячы, рэй сярод якіх

вёў генэрал Аляксандар Бахановіч, заявілі прэтэнзіі на галоўную ролю ў беларускім пытаньні.

Беларуская нацыянальная рада Адэсы — каб пазьбегнуць лішніх канфрантацыяў — пайшла на кампраміс, утварыўшы супольна на парытэтнай аснове «Беларускі нацыянальны цэнтар», куды ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх спаборных сілаў.

Спачатку праца ў Цэнтры йшла згодна. Была выпрацаваная дэклярацыя на Парыскую мірную канфэрэнцыю, яшчэ адна дэклярацыя пасланая Дзянікіну. Праблемы пачаліся, калі ўзьнікла прапанова паслаць дэлегацыю ад Цэнтру на канфэрэнцыю ў Парыж. Дэлегатамі абралі Некрашэвіча, Бахановіча і былога консула БНР у Кіеве Рыгора Базарэвіча.

І тады Бахановіч выступіў з ідэяй — ехаць ад нейкага Цэнтру несалідна. Пакуль Беларусь занятая бальшавікамі і палякамі, а пра законную ўладу нічога не чуваць — трэба ўзяць уладу, якая проста валяецца на вуліцы, і арганізаваць свой Беларускі Краёвы Ўрад, з паўнамоцтвамі якога ня сорамна будзе паказацца і ў Парыжы.

Сьцяпан Некрашэвіч, верны законнаму ўраду БНР, рашуча запярэчыў самазванаму кіраўніку Беларусі, і з падтрымкай большасьці Цэнтру дэлегацыя ў Парыж была пераабраная, а Бахановіч «за неблаговидные поступки» выключаны з усіх беларускіх арганізацыяў.

Дэлегацыя ад Цэнтру тут жа наведала начальніка францускіх інтэрвэнцыйных аддзелаў у Адэсе генэрала Д'Ансэльма, той прыняў дэлегацыю вельмі прыязна і заявіў, што ўва ўсіх беларускіх пытаньнях будзе лічыцца толькі з Цэнтрам. Дарэчы, беларусы мелі ў францускіх калідорах уласнае лобі — у складзе францускай вайсковай місіі на той час працаваў

Аўген Ладноў, якому яшчэ будзе наканавана адыграць сваю ролю ў беларускай палітычнай драме.

Тым часам Бахановіч не сядзеў склаўшы рукі. Аднойчы ў канцы студзеня 1919 году ён нечакана наведаў Беларускі цэнтар і зачытаў нейкую паперчыну, у якой казалася, што ў Слоніме зьезд прадстаўнікоў усіх губэрняў Беларусі даручыў Горадзенскаму камітэту аб'яднаных грамадзянскіх арганізацыяў (а Бахановіч быў старшынём гэтага камітэту) сфармаваць Урад, і згодна з воляю зьезду Горадзенскі камітэт утварыў дырэкторыю з 5 асобаў на чале з Бахановічам.

Консул Некрашэвіч прыняў выклік. Найперш ён даслаў рэзкі ліст у адэскія газэты, дзе заявіў, што адзінай законнай уладай у Беларусі застаецца ўлада Беларускае Рады, абранай Усебеларускім Зьездам у 1917 годзе. Падобныя заявы былі пададзеныя французам, украінскай місіі, кубанскай дэлегацыі, грузінскаму консулу ды іншым замежным прадстаўнікам, у выніку чаго перад Бахановічам паступова пазачыняліся ўсе дзьверы.

Тым часам у Адэсу прыехаў сябра Рады БНР Яўхім Бялевіч і прывёз доўгачаканыя весткі пра дзейнасьць Рады і Ўраду, якія, як і спадзяваўся консул Некрашэвіч, хоць і раскіданыя па Эўропе, працягвалі сваё гераічнае існаваньне. Правакацыя Бахановіча правалілася.

***

Спакойнае існаваньне працягнулася нядоўга. 20 лютага 1919 году баевікі адэскага аддзелу Саюзу рускага народу — «чорнай сотні» — разграмілі за «нярускасьць» сядзібу беларускай культурнай арганізацыі «Гай», Бежанскі камітэт і беларускі каа-

пэратыў. Маёмасьць каапэратыву была падзеленая паміж салдатамі, бібліятэка спаленая, а супрацоўнікі Камітэту арыштаваныя і перапраўленыя ў дзянікінскую контравыведку на падставе падозраньня ў бальшавізме. Аднак неўзабаве ўлады навялі парадак і расфармавалі чарнасотніцкі аддзел, арыштаваўшы галоўных завадатараў.

Гэты інцыдэнт навёў беларускага консула на думку, што трэба мець сваю вайсковую сілу, каб у будучыні здолець абараніцца ад варожых нападаў. Было пастаноўлена зьвярнуцца ў гэтай справе да французаў. Галоўнакамандуючы французскімі войскамі на Ўсходзе генэрал Бэртэлё прыняў Некрашэвіча і палкоўніка Паўла Вэнта, тыя прасьвяцілі яго ў беларускім пытаньні, далі яму карту Беларусі, за якую ён шчыра дзякаваў, і прасілі даць дазвол на фармаваньне беларускіх частак.

Бэртэлё, насуперак пратэстам дзянікінскага камандаваньня, даў згоду і прызначыў галоўным інспэктарам у справе фармаваньня ўкраінскага генэрала Сакіра-Яхантава. Так пачала фармавацца Першая беларуская дывізія. Непасрэдна фармаваньнем займаўся Вэнт, які зьнекуль меў ад Ураду паперу, што ён — начальнік штабу арміі БНР.

Далей падзеі пачалі разгортвацца не раўнуючы як у вэстэрне. Калі ў дывізіі набралася ўжо каля 1000 чалавек, французы і добраахвотнікі пачалі пакідаць Адэсу перад наступам бальшавікоў.

Мелася адступіць і беларуская дывізія, але палкоўнік Вэнт, скарыстаўшы момант, перайшоў на бок бальшавікоў і застаўся ў Адэсе. Пры дапамозе беларускай камуністычнай партыі Вэнт легалізаваў сваё войска і пачаў фармаваньне 1-ай беларускай савецкай брыгады. Дзякуючы таму, што за брыгадаю зацьвердзілася слава прыхавана контрарэва-

люцыйнай часткі, у яе паваліла белае афіцэрства, і неўзабаве брыгада ўжо налічвала да 10 000 байцоў.

Ідэйныя беларусы надумалі скарыстаць гэтую сілу, каб вызваліць Менск ад маскоўскіх камісараў, дзеля гэтае патрэбы ў бальшавіцкі Менск быў адмыслова пасланы Антон Баліцкі. Аднак менскія ўлады на перавод брыгады ў Беларусь не наважыліся.

Тым часам у брыгадзе адбыўся прыкры інцыдэнт: Вэнт без суду застрэліў аднаго чырвонаармейца, за што вайсковы рэвалюцыйны трыбунал прысудзіў яму адпраўку на фронт. Аб гэтай пары якраз распачалося паўстаньне атамана Грыгор'ева. Вэнт далучыўся да яго, але нічога добрага з гэтага ня выйшла.

Паўстаньне скончылася пагромам і стралянінай у горадзе. Галоўных завадатараў паўстаньня арыштавалі і расстралялі, беларускую брыгаду пераназвалі ў брыгаду імя таварышча Леніна і выправілі на фронт, а палкоўнік Вэнт зьнік немаведама куды.

Пры разборы ў вайсковым трыбунале справаў брыгады дакапаліся і да Некрашэвіча як галоўнага арганізатара антысавецкай дывізіі. Давялося доўгі час хавацца. Калі справа брыгады трохі прыціхла, ён пачаў паўлегальна працаваць у беларускіх культурна-прасьветных арганізацыях. Вось тады і давялося хавацца пад цёмнымі акулярамі і асьцярожна азірацца на вуліцах, хаваючыся ад бальшавіцкіх патрулёў. Шкада, нельга было прыклеіць бараду з вусамі — бо яны ўжо былі, а зголіць было шкада.

З адыходам бальшавікоў непасрэдная пагроза жыцьцю мінула, аднак новая ўлада — добраахвотніцкая армія Дзянікіна — вырашыла скончыць гульню ў дэмакратыю і самавызначэньне народаў. Галоўнакамандуючы генэрал Шылінг зачыніў грузінскі кансулят, падобная варожасьць была выяўленая

і да прадстаўніцтваў іншых краінаў, а Дзянікін нават не прыняў дэлегацыі ад Латвіі, сказаўшы, што сувэрэннае Латвіі ён ня ведае. Болей беларускаму консулу ў Адэсе не было чаго рабіць.

Сьцяпан Некрашэвіч замкнуў памяшканьне кансуляту, сабраў свае сьціплыя валізкі і выправіўся ў дарогу — напачатку ў Кіеў, а адтуль у Камянец, дзе пры ўрадзе Ўкраінскай Народнай Рэспублікі знаходзілася беларускае пасольства. Ад Кіева да Камянца давялося ісьці і ехаць 19 дзён у нялюдзкіх умовах, прабіраючыся праз бальшавіцкі фронт па сьнезе і марозе.

Прыехаўшы 13 лістапада ў Камянец, ён захварэў на тыф. Вылечыўся ўжо ў Варшаве, куды й сам ня памятаў, як трапіў. Так скончыўся сон даўжынёю ў год. Займаўся новы, золкі і неспатольны дзень.

## Князі, генэралы і паліглёты
(Рыга, люты 1920)

Шэф Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Рызе Кастусь Езавітаў узяў чарговую заяву. Напісаная яна была па-француску — такое здаралася ня кожны дзень...

Да паперыны быў залучаны пераклад, старанна падрыхтаваны справаводам місіі Станевічам. Заяваў на атрыманьне беларускага пашпарта з кожным тыднем было ўсё меней — за некалькі месяцаў працы місіі ўсе рэсурсы незарэгістраванага беларускага насельніцтва ў Латвіі амаль дарэшты вычарпаліся. Консульскія прыбыткі спыніліся. Місія адчайна змагалася за фізычнае існаваньне.

Чарговы просьбіт пісаў:

*«Шаноўнае спадарства,*

*Будучы паводле нараджэньня беларусам, хоць і англічанінам паводле паходжаньня, і даведаўшыся, што я магу быць карысным нашай Рэспубліцы, маю гонар запрапанаваць свае паслугі ўраду Беларусі.*

*Нарадзіўшыся ў 1897 годзе ў Віцебскай губэрні ад бацькоў-англічанаў, я выхоўваўся ў Петраградзе ў гімназіі Сьвятога Пятра. Я займаў розныя пасады ў якасьці карэспандэнта замежных моваў, найбольш важных у сучасным гандлі. Я выдатна ведаю мовы: ангельскую, расейскую, францускую, нямецкую і гішпанскую — гутарку і пісьмо. У цяперашнім часе я знаходжуся на ўрадавай службе ў Ніжняй Курляндыі ў Лібаве ў якасьці карэспандэнта замежных моваў і ў тым самым часе рэдактарам ангельскага часапіса гэтага гораду...»*

Адкуль у Лібаве ў такую пару мог узяцца ангельскі часапіс, задумаўся Езавітаў. Але горад партовы, мала якія там могуць быць дзівосы. Ну, што там далей...

*«...Я выдатна бачу, што ўсе або амаль усе шанцы Беларускай Рэспублікі на посьпех залежаць ад паводзінаў Саюзьнікаў у дачыненьні да маладой Рэспублікі, моцна ўціснанай інтрыгамі яе суседкі Польшчы. З гэтай прычыны варта было б закласьці пачаткі прапаганды ў дзяржавах Антанты: Англіі і Злучаных Штатах больш чым у Францыі, бо апошняя апякуецца Польшчай ад дня заснаваньня і будзе апекавацца ёю ў далейшым.*

*Вось чаму я лічу сваім абавязкам зьвярнуцца да Вас, Шаноўнае Спадарства, як да прадстаўнікоў Беларусі, прапануючы свае веды і працу нашаму*

*Ўраду, і разам з тым горача веру, што Беларуская Народная Рэспубліка стане Вялікай і Вольнай краінай. Зрабеце ласку, зьвярнецеся да Ўраду і як мага хутчэй паведамце пра яго рашэньне.*

*Прымеце ўпэўненьні ў маёй найглыбейшай пашане.*

*Гедвард Брас*
*Лібава, 2 лютага 1920 году».*

Падобныя лісты місія атрымвала як найменей раз на тыдзень. Цяжка сказаць, што прыцягвала іншаземцаў, чым іх так вабіла загадкавая і невядомая на той час Беларусь, якая нібыта не абяцала ні багацьця, ні шчасьця, ні долі. Шэф місіі звычайна задавольваў гэткія просьбы, адчуваючы апостальскі запал у пашырэньні беларускай веры сярод чужынцаў. Зь беларускім пашпартам у Латвіі жылі ўжо ня толькі звычайныя румыны, караімы і татары, але і грэкі, хазары і нават адзін невядома адкуль занесены скіф.

Быў, што праўда, у валоданьні пашпартам і практычны аспэкт — зь ім цалкам легальна можна было езьдзіць праз неспакойныя паваенныя межы.

Наклаўшы станоўчую рэзалюцыю на заяву новага патрыёта беларускай справы, Езавітаў прыгадаў самую буйную здабычу, якая за гэтыя некалькі месяцаў трапіла ў ягоны рэгістрацыйна-консульскі нерат...

Падчас падарожжа ў справах місіі ў Эстонію і Фінляндыю, дзе Езавітаў шукаў раскіданых вайною па сьвеце беларусаў з мэтай іх рэгістрацыі і патэнцыйнай мабілізацыі ў беларускае войска, ён сярод іншага сустрэўся з прадстаўнікамі генэрала Балаховіча. Пра Станіслава Булак-Балаховіча на той час было вядома толькі тое, што ён пасьпеў павяваць і

на баку чырвоных, і на баку белых і быў гатовы пусьціцца са сваім Асобным атрадам у любыя прыгоды.

30 кастрычніка 1919-га Езавітаў меў гутарку з прадстаўніком Балаховіча падпалкоўнікам Мінгрэльскім і даведаўся, што генэрал цяпер — зусім вольны чалавек, Юдзенічу не падпарадкоўваецца, працуе разам з эстонцамі, але не пад іх кіраваньнем. За баявую дапамогу часам атрымвае ад іх грошы і прадукты. Хацеў бы быць бліжэй да роднай Вільні. Некалі лічыў сябе ліцьвіном, але цяпер даведаўся пра беларусаў і ўжо сам ня ведае — хто ён. Хацеў бы лепей пазнаёміцца зь беларускай картай, рухам і гісторыяй.

Дасьведчаны прапагандыст Езавітаў умомант пабачыў, што здабыць для Беларусі гэтую заблукалую душу будзе няцяжка, і паслаў Балаховічу просьценькі тэст, які складаўся зь пяці пытаньняў:

1. Ці ведае ён беларускую мову?

2. Ці ведае мову літоўскую?

3. Ці ведае, што прозьвішча ў яго зусім беларускае, бо па-літоўску было б «Балаховічунас»? (Тут быў наўмысны перабор — хацелася для большага эфэкту, каб гучала як найстрашней.)

4. Як ён ставіцца да нацыянальных пытаньняў?

і 5. Ці прызнае ён незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі?

Балаховіч ня стаў марудзіць з адказам. 4 лістапада да Езавітава ў рэвэльскі гатэль «Залаты Леў» прыйшлі трое афіцэраў атраднага штабу і паведамілі, што генэрал беларускую мову ведае, а Беларускую Народную Рэспубліку гатовы бараніць усімі сваімі сіламі. Адчуўшы ўсю памылковасьць і недарэчнасьць сваёй колішняй ліцьвінскай арыентацыі, Балаховіч вярнуўся ва ўлоньне ад веку роднай яму беларушчыны.

Вынікам гэтага этнічнага прасьвятленьня стаўся зварот генэрала да Ўраду БНР:

*«Старшыні Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі праз Шэфа Вайскова-Дыпляматычнай Місіі ў Латвіі і Эстоніі палкоўніка Езавітава.*

*Зьяўляючыся грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі, лічу патрэбным, каб маё войска было скарыстанае для абароны цэласьці і непадзельнасьці маёй Бацькаўшчыны, а таму прапаную майму Ўраду залічыць мяне і мой атрад на Беларускую Службу.*

*Генэрал-маёр Булак-Балаховіч».*

Глыбока крануты і ўсьцешаны заявай генэрала, Кастусь Езавітаў пераслаў яе ў Варшаву старшыні Ўраду БНР Антону Луцкевічу, выказаўшы ўпэўненасьць, што просьба Балаховіча будзе задаволеная. І яна была задаволеная. Аднак сам генэрал зь ягоным атрадам прапаў зь беларускіх даляглядаў амаль на год, а пасьля зусім нечакана ўсплыў увосень 1920-га і ўзьняў на Палесьсі антыбальшавіцкае паўстаньне, адмяніўшы ўсе іншыя тагачасныя беларускія ўлады і ўрады і абвясьціўшы сябе Бацькам Беларускага Народу.

Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі каштавала нямала палітычных намаганьняў, каб давесьці сьвету, што ён ня меў ніякага дачыненьня да акцыі Балаховіча, якая адзначылася пагромамі, бандытызмам і авантурным палітыкаваньнем. Аднак усё гэта будзе пазьней, і тады Езавітаву яшчэ прыпомняць ягоную паслугу ў прыцягненьні да беларускай службы падазроных генэральскіх кадраў.

***

А цяпер перад шэфам місіі ляжала наступная заява:

*«Пану Маршалку Беларускага Ўраду*

*Яго Сьветласьць Князь Станіслаў-Павел-Леў Сапега з прыдомкам Ваявода, скарочана Вой, мае гонар зьвярнуцца да Вас, азнаймуючы, што Род Сапегаў, зь якога паходзіць князь — беларускі з крыві і косьці. Князь народжаны ў замку пры капальнях сталёвай руды Варшава каля Чыкага ў Амэрыцы 11 сакавіка 1887 году і ахрышчаны ў капліцы Гуты Варшава ў Сьвятой Беларускай Грэка-Каталіцкай веры.*

*Князь — беларус, што азначае ня толькі бязьмежнае замілаваньне да беларускага народу, але спалучае ў сабе любоў, вольнасьць і справядлівасьць. Ён успрымае справу Беларусі як Краіны і толькі ў саюзе і пад апекай нямецкай імпэрыі і з агідай адхіліў бы любую спробу пабудовы Беларусі ў саюзе са злом, у зьвязе з гвалтам і ў хаўрусе з чыёй бы там ні было няволяй...»*

Літары неахайна друкаванага тэксту заскакалі ўваччу. На сёньня хопіць, сказаў сабе Езавітаў і адклаў ліст убок.

## Вялікая манархічная змова
(Бэрлін, люты 1920)

Леанід Баркоў, кіраўнік беларускай місіі, ідучы адчыняць дзьверы, чакаў пабачыць што заўгодна. Месца, дзе было нанятае памяшканьне для місіі,

рабілася ўсё больш неспакойным — наваколье пляцу Ноллендорф і сама Моцштрасэ паступова ператвараліся ў галоўны асяродак бэрлінскага нетрадыцыйна-сэксуальнага жыцьця. Розныя дзівосныя пэрсанажы грукалі ў дзьверы ўдзень і ўначы з самымі нечаканымі просьбамі і прапановамі. Што заўгодна, але ня гэта.

На парозе стаялі два прывіды ў абадраных палітонах, даўнавата ня мытыя і ня голеныя, зь недарэчнымі хатулямі. Трэба было моцна напружыць уяўленьне, каб пазнаць у іх старшыню Рады БНР Пётру Крачэўскага і ягонага намесьніка Васіля Захарку.

Так лютаўскай раніцай скончыліся прыгоды, якія распачаліся ў сярэдзіне сьнежня ў акупаваным палякамі Менску. Пасьля бурлівых падзеяў 13 сьнежня, калі на паседжаньні Рады БНР адбыўся раскол, міжвольныя ініцыятары расколу і кіраўнікі непрымірымай антыпольскай часткі Рады Крачэўскі і Захарка здолелі надзейна схавацца і ня трапіць за краты, як гэта здарылася зь іхнымі паплечнікамі. Некалькі тыдняў давялося пражыць у менскім падпольлі, не паказваючыся нікому на вочы і цалкам адышоўшы ад грамадзкага і палітычнага жыцьця.

Урэшце, схаваўшыся пад чужымі імёнамі і чужымі дакумэнтамі, Крачэўскі і Захарка ўцякаюць зь Менску і дабіраюцца да Бэрліну. Якія прыгоды ім давялося перажыць за тры тыдні дарогі — мы ўжо не даведаемся ніколі.

***

Пунктам прызначэньня Бэрлін быў абраны невыпадкова. Васіль Захарка правёў там амаль увесь

папярэдні 1919 год і за гэты час навязаў нямала важных, хоць і даволі небясьпечных кантактаў.

Імкненьне беларускіх палітыкаў заручыцца збройнай сілай для вызваленьня Беларусі ад чароднай акупацыі часам прыводзіла іх да вельмі рызыкоўных камбінацыяў. Так, яшчэ ў 1919 годзе Захарка вёў перамовы з генэралам Васіліем Біскупскім, блізкім паплечнікам будучай зоркі нямецкай палітыкі, маладога мастака Адольфа Гітлера. Дарэчы, падчас славутага піўнога путчу 1923 году ў Мюнхэне менавіта Біскупскі будзе хаваць Гітлера ў сваёй кватэры.

Увосень 1919-га беларускаму Ўраду ў асобе Захаркі было запрапанавана прыняць на службу 60 тысячаў вайскоўцаў расейска-нямецкага ляндсвэру, які тады дзейнічаў на тэрыторыі Латвіі. Што мог азначаць гэты «прыём на службу» і чым ён мог скончыцца — сёньня сказаць цяжка, аднак, нягледзячы на шчодрыя абяцаньні фінансавага пляну, Васіль Захарка не наважыўся на такі непрадказальны крок.

Такім чынам, у лютым 1920 году Захарка з Крачэўскім зноў у Бэрліне і зноў шукаюць выйсьця з палітычных і фінансавых тупікоў. І, як на бяду, якраз у гэтым часе ў Бэрліне патаемна ладзяцца пляны вялікай расейска-нямецкай манархічнай змовы, на чале якой стаіць той самы генэрал Біскупскі.

Пляны Біскупскага, выкладзеныя ім крыху пазьней у адмысловым мэмарандуме, выглядалі прыблізна так: супольнымі намаганьнямі Чырвонай арміі, украінскіх і беларускіх партызанаў зьліквідаваць Польшчу і аднавіць межы 1914 году. Наступны этап — паўстаньне чырвоных (насамрэч — белых) афіцэраў, увядзеньне ў Расеі вайсковай дыктатуры, зьнішчэньне камуністычнага рэжыму ва Ўкраіне сіламі партызанаў, у Беларусі — з дапамогай расей-

ска-нямецкіх добраахвотнікаў, запрошаных беларускім урадам. Аднаўленьне ў Расеі, Нямеччыне і Вугоршчыне манархіяў, выцясьненьне рэспубліканскіх рэжымаў на тое месца, якога яны заслугоўваюць.

Як адзначыў у сваім мэмарандуме Біскупскі, «урад Беларусі знаходзіцца ў кантакце з найвышэйшым камандаваньнем Вайсковага Цэнтру». Чынны ўдзел беларускіх палітыкаў у бэрлінскай змове пацьвярджаецца і зьместам сакрэтнага ліста нейкага палкоўніка Купчынскага камандуючаму дзейнай у Эстоніі Паўночна-Заходняй арміі генэралу графу Аляксею Палену. Ліст гэты невядома якім чынам трапіў у рукі кіраўніка беларускай дэлегацыі на Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы Аўгена Ладнова.

Урэшце, яшчэ адно сьведчаньне ўдзелу беларускіх палітыкаў у вялікай змове — ліст нейкага «Залескага» (як «выяўлена» тым самым Ладновым — сябра Прэзыдыюму Рады БНР Язэпа Мамонькі) сувязному манархістаў у Бэрліне расейскаму немцу доктару Гравэнгофу, дзе Мамонька-Залескі ўжывае адкрыты шантаж:

*«Скажэце немцам, калі яны зараз не дадуць нам неадкладнай фінансавай дапамогі, дык мы больш да іх зьвяртацца ня будзем і працу скіруем у другі бок. Давайце мне весткі, грошы патрэбныя тэрмінова, праца вялікая».*

Паралельна з закуліснай працай у Бэрліне ў красавіку 1920 году кіраўніцтва БНР адкрывае другі сакрэтны дыпляматычны фронт — Васіль Захарка ў Рэвэлі, а пасьля і ў Маскве пачынае перамовы з прадстаўнікамі бальшавікоў, пра што ў нас яшчэ будзе нагода пагаварыць асобна...

***

Аднак усім шырокім плянам разгалінаванай міжнароднай змовы так і не было наканавана збыцца. Масква дамагаецца значных посьпехаў на польскім фронце, аднак пасьля «Цуду над Віслай» вымушаная падпісаць з Польшчай мірнае пагадненьне. Неўзабаве Рыскі мір разьдзеліць Беларусь напалам. Ва Ўсходняй Эўропе ўсталёўваецца парадак, які спакойна праіснуе яшчэ два дзесяцігодзьдзі.

Мэмарандум Біскупскага і абодва кампраматныя лісты ў канцы 1920 году надрукавала праская эсэраўская газэта «Воля России», што выклікала ў беларускіх палітычных колах у розных эўрапейскіх сталіцах грамадзкі землятрус лякальнага маштабу.

Апошняя дзея ў гэтай блытанай гісторыі адбылася 3 кастрычніка 1921 году падчас беларускай палітычнай канфэрэнцыі ў Празе. Раней Ладноў абвінаваціў Урад БНР на чале з Ластоўскім у супрацы зь нямецкімі й расейскімі манархістамі. Але на канфэрэнцыі адмысловая камісія з прадстаўнікоў розных кірункаў беларускай палітычнай думкі абмеркавала справу і пастанавіла:

*«Разгледзеўшы дакумэнтальныя дадзеныя ў вышэйпамянёнай справе (ліст палкоўніка Купчынскага графу Палену, дакумэнты аб манархічнай змове з генэралам Біскупскім на чале, ліст грамадзяніна Залеўскага да Гравэнгофа ды іншыя) і выслухаўшы інфармацыі ў гэтай справе грамадзянаў Ластоўскага, Мамонькі, Цьвікевіча і Зайца, а таксама разгледзеўшы дакумэнты, у якіх грамадзянін Ладноў абвінавачваецца ў зносінах з француская контравыведкай, — ВЫЯСЬНІЛІ:*

*1) Урад БНР на чале з грамадзянінам Ластоўскім ні ў цэласьці, ні ў асобе каго-колечы зь сяброў сваіх*

*да манархічнай змовы з генэралам Біскупскім на чале ніякага дачыненьня ня меў.*

*2) Асабісты і прыватны ліст грамадзяніна Мамонькі, падпісаны псэўдонімам «Залеўскій», паводле свайго зьместу і тону зьяўляецца вартым суровага зганеньня, але факты, там паказаныя зьяўляюцца проста ўсхваляючым сябе вымыслам і нічога ня маюць супольнага з тактыкай Ураду БНР.*

*3) Дзеля аб'ектыўнага расьсьледаваньня справы Ладнова запрапанаваць яму грамадзкі суд».*

Грамадзкі суд над Аўгенам Ладновым так ніколі і не адбыўся. Праз год ён падсумаваў дзесяцігодзьдзі сваёй гераічнай працы над выкрыцьцём сусьветнай тэўтонска-масонска-бальшавіцкай змовы ў аб'ёмістай манаграфіі пад загалоўкам «Агнём і мячом, голадам і хваробамі», дзе паўтарыў усё тое самае, толькі на 356 старонках. У сярэдзіне 20-х гадоў ягоны сьлед губляецца, а разам зь ім губляецца і годная веры інфармацыя пра рэальны ўдзел беларускіх палітыкаў у сусьветных змовах, але...

...Але нядаўна ў сталіцы адной усходнеэўрапейскай дзяржавы быў знойдзены архіў беларускай дэлегацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі. Тысячы старонак, сабраных і адсартаваных Ладновым. Таму сёньняшнюю гісторыю яшчэ рана лічыць закончанай.

## На ўсходнім фронце безь перамен
(Масква, ліпень — жнівень 1920)

Залагодзіўшы апошнія неабходныя фармальнасьці, старшыня дэлегацыі БНР для перамоваў з бальшавіцкім урадам Васіль Захарка заняў сваё месца ў

цягніку, які кіраваўся праз Петраград на Рэвэль, і нецярпліва чакаў хвіліны расстаньня з гэтым вялізным і бязьлітасным горадам. Калі да адыходу цягніка заставалася пяць хвілін, Захарка пабачыў за вакном знаёмы твар, і настрой у яго адразу сапсаваўся.

Гэта быў прадстаўнік Наркамату міжнародных справаў таварыш Гай, які апекаваўся беларускай дэлегацыяй падчас яе месячнага бясплённага сядзеньня ў Маскве. Гай папрасіў Захарку затрымацца яшчэ на некалькі дзён. Васіль Захарка выйшаў і, плюнуўшы на ненавісны маскоўскі брук, панура пацягнуўся за бальшавіком.

Неяк ня так яно ўсё ўяўлялася, калі ў сьнежні 1919 году, раскалоўшы Раду БНР — ачысьціўшы яе ад прапольскага элемэнту — беларускія сацыялісты-рэвалюцыянэры і сацыялісты-фэдэралісты ўзялі курс на нацыянальнае паўстаньне і завязалі патаемныя кантакты з бальшавікамі, спадзеючыся на іх падтрымку.

Польскія рэпрэсіі, якія расьцерушылі лідэраў БНР па Эўропе, на пару месяцаў паралізавалі выкананьне гэтага пляну. Аднак ужо ў красавіку 1920-га Прэзыдыюм Рады БНР пасылае з Бэрліну тэлеграму наркаму Чычэрыну з папярэджаньнем, што без удзелу Беларусі ніякія перамовы паміж Польшчай і бальшавіцкай Расеяй адбывацца ня могуць.

Прэм’ер Вацлаў Ластоўскі, выбраўшыся зь менскага астрогу і асталяваўшыся ў Рызе, упаўнаважвае Янку Чарапука выехаць у Рэвэль — тагачасны фарпост бальшавіцкай дыпляматыі — і распачаць кансультацыі з прадстаўнікамі Савецкай Расеі. 25 красавіка Ўрад БНР дасылае Чычэрыну праз Чарапука ноту з прапановаю прызнаць незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах і прыступіць да мірных перамоваў.

Празь дзень Чычэрын адказаў на гэтую ноту тэлеграмай:

*«Так как в силу господствующих обстоятельств Советское Правительство не достаточно осведомлено о положении дел в Белоруссии и принимая во внимание, что Белорусское Правительство действует на территории, занятой вооруженными силами страны, находящейся в состоянии войны с Советской Россией, Советское Правительство в виду дошедших до него сведений о перевороте, совершенном внутри Белорусской Рады <...> видит себя принужденным прежде всего запросить сведения о том, каковыми являются отношения Белорусского Правительства к польским оккупационным и центральным властям с точки зрения свободы волеиз'явления названного Правительства и той силы, которую оно способно придать своим решениям. Чичерин».*

На гэты шматслоўны і блытаны тэкст Чарапук пастараўся адказаць ня менш шматслоўна і блытана, і вынік не прымусіў сябе доўга чакаць. Наступная тэлеграма Чычэрына складалася ўжо ўсяго з чатырох кароткіх і ясных пытаньняў:

1. На якую тэрыторыю пашыраецца ўлада ягонага (Чарапуковага) ўраду;

2. Якімі рэальнымі сіламі валодае;

3. Якія мае і можа мець пэрспэктывы на выпадак ваенных дзеяньняў;

і 4. Чым можа гарантаваць Расеі, што ня будзе адыгрываць ролю прыкрыцьця для іншых дзяржаваў.

Янка Чарапук павіншаваў сябе зь першай перамогай. Бальшавікі былі на кручку.

Упаўнаважаны Міністэрства замежных справаў Янка Чарапук, адчуваючы надзвычайную важ-

насьць сваёй місіі, пастараўся адказаць расейскаму наркаму з належнай саліднасьцю.

У адказ на Вашу тэлеграму, пісаў ён, паведамляю: нягледзячы на тое, што заходняя частка Беларусі ў гэтым часе акупаваная польскай вайсковай сілай, улада Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі пашыраецца і там. У гэтых месцах галоўным чынам праяўляецца актыўная дзяржаўная дзейнасьць міністэрстваў унутраных справаў, прапаганды і асьветы. (Чарапук ня стаў удакладняць, што ў першым міністэрстве была занятая толькі пасада самога міністра, а двух астатніх на гэты момант наагул не існавала.)

У сваіх дзеяньнях, пісалася далей у адказе Чычэрыну, Урад абапіраецца на ўсе беларускія грамадзкія арганізацыі, саюзы каапэратываў, прафсаюзы, а таксама на густую сетку сялянскіх радаў, якія ўсе працуюць пад кіраўніцтвам надзвычайных палітычных камісараў.

Вайсковая сіла складаецца са шматлікіх партызанскіх атрадаў, якія знаходзяцца пад кіраваньнем Рады вайсковай абароны. Да партызанскіх атрадаў таксама можна далучыць Беларуска-Літоўскія дывізіі, якія хоць цяпер і знаходзяцца пад польскім камандаваньнем, але ў неабходны момант пяройдуць на бок войскаў Беларускага Ўраду, адпаведная рэвалюцыйная праца ў гэтых дывізіях ужо вядзецца.

Рэшта Чарапуковай тэлеграмы была вытрыманая ў падобным аптымістычна-наступальным тоне. У канцы ўльтыматыўна паведамлялася, што пра пэрспэктывы ваенных дзеяньняў ды розныя гарантыі з Расеяй будуць гаварыць, толькі калі яна прызнае незалежнасьць БНР і сядзе за стол мірных перамоваў.

Прэм'ер Ластоўскі, атрымаўшы копію гэтай тэлеграмы, не натхніўся Чарапуковым аптымізмам

і адрэагаваў рэзалюцыяй: *«Даць выгавар грамадзяніну Чарапуку за яго няпраўдзівыя заявы Савецкаму Ўраду... Наша сіла палягае на нашым маральным праве да незалежнасьці, а не на рэвалюцыйнай прапагандзе ў Літоўска-Беларускай Дывізіі»*.

Нягледзячы на няўклюдную дыпляматыю Чарапука, агульная сытуацыя на ўсходнім дыпляматычным фронце БНР выглядала шматабяцальна. 17 траўня Ластоўскі піша ў лісьце сваім віленскім паплечнікам па партыі эсэраў:

*«Настаў у нашым дзяржаўным будаўніцтве вельмі важны і адказны момант: мы знаходзімся напярэдадні прызнаньня нашай дзяржаўнасьці Антантай і Расеяй. Перамовы з Чычэрыным вядуцца аб прызнаньні незалежнасьці і аб ачыстцы Расеяй этнаграфічна беларускай тэрыторыі. Яны большыя за нас нацыяналісты і заяўляюць, што Смаленск — вялікарасейская тэрыторыя. Усё ж афіцыйнае прызнаньне павінна хутка наступіць»*.

Чычэрыну дасылаецца паўторная нота з прапановай прызнаньня незалежнасьці і вываду савецкага войска з этнаграфічных беларускіх тэрыторыяў, а 30 траўня ў Рызе на палітычнай нарадзе кіраўніцтва БНР заслухоўваецца даклад Палуты Бадуновай, якая толькі што вярнулася з Масквы, дзе вяла партыйныя перамовы з расейскімі эсэрамі.

Падчас паездкі ёй удалося даведацца пра неафіцыйную пазыцыю бальшавіцкага кіраўніцтва што да Беларусі — калі Польшча будзе настойваць на межах 1772 году, дык Савецкай Расеі на захадзе лепш будзе мець мяжу зь незалежнай Беларусьсю, чым з Польшчай.

Тым часам з бальшавіцкімі прадстаўнікамі ў Рэвэлі ўдалося дамовіцца наконт візыту ў Маскву афіцыйнай дэлегацыі БНР. Дэлегацыі ў складзе Васіля Захаркі, Янкі Чарапука і Міхася Маркевіча даручалася правесьці перамовы аб прызнаньні незалежнай Беларусі і дамагчыся ад Масквы грашовай пазыкі на суму 50 мільёнаў рублёў.

Вацлаў Ластоўскі перадаў з дэлегацыяй некалькі лістоў да сваіх маскоўскіх знаёмцаў. У лістах гэтых сярод іншага гаварылася:

*«Мы чакаем, што лібэральнейшая і дэмакратычнейшая дзяржава і яе слаўны, а братні нам народ Расейскі словам і чынам памогуць стаць вольнымі, зьніме з нас аржавыя ланцугі няволі, якія пакінуў на нас ненавідны расейскі царызм... Мы чакаем ад вялікага расейскага народу прызнаньня нашай дзяржаўнай незалежнасьці...»*

Ня менш наіўныя ўяўленьні меў Ластоўскі і пра суадносіны дзяржаўных ладаў абедзьвюх краінаў:

*«Што да дзяржаўнай формы, то будзе яна больш левая, як у Расеі, мяркуючы з настрояў у народзе, але думаем, што ня будзе яна і такой руйнуючай у пераходны момант. Адным словам, наша Рэспубліка народная, а гэта значыць, што формы дзяржаўнасьці ўстанаўляе сам народ і будзе мець такія, якія ён палічыць за лепшае».*

З такімі настроямі дэлегацыя праз Рэвэль выехала ў Маскву.

Да Масквы на пачатку ліпеня даехалі толькі двое — Захарка і Маркевіч, дый тыя паасобку. Гаспадары пасялілі іх асобна — Захарку ў гатэль «Княжы Двор» на Анціп'еўскім завулку, а Маркевіча — у асабняк наркамату замежных справаў на Паварской вуліцы. Ніякіх зносінаў паміж сабою яны ня мелі.

Перамовы напачатку абяцалі быць спрыяльнымі, але пасьля, пад уплывам ваенных няўдачаў ва Ўкраіне, бальшавікі, каб забясьпечыць свой правы флянг, 12 ліпеня з надзвычайнай пасьпешлівасьцю падпісалі мірную дамову зь Літвой, аддаўшы ёй беларускія землі Віленшчыны і Горадзеншчыны аж да Маладэчна. Адрэзаны ад усяго сьвету Захарка, які выпадкова даведаўся пра гэтую навіну ў калідорах наркамату, тут жа падаў ад імя Ўраду рашучы пратэст, на які, аднак, ніхто ў Маскве не зьвярнуў ніякай увагі.

Тым часам на польска-бальшавіцкім фронце адбыліся новыя зьмены, і пакуль беларускія прадстаўнікі надалей чакалі працягу млявага дыялёгу з маскоўскімі палітыкамі, палякі пакінулі Менск. 31 ліпеня адбылося паўторнае абвяшчэньне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі. Гэтым самым для Масквы беларускае пытаньне было фактычна вырашанае.

Ссаджаны зь цягніка Захарка затрымаўся ў Маскве яшчэ тры тыдні, але затрымка гэтая не дала ніякіх вынікаў. Праўда, адзін вынік усё ж быў — у беларускіх палітыкаў настала поўнае працьверазеньне ў стаўленьні да Савецкай Расеі. 7 верасьня Рада БНР і Рада Народных Міністраў накіравалі ноту пратэсту Парыскай мірнай канфэрэнцыі:

*«На зьмену польскай акупацыі на Беларусь прыйшла новая — расейска-бальшавіцкая акупацыя. Пачаліся на Беларусі ўласьцівыя бальшавіцкай уладзе тэрор і гвалты. Крайнім выразам гвалту ў дзедзіне свабоды нацыянальнага самаазначэньня яўляецца бальшавіцкі акт 31 ліпеня гэтага году, апавяшчаючы Беларусь Савецкай Рэспублікай, сфэдэраванай з Расеяй...*

*Іменем Беларускага Народу, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, прыняўшы ўласьць ад Усебеларускага Ўстаноўчага Кангрэсу, надзелены давер'ем усіх беларускіх палітычных партыяў, арганізацыяў і групаў, горача пратэстуе проці бальшавіцкага акту гвалту і заяўляе, што ён разам са сваім Народам, будзе змагацца з накінутым яму ўжо другі раз Савецкай уладай актам і з назначаным з Масквы паміма волі Беларускага Народу Савецкім Урадам, які ўзурпуе сувэрэнныя правы Беларускага Народу».*

Мірная дамова паміж БНР і Расеяй не падпісаная дагэтуль.

## Паўночная Палестына
(Коўна, сакавік — лістапад 1920)

Віцэ-міністар замежных справаў Літвы Сымон Розэнбаўм ня мог не сымпатызаваць беларусам — ён нарадзіўся ў Пінску, доўгі час жыў і працаваў у Менску, прадстаўляў Менскую губэрню ў 1-ай Дзяржаўнай думе. Тыдзень перад тым, 11 лістапада, ён паставіў свой подпіс на міждзяржаўнай дамове паміж Літвой і Беларускай Народнай Рэспублікай. І вось цяпер ён проста ня мог адмовіць у ласцы прэм'еру БНР Вацлаву Ластоўскаму, які папрасіў забясьпечыць яго некалькімі рэкамэндацыйнымі лістамі.

Віцэ-міністар са шчырым сэрцам зьвярнуўся да свайго ўплывовага знаёмца родам зь Пінску — Ісака Найдзіча, старшыні фінансава-эканамічнай камісіі Сусьветнай сіяністскай арганізацыі:

*«Дорогой Исаак Адольфович.*

*Я теперь к Вам по следующему делу:*

*Белорусский вопрос, к которому мы всегда относились с улыбкой (как впрочем в свое время и к литовскому), начинает принимать значительную реальность. Моя мечта об унии между Литвой и Белоруссией и, таким образом, объединении всего литовского еврейства, в еврейском смысле слова, теперь как литовским, так и белорусским деятелям не кажется уже химерой. Евреи, как по существу, так и по тактическим соображениям, должны обнаруживать величайшие симпатии к этому движению.*

*Если мы откажем в своих симпатиях белорусам, то нам припишут безрезультатность белорусского движения и мы будем иметь в Белорусском народе серьезного врага.*

*Все сказанное — предисловие к письму, с которым к Вам обратится Белорусское Правительство».*

Узброіўшыся дзясяткам падобных лістоў ад вядомых і ўплывовых прадстаўнікоў беларуска-літоўскай габрэйскай супольнасьці, Вацлаў Ластоўскі выправіўся на штурм новага бастыёну — усясьветнага сіянізму.

Першая спроба была шматабяцальнай. У Жэнэве, у апошні дзень працы сэсіі Лігі Нацыяў, беларуская дэлегацыя — Ластоўскі, Ладноў і Цьвікевіч — наведалі Нахума Сокалава і Лео Моцкіна, уплывовых сіяніſцкіх дзеячоў. Тыя паабяцалі беларусам сваю дапамогу.

Такім чынам адкрываўся новы фронт працы, які патрабаваў адмысловай падрыхтоўкі, спэцыфічных сувязяў і кантактаў — таму непазьбежна паўстала кадравая праблема. Нехта мусіў заняцца гэтым

асобна і спэцыяльна. Пошукі адпаведнай кандыдатуры былі даручаныя радніку Беларускай місіі ў Бэрліне Давіду Анэкштэйну, студэнту, быломy меньчуку, які меў неабходныя кантакты. Праз тых самых Сокалава і Моцкіна Анэкштэйн выйшаў на Хаіма Жытлоўскага — філёзафа, гісторыка і публіцыста, які жыў у Амэрыцы — і той параіў зьвярнуцца з прапановай да свайго брата Самуіла.

25 сакавіка 1921 году ў Коўне падчас сьвяткаваньня 3-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі быў прадстаўлены новы міністар нацыянальных меншасьцяў БНР — 50-гадовы Самуіл Жытлоўскі.

Прыняцьце на службу прадстаўніка беларускага габрэйства ў якасьці міністра нацыянальных меншасьцяў не было нейкім выпадковым вузкатактычным крокам, а мела шырэйшы, стратэгічны кантэкст. На тым самым сьвяткаваньні 3-й гадавіны БНР было абвешчана яшчэ некалькі важных дакумэнтаў, якія надавалі Беларускай Народнай Рэспубліцы новую і даволі арыгінальную пэрспэктыву.

Ва ўрачыстай адозьве Рады БНР і Рады Народных Міністраў сярод іншага было сказана:

*«Гістарычны шлях быў доўгі і цярністы. Шмат ахвяраў паклаў Беларускі Народ на аўтар свабоды. Шмат жывых палягло ў самаахвярным змаганьні за шчасьце і дабро народу...*

*Ды ня сам адзін быў Беларускі Народ у сваім змаганьні. Побач яго цярпеў і змагаўся другі народ — пракавечны мучанік Народ Жыдоўскі — зь незапомных часоў паліваўшы зямлю беларускую сваім потам, сьлязьмі і крывёю.*

*Жыдоўскі Народ зразумеў ясна, што яму няма чаго чакаць ласкавасьці ад сваіх панявольнікаў,*

*што толькі ў змаганьні жыды здабудуць правы на жыцьцё і свабоду.*

*Уразумеўшы гэта, жыды падалі прыязную руку свайму брату ў няшчасьці — Народу Беларускаму, дзеля супольнага змаганьня за Незалежнасьць, змацаваўшы гэта актам 25 сакавіка».*

У падсумаваньні палітычных тэзісаў адозва 25 сакавіка 1921 году абвясьціла сувэрэннасьць нацыяў беларускай і жыдоўскай і поўнае аб'яднаньне іх у адзіны дзяржаўны Беларускі Народ.

У выдадзеным у той самы дзень адмысловым звароце да габрэяў падкрэсьлівалася:

*«Пагромы ўчыняюцца над вамі ня толькі ў чужых странах, а нават і ў роднай вам старонцы — у Палестыне. Мала ёсьць дзяржаў, дзе б жыды ў поўнай меры карысталіся ўсімі грамадзкімі і палітычнымі правамі».*

І сапраўды, на той час у сьвеце не было дзяржаваў, дзе б правы габрэяў былі вызначаныя канкрэтна і эксплiцытна. Беларуская Народная Рэспубліка стала першай дзяржавай, у якой габрэі былі прызнаныя супольнай дзяржаўнай нацыяй. Гэта было замацавана ў афіцыйным акце, падпісаным Радай Народных Міністраў БНР у той самы дзень — 25 сакавіка 1921-га.

Акт гэты меў сем пунктаў:

1) Абедзьве сувэрэнныя нацыі — беларуская і жыдоўская — аб'ядноўваюцца, каб разам працаваць для дэмакратычнай рэспублікі, у палітычным жыцьці якой жыды адыгрываюць важную ролю.

2) Жыды ў межах рэспублікі маюць аднолькавыя палітычныя і рэлігійныя правы.

3) Ва ўрадавых установах прымаюцца жыдоўскія чыноўнікі, прапарцыйна колькасьці жыдоўскага насельніцтва ў краіне.

4) Жыды маюць права на залагоджаньне цывільных спрэчак сваімі судамі.

5) Зямля дзеліцца прапарцыйна паміж жыдоўскім і астатнім насельніцтвам.

6) Абедзьве мовы — беларуская і жыдоўская — маюць роўныя правы. Усе дзяржаўныя паперы, грошы і маркі друкуюцца на гэткіх чатырох мовах: беларускай, жыдоўскай, польскай і расейскай.

7) Дачыненьні грунтуюцца на ўзаемным даверы, і ўсялякія спрэчкі мусяць быць пазьбегнутыя.

Як зазначыў міністар Жытлоўскі, гэты акт быў беспрэцэдэнтны ў габрэйскай гісторыі за два тысячагодзьдзі дыяспары.

Адразу пасьля сакавіцкіх урачыстасьцяў міністар Жытлоўскі распачынае напружаную дзейнасьць. На працягу некалькіх месяцаў ён наведвае эўрапейскія сталіцы, дзе сустракаецца бадай што з усімі больш-менш віднымі прадстаўнікамі сіяніcцкага руху.

Галоўнай тэмай кансультацыяў была барацьба з пагромамі ў Беларусі. Падчас польскай акупацыі, акцыі Балаховіча, розных дробных антыбальшавіцкіх паўстаньняў па краі пракацілася крывавая хваля — і ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі браўся яе спыніць. На гэтым і грунтаваўся разьлік знайсьці спачуваньне і падтрымку з боку сусьветнага сіянізму.

Невядома, ці выступіў Самуіл Жытлоўскі на карлсбадзкім кангрэсе. Захаваўся толькі тэкст ягонага мэмарандуму старшыні кангрэсу доктару Юліюсу Сімону. Паводле мэмарандуму, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі праз сваіх прадстаўнікоў на месцах быў гатовы распачаць шырокую антыпагромную дзейнасьць.

Урад, тлумачыў Жытлоўскі, мае ў сваім распараджэньні сотні агентаў у кожным пункце з габрэйскім

насельніцтвам. Гэтыя людзі — адукаваныя сяляне, усёй душою адданыя ідэі незалежнай Беларусі, карыстаюцца на месцах велізарным уплывам на сялянскія масы і здолеюць супрацьпаставіць сваю агітацыю прапагандзе цёмных пагромных сілаў. Для іх утрыманьня, а таксама для выданьня неабходнай літаратуры Ўрад прасіў 5 тысячаў фунтаў стэрлінгаў штомесячна і яшчэ 2 тысячы фунтаў аднаразова на выдавецкія патрэбы.

Спробы Жытлоўскага ды іншых дзеячоў БНР схіліць на свой бок сіяністаў плёну не далі. У сьнежні 1921-га, падводзячы вынік сваёй працы, міністар пісаў: *«Да таго часу, пакуль я не пераканаюся, што я для нашай справы нічога зрабіць не змагу, я ад яе нізавошта не адыду. Але я яшчэ ня трачу надзею. Даводзіцца тараніць шмат сьценаў, і самая цьвёрдая сьцяна — габрэйская»*.

Магчыма, сіяніскія лідэры з асьцярожнасьцю паставіліся да дэкларацыяў беларускага ўраду, прадстаўнікі якога, седзячы ў эміграцыі, гаварылі пра свае шырокія ўплывы на Бацькаўшчыне. Магчыма, у гэтыя дэкларацыі ня надта верылі і самыя беларусы. Як бы там ні было — дзяржавы аднаго народу дзьвюх нацыяў так і не атрымалася. Хоць хто ведае, ці не дала б гэткая этнічная камбінацыя ў выніку больш жыцьцяздольны і дынамічны, пасіянарны народ.

## Госьць з Інгерманляндыі

(Бэрлін, красавік 1922)

Генуэская канфэрэнцыя была апошняй надзеяй. Там эўрапейскія лідэры меліся абмяркоўваць эканамічныя і палітычныя праблемы, якія заставаліся нявырашанымі пасьля заканчэньня вайны.

Старшыня Рады Народных Міністраў БНР Вацлаў Ластоўскі і міністар замежных справаў Аляксандар Цьвікевіч ехалі на канфэрэнцыю ў складзе літоўскай дэлегацыі. Першым прыпынкам па дарозе ў Геную быў Бэрлін.

Цягнік прыйшоў на Schlesischer Bahnhof са спазьненьнем. Як неўзабаве выявілася, бэрлінская паліцыя прадпрымала надзвычайныя захады бясьпекі ў сувязі з прыездам савецкай дэлегацыі, якая мелася на некалькі дзён спыніцца ў Бэрліне для кансультацыяў зь немцамі. Выходзячы з вакзальнага будынку, Ластоўскі азірнуў падарожны натоўп і нечакана пабачыў знаёмы твар.

Чарнявы чалавек з запалымі шчокамі, сустрэўшы позірк прэм’ера, імгненна зьнік.

Ластоўскі, аднак, як ні сіліўся, так і ня мог прыгадаць — хто ж гэта быў? І толькі праз два тыдні ў Генуі сам сабою знайшоўся адказ на гэтую загадку. Пераглядаючы газэты, сакратар літоўскай дэлегацыі Ляонас Бістрас знайшоў паведамленьне, што ў Генуі была арыштаваная група расейскіх тэрарыстаў, якія рыхтавалі замах на кіраўніка савецкай дэлегацыі Георгія Чычэрына. Сярод іх быў і Георгі Эльвэнгрэн, былы дараднік вайскова-дыпляматычнага прадстаўніка БНР у Фінляндыі. Той самы, які натрапіўся Ластоўскаму на бэрлінскім вакзале.

Тэрарысты рыхтавалі замах на бальшавіцкіх дыпляматаў яшчэ ў Бэрліне — ад падкупленага афіцэра паліцыі Эльвэнгрэн даведаўся дакладны маршрут іхных рухаў. Аднак у вырашальны момант першы кілер пакінуў сваё месца — зайшоў на момант у прыбіральню. Дублёр мог страляць, але чамусьці не наважыўся. Давялося ехаць за дэлегацыяй у Геную. 13 красавіка, праз тры дні пасьля адкрыцьця канфэрэнцыі, італьянская паліцыя арыштавала за-

махоўцаў. Дзякуючы заступніцтву Мусаліні яны былі вызваленыя і высланыя ў Францыю.

***

Беларуская кар’ера Георгія або Юрыя Эльвэнгрэна пачалася ў чэрвені 1920 году. Васіль Захарка, які ў Рэвэлі вёў з эстонскім урадам перамовы аб прызнаньні БНР, знайшоў сабе памочнікаў у асобах генэрала Алега Васількоўскага і палкоўніка Георгія Эльвэнгрэна. Захарка параіў ураду прызначыць Васількоўскага дыпляматычным прадстаўніком у Фінляндыі, а Эльвэнгрэна — ягоным дараднікам.

*«Людзі гэтыя шчыра вялі нашую працу на інтэрнацыянальнай тутака мове рускай і французскай і няхай прадаўжаюць яе»,* — пісаў Захарка ў лісьце да Ластоўскага ў Коўна. Як у Фінляндыі, гэтак і ў Эстоніі ў генэрала з палкоўнікам было шмат знаёмых, якія, паводле Захаркі, маглі б прынесьці беларускай справе шмат карысьці. Эльвэнгрэна ён атэставаў як *«надта здольнага чалавека, добра знаёмага з нацыянальнымі рухамі народаў»* і дадаў, *што «ён — беларус Менскай губэрні».*

Падобнае ўражаньне пакінулі абодва афіцэры і на Янку Чарапука — *«людзі, відаць, выдатныя дзяржаўнікі і на першы погляд шчыра адданыя нашай справе».*

Дзеля большай пэўнасьці перад залічэньнем на службу новыя беларускія дыпляматы склалі пісьмова ўрачыстую прысягу:

*«Даю гэтую падпіску, а разам з гэтым гонарам і сумленьнем маім сьведчу, што буду шчыра і сумленна працаваць дзеля адраджэньня і ўзмацаваньня Беларускай Дзяржаўнасьці, буду ўсюды, ні сіл ні жыцьця сваіх не шкадуючы, бараніць Не-*

*залежнасьці і Непадзельнасьці Беларускай Народнай Рэспубліці; ускладзеныя на мяне службовыя абавязкі спаўняць буду пільна і акуратна, а службовыя і дзяржаўныя сакрэты буду захоўваць».*

Запрашаючы на службу Эльвэнгрэна, кіраўніцтва БНР і не здагадвалася, з кім мае справу. Хто ж быў гэты «добра знаёмы з нацыянальнымі рухамі народаў» чалавек? Нарадзіўся ён у 1889 годзе ў Пецярбурскай губэрні (а зусім ня ў Менскай) у сям'і палкоўніка Фінляндзкай гвардыі. Скончыў кадэцкі корпус, кавалерыйскую вучэльню і ў 1910 годзе паступае ў званьні карнэта ў прэстыжны полк гэтак званых «сініх кірасіраў», раскватараваны ў Гатчыне. Малады й спрытны карнэт, паводле ўспамінаў паплечнікаў, неўзабаве становіцца кумірам усіх гатчынскіх гімназістак.

З пачаткам вайны Эльвэнгрэн адзначыўся незвычайнай і рызыкоўнай адвагай, заслужыўшы Георгіеўскі крыж. Падчас бурлівых падзеяў 1917 году, ужо ротмістар, ён нечакана ўсплывае то ў адным, то ў другім месцы, пакуль не трапляе ў Сімферопаль, дзе ўдзельнічае ў вайсковым камандаваньні крымскататарскімі аддзеламі ў баях з бальшавікамі. Баі працягваюцца ўсяго некалькі дзён, пасьля чаго Крым пераходзіць у рукі бальшавікоў.

Пасьля гэтага кароткага эпізоду Эльвэнгрэн зьяўляецца ў Фінляндыі. У сакавіку 1918-га яму даручаецца камандаваньне 1-м Карэльскім палком, які на баку белых сілаў бярэ ўдзел у фінскай грамадзянскай вайне. Неўзабаве полк — у сьціплай колькасьці 630 чалавек — у выніку глыбокага рэйду ў тыл ворага разьбівае ўтрая мацнейшыя сілы чырвоных каля мястэчка Раўту (цяпер Саснова), забясьпечыўшы фінскаму беламу войску кантроль на Карэльскім перашыйку. Гэты бліскучы манэўр,

пасьля якога Эльвэнгрэна пачалі называць героем Раўту, адбыўся 25 сакавіка 1918 году.

Пасьля заканчэньня фінскай Вызвольнай вайны Эльвэнгрэн займае пасаду памежнага камэнданта ў Вііпуры (Выбаргу), жэніцца і жыве спакойным жыцьцём, пакуль не надараецца новая прыгода. У чэрвені 1919 году яго наведвае дэлегацыя сялянскіх паўстанцаў з Паўночнай Інгерманляндыі. Жыхары гэтага краю — на поўнач ад Петраграду — не пажадалі далей цярпець бальшавіцкую прадразьвёрстку і гвалтоўную мабілізацыю ды пастанавілі распачаць збройнае змаганьне.

Зьяўленьне сялянскіх дэлегатаў было для нашага героя цалкам нечаканым. Як ён прызнаецца пазьней, пра Інгерманляндыю і інгерманляндцаў ён дагэтуль нічога ня чуў і вельмі туманна ўяўляў сабе, хто яны і чаго дамагаюцца. Аднак на прапанову ўзначаліць збройныя сілы паўстанцаў згадзіўся бязь лішніх ваганьняў.

Прыняўшы камандаваньне, Эльвэнгрэн аддае загад наступаць. На некалькі дзён паўстанцы займаюць усю памежную паласу, аднак надыходзіць бальшавіцкае падмацаваньне, і пад кантролем паўстанцаў застаецца толькі пяць вёсак.

На сходзе ў Раўту Эльвэнгрэн абіраецца старшынём Часовай камісіі Паўночнай Інгерманляндыі — кіраўніком ураду. Новая дзяржава мае свой герб, гімн і сьцяг — сіні крыж з чырвонай каймой на жоўтым фоне. Урад засноўвае ўзнагароду — Крыж Белай Сьцяны, выпускае паштовыя маркі, выдае газэту. Дзейнічаюць суды, пошта і водны флёт (параплаў, шхуна і два чаўны).

***

У красавіку 1920 году адбываюцца мірныя перамовы Фінляндыі з бальшавіцкай Расеяй. Памежная зона дэмілітарызуецца, і незалежная, хоць нікім і не прызнаная, Паўночная Інгерманляндыя перастае існаваць. Георгі — або па-фінску Юр'ё — Эльвэнгрэн, урачыста атрымаўшы Крыж Белай Сьцяны, разьвітваецца з кіраўнічай пасадай і выходзіць на новы жыцьцёвы паварот.

На даручэньне кіраўніка фінскай выведкі Бэртэля Озаліня Эльвэнгрэн выяжджае ў Варшаву, дзе наладжвае кантакт з Барысам Савінкавым і становіцца ягоным прадстаўніком у Фінляндыі. Расейскі палітычны камітэт Савінкава рыхтаваў супольны збройны выступ памежных краінаў супраць бальшавікоў.

Эльвэнгрэн — на той час ужо палкоўнік — разам са сваім паплечнікам генэралам Васількоўскім займаецца вэрбаваньнем афіцэраў, якія жадаюць ваяваць у Расеі. Падчас гэтай акцыі яны і сустракаюцца ў Рэвэлі з Васілём Захаркам. Праз нейкі тыдзень пасьля гэтай першай сустрэчы Георгі-Юры-Юр'ё Эльвэнгрэн становіцца грамадзянінам Беларускай Народнай Рэспублікі.

Беларуская служба палкоўніка Эльвэнгрэна працягнулася нядоўга. Праз нейкі час непазьбежна выявіліся ягоныя сувязі з Расейскім палітычным камітэтам Савінкава ды з «бацькам» Булак-Балаховічам — гэткія кантакты былі расцэненыя ўрадам Ластоўскага як не зусім дарэчныя для беларускага дыплямата. У сакавіку 1921 году Эльвэнгрэна звальняюць з пасады дарадніка дыпляматычнага прадстаўніка ў Фінляндыі.

Далейшы авантурны лёс «знаўцы нацыянальных рухаў» склаўся драматычна. Пасьля некалькіх гадоў працы ў падпольна-тэрарыстычных структурах Савінкава (прыгадаем падзеі ў Генуі), пасьля няўдачы ў падрыхтоўцы антыбальшавіцкага партызанскага руху ў Беларусі, Украіне і Заходняй Расеі Георгі Эльвэнгрэн наважваецца на сваю апошнюю місію.

У 1925-м ён нелегальна прыяжджае ў Расею разгортваць падпольную працу. Праз нейкі час яго арыштоўваюць пад Цьвер'ю і 9 чэрвеня 1927 году асуджаюць на расстрэл. За яго спрабуе заступіцца фінскі пасол у Маскве, але наркам замежных справаў Ліцьвінаў гэтае заступніцтва адпрэчвае: рэч у тым, што Эльвэнгрэн прыехаў у СССР з румынскім пашпартам і на фінскае грамадзянства не спасылаўся.

І апошні беларускі штрых у гэтай гісторыі. Маці нашага героя звалася Адэляіда-Марыя Шчавінская, і прычынай таго, што падчас прыёму на дыпляматычную службу Георгі Эльвэнгрэн назваўся «беларусам Менскай губэрні», якраз і магло быць яе беларускае паходжаньне*.

## Беларускі Калюмб
(Данцыг, ліпень 1922)

«Даражэнькі, шлю маё сардэчнае прывітаньне ўсім сябрам Грамады. Сёньня моцна помню наш дэвіз: змагаймася — зможам. Цалую ўсіх. Ваш Янка Чарапук. Параход “Латвія” перад ад'ездам у Амэ-

* Каштоўныя зьвесткі пра лёс свайго героя, варты асобнага раману, удзячны аўтар знайшоў у працы пецярбурскага дасьледніка Андрэя Пюкенэна «Yrjö Elfvengren, the soldier of Russia and Finland».

рыку». Кінуўшы паштоўку ў скрыню, Ян Чарапук пайшоў да трапу. Гэта былі яго апошнія крокі на эўрапейскай зямлі.

Летам 1922-га Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі працуе ў Коўне. У траўні на міжнароднай канфэрэнцыі ў Генуі трацяцца апошнія надзеі зьмяніць вынікі польска-расейскага міру, які падзяліў Беларусь напалам. Урад у крызысе, літоўскія ўлады яшчэ спрабуюць трымаць у рукаве беларускую карту ў гульні за Вільню, але відавочна страчваюць палітычны інтарэс да беларусаў. Сярод беларускіх палітыкаў штораз большыя сваркі і звадкі — старыя крыўды, амбіцыі, няяснасьць і расчараваньне.

Сакратар дыпляматычнага прадстаўніцтва БНР у Коўне Янка Чарапук марыў пра Амэрыку ўжо некалькі гадоў — там ужо даўно жылі некалькі яго старых знаёмых, а ў 1920-м туды падаўся і ягоны бацька. І вось цяпер безнадзейнасьць ковенскай сытуацыі прымусіла прыняць рашэньне: цяпер або ніколі.

Яшчэ ў сакавіку ён папрасіў ва ўраду грошай на дарогу, але адказ быў несуцяшальны: «Цяжкі стан Дзяржаўнай касы, на жаль, не дае магчымасьці пайсьці насустрач просьбе грам. Чарапука, дзеля гэтага ў задавальненьні памянёнай просьбы адмовіць». І вось, пазычыўшы прыватна неабходныя грошы і атрымаўшы амэрыканскую візу — тут нямала дапамог вельмі прыхільны да беларускай справы амэрыканскі консул Эдвардз — Янка Чарапук выпраўляецца ў далёкую дарогу.

У Лібаве, дзе пачыналіся бадай што ўсе тагачасныя амэрыканскія адысэі беларусаў, 10 траўня Чарапук садзіцца на параплаў «Эстонія» і дабіраецца да Данцыгу, адкуль, прабавіўшы пару тыдняў, адплывае праз акіян.

***

У ліпені 1922-га першы беларускі нацыяналіст ступае на амэрыканскі кантынэнт, на «зямлю Вашынгтона», як ён сам часта будзе называць Амэрыку. Як выглядаў Новы Сьвет уваччу першага там, кажучы сёньняшняй мовай, «сьвядомага» беларуса? Вось першыя ўражаньні самога Чарапука, запісаныя ў лістах да паплечнікаў у Коўне:

*«Адзін тыдзень я быў у Нью-Ёрку, дзе хацелася мне азнаёміцца зь местам. Чалавечы розум папросту поўны падзівеньня — як гэта ўсё можна было выбудаваць — калі прыйшлося быць каля найбольшага дому у сьвеце, альбо каля помніка "Свабода".*

*Пасьля я прыехаў да свайго бацькі у Grand Rapids. Тут таксама шмат часу прашло на чыста сямейныя справы. Працу грамадзкую распачаць зараз жа цяжка. Цяпер я знаёмлюся толькі з агульным становішчам у гэтым краі. І заводжу знаёмства зь беларусамі, украінцамі, і ліцьвінамі. Выступаць цяпер чынна на грунце грамадзкім і палітычным ніяк нельга. Прычыны такія. Неразуменьне ангельскай мовы — не дае магчымасьці выступіць і ўзяцца за працу. Няма тут сапраўды ніводнай беларускай арганізацыі, якая магла б памагчы хоць часова у працы і жыцьці».*

Чарапук з зайздрасьцю піша, што палітычным эмісарам зь Літвы, Польшчы або Ўкраіны там працаваць лёгка, бо па ўсёй Амэрыцы раскіданыя іх нацыянальныя арганізацыі. Нам жа, беларусам, наракае ён, трэба рабіць тое, што палякі, літоўцы і ўкраінцы рабілі 50 гадоў таму назад.

Асабліва крыўдна было тое, што Чарапуковых землякоў у Амэрыцы было незвычайна шмат — сотні і сотні тысячаў. Усе яны з гонарам называлі сябе

«рускімі», стваралі «рускія» арганізацыі, ладзілі «рускія» зборкі, чыталі «рускія» газэты. У тых газэтах, дарэчы, былі рэгулярныя рубрыкі накшталт «как правильно говорить по-русски», дзе ўсю гэтую цёмную і неадукаваную масу стараліся пераканаць, што нельга гаварыць «ріба», «трапка», «тудой», «сюдой» і што «сабака» — гэта яна, а ня ён.

І Ян Чарапук, пасланец незалежнай Беларусі, пачынае няроўнае адчайнае змаганьне. Адзін супраць сотняў тысячаў.

***

Тым часам звычайнае жыцьцё паступова ўліваецца ў новае рэчышча. Свае інтымныя пачуцьці наш герой выкладае ў лісьце сваёй ковенскай знаёмай «паньне Гэлене», чыя асоба застаецца таямніцай. Выкладае па-польску — на мове прыстойнага таварыства горадзенскіх і ковенскіх салёнаў пачатку мінулага стагодзьдзя. Для тых, хто там не бываў, падаем пераклад:

*«Вельмі шаноўная панна Гэлена!!*

*У гэтую хвілю хацелася б зноў быць блізка ад Вас, жартаваць як калісь і так сабе “калдункоў спажыць”, а часамі і “крупнічку” папіць… Бо ў нас тут надта “суха”, г. зн. ні пад якай умовай у цэлых Юнэйтэд Стэйтс нельга за добры грош нідзе здабыць ані гарэлкі, ані лікёру, ані іншых напояў, тут толькі п’юць так званы “муншайн”, г. зн. напой уласнага вырабу кожнага грамадзяніна. Некаторыя з рабочае клясы на гэтай справе зарабілі шалёныя грошы. Толькі ўявіце сабе, што я ад часу, калі ступіў на амэрыканскі бераг, нават*

*нічога і не панюхаў — так што ў горле, за выбачэньнем, аж занадта суха.*

*Жывецца мне досыць добра. Маю дзьве пасады, зарабляю выдатна. На вясну купляю аўтамабіль. З матэрыяльнага гледзішча адчуваю задавальненьне. Але цяпер я працую ад 7 раніцы да 10 вечара. Апрача таго вучуся ангельскай мовы, зь якой аднак вялікай цяжкасьці ня маю, але чуюся як у сябе дома. Удалося мне згрупаваць вакол сябе ладную колькасьць беларусаў, так што гэта яшчэ мілей адбіваецца на агульнай гармоніі жыцьця».*

***

Захаваньне агульнай гармоніі жыцьця патрабавала мужнасьці і ахвяраў. Пра свае рашучыя жыцьцёвыя крокі Ян Чарапук паведамляе ў лісьце-справаздачы Вацлаву Ластоўскаму:

*«Маё становішча ў Амэрыцы было адным з самых страшэнных з'явішчаў у маім маладым жыцьці. Ўсё аддаваў не для сямейных справаў, не для асабістых выгодаў, а пасьвяціў на Вялікую Справу Вызваленьня Беларусі зь ярма польскага і маскоўскага. І дзеля гэтага пастанавіў нават парваць тое, што было і дарагое для сэрца — асвабадзіць і самога сябе ад сувязі... сямейнай масковіі. Паступіў добра! Праз такое становішча падняў сьцяг Беларусі у шырокім маштабе на зямлі Вашынгтона.*

*Першая баразна ужо згорана беларускім плугам, патрэбны людзі якіе павінны дакончыць са мною, альбо і бяз мяне. Сам я хутка варочацца на Бацькоўшчыну ня думаю, неглядзючы што здароўе страшэнна пагоршылося. Надзвычайна*

*цяжка перанасіць амэрыканскую жару, прыбыўшым з Эўропы».*

***

Так і трымаў Ян Чарапук сьцяг Беларусі ў шырокім маштабе, маючы на разьлеглай зямлі Вашынгтона невялікую жменьку паплечнікаў і выклікаючы на сябе зьнішчальны агонь абразаў, зьдзекаў і паклёпаў з боку шматлікіх ворагаў.

Падмога прыйдзе толькі праз дваццаць пяць гадоў, калі новая хваля эміграцыі вынесе на амэрыканскі бераг ужо не адзінкі, а тысячы й тысячы беларусаў — са сьцягамі адроджанай БНР, са структурамі і дыскурсамі, зь літаратурай і мастацтвам. І яны сутыкнуцца з той неадоленай стыхіяй старой эміграцыі, і яны паспрабуюць навярнуць яе на беларускі шлях. Але і ў іх з гэтага нічога ня выйдзе, і скончыцца ўсё рэгулярнымі бойкамі на вуліцах амэрыканскіх гарадоў і мястэчак падчас ладжаных абодвума бакамі масавых гуляньняў — на 1 траўня і на 25 сакавіка.

Але гэта ўжо — зусім іншая гісторыя...

## Капітан-атаман Хмара
(Данцыг, травень 1924)

*«Камандзіру 4-ай групы*
*Вячаславу Хмара-Разумовічу.*

*Мы, ніжэй падпісаныя раённыя начальнікі і стралкі, прымаючы пад увагу Вашу бескарысную цяжкую службу, Вашу гатоўнасьць, засьведчаную многімі прыкладамі, заўсёды і ўсюды*

*ахвярна ісьці з намі за ідэю нашага вызваленьня з-пад польска-панскага ярма, з другога боку, відзечы Вашы строга бацькоўскія, бесстаронныя, правідловыя да ўсіх стралкоў бяз розьніцы нацый роўныя адносіны, Вашу заботлівасьць аб паляпшэньні нашага лёду, Вашу чэснасьць, лічым сваім нраўсьцьвенным абавязкам пры разьвітаньні сказаць Вам апошняе шчырае, прыязнае, беларускае ад усяго сэрца — «дзякуй».*

*Просім Вас прыняць выразы нашага пачуцьця, удзячнасьці, як дань глыбокага паважаньня і пашаны.*

(Слѣдуют от разных уѣздов и волостей Гродненской и Виленской губерній болѣе 60 подпісей на бѣлорусском, литовском и еврейском языках)».

З гэтым рэкамэндацыйным лістом ад байцоў Беларускага асобнага батальёну Літоўскага войска травеньскай раніцай капітан Разумовіч прыплыў у Вольны Горад Данцыг. На ўсялякі выпадак ён меў з сабой яшчэ некалькі падобных дакумэнтаў ад самых розных суперных уладаў, каб можна было выбраць нейкі зь іх у залежнасьці ад абставінаў.

Аднак у Данцыгу яму гэты ліст не спатрэбіўся. Там яго меўся чакаць пасярэднік, які браўся прадаць у Горадні Разумовічаў дом, але гэты візыт склаўся для яго, як і заўсёды, нечакана.

Спадар Галін, ковенскі журналіст і сусед па каюце, які, ведаючы нямецкую мову, узяўся дапамагчы Разумовічу ў ягоных данцыскіх справах, завёў яго на нейкую вуліцу, пасадзіў на лаўку і сказаў пачакаць. Яму, маўляў, трэба было на хвілінку зайсьці ў нямецкі кансулят па візу да Кёнігсбэргу. Сядзеньне на лаўцы пачало нудзіць капітана, сонца стаяла ўжо даволі высока.

Недзе гадзіньнік на вежы прабіў дванаццаць разоў. Разумовіч ад учорашняга вечара нічога ня еў. Каб крыху разьмяць ногі, ён падышоў да дзьвярэй, за якімі пару гадзінаў таму зьнік Галін. Прачытаў шыльду, і ногі зрабіліся ватныя: «Генэральны кансулят Польскай Рэспублікі».

Яшчэ ўвосень 1922 году ў Варшаве ўрадавы орган «Rzeczpospolita» ў вялікім рэдакцыйным артыкуле абвясьціў усяму сьвету, што былы царскі афіцэр, а цяпер старшы лейтэнант літоўскага войска Разумовіч (псэўданім «Хмара»), а разам зь ім беларускі прэм'ер Ластоўскі стаяць на ўсходніх межах Польшчы на чале беларускіх паўстанцаў, якім паводле патаемнай дамовы Нямеччына і Савецкая Расея далі шматмільённы крэдыт і зброю на зьнішчэньне незалежнай Польшчы — культурнага бастыёну на ўзьмежжы Эўропы і Азіі. Вячаслаў Разумовіч быў абвешчаны ворагам Польскай Рэспублікі нумар 1.

Урэшце Галін вярнуўся. Ён завёз Разумовіча ў Цопат, пасяліў у танны пансіянат і накарміў абедам. Назаўтра выявілася, што горадзенскі купец, не дачакаўшыся, ужо быў зьехаўшы. Празь дзень зьехаў і сам Галін, паабяцаўшы знайсьці і прывезьці таго купца. А праз два тыдні пасьля ад'езду Галіна ў дзьверы Разумовіча пагрукаў маленькі худзенькі элегантны панок і пацікавіўся, ці ня ён — спадар Разумовіч, які прадае ў Горадні дом .

Панок ня стаў хавацца і неўзабаве заявіў: «Я ведаю, што Вы — атаман Хмара. Мяне паслаў генэральны штаб з прыязнай прапановай, тым больш што нам пра вас усё вядома. Прапануем вам паступіць на службу ў польскае войска».

Разумовічу не было з чаго выбіраць. У Данцыг зь Літвы яго выпусьцілі толькі пад умовай, што ён ня вернецца назад — за чатыры гады побыту ў Літве ён

пасьпеў нарабіць гэтай краіне столькі праблем, што яна была радая хоць якім чынам ад яго пазбавіцца. З паручнікам Алейнічакоўскім — гэтак звалі госьця — яны пайшлі ў рэстаран, дзе добра паелі і выпілі зь дзясятак разоў за здароўе маршалка Пілсудзкага. Увечары яны ўжо разыходзіліся як старыя сябры, прычым паручнік адыходзіў без капелюша і хістаўся як капітан карабля падчас буры.

Празь некалькі дзён з Варшавы прыехала падмацаваньне ў асобе паручніка Зацьвіліхоўскага, і Разумовічу была патлумачаная ягоная задача — паехаць у Прагу, дзе на той час знаходзіліся кіраўнікі Беларускай Народнай Рэспублікі, і падрыхтаваць глебу для паразуменьня іх з польскімі ўладамі.

Тым часам прыехаў горадзенскі купец нерухомасьці і выкупіў Разумовічаў дом фактычна за бясцэнак — за нейкія 2 з паловай тысячы даляраў. Да канца жніўня былі вырашаныя ўсе тактычныя пытаньні, атрыманая чэская віза, і 3 верасьня капітан Разумовіч выехаў у Прагу.

Праскія беларусы сустрэлі Разумовіча насьцярожана. Яшчэ не забыліся часы ягонага атаманства ў белавескіх лясах, калі яму закідалі абвінавачаньні ў шпіёнстве на карысьць адразу некалькіх варожых між сабою дзяржаваў, Яшчэ не забыліся ягоныя скандальныя непаразуменьні зь літоўскімі ўладамі, выкліканыя таямнічымі бізнэсовымі праектамі накшталт паставак літоўскаму войску 100 тонаў сала, прычым ні сала, ні грошай тое войска так і не пабачыла.

У Празе Разумовіч пасяліўся ў гатэлі «Атлянтык», дзе і распачаліся сходы і кансультацыі з прадстаўнікамі БНР — прэзыдэнтам Рады Крачэўскім і прэм’ерам Цьвікевічам. Ад Вільні ўзяць удзел у перамовах прыехаў дэпутат польскага Сойму Брані-

слаў Тарашкевіч. Ад польскага ўраду меўся прыехаць у Прагу адмысловы дэлегат, аднак час ішоў, дэлегат усё ня ехаў, пакуль Тарашкевіч, страціўшы цярплівасьць, не махнуў рукой і ня зьехаў назад у Вільню, назваўшы ўсю справу правакацыяй самога Разумовіча.

Якраз у тым самым часе — позьняй восеньню 1924-га — на паседжаньні Лігі Нацыяў у Жэнэве абмяркоўвалася пытаньне аб прыналежнасьці Вільні. Менавіта гэтая падзея і прымушала палякаў шукаць саюзьнікаў у асобе эміграцыйных беларускіх палітыкаў, тым болей што ў складзе варожай Польшчы літоўскай дэлегацыі ў Жэнэву паехаў былы прэм'ер Вацлаў Ластоўскі. Праскае кіраўніцтва БНР зрэагавала на гэты факт вельмі нэрвова — у Жэнэву была пасланая тэлеграма аб тым, што Ластоўскі пазбаўлены права прадстаўляць беларускі народ, а Літва ня мае права вырашаць віленскае пытаньне без удзелу беларусаў.

Выбухнуў скандал. Літоўскія ўлады назвалі ўчынак кіраўніцтва БНР здрадай. У беларуска-польскай нарадзе ў Празе зьнікла ўсялякая неабходнасьць. Абодва бакі — беларускі і літоўскі — адчулі, што ўся гэтая непрыемнасьць была недзе некім сплянаваная і справакаваная. Не было нічога дзіўнага ў тым, што ў пошуках ахвярнага казла ўсе вочы зноў зьвярнуліся да няўрымсьлівага капітана Разумовіча.

Цяпер у Празе Разумовічу не было асабліва куды падацца. Як колішні атаман беларускіх партызанаў, ён сярод расейскай эміграцыі адчуваў сябе як белая варона. «Хто ты — манархіст, легітыміст, сацыяліст, камуніст, сэпаратыст або проста авантурыст?» — пыталіся ў яго з розных бакоў, і на пытаньні гэтыя ён ня ведаў адказу. Зарыентавацца ў блытаніне палітычных, нацыянальных і матэрыяльных інтарэ-

саў яму было надзвычай цяжка, ён зрабіў свой выбар адвольна і далучыўся да нейкай арганізацыі пад назовам «Усеславянская еднасьць».

Вакол Разумовіча пачалі круціцца розныя палкоўнікі, генэралы, вайсковыя і цывільныя асобы, якія відавочна рыхтавалі нейкую складаную камбінацыю. Як выявілася, расейская эміграцыя зьбіралася склікаць у Парыжы ўсерасейскі эміграцыйны парлямэнт пад кіраўніцтвам вялікага князя Мікалая Мікалаевіча. З Разумовічам як прадстаўніком беларусаў скантактаваўся з Парыжу генэрал Куцепаў і запрасіў яго на сустрэчу.

Папярэднюю згоду на ўдзел ва ўсерасейскім парлямэнце даў прэзыдэнт Рады БНР Пётра Крачэўскі. Гэта выглядала як адзіная магчымасьць выхаду з палітычнага падпольля, у якое загналі самі сябе кіраўнікі БНР, пераехаўшы ў Прагу — чэскія ўлады далі ім дазвол на ўезд з жорсткай умовай спыненьня якой бы там ні было палітычнай дзейнасьці.

Аднак пакуль Разумовіч дабраўся да Парыжу, адбылася справакаваная савецкімі спэцслужбамі Бэрлінская канфэрэнцыя, на якой абсалютная бальшыня міністраў ураду БНР абвясьціла аб самароспуску апошняга і прызнаньні савецкай Беларусі.

Такім чынам, перамовы з Куцепавым у Парыжы ні да чога не прывялі — Разумовіч ужо нікога не прадстаўляў. Расчараваны Разумовіч — атаман Хмара — сустракаецца ў Данцыгу зь іншым партызанскім вэтэранам, зеленадубаўцам атаманам Дзергачом-Адамовічам, каб абмеркаваць, як і за якія сродкі далей жыць.

Адамовіч нечакана распавядае пра неверагодны плян, ажыцьцяўленьне якога магло б надоўга вырашыць усе матэрыяльныя праблемы гэтых двух колішніх паплечнікаў у змаганьні. «Трэба дамовіцца

зь літоўцамі», — неспадзявана заяўляе ён Разумовічу.

Рэч у тым, што на пачатку сусьветнай вайны немцы амаль бяз бою захапілі Ковенскую крэпасьць (казалі, што камэндант крэпасьці генэрал Грыгаровіч быў падкуплены). Расейскае войска было вымушанае пасьпешліва адступіць. У дзяржаўнай скарбонцы захоўвалася шмат грошай у золаце і каштоўных паперах. Усё гэтае багацьце не было часу эвакуаваць, таму за некалькі гадзінаў перад адступленьнем усе паперы былі спаленыя, а золата схаванае. Пры гэтай апэрацыі быў прысутны Адамовіч, які служыў тады ў Ковенскай крэпасьці.

Пра золата ведалі ўсе — і немцы, і літоўцы. Аднак усе спробы яго знайсьці нічым ня скончыліся. Месца схованкі ведаў толькі адзін чалавек — Адамовіч. Ён склаў пісьмовую заяву літоўскім уладам, што ў выпадку дамоўленасьці гатовы паказаць, дзе схаванае золата. Заяву гэтую Разумовіч узяўся перадаць у надзейныя рукі.

Выехаўшы праз Рыгу ў Коўна, Разумовіч быў вымушаны спыніць выкананьне пляну, бо на літоўскай мяжы быў імгненна ар

# 1918

10 сьнежня — бальшавікі займаюць Менск
24 сьнежня — Урад БНР выяжджае зь Вільні ў Горадню

# 1919

1 студзеня — VI Паўночна-Заходняя канфэрэнцыя РКП(Б) абвяшчае ў Смаленску Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку Беларусь у складзе Віцебскай, Горадзенскай, Магілёўскай і Менскай губэрняў і беларускіх паветаў Віленскай, Ковенскай і Смаленскай губэрняў
11 студзеня — СНК РСФСР прымае дэкрэт аб прадразьвёрстцы на сельгаспрадукты
18 студзеня — пачынае працу Парыская мірная канфэрэнцыя
1 лютага — пачынаюцца заняткі ў Віленскай беларускай гімназіі
27 лютага — бальшавікі скасоўваюць ССРБ і ствараюць Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Літвы і Беларусі (ЛітБел), забраўшы зь яе складу Віцебскую і Магілёўскую губэрні і далучыўшы іх да Расеі
10 сакавіка — бальшавікі абвяшчаюць Украінскую ССР з сталіцай у Харкаве
19 красавіка — палякі займаюць Вільню
28 красавіка — палякі займаюць Горадню
29 красавіка — прэм’ера БНР Антона Луцкевіча ў Празе прымае прэзыдэнт Чэхаславаччыны Томаш Масарык
24 траўня — Луцкевіч выяжджае ў Парыж для ўдзелу ў мірнай канфэрэнцыі

9–11 чэрвеня — у Вільні праходзіць Беларускі зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны
8 жніўня — палякі займаюць Менск
20 жніўня — у Закапаным у польскіх Татрах памірае Іван Луцкевіч
1 верасьня — на запрашэньне польскага прэм'ера Ігнацыя Падэрэўскага Антон Луцкевіч прыяжджае ў Варшаву з Парыжу, куды ўжо ня здолее вярнуцца
19 верасьня — прыезд начальніка Польскай дзяржавы Юзэфа Пілсудзкага ў Менск
23 кастрычніка — утвараецца Беларуская вайсковая камісія для фармаваньня беларускіх частак у польскім войску
12 лістапада — у Менску адкрываецца сэсія Рады БНР

## «Всякий, идущий против Советской власти, подлежит расстрелу»

«Партызанскія атрады» ўзялі пад кантроль найважнейшыя аб'екты Менску 9 сьнежня, атрымаўшы ад нямецкай Салдацкай рады тысячу вінтовак. Першыя часткі бальшавіцкіх войскаў увайшлі ў горад 10 сьнежня.

У той самы дзень губэрanскі рэўком выдаў загад:

«Правительство белорусских помещиков и капиталистов — «Белорусская рада» — объявляется низложенной и распущенной. Все члены этого правительства подлежат аресту и немедленной передаче в руки Военно-революционного комитета.

Все городские думы и земства объявляются распущенными и назначаются комиссары городского хозяйства.

По всей Минской губ. восстанавливается власть Советов и всякий, идущий против Советской власти, считается врагом народа и подлежит расстрелу.

Все распоряжения Военно-революционного комитета и его эмиссаров подлежат беспрекословному выполнению под страхом тягчайшей революционной кары.

Рабочие и крестьяне призываются бдительно стоять на страже революции и Советской власти и беспощадно расправляться с белогвардейцами и контрреволюционерами».

## Пачатак доўгага выгнаньня

Выезд незалежнікаў, у адрозьненьне ад панічных уцёкаў зь Менску бальшавікоў у лютым, быў спакойным і арганізаваным.

З выездам дзеячоў БНР зь Менску ў Вільню на пачатку сьнежня 1918 году пачынаецца доўгае выгнаньне беларускай незалежніцкай палітыкі зь беларускай зямлі. Кароткі эпізод вяртаньня ў 1919–1920 гадох падчас польскай акупацыі Беларусі будзе таксама толькі адной з шматлікіх станцыяў на гэтай дарозе — бо дзяліць уладу зь беларусамі палякі і блізка не зьбіраліся і былі ў гэтым сэнсе горшыя і за немцаў.

## Зь Вільні ў Горадню

У Вільні Рада Народных Міністраў БНР таксама затрымалася ненадоўга. Немцы рыхтаваліся пакінуць горад і перадаць яго бальшавікам. Аддзелы польскай самаабароны, не чакаючы адыходу немцаў, 31 сьнежня пераняялі кантроль над большай часткай гораду. Заставаліся ў Вільні і літоўцы, якія 1 студзеня 1919 году сымбалічна вывесілі над Замкавай гарой літоўскі трыкалёр і тут жа эвакуаваліся зь немцамі ў Коўна.

У першыя дні новага году спрабавалі змагацца за ўладу і мясцовыя камуністы, якія акапаліся ў доме на вуліцы Вароняй, адкуль іх неўзабаве выбілі польскія легіянэры. Урэшце зь Вільні мусілі ўцякаць і палякі — 5 студзеня ў горад увайшлі бальшавікі.

«Брудныя, касавокія, у парваных шынэлях, каму ледзь да каленаў шынэлі даставалі, у другіх амаль па зямлі валачыліся. Ружжы на шнурах віселі праз плячо. “Божа мой, — думала я, — і гэтыя абадраныя банды хочуць сьвет заваяваць!”», — так іх пабачыла вільнянка Юльяна Дубейкаўская.

Беларускія палітыкі гэтых падзеяў ужо не засьпелі — яшчэ 27 сьнежня яны выехалі ў Горадню, усё яшчэ занятую немцамі.

## Луцкевіч зь міністрамі ў паднямецкай літоўскай Горадні

Горадня была занятая ня толькі немцамі. Горадня і Горадзеншчына разьмяшчалася на тэрыторыі, якая тады была належала новастворанай Літоўскай Дзяржаве. Апошнюю Нямеччына афіцыйна прызнала яшчэ 23 сакавіка 1918 году.

У лістападзе, калі Нямеччына ўжо прайграла вайну і вызваленьне акупаваных тэрыторыяў было пытаньнем месяцаў, калі ня тыдняў, Літва прыняла часовую канстытуцыю, утварыўся ўрад. У Літоўскую Дзяржаўную Раду (Тарыбу) былі кааптаваныя шэсьць прадстаўнікоў Віленскай беларускай рады. Пры ўрадзе было ўтворанае Міністэрства беларускіх справаў на чале зь Язэпам Варонкам.

У беларускія паветы Літвы міністэрства прызначыла сваіх камісараў. У такой Горадні і апынуўся ў канцы сьнежня старшыня Рады Народных Міністраў Антон Луцкевіч і некалькі міністраў ягонага кабінэту.

## Варонка знаходзіць сабе іншую дзяржаву

За часы сядзеньня ў Горадні ўся дзейнасьць Ураду БНР абмежавалася напісаньнем пратэстаў супраць улучэньня этнаграфічных беларускіх тэрыторыяў у склад Польшчы і супраць усеагульнай мабілізацыі ў Вільні, абвешчанай польскім вайсковым камандаваньнем.

Беларускі прэм’ер бараніў патэнцыйную тэрыторыю Беларускай Народнай Рэспублікі. А ў тым самым часе новасьпечаны міністар беларускіх справаў літоўскага ўраду Язэп Варонка (усяго за год перад тым — першы старшыня Народнага Сакратарыяту БНР!) бараніў ад палякаў тэрыторыі Літоўскай Дзяржавы: Горадзенскі, Сакольскі, Беластоцкі, Бельскі, Ваўкавыскі, Белавескі і Слонімскі паветы старой Горадзенскай губэрні, Аўгустоўскі павет Сувальскай і Лідзкі павет колішняй Віленскай губэрні — яны і былі на пачатку 1919 году ў юрысдыкцыі Міністэрства беларускіх справаў.

## Абвяшчэньне савецкай Беларусі электрызуе БНР

У Горадні дзеячы БНР даведаліся і пра здарэньне, якое адбылося ў Смаленску 1 студзеня 1919 году, праўда, мясцовыя газэты паведамілі пра гэта толькі празь дзесяць дзён: бальшавікі абвясьцілі аб стварэньні незалежнай савецкай Беларускай Рэспублікі. «Гэта ўсіх нашых так наэлектрызавала, што ўсе як адзін гатовыя ехаць у Менск і працаваць разам з бальшавікамі. Гэта ж настраеньне выявілася

і на засяданьні Рады», — піша Антон Луцкевіч у сваім дзёньніку.

Наваствораная «незалежная» савецкая Беларусь неўзабаве абвесьціць пра фэдэрацыю з Савецкай Расеяй і прыняцьце савецкай канстытуцыі. «Усё ж гэта наша вялікая пабеда: усё праводзіцца паводле рэцэпту, аб якім я ў Кіеве трактаваў з Ракоўскім», — не хавае свайго энтузіязму Антон Луцкевіч.

## Сталін думае пра Беларусь

Сэнс і мэту абвяшчэньня ССРБ вызначыў Сталін у дакладзе на пасяджэньні Ўсерасейскага ЦВК за суткі да перадачы будучаму кіраўніку савецкай Беларусі Мясьнікову паведамленьня аб рашэньні ЦК РКП(б) стварыць Беларускую савецкую рэспубліку:

«Теперь Советская Россия переживает период постепенного революционного самоопределения окраин, которое завершается добровольным, братским присоединением их к Российской Республике… Принцип самоопределения путем взятия власти самим народом — этот принцип является тем единственным путем, при помощи которого возможно восстановление единства России и определение мощи Советской России».

Гэта на тэму «Сталін думае пра Беларусь».

## Курс — на Парыж

Тым часам у Парыжы рыхтавалася падзея, якая мелася падвесьці рысу пад Першай сусьветнай вайной — Мірная канфэрэнцыя дзяржаваў-пераможцаў. Зь ёй зьвязвалі вырашэньне сваёй палітыч-

най будучыні новыя краіны Ўсходу Эўропы, якія ўзьніклі на руінах былых імпэрыяў.

Даручэньне паехаць на Парыскую канфэрэнцыю Антон Луцкевіч атрымаў ад Рады БНР яшчэ ў Менску, аднак узьніклі праблемы з атрыманьнем ад нямецкіх акупацыйных уладаў адпаведнага пропуску, а галоўнае — не было грошай. Генэрал Кіпрыян Кандратовіч — галоўнакамандуючы так і ня створанага Беларускага войска — выклікаўся ехаць у Парыж сваім коштам.

## Новае паняволеньне будзе яшчэ горшае

Кандратовіч выехаў у Парыж (дакладней — у бок Парыжу, а пакуль што ў Бэрлін) 4 лютага 1919 году і павёз з сабой Мэмарыял Беларускага Ўраду старшыні Мірнай канфэрэнцыі, які Антон Луцкевіч пісаў і дапрацоўваў амаль цэлы месяц.

«Пад той час, як прынцып самаазначаньня нацыянальнасьцей сьвяткуе пабеду на ўсенькім сьвеці — дванаццацімільённы Беларускі народ, некалі вольны і незалежны, а пасьля паняволены суседзямі і толькі цяпер паўстаўшый дзеля адбудовы сваей нацыянальнай культуры і дзяржаўнасьці, стаіць перад пагрозай новага паняволеньня — яшчэ горшага за колішняе…» — гаварылася ў Мэмарыяле.

Урад БНР заклікаў «разьвязаць на Мірнай канфэрэнцыі беларускае пытаньне ва ўсёй яго шырыні», а таксама дапусьціць на канфэрэнцыю дэлегацыю БНР. І сапраўды — чаму б не дапусьціць для ўдзелу ў канфэрэнцыі прадстаўнікоў Беларусі, калі сярод афіцыйных краінаў-удзельніц былі, напрыклад, Балівія, Гватэмала, Гаіці, Хіджаз, Лібэрыя, Сіям…

## Дзіўнаватая дэлегацыя, але іншай няма

Сьледам за Кандратовічам Луцкевіч высылае ў Парыж Аляксея Азнабішына, які сам запрапанаваў свае дыпляматычныя паслугі. «Стаіць на грунце дэклярацыі, каторую мае вязьці ген. Кандратовіч. Мала таго: стаіць на тым, што цэласьць Беларусі ад польскіх апэтытаў можна бараніць толькі ў імя Беларусі, але не Расеі», — аптымістычна зазначае Луцкевіч.

Азнабішын — дэпутат IV Дзяржаўнай думы ад Горадзенскай губэрні, дзе ўваходзіў у фракцыю расейскіх нацыяналістаў і памяркоўна правых.

Чыноўнікам для спэцыяльных даручэньняў пры дэлегацыі быў прызначаны Леанід Баркоў, пра якога наагул не вядома амаль нічога.

## Антон Луцкевіч у бальшавікоў

Горадзенскае «сядзеньне» Антона Луцкевіча нарэшце скончылася 18 лютага — зь Вільні прыйшла вестка, што стан здароўя брата Івана рэзка пагоршыўся. Антон «ураз сабраўся і назаўтра паехаў».

У бальшавіцкай Вільні беларускі прэм'ер прабыў пару тыдняў:

«Прыглядаўся да кіпеўшай тут працы, інфармаваў аб тым, што дзеецца “на захадзе”… Тым часам прыехалі з Горадні кур'еры Алексючанка і Курбскі зь весткай, што ў Горадню тэлефанаваў з Коўна Цьвікевіч, каб я зараз варочаўся. Прадстаўнікі майго ўраду Цьвікевіч, Смоліч і Захарка прыехалі ў Бэрлін з Украіны і прывезьлі грошы, пазычаныя

майму ўраду ўрадам Пятлюры. Дык ёсьць магчымасьць ехаць у Парыж на міравую канфэрэнцыю. Атрымаўшы гэту вестку, я мусіў разьвітацца з Іванам і Вільняй ды ехаць».

### Савецкая Ўкраіна блякуе УНРаўскую пазыку

У Горадні Луцкевічу давялося затрымацца яшчэ на добры тыдзень, чакаючы Цьвікевіча з украінскімі акрэдытывамі. Гэтае чаканьне дорага абышлося: калі ўжо ў Бэрліне Луцкевіч прыйшоў у нямецкі банк атрымаць на акрэдытыў грошы, выявілася, што за некалькі дзён да таго ўрад Украінскай ССР (абвешчанай 10 сакавіка) наклаў сэквэстар на ўсе актывы ўраду УНР у нямецкіх банках.

Так былі страчаныя 1 666 000 нямецкіх марак украінскай пазыкі. Давялося паслаць Цьвікевіча і Зайца ў Вену па другую частку пазыкі — 3 000 000 кронаў — выпісаную на аўстрыйскі банк. Да Вены бальшавіцкія рукі яшчэ былі не дацягнуўшыся, і грошы ўдалося атрымаць. Але з усіх гэтых прычынаў Луцкевіч праседзеў у Бэрліне ад канца сакавіка аж да чэрвеня.

### Бэрлін — сталіца БНР

У Бэрлін беларускія ўрадоўцы выехалі 20 сакавіка — пакінуўшы землі абвешчанай за год да таго Беларускай Народнай Рэспублікі.

На другі дзень на першым паседжаньні Рады Народных Міністраў БНР у Бэрліне было вырашана, што ў выпадку акупацыі Горадні беларускі ўрад мае пераехаць далей на літоўскую тэрыторыю,

калі будзе немагчыма затрымацца ў іншым пункце тэрыторыі беларускай. Аднак фактычна ўвесь урад на той момант апынуўся ў Бэрліне, які на некалькі месяцаў стане чарговай «сталіцай» БНР.

## Што пра сустрэчу з Масарыкам піша Луцкевіч

Чакаючы выезду ў Парыж, Антон Луцкевіч пад'ехаў з Бэрліну ў Прагу і 29 красавіка нанёс візыт прэзыдэнту Томашу Масарыку:

«Масарык прыняў мяне зь незвычайнаю сардэчнасьцю і нейкаю прастатою… Ён са шчырым спачуваньнем паставіўся да нашых спраў. Між іншым, са смуткам адзначыў, што Польшча, якая лёгка магла б пасьля Расеі заняць месца правадыра славянства, пра гэтую ролю абсалютна не клапацілася.

З уласьціваю чэхам практычнасьцю Масарык сам закрануў пытаньне пра дыпляматычную дапамогу з боку чэскай місіі. „У Парыжы, — казаў, — цяпер знаходзіцца Бэнэш, і зь ім трэба абавязкова скантактавацца. Праўда, там знаходзіцца і наш прэм'ер Крамарж, але гэта масквафіл старое даты, апошні з магіканаў. Зь ім пра вашы справы размаўляць ня варта… А Бэнэш будзе ахвотна вам служыць сваёю парадаю і падтрымкаю на міжнародным абшары. За гэта я ручаюся".

Аўдыенцыя працягвалася амаль дзьве гадзіны. Пры разьвітаньні Масарык яшчэ раз запэўніў мяне ў сваіх беларускіх сымпатыях і абяцаў, што як толькі беларускі ўрад умацуецца, Чэхаславакія адразу ж установіць зь ім дыпляматычныя адносіны».

## Што пра сустрэчу з Луцкевічам піша Масарык

Назаўтра Масарык паслаў інструкцыі Бэнэшу (дакумэнт знайшлі чэскія дасьледнікі Даніела Колэнаўска і Міхал Плавэц):

«Быў у мяне ўчора прэм'ер Беларускай рэспублікі. Яны дамагаюцца нашай маральнай, а наколькі можна, і палітычнай дапамогі. Яны прыйдуць да Вас, выкладуць сваю справу і пададуць мэмарандум.

Гэтая Беларуская рэспубліка ёсьць плодам расейскага распаду; яны мусілі б застацца расейцамі і баста! Як украінцы; але Расея распалася, а таму цяпер арганізацыя гэтых краёў лепшая, чым распад пад маскоўскім штучным цэнтралізмам! Таму мы, не паглыбляючыся ў філялёгію і ўнутраную адміністрацыю, прымаем status quo. З гэтага гледзішча я іх запэўніў, што мы будзем рады зь імі гандляваць і г. д.

Аднак асьцярожна з палякамі, якія ў нашай нэўтральнасьці ўбачаць антыпольскасьць, бо яны хочуць завалодаць беларускай тэрыторыяй. І яшчэ асьцярожна з доктарам Крамаржам, чыё русафільства магло б адпалохаць і беларусаў, і ўкраінцаў».

## У Парыж беларусы безнадзейна позьняцца

Урэшце толькі ў канцы траўня зь Вены прывезьлі грошы, і Антон Луцкевіч 24-га мог выехаць у Парыж. Дый папярэдняя дэлегацыя — Кандратовіч, Азнабішын і сакратар Баркоў — выехала з Бэрліну толькі 29 красавіка. На той момант канфэрэнцыя працавала ўжо чацьвёрты месяц, магчымыя

канкурэнты беларусаў — палякі, літоўцы, антыбальшавіцкія расейцы — ужо выклалі, дзе маглі, свае пазыцыі.

Беларусы і так мелі вельмі мала шанцаў нечага ў Парыжы дасягнуць, а да таго яшчэ і безнадзейна спазьніліся.

## Ленін думае пра Беларусь

Пра тое, што адбывалася ў першыя месяцы 1919 году на Ўсходзе, у Архівах БНР амаль ня згадваецца. Тым часам абвешчаная на Новы год беларуская «нібы-рэспубліка» была здадзеная на гістарычны мэталалом, а замест яе 27 лютага створаная такая самая папяровая «літоўска-беларуская» савецкая рэспубліка. Ад Беларусі ў ёй засталося няшмат.

Як тлумачыў завадатар сусьветнай рэвалюцыі У. Ленін, «Республика буферная и нужна постольку, поскольку граничит с другими странами. Поскольку Смоленск, Витебск и Могилев не граничат, постольку их можно исключить».

Гэта на тэму «Ленін думае пра Беларусь».

## Палякі думаюць пра Беларусь

Пра Беларусь думалі ня толькі ў Маскве, але і ў Варшаве. Сусьветная рэвалюцыя, якая паўзла на захад з адступленьнем нямецкіх войскаў, на тэрыторыі Беларусі наткнулася на палякаў. Ужо ў сярэдзіне лютага польскія вайсковыя аддзелы выйшлі да заходніх межаў Беларусі, а ў сакавіку рушылі на ўсход. 19 красавіка яны занялі Вільню, 28 кра-

савіка — Горадню, 8 жніўня — Менск. Пачалася польская акупацыя Беларусі.

## Расейскія жарты

30 траўня старшыня Рады Народных Міністраў БНР ужо вядзе палітычную дзейнасьць у Парыжы. Сярод першых кантактаў — апошні пасол дэмакратычнай Расеі ў Францыі Васілій Маклакоў. Той апісаў стаўленьне да БНР так: «Акт аб незалежнасьці Беларусі быў аднабаковы, і з гэтай прычыны Расея яго ня можа лічыць правамоцным: гэткім ён мог бы стацца толькі тады, калі б яго пацьвердзіла Агульнарасейская Канстытуанта (Устаноўчы Сход. — С. Ш.). Цяпер жа, — дадаў Маклакоў жартліва, — вы проці нас бунтаўшчыкі!»

## Тамаш Грыб атрымлівае найшырэйшыя паўнамоцтвы

Асірацелая пасьля ад'езду старшыні Рада Народных Міністраў засядае ў Коўне. Грашовая сытуацыя ўраду палепшылася, і міністры занял іся дзяржаўнай творчасьцю. Так, пры Міністэрстве ўнутраных справаў «дзеля барацьбы з націскам варожых сіл і абароны незалежнасьці і непадзельнасьці» быў створаны Агітацыйна-палітычны аддзел, начальнікам якога быў прызначаны радны Рады БНР Тамаш Грыб. Яму быў вызначаны аклад і дадзеныя зайздросныя паўнамоцтвы:

«Тамаш Грыб мае права прызначаць і звальняць урадавых палітычных павятовых і губэрнскіх камісараў, а таксама ў надзвычайных мамэнтах аб-

вяшчаць ад імя Беларускага Ўраду Рады Народных Міністраў вышэйшую дзяржаўную ўладу на мяйсцох і арганізацыю збройнае сілы дзеля падтрыманьня гэтае ўлады».

## Беларусы зноў успамінаюць пра ВКЛ

Першым палітычным крокам беларускага грамадзтва, якое апынулася пад польскай уладай, стаўся Беларускі зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны 9–10 чэрвеня. Зьезд, які адбыўся «ў нашай старой сталіцы Вільні», выказаўся за незалежнасьць і непадзельнасць Беларусі, падтрымаў ідэалы БНР, даслаў Радзе Народных Міністраў прывітальную тэлеграму.

Зьезд абраў Цэнтральную беларускую раду Віленшчыны і Горадзеншчыны. Яна згадзілася працаваць пад кіраўніцтвам Ураду БНР, які залічыў яе сваёй нацыянальна-дзяржаўнай установай. Апрача таго, зьезд у сваёй рэзалюцыі палічыў пажаданым адбудаваць супольную Беларуска-Літоўскую Дзяржаву «пры найбольшай згодзе і эканамічнай лучнасьці» яе народаў.

## Літоўцы думаюць пра Беларусь

Літоўцам, якім давялося адступіць з «сваёй старой сталіцы Вільні», ідэя аб нейкай адбудове супольнай Беларуска-Літоўскай Дзяржавы нават не прыходзіла ў галаву. У Парыжы адбылася першая беларуска-літоўская дыпляматычная «калізія».

Літоўцы адмовіліся ад удзелу ў агульнай канфэрэнцыі місіяў пострасейскіх дзяржаваў (Латвія,

Эстонія, Беларусь, Украіна, Грузія), бо ў канфэрэнцыі бяруць удзел дэлегаты Беларускай Рэспублікі, «якія патрабуюць для сябе большую частку літоўскай тэрыторыі з сталіцай Вільняй». Дзеля таго, што з тымі беларусамі дагэтуль не ўдалося прыйсьці да згоды, Літоўская місія паведамляе, што яна «пакуль што ня лічыць магчымым браць удзел у вышэй памянёных канфэрэнцыях».

Застаецца дадаць, што ў складзе Літоўскай місіі быў і «правільны» беларус — былы віленскі брандмайстар Дамінік Сямашка.

## Костка ў горле

Пралітоўскі беларус Сямашка падаў Мірнай канфэрэнцыі мэмарандум, «датычны беларусаў у Літоўскай дзяржаве». У ім ён запэўніў, што беларусы лічаць сваім абавязкам працаваць разам зь літоўцамі над аднаўленьнем агульнай зь імі Літоўскай дзяржавы. Межы гэтай дзяржавы, паводле Сямашкі, мусяць прайсьці па межах Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Сувальскай губэрняў. Гэта фактычна азначала згоду на падзел Беларусі і анэксію часткі яе тэрыторыі Літвой.

Мэмарандум выклікаў вялікае незадавальненьне і пратэсты беларускіх палітыкаў, якія спадзяваліся на супрацоўніцтва зь літоўцамі ў справе пабудовы супольнай дзяржавы больш-менш у межах ВКЛ.

Сакратар Рады БНР і паўнамоцны прадстаўнік для перамоваў зь Літвой Пётра Крачэўскі ўвесь чэрвень 1919 году правёў у перамовах зь літоўскімі ўрадоўцамі і ня здолеў дамовіцца абсалютна ні пра што. У справаздачы Крачэўскі прапануе ўжыць «на-

лежныя крокі да скасаваньня шкоднай нам і нават зусім незразумелай палітыкі літвіноў, зарваўшыхся ў сваіх апэтытах, мусі таксама, як і палякі, але ніхай ведаюць, што Беларусь вялікая і можа стаць косткай у горле».

## Не да ВКЛ

Крачэўскі надалей, сьціснуўшы зубы, спрабаваў весьці дыялёг зь літоўскім МЗС, патрабуючы ясных адказаў на галоўныя пытаньні: ці гатовы літоўскі ўрад весьці зь беларускім салідарную акцыю ў замежнай палітыцы, ці гатовы супрацоўнічаць у арганізацыі беларускага войска і ці гатовы даць частку сваёй тэрыторыі для фармаваньня такога войска.

Літоўцы як мага больш ухілiста адказваюць на першыя два і адмоўна на трэцяе — «з прычыны яўнага недахопу прадуктаў харчаваньня і значнага зруйнаваньня краіны за час акупацыі». У адказ Крачэўскі пытаецца ў лоб: ці сапраўды літоўскі ўрад хоча анэксаваць Віленшчыну і Горадзеншчыну — спакон вякоў беларускія землі? На гэтае пытаньне літоўскі ўрад вырашыў не адказваць.

Так нашчадкі ВКЛ дзялілі землі, якія ўжо і так былі страцілі і не пабачаць іх аж да 1939 году.

## Палякі бяруць Менск

Уваход у Менск польскага войска апісаў віленскі тыднёвік «Беларускае Жыцьцё»:

«8-е жніўня сустрэлі ўсе страшэнна блізкай гарматнай кананадай, перайшоўшай а гадз. 6-й у кулямётную страляніну пад самым Менскам.

Неспадзяванае для насяленьня наступленьне палякоў пачалося і кожную хвіліну пагражала перайсьці ў бой на вуліцах, аб чым так моцна крычэлі паны “камісары”.

Вуліцы спусьцелі ўміг. Людзі зашыліся ў хаты і з трывогай чакалі канца, баючыся толькі аднаго, каб палякі і на гэты раз не адступілі і не раздражнілі гэтым ужо і без таго шалёных “таварышаў”.

Нібавам страляніна перайшла ў места, пасыпаліся шрапнэлі і пачуўся ў розных канцох трэск кулямётаў.

Страшэнна шыбка перасоўвалася рухомая пазыцыя ў бок вакзалаў, аж урэшце змоўкла зусім.

Ціш на ўсім месьце сьведчыла аб заняцьці Менску палякамі і ўцёках народных камісараў.

А 4-й гадзіне дня ўжо народ высыпаў у места аглядаць сваіх збаўцаў ад “чырвонага” разбойнічага тэрору.

Першымі днямі горад выглядаў пустынна і рабіў прыкрае ўражаньне. Крамы былі пазачыняны, вітрыны ў крамах пустыя. Народу на вуліцах было мала.

Праз тыдзень горад прыняў нармальны выгляд. Адчыніліся крамы, зьявіліся тавары.

## Чарговае вызваленьне

8 жніўня польскія войскі занялі Менск у выніку апэрацыі пад камандаваньнем генэрала Станіслава Шаптыцкага (брата ўкраінскага мітрапаліта Андрэя) з удзелам, сярод іншага, палка ўланаў пад камандай падпалкоўніка Ўладыслава Андэрса (таго

самага, чыя армія — Корпус Андэрса — праславіцца ў гады Другой сусьветнай вайны і ў якой будзе служыць нямала беларусаў).

9 жніўня ў горад прыбыў генэрал Шаптыцкі з штабам, а 10-га былі арганізаваныя ўрачыстасьці з нагоды вызваленьня гораду.

15 верасьня была ўтвораная Менская акруга Цывільнай управы Ўсходніх земляў — адміністрацыйнай адзінкі на акупаваных, але не інкарпараваных у Польшчу тэрыторыях.

## Бальшавікоў няма, можна вяртацца

У Менск пачалі вяртацца беларускія дзеячы і радныя Рады БНР, якія былі абвешчаныя бальшавікамі па-за законам. Ужо 10 жніўня быў заснаваны часовы Беларускі нацыянальны камітэт, у які ўвайшлі прысутныя ў Менску радныя, а таксама прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў, якія існавалі пад бальшавікамі нелегальна — Культурна-навуковага таварыства, Хрысьціянска-дэмакратычнай злучнасьці, Першага таварыства драмы і камэдыі, Вучыцельскага хаўрусу ды іншых. Старшынём камітэту быў абраны Аляксандар Прушынскі (паэт Алесь Гарун).

Беларускія незалежнікі зноў на кароткі час — менш чым на год — апынуліся ў Менску. У параўнаньні зь нямецкай польская акупацыя была праблемай больш сур’ёзнай, бо, у адрозьненьне ад немцаў, побыт якіх у Беларусі быў часовы, палякі рэальна прэтэндавалі на занятыя землі.

## Дзяўчына з грашыма

Рада Народных Міністраў у сваім мінімальным складзе — 2–4 чалавекі — тым часам працавала ў Бэрліне пад кіраўніцтвам выканаўцы абавязкаў старшыні Васіля Захаркі на базе надзвычайнай дыпляматычнай місіі БНР.

Яскравым эпізодам стала вартая гістарычнага кінатрылеру акцыя ўратаваньня пазыкі, замарожанай у нямецкім банку. Галоўнай гераіняй сюжэту была кур'ерка Аўгіньня Алексючанка, якая мелася знайсьці на шырокіх усходнеэўрапейскіх абшарах урад УНР, перапісаць акрэдытыў зь нямецкага банку на аўстрыйскі і жывою вярнуцца, адолеўшы ўсе перашкоды і небясьпекі.

## Прыгожая ідэя

Няўдача ў спробе дамовіцца аб супольнай працы зь Літвой прымусіла беларускіх палітыкаў шукаць падыходы да дзьвюх іншых суседніх новаўтвораных краінаў — Латвіі і Эстоніі. Туды з адмысловай місіяй быў пасланы дыпляматычны прадстаўнік БНР Кузьма Цярэшчанка.

Пасьля перамоваў і кансультацыяў зь міністрамі і прэм'ерамі гэтых балтыйскіх краінаў было дамоўлена, што латыскае войска пасьля вызваленьня Латвіі прасунецца на беларускія землі, і гэткім чынам будуць вызваленыя ад бальшавікоў паветы Люцынскі, Дрысенскі, Себескі, «а можа і места Полацак». На беларускіх землях латыскія войскі застануцца да таго часу, пакуль Беларускі ўрад не

арганізуе сваёй вайсковай сілы, здольнай стрымліваць націск бальшавікоў.

Што да цывільнай улады, то яна адразу будзе перададзеная Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтыя пляны падмацоўваліся і паведамленьнямі аб паўстаньні беларускай «зялёнай арміі» на Дзісеншчыне. Аднак, апрача глыбокай выведкі і кароткіх набегаў на часткі РККА ў раёне Дрысы, латыскія войскі ніякіх наступальных апэрацыяў не прадпрымалі, і прыгожы праект «беларускага П'емонту» застаўся толькі ў плянах і марах.

## Новая місія палкоўніка Езавітава

З прычыны раптоўнай важнасьці балтыйскага кірунку беларускай дыпляматыі была заснаваная Вайскова-дыпляматычная місія БНР у Латвіі на чале з Кастусём Езавітавым з мэтай рыхтаваць збройныя сілы для апэрацыяў з тэрыторыі Латвіі.

Прымаючы пад увагу, што для рэпрэзэнтацыі місіі яе вайсковым супрацоўнікам трэба мець адмысловую беларускую форму, было вырашана выдаць палкоўніку Езавітаву і падпалкоўніку Шоўкаваму, а таксама сакратару місіі Чарапуку — у парадку выключэньня з агульнага парадку — аднаразовую дапамогу на «беларускую абмундзіроўку».

У такой форме выступае Езавітаў на вядомай фотцы зь сьнежня 1919 году — з увагі на пышнасьць афармленьня выглядае, што дызайнэрам «абмундзіроўкі» быў ён сам.

## Луцкевіча падманам выцягваюць з Парыжу ў Варшаву

Пакуль прэм’ер Луцкевіч вёў у Парыжы безнадзейную барацьбу за беларускае палітычнае існаваньне, сытуацыя на месцы чарговы раз зьмянілася. Польскія вайсковыя аддзелы занялі Беларусь да Бярэзіны. Узьніклі ўмовы для аднаўленьня палітычнай працы на месцах, што пад бальшавіцкай акупацыяй было немагчыма.

У такіх умовах Луцкевіч сустракаецца ў Парыжы з польскім прэм’ерам Ігнацым Падэрэўскім, гаворыць зь ім як «роўны з роўным» і згаджаецца на ягоную прапанову прыехаць у Варшаву і «згаварыцца на месцы». Прыехаўшы ў Варшаву 1 верасьня, Луцкевіч заўважае, што там зь ім ужо ніхто як «роўны з роўным» не гаворыць…

## Эсэфы ў Бэрліне займаюцца самадзейнасьцю

Пакуль Луцкевіча вадзілі за нос польскія палітыкі, ён на нейкі момант страціў кантроль над узначальванай ім Радай Народных Міністраў. Застаўшыся без дагляду ў Бэрліне, эсэфы (сацыялісты-фэдэралісты) Захарка і Крачэўскі працягвалі імправізаваць на тэмы дыпляматыі.

Так, надзвычай важная місія прадстаўляць БНР у Вялікай Брытаніі і далей у ЗША была даручаная дзейнаму літоўскаму міністру Язэпу Варонку (таксама эсэфу). Быў новапрызначаны пасол азнаёмлены і з сакрэтнай урадавай перапіскай. Яшчэ адзін удзельнік бэрлінскіх паседжаньняў — Кузьма

Цярэшчанка, даўні зацяты вораг Варонкі — паклапаціўся, каб Луцкевіч даведаўся аб гэтых кроках у самых драматычных фарбах.

Рэакцыя прэм'ера была бязьлітаснай: прызначэньне Варонкі ануляваць, а Захарку адхіліць ад пасады намесьніка старшыні ў сувязі «з выдачаю члену ўраду варожай нам дзяржавы тайнай дыпляматычнай перапіскі». Пасьля жарсьці крыху астынуць, але адносіны паміж беларускімі палітыкамі будуць надалей пагаршацца, пакуль усё ня выбухне ў Менску 13 сьнежня.

## Пілсудзкі дэкляруе прыхільнасьць

Празь месяц пасьля заняцьця палякамі Менску ўрэшце пачала прачынацца ад палітычнага сну Рада БНР. 5 верасьня сабраўся Сэньёрэн-канвэнт (рада кіраўнікоў фракцыяў) і пастанавіў адкрыць канцылярыю Рады, пачаць рэгістрацыю радных і рыхтаваць збор усёй Рады.

19 верасьня дэлегацыя Сэньёрэн-канвэнту была прынятая начальнікам Польскай дзяржавы Юзэфам Пілсудзкім, які ў тыя дні наведваў Менск. Дэлегацыя прасіла згоды на аднаўленьне дзейнасьці дзяржаўных органаў БНР — Рады Рэспублікі і Ўраду — на акупаванай тэрыторыі.

Пілсудзкі запэўніў гасьцей, што ён ёсьць «дэкляраваным прыхільнікам беларускай справы і гатовы заўсёды дапамагаць беларусам у іхнай рабоце». Аднак прызнаць дзяржавы, якіх яшчэ не прызналі краіны Антанты, Польшча ня можа.

## Тым часам палажэньне ў Менску робіцца нецярпімым

Красамоўнае апісаньне стану беларускай справы ў падпольскім Менску падае Макар Косьцевіч у лісьце Антону Луцкевічу ў Варшаву:

«Маем мы тутака Камітэт, які ёсьць нічым іншым, як кавалкам ачуняўшае Р.Б.Н.Р. Маем “Звон”, які можам выдаваць ледзьве-ледзьве тры разы на тыдзень. Прычына беднасьць. Навет у сэрцы Беларусі отдзе-ка мы ня можам рэгулярна выпускаць штодзённую газэту… Я ўжо тры дні не абедаю і трэцюю ноч мучуся ад бяссоньніцы, а да дохтара схадзіць ня маю за што. Мне брыдка пісаць табе пра гэта… Я не хацеў бы быць такім прарокам, але калі працягнецца так яшчэ месяц-два, дык мы разьбяжымся, як палявыя мышы ўвосень. Работы непачаты край, але сіл няма рабіць яе…»

У падобным тоне дакладае прэм’еру і Антон Аўсянік:

«Тутака няма з кім працаваць, бо людзі займаюцца толькі тым, што шукаюць грошы на абед або служаць польскімі чыноўнікамі. Палажэньне робіцца нецярпімым…»

## У Закапаным памірае Іван Луцкевіч

Да непрыемных дзяржаўных клопатаў Антона Луцкевіча дадаліся і сямейныя: 20 жніўня, калі прэм’ер быў яшчэ ў Парыжы, у Закапаным у польскіх Татрах памёр брат Іван, якога доўгія гады мучылі сухоты. З Варшавы Антон на пачатку кастрычніка выехаў у Вільню дзеля ўшанаваньня памяці брата.

У касьцёле Сьвятога Яна 6 кастрычніка ксёндз Адам Станкевіч адслужыў жалобную імшу «за душу сьв. памяці Івана Луцкевіча». Пасьля кароткага побыту ў Вільні Луцкевіч вярнуўся ў Варшаву.

## Ня лепш складаюцца беларускія справы і ў Горадні

Паўліна Мядзёлка з Горадні пісала Луцкевічу:

«Зіма ідзе, адзетку ня маю, сільна прастудзілася, а ў кішані толькі адзін рубель — нават на асьпірыну ня маю… Няраз варункі так складаюцца, што трэба пайсьці да людзей, знаёмасьці карысныя завадзіць — то сям, то там бываць, а я… запраўды кельнэрка п. Зянько харашэй апранута, чым я. Прыйшла я са Случчыны пехатою ў Вільню, нічога з сабой не забрала (дый па праўдзе і не было чаго забіраць) і цяпер так абнасілася, што і на свой суботнік нельга пайсьці. Троха паскудна робіцца на душы, гледзячы на іншых — ну, але нічога. Абы хоць маленькую карысьць сабой прынесьці Бацькаўшчыне…»

## Дарога ў Парыж перакрытая

Прэм'ер Падэрэўскі выцягнуў Луцкевіча ў Варшаву «згаварыцца на месцы», а сам тут жа вярнуўся ў Парыж займацца больш сур'ёзнымі размовамі. Луцкевіч чакаў свайго занятага суразмоўніка два месяцы, сустракаўся з драбнейшымі ўрадоўцамі, якія нічога канкрэтнага не абяцалі, сустрэўся нават з Начальнікам Пілсудзкім, але і той візыт ніякіх вынікаў ня даў. Урэшце ня вытрымаў і вырашыў вярнуцца ў Парыж, ажно раптам… палякі адмо-

віліся даць яму дыпляматычную візу на выезд зь беларускім дыпляматычным пашпартам!

Так старшыня Рады Народных Міністраў і міністар замежных справаў БНР апынуўся ў пастцы. А яго чакалі і ў Парыжы, дзе яшчэ працягвалася канфэрэнцыя, і ў Бэрліне, дзе працавала рэшта кабінэту, і ў Менску, дзе рыхтавалася сэсія Рады БНР, і ў Юр'еве-Тарту-Дорпаце, дзе мелася адбыцца важная канфэрэнцыя балтыйскіх краінаў, і Беларусь мог прадстаўляць на ёй толькі ён.

## Ні тэрыторыі, ні сталіцы, ні апарату, ні войска, ні грошай

З варшаўскай пасткі Антон Луцкевіч 29 кастрычніка дасылае маршалку Рады БНР Язэпу Лёсіку справаздачу пра міжнароднае становішча Беларусі ад моманту выезду зь Менску ў сьнежні 1918-га. Вынікам дыпляматычнай працы, паводле Луцкевіча, было «фактычнае», «маўклівае» або «прынцыповае» прызнаньне з боку Ўкраіны, Нямеччыны, Чэхаславаччыны, Латвіі, Эстоніі.

«Наагул, нягледзячы на тое, што ўкраінцы маюць і войска, і кусок тэрыторыі, і свой апарат, і свае грошы — наша справа на міжнародным палітычным рынку стаіць ня горш за ўкраінскую», — крыху закідвае шапкамі Луцкевіч. Але тут жа больш рэалістычна дадае: «Аднак, мы маем і страшэнны minus, каторы для нас становіцца з кожным днём усё больш грозным у меру разьвіцьця нашай справы і насьпяваньня яе разьвязкі. Гэта — тое, што мы ня маем ні тэрыторыі, ні сталіцы, ні апарату, ні войска, ні грошы».

Адзіны ратунак, падсумоўвае Луцкевіч, — «выразна і цьвёрда стаць на дзяржаўным грунце, зрабіць гэта можа толькі Рада Рэспублікі».

## Эсэры паціху закладаюць міну

Адкрыцьцё сэсіі Рады БНР у пачатку лістапада рыхтавалася ледзь не паўпадпольна — дазвол на скліканьне быў, але зьмяшчаць у друку абвесткі не дазвалялася. Польскія ўлады адчувалі сябе няўпэўнена: яны разьлічвалі, што Рада пойдзе на супрацоўніцтва, але не былі да канца перакананыя ў ляяльнасьці беларускіх палітыкаў.

Найбольшую актыўнасьць у падрыхтоўцы сэсіі і ўдзеле ў ёй праявілі эсэры — самая левая беларуская партыя той пары і сіла, найменш схільная ісьці на супрацоўніцтва з акупантамі. Мабыць, эсэры лепш за іншых адчувалі настроі ў шырокіх народных масах, якія ў бальшыні сваёй успрымалі акупацыйны рэжым вельмі варожа. Рэч у тым, што сацыяльныя і этнічныя антаганізмы на «Kresach Wschodnich» выбухнулі з поўнай сілай, не параўнаць зь нядаўнім панаваньнем немцаў, якія ставіліся да мясцовага насельніцтва збольшага абыякава.

## Палкоўнік Езавітаў вэрбуе генэрала Балаховіча

Кіраўнік Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Латвіі палкоўнік Кастусь Езавітаў у канцы кастрычніка — пачатку лістапада выехаў з Рыгі ў Рэвэль і Гэльсынгфорс, дзе правёў дыпляматычны бліцкрыг, (амаль) дамогшыся афіцыйнага прызнаньня БНР з боку Эстоніі і Фінляндыі і адкрыцьця там

прадстаўніцтваў і забясьпечыўшы іх імгненна набраным штатам з расьпісаным каштарысам.

Заадно шэф рыскай місіі пасьпеў завэрбаваць на беларускую службу генэрала Станіслава Балаховіча — асобы няяснай палітычнай прыналежнасьці і туманнага этнічнага самавызначэньня. Генэрал прасіў для пачатку 400 000 марак (рэшту «здабудзе» ў бальшавікоў). Калі б гэтая справа ўдалася, дакладвае Езавітаў начальству, «мы б мелі Дзяржаву рэальна праз паўмесяца» і мелі б «сваю» тэрыторыю, занятую «сваімі» войскамі.

## Рызыкоўная служба

Дыпляматычная праца ў Рызе ў 1919 годзе была справай небясьпечнай. Пра гэта сьведчыць рапарт шэфа місіі на імя старшыні Рады Народных Міністраў: «Маю гонар паведаміць Вас, Грамадзянін Міністр, што 13 кастрычніка гэтага году, ідучы па справах Місіі ў Консульства БНР у Рызе, я быў ранены асколкам артылерыйскага снарада корпуса Бэрмонта ў твар. Рана, хвала правідзенью, аказалася вельмі лёгкай, і я, зрабіўшы патрэбную мэдыцынскую дапамогу сам сабе, не спыніў працы».

## Адкрываецца сэсія Рады БНР

Сэсія Рады Рэспублікі адкрылася ў Юбілейным доме ўрачыстым сходам 12 лістапада 1919 году. На ім фракцыі Рады выступілі з палітычнымі дэклярацыямі. Дамінавалі на сходзе эсэры. У сваёй дэклярацыі яны заклікалі да поўнай незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, выступілі з пратэстам

супраць «таго страшнага тэрору, які робіцца польскай эндэцыяй на Беларусі», супраць «гвалту над беларускім працоўным народам». «Уся старонка наша стогне ад разрухі, уціску і зьдзеку».

Праект рэзалюцыі сходу, дзе вызначаліся крокі да здабыцьця незалежнасьці, быў таксама запрапанаваны эсэрамі і прыняты аднагалосна, што сьведчыць пра разьмеркаваньне сілаў у Радзе.

У паветры запахла разгонам і арыштамі. Для пачатку акупацыйныя ўлады загадалі беларускім установам за 24 гадзіны выбрацца зь Юбілейнага дому. Тым часам першыя асобы, у тым ліку старшыня Рады Народных Міністраў і сакратар Рады Рэспублікі, да Менску яшчэ не даехалі.

## Час бур, ветраў і вялікіх мяцеліц

Янка Чарапук Антону Луцкевічу: «Вы трымаеце наш дзяржаўна-народны карабль у сваіх капітанскіх руках у час бур, ветраў і вялікіх мяцеліц, якія з усіх старон веюць на наш Родны Край».

## Пілсудзкі абяцае разабрацца

20 лістапада Антон Луцкевіч другі раз сустрэўся ў Варшаве з начальнікам Польскай дзяржавы Юзэфам Пілсудзкім. «Агульны характар гутаркі быў вельмі ветлы і прыхільны». Пілсудзкі выказаў прыхільнае стаўленьне да аднаўленьня дзейнасьці Рады БНР, зьдзівіўся дзеяньням менскіх уладаў, «запісаў сабе гэтую справу абшырна на паперы» і паабяцаў разабрацца.

Абмеркаваньне тэмы афіцыйнага прызнаньня БНР было туманным і неканкрэтным, калі не лічыць заявы, што цяпер прызнаць незалежнасьць ніяк не магчыма — гэтаму перашкаджае благая палітычная каньюнктура.

## Эсэры дамаўляюцца з бальшавікамі

Адсутнасьць Луцкевіча ў Менску моцна псавала тамтэйшыя настроі. «Мы ня можам больш чакаць і пойдзем на рашыцельныя шагі, — пагражала эсэрка Бадунова. — Тутака няма ні капейкі грашэй. Усе галадаюць, негадуюць і шмат хто едзе дамоў ні з чым. Пачакаем яшчэ 4–5 дзён і перавыбары Прэзыдыюму зробім і вынесем яшчэ некалькі рэзалюцыяў, а посьле пойдзем да народу… Калі Ўрад ня лічыцца з народам, дык народ тым болей не павінен лічыцца з Урадам».

А тым часам эсэры ўжо вялі таемныя перамовы з бальшавікамі наконт супольных антыпольскіх дзеяньняў і ў адпаведным духу рыхтавалі пераварот у Радзе Рэспублікі.

## Фінляндыя! Фінляндыя!

25 лістапада палкоўнік Езавітаў дасылае пераможную рэляцыю з канфэрэнцыі балтыйскіх дзяржаваў у Юр'еве: «канфэрэнцыя юр'еве прызнала незалежнасьць беларусі кропка душэўскі дабіўся афіцыяльнага прызнаньня ад фінляндыі кропка працуем кантакце кропка асобны атрад беларускай рэспублікі пад камандаю балаховіча добра ваюе».

Што азначала прызнаньне канфэрэнцыі, а таксама з кім і за што ваяваў Балаховіч (400 000 марак ад БНР ён так і не атрымаў) — сказаць цяжка. Але калі словы пра афіцыйнае прызнаньне БНР Фінляндыяй маюць пад сабой рэальны грунт, то можна сказаць, што гэта была першая (і, відаць, апошняя) краіна, якая прызнала дэ-юрэ незалежнасьць БНР.

## Луцкевіч вяртаецца ў Менск

Дакладная дата прыезду старшыні Рады Народных Міністраў Антона Луцкевіча ў Менск невядомая (22 лістапада ён паведамляў, што праз тры дні выяжджае туды з Варшавы), але 5 сьнежня ён ужо ўдзельнічае ў сходзе Рады Народных Міністраў у Менску. Прэм’ер адсутнічаў там роўна год.

## Пашпартоў хапае

Сустрэўшыся ў Менску з прэм’ерам Луцкевічам, які адначасна быў міністрам замежных справаў, міністар фінансаў Васіль Захарка перадае яму 935 блянкаў пашпартоў БНР, нарыхтаваных Беларускай місіяй у Бэрліне (усяго іх было надрукавана 10 000).

Замежныя пашпарты выдаваліся падданым БНР на шэсьць месяцаў за 50 марак для праезду ў «старыя» дзяржавы, за 25 — у наваствораныя на тэрыторыі былой Расеі, а «з саўсім бедных і быўшых ваеннапалонных» плата бралася ў суме толькі 5 марак.

Сотні людзей з пашпартамі Беларускай Народнай Рэспублікі рэальна перамяшчаліся праз розныя межы паваеннай Эўропы, юрыдычная моц гэтых дакумэнтаў ні ў кога не выклікала сумневу.

# 1919

13 сьнежня — у Менску склікаецца надзвычайны сход Рады БНР, у Радзе адбываецца раскол, утвараецца Найвышэйшая Рада, узьнікаюць два Ўрады БНР — Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага

# 1920

10 студзеня — Ліга Нацыяў зьбіраецца ў Лёндане на сваё першае пасяджэньне, дзе ратыфікуе Вэрсальскую мірную дамову

5 лютага — польскія ўлады заяўляюць прэм’еру БНР Антону Луцкевічу, што яму не дазволены выезд з Польшчы

28 лютага — Антон Луцкевіч складвае зь сябе абавязкі прэм’ера БНР

21 красавіка — урад Ластоўскага пераяжджае ў Рыгу

4 ліпеня — пачынаецца наступ бальшавікоў на Заходнім фронце

11 ліпеня — бальшавікі займаюць Менск

12 ліпеня — у Маскве падпісваецца савецка-літоўская мірная дамова, паводле якой да Літвы адыходзіць частка Беларусі з Горадняй, Лідай і Браславам

14 ліпеня — бальшавікі займаюць Вільню

31 ліпеня — у Менску прадстаўнікі кампартыі ЛітБелу, прафсаюзаў Менскай губэрні, беларускіх камуністаў і «Бунду» падпісваюць дэклярацыю аб абвяшчэньні незалежнасьці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь на тэрыторыі шасьці паветаў Менскай губэрні (другое абвяшчэньне БССР)

15 жніўня — палякі спыняюць наступ бальшавікоў каля Варшавы і пераходзяць у контранаступ, гэтая

падзея ўвойдзе ў гісторыю пад назвай «Цуд над Віслай»

1 верасьня — бальшавікі перадаюць Вільню літоўцам

9 кастрычніка — 1-я Літоўска-Беларуская дывізія Польскага войска пад камандай генэрала Люцыяна Жалігоўскага займае Вільню, абвяшчаецца стварэньне незалежнай квазідзяржавы Сярэдняя Літва

12 кастрычніка — Польшча і РСФСР падпісваюць у Рызе прэлімінарную мірную дамову

25 кастрычніка — генэрал Станіслаў Булак-Балаховіч пачынае «Палескі паход» супраць бальшавікоў

29 кастрычніка — урад Вацлава Ластоўскага пераяжджае ў Коўна

11 лістапада — БНР і Літва падпісваюць міжурадавую дамову

26 лістапада — пачынаецца Слуцкае паўстаньне супраць бальшавікоў

# 1921

16 студзеня — РСФСР і БССР падпісваюць у Маскве Саюзную рабоча-сялянскую дамову з прызнаньнем сувэрэннага статусу Савецкай Беларусі

14 сакавіка — на X зьезьдзе РКП(Б) прымаецца рашэньне аб пераходзе да «новай эканамічнай палітыкі» (НЭП)

18 сакавіка — Польшча і РСФСР падпісваюць Рыскі мір, на моцы якога Беларусь дзеліцца напалам

1 ліпеня — у Вільні засноўваецца Таварыства беларускай школы, масавая культурна-асьветная арганізацыя Заходняй Беларусі

22 верасьня — Эстонію, Латвію і Літву прымаюць у Лігу Нацыяў

26–28 верасьня — у Празе адбываецца Беларуская нацыянальна-палітычная нарада
30 кастрычніка — у Менску адкрываецца Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, пасьля доўгага перапынку першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі Беларусі

## 1922

8 студзеня — праходзяць выбары ў Віленскі сойм Сярэдняй Літвы, байкатаваныя на знак пратэсту беларусамі і літоўцамі
30 студзеня — у Менску засноўваецца Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), папярэднік Беларускай акадэміі навук
6 лютага — у РСФСР ствараецца палітычная спэцслужба — Галоўнае палітычнае ўпраўленьне пры НКВД (ГПУ)
20 лютага — пастановай Віленскага сойму Вільня далучаецца да Польшчы
3 красавіка — Іосіфа Сталіна прызначаюць генэральным сакратаром ЦК РКП(б)
11 кастрычніка — Прэзыдыюм Рады БНР і Ўрад БНР засноўваюць Дзяржаўную Калегію БНР
27 кастрычніка — пачынаецца «Марш на Рым», у выніку якога да ўлады ў Італіі прыходзяць фашысты
5 лістапада — адбываюцца выбары ў Польскі Сойм, 11 беларускіх дэпутатаў (паслоў) ствараюць Беларускі пасольскі клюб
30 сьнежня — утвараецца СССР у складзе РСФСР, УССР, БССР і Закаўкаскай СФСР са сталіцай у Маскве, Савецкая Беларусь страчвае дэклярацыйную самастойнасьць

## Раскол у Радзе Рэспублікі

Урэшце гэты дзень настаў. 13 сьнежня 1919 году Рада Беларускай Народнай Рэспублікі мелася сабрацца ў Менску ў сваім найшырэйшым складзе ад таго часу, калі за год перад тым бальшавіцкія ўлады абвясьцілі Раду па-за законам. Аднак гэты дзень стаўся днём расколу Рады БНР. Фактычна — клінічнай сьмерці: пасьля гэтага яна ўжо больш ніколі не зьбярэцца.

Канфлікт пачаўся ў часе працы камісіі, якая разглядала мандаты сяброў Рады. Рэч у тым, што нованавернены эсэр Вацлаў Ластоўскі прывёз з сабой зь Вільні каля 20 чалавек, якія прадстаўлялі самыя розныя арганізацыі, для прыняцьця ў Раду. Пратакол вялі сябры камісіі эсэры Палута Бадунова і Янка Бялькевіч, свой паралельны пратакол вёў намесьнік старшыні Рады Аляксандар Уласаў.

Уласаў заўважыў, што амаль усе разгляданыя мандаты новых радных аўтаматычна прымаюцца эсэрамі без разгляду падставаў, з свайго боку эсэры запратэставалі супраць вядзеньня паралельнага пратаколу і адмовіліся паказаць Уласаву зацьверджаныя мандаты. Старшыня сходу — сакратар Рады БНР эсэф Крачэўскі — бачачы, куды хіліцца справа, прыкрыў сход камісіі. Бялькевіч і Бадунова забралі стос неразгледжаных мандатаў і выйшлі.

Папоўніўшы склад Рады двума дзясяткамі сваіх прыхільнікаў, 8 эсэраў і 3 эсэфы сабраліся на сэсію

ў Юбілейным доме. Іхныя апанэнты запатрабавалі выхаду з залі не зацьверджаных імі радных, але «змоўнікі» адмовіліся выканаць гэтае патрабаваньне.

Тады, вырашыўшы, што адбываецца змова з мэтай захапіць кантроль над Радай Рэспублікі, асноўная частка «старой» Рады на чале з старшынём Ураду Луцкевічам і маршалкам Рады Лёсікам сабралася ў кватэры намесьніка маршалка Рады Ўласава і правяла свой надзвычайны сход.

## Прыхільнікі Луцкевіча ўтвараюць Найвышэйшую Раду

У сходзе Рады БНР на кватэры Ўласава набралася 37 удзельнікаў, што паводле Статуту Рады было дастаткова для кворуму. Сход адкрыў старшыня Рады БНР Язэп Лёсік гэткай заявай:

«Прымаючы пад увагу, што частка членаў фракцыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў зрабіла змову, каб захапіць законную ўладу Рады Рэспублікі, а пры няўдачы зрабіць гвалтоўныя ўчынкі над членамі другіх фракцыяў і партыяў, прэзыдыюм прапануе адчыніць сход Рады Рэспублікі бяз часткі членаў фракцыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, якія належаць да змовы, і прапануе прызнаць сход законным і правамоцным».

Пасьля разгляду мандатаў і зацьвярджэньня складу Рады найперш была выслуханая справаздача старшыні Рады Народных Міністраў. Антон Луцкевіч падрабязна выклаў вынікі замежнапалітычнай дзейнасьці Ўраду за апошні год,

адзначыў посьпехі, спаслаўся на перашкоды і ў канцы заявіў, што дзяржаўная праца настолькі яго змарыла, што ён «толькі чакае моманту, калі б ён мог здаць сваю працу іншай адпаведнай асобе».

Найважнейшым пытаньнем, аднак, была рэарганізацыя Рады Рэспублікі. Дзеля таго што ва ўмовах войнаў і акупацыяў рэгулярная праца Рады ў поўным складзе была фактычна немагчымая, на прапанову Сэньёрэн-канвэнту, прынятую паасобнымі фракцыямі Рады, было пастаноўлена заснаваць Найвышэйшую Раду Беларускай Народнай Рэспублікі ў складзе 5 чалавек, якая фактычна пераймае на сябе функцыі Рады ў неспрыяльных абставінах.

Патаемным галасаваньнем тут жа гэтыя 5 асобаў і былі выбраныя — імі сталі Іван Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Кузьма Цярэшчанка, Язэп Лёсік і Аляксандар Уласаў. У 0.30 ночы маршалак Рады Рэспублікі абвяшчае сход скончаным.

Пад воклічы «Няхай жыве незалежная Беларусь!» і са сьпевам Беларускага нацыянальнага гімну (не сказана якога) і Нацыянальнай Марсэльезы (пэўна ж, «Адвеку мы спалі…») радныя разышліся.

## Яшчэ адным прэм'ерам прызначаецца Ластоўскі

У тым самым часе таго самага 13 сьнежня ў іншым месцы — у Юбілейным доме — адбыўся яшчэ адзін сход Рады БНР. Яго ўдзельнікі тройчы пасылалі дэлегатаў да апанэнтаў і запрашалі іх зьявіцца

ў памяшканьне Рады Рэспублікі. Счакаўшы тры гадзіны, махнулі рукой, падлічылі мандаты, засьведчылі наяўнасьць кворуму і адкрылі свой сход.

Склад удзельнікаў быў збольшага аднародны — сацыялісты-рэвалюцыянэры і сацыялісты-фэдэралісты Крачэўскі і Захарка («праваслаўныя сацыялісты», як называлі іх нядобразычліўцы).

Парадак дня быў кароткі і ўключаў толькі адно пытаньне — кадравае. Быў абраны новы Прэзыдыюм: старшыня — Крачэўскі, намесьнікі — Захарка і Бадунова, сакратары — Козіч і Мамонька. Заадно прызначылі і Ўрад: старшыня Ластоўскі, міністры Ладноў, Бялевіч, Грыб, Цьвікевіч, сакратар Душэўскі, кантралёр Заяц. Гэта было прызначэньне «навырост»: ня ўсе сябры Ўраду былі прысутныя, таму не было пэўнасьці — да якога боку расколу яны далучацца.

Далей дамо слова новаабранаму Прэзыдыюму, які апісаў у сваім звароце заканчэньне сходу:

«Сход скончыўся пры магутным агульным сьпеве нацыянальнага гімну “Ад веку мы спалі” ўсімі раднымі і публікай на хорах. Усім здавалася, што мы знаходзімся не на сходзе Рады, а творым Божую службу ў старасьвецкіх катакомбах Рыму.

Такая пекнасьць надзвычайна-гістарычнага сходу Рады і яго магутнасьць дае Прэзыдыюму Рады сілу і веру ў тое, што ўсе шчырыя сыны многапакутнай нашай Бацькаўшчыны як адзін чалавекستануць на падтрыманьне Рады і Міністэрства ў труднай барацьбе за лепшую долю і дапамогуць давесьці сьвятую справу — адраджэньне Беларусі — да канца.

За праўду Бог і людзі!»

## Хто хутчэй

Наступнай раніцай пасьля «Божай службы ў старасьвецкіх катакомбах Рыму» Ластоўскі і Захарка праз тэлеграфіста-беларуса (знаёмага Мамонькі) пасьпелі разаслаць тэлеграмы пра пераварот у дыпляматычныя прадстаўніцтвы БНР у Бэрліне, Парыжы, Празе, Рызе і Коўне. Тэлеграфіст спачатку іх выслаў і толькі пасьля перадаў тэксты польскім уладам для атрыманьня дазволу. Тыя дазволу не далі і былі пэўныя, што тэлеграмы ўдалося затрымаць, пра што паведамілі «Найвышэйшым».

Калі выявілася, што паведамленьне трапіла ў замежны друк, тэлеграфіста затрымалі і пасадзілі.

## Луцкевіч: самазвана ствараецца незаконны ўрад

Тэлеграму са сваёй вэрсіяй падзеяў разаслаў на тыя самыя адрасы і Антон Луцкевіч: «стары кабінэт застаўся кропка рада абрала найвышэйшую раду пяць чалавек перадала ёй мандаты разьехалася кропка адначасна ластоўскі крачэўскі захарка бялевіч бадунова мамонька ствараюць самазвана новы ўрад выступаюць незаконна імя рады кропка». Інтрыга гэтая была сплеценая эсэфамі ў Бэрліне з удзелам Варонкі, упэўнены Луцкевіч.

## Чый сход памылковы

На першым пасьля перавароту паседжаньні Рады Народных Міністраў Захарка, міністар фінансаў, заявіў, што сход, на якім ён быў прысутны,

абраў новы ўрад, што ён лічыць урад Луцкевіча неправамоцным і слухацца яго не зьбіраецца, што надалей лічыць сябе міністрам фінансаў і ніякага справаводзтва і грошай нікому здаваць не плянуе.

На гэта астатнія міністры на чале з прэм'ерам адказалі, што Захарка быў на памылковым сходзе, які быў «прыватным сходам групы бальшавіцкі-настроеных членаў фракцыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў і сацыялістаў-фэдэралістаў і ніякага грунту лічыць сябе правамоцным сходам Рады Рэспублікі ня меў».

Было пастаноўлена: зьняць Захарку з пасады міністра і скарбніка, распачаць супраць яго судовую справу і ўчыніць усе крокі дзеля атрыманьня ад ужо былога міністра дзяржаўнай касы і справаводзтва.

## Луцкевіч просіцца ў адстаўку. Яго не пускаюць

Пачала сваю працу Найвышэйшая Рада. На першым сходзе старшынём быў абраны Янка Серада. На другім Антон Луцкевіч падаў заяву аб адстаўцы. Заяву ня толькі што адхілілі, але да абавязкаў кіраўніка Ўраду і міністра замежных справаў дадалі яшчэ апусьцелае пасьля Захаркі крэсла міністра фінансаў.

## Палкоўнік Езавітаў стварае дызайн Полацкага Крыжа

Езавітаў, натхнёны першымі вайсковымі посьпехамі Асобнага атраду БНР пад камандай Балаховіча, прапануе заснаваць баявы ордэн — Полацкі

Беларускі Крыж, «каб падтрымліваць у Атрадзе добры вайсковы настрой». Палкоўнік сам распрацаваў палажэньне аб ордэне і нават зрабіў макет ордэна і ордэнскай стужкі. Полацкі Крыж меў пяць ступеняў і дзьве катэгорыі — за баявыя заслугі і за мірныя. Ступені пазначаліся на стужцы зорачкамі (баявыя) або крыжыкамі (мірныя).

У рапарце Езавітаў намаляваў эскізы каляровымі алоўкамі. А фатаграфія макету недзе згубілася — да адрасата рапарту Антона Луцкевіча яна ўжо не дайшла.

## Дзьверы польскай пасткі зачыняюцца

Пасьля бурлівых менскіх падзеяў старшыня Ўраду (адзін з двух) Антон Луцкевіч выехаў у Варшаву з намерам вярнуцца на канфэрэнцыю ў Парыж. Аднак Парыжу ён ужо больш не пабачыць. Hotel Saski ў Варшаве на некалькі месяцаў станецца месцам, дзе беларускі прэм’ер будзе фактычна інтэрнаваны. Дзьверы польскай пасткі зачыніліся. Гэта стане канцом дзяржаўна-палітычнай кар’еры Антона Луцкевіча.

## Невыразная сытуацыя

У Менску пасьля арышту часткі «путчыстаў» — удзельнікаў альтэрнатыўнага, антыпольскага сходу Рады 13 сьнежня — захоўвалася, паводле Аркадзя Смоліча, «невыразная сытуацыя». «Эсэры ўсё яшчэ падпалом, — піша ён у Варшаву Луцкевічу, — хаця пачынаюць пакрысе вылазіць і весьці работу... Вялікім гуморам, аднак, эсэры не вызначаюцца...»

Вяліся перамовы з тымі з эсэраў, хто застаўся на свабодзе. Эсэры патрабавалі ад лягеру «Найвышэйшых» выступіць з пратэстам супраць арыштаў, адмовіцца ад прынцыпу дырэкторыі (Найвышэйшай Рады) і вярнуцца на грунт даўнейшага статуту Рады. Прымірыць два крылы беларускай палітычнай птушкі спрабавалі і польскія сацыялісты з ППС.

## Луцкевіч яшчэ не разумее, што гаварыць зь Пілсудзкім няма сэнсу

Трэцяя сустрэча Луцкевіча з Начальнікам Дзяржавы Пілсудзкім 3 студзеня 1920 году ў Варшаве не пасунула беларускую справу ні на крок. Луцкевіч расказаў пра сьнежаньскія падзеі ў Менску і зазначыў, што няўвага Польшчы да беларускага пытаньня пазбаўляе прыхільнікаў прыязнага да Польшчы курсу ўсіх шанцаў. У выніку ў краі шырацца прабальшавіцкія настроі, якімі ахопленая ўжо і частка беларускіх палітыкаў.

Пілсудзкі зноў выступіў са старой песьняй пра Антанту, якая не дазваляе Польшчы прызнаваць незалежнасьць пострасейскіх краінаў. Расказаў аб прапанове Антанце пашырыць тэрыторыю плянаванага плебісцыту да межаў Рэчы Паспалітай 1772 году (пакуль што плянаваўся ён толькі на акупаваных абшарах), аднак слова «Беларусь» у гэтым кантэксьце нават не прагучала.

Паводле разьлікаў Пілсудзкага, гаворыцца ў пратаколе аўдыенцыі, «да моманту разьвязкі пытаньня аб Беларусі на доўгі час ёсьць яшчэ каля году. За гэты час беларусы і павінны зрабіць вя-

лікую работу і выявіць як найбольш актыўнасьці ў культурна-прасьветнай рабоце і ў прапагандзе, у чым акупацыйныя ўласьці гатовы аказваць помач».

## Што б яшчэ прыдумаць

Кастусь Езавітаў, які зь вялікай энэргіяй вёў дыпляматычную працу ў балтыйскіх краінах, выяўляў ініцыятыву на самым шырокім полі. Тут ужо згадвалася пра ягоныя спробы ў галіне дызайну вайсковай формы і дзяржаўных узнагародаў. Арыгінальнай была і ягоная ідэя вырашэньня фінансавых праблемаў узначальванай ім місіі. «Усё добра, але чуецца безграшоўе, — паведамляе ён прэм'еру Луцкевічу. — Трэба або рабіць заём, або выпускаць свае грошы». Аднак гэтая простая ідэя свайго працягу не знайшла.

## Тарашкевіч — Розэнблюм

Перапіска паміж раскіданымі па Эўропе беларускімі палітыкамі была пад пільным кантролем польскіх спэцслужбаў. Каб змагацца з гэтым, Кузьма Цярэшчанка і Сымон Рак-Міхайлоўскі распрацавалі шыфравальны мэтад. Тэлеграмы маюць слацца на адрасы «левых» (не ў палітычным сэнсе!), але надзейных людзей, а для канспірацыі ўводзіліся такія коды: Луцкевіч — Навінскі, Смоліч — Смалянскі, Цьвікевіч — Гвазьдзецкі, Іваноўскі — Івашкевіч, Тарашкевіч — Розэнблюм (чаму раптам?), Заяц — Трусевіч, Езавітаў — Хляшчынскі, эсэры — срадковічы, прыяжджай — здароў, не прыяжджай — хворы, грошы — тэлеграма.

## «Усё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць!» (А. Уласаў)

Стары нашанівец Аляксандар Уласаў у гэтыя бурлівыя гады так і не разгарнуўся на поўную магутнасьць свайго грамадзка-палітычнага патэнцыялу, і ў Архівах БНР засталося па ім вельмі мала памятак. Бадай што толькі гэтая пісулька зь Менску ў Варшаву Антону Луцкевічу, дзе выразна адчуваецца ягоны непаўторны стыль:

«Як кустарным промыслам я займаюся школай беларускіх аратараў, вербунковых агентаў, праз 3 дні выпускаю 28 чалавек. Калі Алексюку пашанцуець, то адкрыю другую групу ў 40 чал. Пані Станіслава вярнулася ад бальшавікоў, выглядала як велікамучаніца Варвара, цяпер залізваецца патроху. Жычу вам сукцэсаў у гэты час бамбічаскіх пераваротаў у палітыцы ў зьвязку з правалам ядзінай Расеі Дзянікіна. Мне здаецца, што гэта на наш млын вада. Цісну руку, АУ».

Час бамбічаскіх пераваротаў…

## Нечаканае прэм'ерства Вацлава Ластоўскага

Раскол Рады БНР 13 сьнежня 1919 году вывеў у беларускія палітычныя лідэры старога «культурніка», нашаніўца Вацлава Ластоўскага. Тое, што ён з кансэрватара-клерыкала, як характарызавалі яго ў беларускіх колах, за адну ноч ператварыўся ў сацыяліста-рэвалюцыянэра, сьведчыць ня столькі пра яго палітычную беспрынцыпнасьць, як пра пэўную апалітычнасьць — нюансы палітычнай афарбоўкі, відаць, ня надта яму рупілі.

Ластоўскі ўступіў у палітычную гульню фактычна ўжо «на схіле» БНР і праз пару гадоў выйдзе зь яе — каб заняцца тым, што сапраўды было яго жыцьцёвым захапленьнем: культурай, гісторыяй, літаратурай.

Арыштаваны палякамі пасьля «перавароту», ён правёў у турме месяц, а выйшаўшы, жыў на кватэры ў старога культурнага паплечніка Янкі Купалы. Ні пра якую актыўную палітычную дзейнасьць у якасьці новага старшыні Ўраду не магло быць і гаворкі, таму Ластоўскі абмежаваўся толькі апавяшчэньнем замежных місіяў пра сваю вэрсію падзеяў 13 сьнежня з падрабязнай калькуляцыяй кворуму з абодвух бакоў «барыкадаў».

## Літоўцы ў шоку ад беларускай Пагоні

Забаўная гісторыя адбылася з сакратаром Місіі БНР у Рызе Янкам Чарапуком, яго ад'ютантам Злоцкім і кур'ерам Маркевічам. У сьнежні 1919 году яны выехалі з Рыгі ў Бэрлін, але былі затрыманыя на літоўскай мяжы. Прычына затрыманьня — дыпляматычныя пашпарты Беларускай Народнай Рэспублікі (паводле літоўскіх уладаў — «фальшывыя»), на якіх, як і на іншых пакетах і дакумэнтах, былі пячаткі БНР зь «літоўскім гербам»…

Усе трое пайшлі пад суд і праседзелі месяц у ковенскай турме. З гэтай нагоды маладыя літоўскія спэцслужбы правялі ператрус у Міністэрстве беларускіх справаў, аднак нічога не знайшлі. Міністар Язэп Варонка нарабіў з гэтага вялікі шум, разаслаўшы падрабязнае апісаньне здарэньня ўсім

міністрам Літоўскага Ўраду, Дзяржаўнай Рады і ўсім грамадзкім дзеячам.

Празь месяц, выйшаўшы з турмы, Чарапук дакладвае: «Усе дакумэнты афіцыйныя Ўраду БНР, якія насілі строга дыпляматычную тайну, я пры арышце маім Літоўскім Урадам усе дакумэнты ўнічтожыў, так што ў рукі ворага не папаў ні адзін дакумэнт».

## Колькі ж гэта на нашы грошы

У студзені 1920-га адбыўся нечаканы цуд — паслу БНР ва Ўкраіне Аляксандру Цьвікевічу нарэшце ўдалося атрымаць ад Ураду УНР грашовую пазыку на 1 000 000 карбованцаў гатоўкаю і чэк у бэрлінскі банк на суму 3 000 000 нямецкіх марак. Таму апошнія месяцы свайго прэм'ерства Антон Луцкевіч правёў у прыемным занятку — сплачваньні даўгоў і раздачы грошай на самыя розныя беларускія палітычныя, сацыяльныя і культурныя патрэбы ды атрыманьні расьпісак у атрыманьні грошай.

## У войска БНР Балаховіч так і не трапляе

22 студзеня 1920 году пратакольнай пастановай сходу Рады Народных Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі атрад генэрала Балаховіча быў прыняты ў склад войска БНР. Пра гэта шэфу Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Рызе Кастусю Езавітаву было даручана паведаміць самому генэралу.

Вось толькі сам генэрал Балаховіч нікому не даручыў паведаміць Ураду БНР, што ў гэтыя самыя

дні ён разам з сваім Асобным атрадам паступіў на службу да палякаў, пра што падпісаў адпаведнае пагадненьне ў Рызе. Гэта будзе ўжо ці ня пятае войска, якое разьмяніў на сваім баявым шляху сумнавядомы генэрал, аднак пра сваю нязьменную пазыцыю ён прызнаўся расейскай паэтцы Зінаідзе Гіпіюс: «Я беларус і каталік, але я змагаўся за Расею і буду падтрымліваць расейскую справу».

## Маркі Асобнага атраду

Паслужыць у войску БНР генэралу Балаховічу не давялося, аднак яго Асобны атрад упісаўся ў гісторыю БНР важнай старонкай — дзякуючы вынаходлівасьці Кастуся Езавітава.

Разважаючы, як вырашыць праблему безграшоўя, ён прыдумаў удалы бізнэс-праект — выпусьціць маркі! Прапанова прыняць Асобны атрад Балаховіча ў склад войска БНР была дасланая Ўраду і пацьверджаная. У атрадзе ёсьць байцы, яны дасылаюць і атрымліваюць лісты — значыць, ёсьць патрэба ў сваёй паштовай канторы і ў марках.

Задумана — зроблена. Эскіз маркі, паводле некаторых дасьледнікаў, належыць славутаму латыскаму графіку Рыхарду Зарыньшу, аўтару эскізаў першых савецкіх марак. Былі выпушчаны маркі пяці наміналаў: 5, 10, 15, 50 капеек і 1 рубель — зялёная, чырвоная, фіялетавая, сіняя і карычневая. Наклад — 1 мільён кожная, разам — 5 мільёнаў.

На просьбу Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР быў атрыманы дазвол ад Міністэрства транспарту Латвіі на франкаваньне (наклейваньне з мэтай

аплаты) маркамі АА БНР паштовай карэспандэнцыі. У Марыенбургу (цяпер Алукснэ, на паўночным усходзе Латвіі), месцы дысьлякацыі Атраду, была адкрытая паштовая кантора, якая, аднак, не праіснавала і трох тыдняў.

Магчыма, што да заяўленай мэты — ліставаньня байцоў Асобнага атраду — тая сэрыя марак амаль ня мела дачыненьня. Затое яна паставіла БНР на філятэлістычную карту сьвету і да сёньня ўпрыгожвае прыстойныя калекцыі. І дала падзарабіць беларускім незалежніцкім палітыкам.

## І тут Луцкевіч разумее, што Парыжу ён ня ўбачыць

Палякі выцягнулі Луцкевіча з Парыжу ў канцы жніўня. Пяць месяцаў там «на гаспадарцы» заставаўся ягоны намесьнік, чалавек паранаідальных схільнасьцяў Аўген Ладноў. Усе гэтыя месяцы ён бамбіў начальніка лістамі і тэлеграмамі з просьбамі як найхутчэй вярнуцца ў Парыж, дзе чакала вельмі важная дзяржаўная праца.

Страціўшы пару месяцаў за пустым сядзеньнем у Варшаве і сяк-так перажыўшы менскі пераварот, старшыня Ўраду атрымаў яшчэ ў сярэдзіне студзеня 1920-га францускую візу (а заадно і чэскую, аўстрыйскую і швайцарскую — шлях з Варшавы ў Парыж абыходзіў Нямеччыну кругам), але палякі з бразгатам зачынілі браму перад самым яго носам. Ён ужо рыхтаваўся выяжджаць, калі польскі МЗС нечакана адмовіўся даць яму выязную візу.

## Узаемнае абзываньне «самазванцамі» працягваецца

А тут яшчэ, вырваўшыся зь менскага падпольля, Крачэўскі і Захарка за месяц аднаму богу вядомымі сьцежкамі дабраліся да Бэрліну і пачалі шантажаваць Луцкевіча тэлеграмамі пагрозьлівага зьместу: «кіньце барацьбу беларускім народам польшчай народ ня пойдзе гэта відна было менску вёсках закрыйце акцыянэрнае таварыства запрадажы беларусі вышэйшую раду самазваны нікім непрызнаны орган калі будзеце чапляцца за ўласьць пачнем друкаваць яшчэ дакумэнты…»

## Палякі перастаюць прыкідвацца

5 лютага польскі МЗС афіцыйна паведамляе Антону Луцкевічу, што ніякі дакумэнт на выезд з Польшчы яму выдадзены ня будзе. Прэм'ер у роспачы паведамляе пра сваё інтэрнаваньне ўсім замежным місіям БНР з просьбаю аб максымальным розгаласе:

«Гэтым паведамляю Вас, што я польскім Урадам інтэрнаваны ў Варшаве. Міністэрства Справаў Загранічных катэгарычна адмовіла мне выдаць пропуск (замест дыпляматычнае візы) на выезд у Парыж… Калі мяне палякі не арыштуюць, то буду адгэтуль тэй жа дарогаю пасылаць весткі і інструкцыі».

Зьвяртаецца ён і да дыпляматычных прадстаўнікоў краінаў Антанты ў Польшчы, заяўляючы свой рашучы пратэст і просячы аб дапамозе. У адказ — маўчаньне.

## Фінскае пацьверджаньне

«Сустрэўшыся тут з Паслом Фінляндыі, я атрымаў ад яго пацьверджаньне прызнаньня Фінляндзкім Урадам незалежнасьці Беларусі», — піша Антон Луцкевіч 10 лютага 1920 году старшыні Найвышэйшай Рады Янку Серадзе. Пакуль што гэта адзінае сьведчаньне аб юрыдычным прызнаньні БНР іншай дзяржавай.

Адпаведныя дакумэнты могуць захоўвацца ў фінскіх архівах. Тое, што калі яны там былі, то нікуды не прапалі — не выклікае ніякіх сумненьняў.

## Cherchez la femme

Выканаўца абавязкаў кіраўніка дэлегацыі на Мірнай канфэрэнцыі Аўген Ладноў працягваў пісаць Луцкевічу з Парыжу даўжэзныя лісты, даючы яму самыя падрабязныя інструкцыі, што і як рабіць, у такім духу:

«Прошу быть чрезвычайно осторожным. Я получил случайно сведения, что Вы окружены польками-шпионками. Заклинаю Вас всем для Вас святым не показывайте ни одной женщине нашей переписки. Помните, что исторически установлен факт: польки идеальные патриотки, во имя любви к Родине жертвуют охотно собою. За внешностью любви может скрываться самая ужасная измена, предательство. Бойтесь этого… Будьте осторожны во всех отношениях. Не держите никаких документов, писем, записок в гостиннице. Лучше всего

прочитанное уничтожать, сделав необходимые заметки в книжечке у себя».

Тое, што гэтыя лісты не былі зьнішчаныя і захаваліся ў архіве, сьведчыць, што Луцкевіч да гэтых каштоўных парадаў ня надта прыслухоўваўся.

## Адстаўка Луцкевіча

Урэшце, пераканаўшыся ў безнадзейнасьці спробаў вырвацца з польскай пасткі, Антон Луцкевіч 28 лютага 1920 году складае зь сябе абавязкі старшыні Рады Народных Міністраў, міністра фінансаў і міністра замежных справаў і даручае часова выконваць гэтыя абавязкі адпаведна Аркадзю Смолічу, Лявону Дубейкаўскаму і Аўгену Ладнову. Просьбу аб адстаўцы ён накіроўвае Найвышэйшай Радзе, але падае да яе ведама, што благі стан здароўя прымушае яго пакінуць пералічаныя пасады «зь сягоньняшняга дня».

З адыходам Антона Луцкевіча ў гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі закончылася эпоха Вялікага Стылю беларускай палітыкі.

## У БНРаўскім сьвеце настае ціша

Пасьля адстаўкі Луцкевіча на нейкі момант у гісторыі БНР утвараецца вакуўм. Найвышэйшая Рада, як паведамляе ў тыя дні Аркадзь Смоліч, «нічога ня робіць і не зьбіраецца». Сам Луцкевіч прасіў НР пакуль што ўстрымацца ад прызначэньня яго наступніка — «ажно да лепшага высьненьня палажэньня».

Апанэнты Луцкевіча — эсэры і эсэфы — яшчэ не апрытомнелі пасьля хвалі рэпрэсіяў, з ключавых фігураў у Менску застаўся толькі кіраўнік Ураду Вацлаў Ластоўскі, але —зноў дамо слова Смолічу — «і той не вылазе».

## Хто прызнаў БНР

Ёсьць шмат спэкуляцыяў на тэму прызнаньня незалежнасьці БНР іншымі краінамі. Пералічаюцца розныя сьпісы, дзе колькасьць такіх краінаў даходзіць ледзь не да дваццаці.

Для такіх пераможных рэляцыяў асаблівых падставаў няма.

Прызнаньне дэ-юрэ — найвышэйшая ступень прызнаньня, зацьверджаная рашэньнем урадаў, падмацаваная адкрыцьцём пасольстваў і абменам пасламі. На такім узроўні БНР не прызнаў ніхто. Найбліжэй да гэтага была Ўкраінская Народная Рэспубліка, але і там справа не дайшла да практычнага выніку.

Прызнаньне дэ-факта — троху шырэйшая катэгорыя, пра яе можа сьведчыць падпісаньне міжурадавых дамоваў, адкрыцьцё дыпляматычных місіяў, супрацоўнікам якіх гарантуюцца пэўныя правы. У гэтым сэнсе сярод краінаў, якія прызналі БНР дэ-факта, можна назваць УНР, Літву, Латвію і, магчыма, Эстонію. Пад пытаньнем застаецца Турэччына.

Шляхам дыпляматычнай казуістыкі можна ў некаторых заявах польскіх і расейскіх уладаў знайсьці зачэпкі, якія можна было б інтэрпрэтаваць як

сьведчаньне прызнаньня незалежнасьці БНР, але роўна гэтак жа іх можна і абвергнуць.

Адназначна не прызналі БНР Нямеччына, Аўстрыя і краіны Антанты. Не прызнала і Чэхаславаччына, хоць беларускага прэм'ера Луцкевіча прыязна прымаў прэзыдэнт Масарык.

Двойчы ў Архівах згадваецца пра тое, што Беларускую Народную Рэспубліку прызнала Фінляндыя. Пра гэта Езавітаў паведамляе тэлеграмай Луцкевічу ў лістападзе 1919 году. І гэта Луцкевічу пацьвярджае фінскі пасол у Варшаве ў лютым 1920 году. Гэты факт шукае свайго пацьвярджэньня дакумэнтамі зь фінскіх архіваў — вось задача для сёньняшніх дасьледнікаў.

## Тарашкевіч вучыць арабіцу

Нямала было беларускіх дзеячоў, якія палітыкай займаліся пад ціскам абставінаў — «час быў такі» — і пры любой нагодзе аддаваліся таму, чым яны сапраўды гарэлі. Сярод палітычных віхураў і агульнай жыцьцёвай няяснасьці Браніслаў Тарашкевіч піша Антону Луцкевічу пра тое, чым жыве ягоная душа:

«Браце мілы,

Пісьмы атрымаў. Чуць ужо не падзякаваў за памяць, але разумею, што справа ня ў тым. Уся справа ў Ай-Кітабе. Дык няхай ён зьвядзецца! За ім страціў цэлы дзень. Каб яго добра разабраць, дык трэ было б ведаць прынамсі альфабэт арабскі. Вось я і ўзяўся вучыцца па-арабску!.. Пісаць якія фанэтычныя аб'ясьненьні не бяруся, бо йшчэ (!) не навучыўся арабскіх літар (але на кожны прыпадак

маю пазнаёміцца з тутэйшым малной і з… магамэтанствам).

Хоць тут і шмат чаго не хапае, але вось так жа ж неяк нічога сабе».

Апошняя фраза проста несьмяротная.

## Ластоўскі вырываецца ў Коўна

Новы беларускі палітычны лідэр Вацлаў Ластоўскі здолеў да канца сакавіка вырвацца зь Менску ў Коўна. Якімі шляхамі ён туды трапіў і чаму менавіта туды, застаецца загадкай. Як і тое, чым ён там займаўся, пакуль 21 красавіка 1920 году ня выехаў у Рыгу, дзе фактычна і пачалася ягоная актыўная дзейнасьць на пасадзе старшыні Рады Народных Міністраў. Але ўжо ў Коўне адбылася пераарыентацыя афіцыйнай пазыцыі БНР у дачыненьні да Літвы.

Яшчэ за год да таго адносіны паміж літоўскімі і беларускімі палітыкамі былі адкрыта варожымі (успомнім і антыбеларускія дэмаршы літоўскай дэлегацыі ў Парыжы, і арышт беларускіх кур’ераў за пашпарты з «Пагоняй»). А цяпер Ластоўскі зьвяртаецца зь лістом да літоўскага МЗС з прапановай навязаць сьцісслы міжурадавы кантакт. Узамен за прызнаньне незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і падтрымку яе дзяржаўных інтарэсаў Урад БНР, паводле Ластоўскага, «гатовы паступіцца сваімі правамі на найболей спорныя пагранічныя тэрыторыі і некаторыя населеныя пункты».

Раней галоўнай прычынай варажнечы і была негатовасьць беларусаў «паступіцца» Вільняй і Горадняй. Цяпер шлях да паразуменьня быў адкрыты.

## Сусьветная рэвалюцыя адкладаецца

Новы этап дзейнасьці БНР праходзіў ва ўмовах усталяваньня новага паваеннага парадку на заходніх тэрыторыях былой Расейскай імпэрыі. Савецкая Расея ўжо зразумела, што сусьветная рэвалюцыя адкладаецца на няпэўны тэрмін, і пачала арганізоўваць свае заходнія межы.

Перш была падпісаная мірная дамова і ўсталяваная мяжа з Эстоніяй, на чарзе былі Літва і Латвія. Даслалі прапанову аб мірных перамовах і Польшчы, але польска-бальшавіцкая вайна яшчэ працягвалася, і абодва бакі хацелі прыйсьці да перамоваў зь як найлепшымі пазыцыямі. Адным з галоўных пунктаў такіх перамоваў меўся быць лёс Беларусі, таму беларускія палітыкі дамагаліся дапушчэньня іх на плянаваныя перамовы.

## «Спыніць непаразуменьні паміж Беларусьсю і Расеяй»

Дзеля зразумелых прычынаў урад Ластоўскага ніяк ня мог трапіць на польска-савецкія перамовы «праз польскія дзьверы», таму была працягнутая лінія кантактаў з бальшавікамі, распачатая яшчэ ў сьнежні 1919 году, калі эсэры ў Смаленску падпісалі пагадненьне аб супольным антыпольскім змаганьні. Крачэўскі нагадваў Ластоўскаму 16 красавіка: «Справа аб перагаворах з бальшавікамі намі вырашана ў Менску».

Кіраўніцтва БНР стварыла адмысловую дэлегацыю для вядзеньня мірных перамоваў з бальшавікамі і паслала 25 красавіка народнаму камісару

замежных справаў РСФСР Чычэрыну ноту з прапановай «спыніць непаразуменьні, якія цягнуцца ў працягу двох з паловаю гадоў паміж Беларусьсю і Расеяй», прызнаць незалежнасьць Беларусі ў яе этнаграфічных межах і распачаць мірныя перамовы. Ластоўскі і паплечнікі, відавочна, спадзяваліся, што саветам спадабаецца ідэя мець на сваім баку антыпольскага саюзьніка, што дапамагло б ім на перамовах з Польшчай.

## Дыялёг Чычэрына з Чарапуком

Нота Чычэрыну была перададзеная праз Вайскова-дыпляматычную місію БНР у Рэвэлі савецкай дыпляматычнай місіі ў Эстоніі. На другі дзень была атрыманая тэлеграма з адказам Чычэрына, дзе той пытаецца, які менавіта беларускі ўрад прадстаўляе місія і якое стаўленьне таго ўраду да польскіх і «цэнтральных» (!) уладаў «с точки зрения свободы волеизъявления названного Правительства и той силы, которую оно способно придать своим решениям».

Далейшы дыялёг з Чычэрыным на сваю рызыку ўзяўся весьці ўпаўнаважаны МЗС БНР Янка Чарапук. Расейскі дыплямат спытаўся канкрэтна — на якую тэрыторыю пашыраецца ўлада ягонага (Чарапуковага) ураду, якія рэальныя сілы той урад мае і якія можа даць пэрспэктывы на выпадак ваенных дзеяньняў.

На гэта Чарапук даў волю свайму натхненьню і заявіў, што нягледзячы на акупацыю ўлада Ураду БНР пашыраецца на ўсю беларускую тэрыторыю, дзе ўсё знаходзіцца пад поўным кантролем. Вай-

сковая сіла складаецца з шматлікіх партызанскіх атрадаў, да якіх у любы момант гатовыя далучыцца беларуска-літоўскія дывізіі, якія, праўда, пакуль што застаюцца пад польскім камандаваньнем, і г. д. Так што «няма ніякіх падставаў марудзіць з боку савецкага Ўраду з прызнаньнем Незалежнасьці і ўступленьня ў перамовы».

За такую самадзейнасьць беларускі дыплямат атрымаў добрага прачуханца ад Ластоўскага: «Даць выгавар гр. Чарапуку за яго непраўдзівыя заявы Савецкаму Ўраду. Такіх заяў ён ня меў права рабіць. Наша сіла палягае на нашым маральным праве да незалежнасьці, а не на рэвалюцыйнай прапагандзе ў Літоўска-Беларускай дывізіі».

## Другая нота Чычэрыну

Каб неяк выправіць сытуацыю з шапказакідальнымі заявамі Чарапука, Ластоўскі бярэ дыялёг з Масквой у свае рукі і дасылае Чычэрыну яшчэ адну ноту, дзе пытаецца ня толькі пра згоду на прызнаньне БНР, але і пра вывад з тэрыторыі Ўсходняй Беларусі савецкіх войскаў.

«У выпадку станоўчасьці Вашага адказу, — пісалася ў ноце, — гэткі будзе пададзены неадкладна Парыскай Мірнай Канфэрэнцыі з просьбай аб ужыцьці Антантай захадаў да спыненьня вайны на тэрыторыі Беларусі і да неадкладнага адводу польскіх войскаў зь межаў акупаванай імі Беларусі».

На адказ Чычэрыну быў дадзены тыдзень. Адказ не прыйшоў ні праз тыдзень, ні праз два, ні празь месяц.

А тым часам у Маскве ўжо адбываліся перамовы Савецкай Расеі зь Літвой, дзе беларускія землі разглядаліся як расейскія і былі прадметам абмеркаваньня на тэрытарыяльныя тэмы.

## Рыга — сталіца БНР

Пад канец траўня ў Рыгу з розных канцоў Эўропы зьехаліся амаль усе кіраўнічыя асобы БНР — сябры Прэзыдыюму Рады БНР і Рады Народных Міністраў. Да восені Рыга стане галоўным асяродкам іхнай дзейнасьці, чарговай «сталіцай» Беларускай Народнай Рэспублікі.

30–31 траўня 1920 году адбылася нарада Прэзыдыюму Рады і Ўраду, дзе разглядалася актуальная сытуацыя і найбліжэйшыя задачы.

Ладноў далажыў аб працы ў Парыжы, дзе ўсё яшчэ працягвалася Мірная канфэрэнцыя: «У бягучы мамэнт справа прызнаньня незалежнасьці Беларусі стаіць на саўсім рэальным грунце, і трэба чакаць, што нават у скорай будучыні гэтае прызнаньне пасьледуе афіцыйным парадкам…».

Бадунова расказала пра перамовы, якія яна ў сакавіку вяла з бальшавікамі (у тым ліку з наркамнацам Сталіным) у Маскве — там ёй заявілі расплывіста, што «калі народ зажадае незалежнасьці на мясцох — яна будзе дадзена».

Было вырашана дамовіцца з урадам Латвіі аб тымчасовым побыце Ўраду БНР у Рызе. Абмяркоўвалася грашовае становішча — грошай не было. Рыхтаванай дэлегацыі ў Савецкую Расею было даручана весьці перамовы аб дзяржаўнай пазыцы на суму 50 мільёнаў рублёў…

## «Наша дзяржаўная форма будзе больш левая, чым у Расеі»

7 чэрвеня Васіль Захарка выехаў з дыпляматычнай місіяй праз Рэвэль у Маскву. Ластоўскі перадаў зь ім некалькі лістоў да сваіх колішніх знаёмцаў, а цяперашніх масквічоў, дзе выказваў свае шчырыя спадзяваньні, напрыклад такія:

«Мы чакаем, што лібэральнейшая і дэмакратычнейшая дзяржава і яе слаўны, а братні нам народ Расейскі словам і чынам памогуць стаць вольнымі, зьніме з нас аржавыя ланцугі няволі, якія пакінуў на нас ненавідны расейскі царызм, і гэтым дасьць нам змогу самім расправіцца з польскім наездам, які губіць і глуміць нашу чалавечую і патрыятычную годнасьць. Мы чакаем ад вялікага расейскага народу прызнаньня нашай дзяржаўнай незалежнасьці».

«Што да дзяржаўнай формы, то будзе яна больш левая, як у Расеі, мяркуючы з настрояў у народзе, але думаем, што ня будзе яна і такой руйнуючай у пераходны момэнт. Адным словам, наша Рэспубліка народная, а гэта знача, што формы дзяржаўнасьці ўстанаўляе сам народ і будзе мець такія, якія ён палічыць за лепшае».

## Каханьне ў часы трасцы, вайны і рэвалюцыі

Трапіла ў Архівы БНР і чыстая літаратура — 14 старонак у тонкім вучнёўскім сшытку, падпісаным «Успаміны аб маім каханьні», якія воляю лёсу трапілі ў тэчкі фонду «Совет министров (белогвардей-

ской) белорусской “народной республики” (“БНР”)». Іх аўтарка, палымяная эсэрка Палута Бадунова, седзячы ў летнім дамку на Рыскім узмор’і, апісвае пакуты свайго невымоўнага безадказнага каханьня да паплечніка ў барацьбе, партыйнага калегі Тамаша Грыба:

«Не ўспаміны мне хочацца пісаць, а цяжкую бязумную тугу маю апісваць. Тугу аб той велізарнай нязбыўшайся любві маёй, якая ўжо трэці год пячэ, як вагнём, сэрца маё…

Гэтае каханьне ня ёсьць простае каханьне, нанесенае так сабе выпадкова нейкім ветрам. У гэтым каханьні было ўсё, што паказвае яго немінучасьць. Сама судзьба назначыла так і колькі ні працавалі людзі над тым, каб нас адкінуць адзін ад другога — не змаглі і ня змогуць гэтага зрабіць…

Мы спаткаліся зь ім на адным зь беларускіх зьездаў воінаў Заходняга фронту. Зьезд ужо скончыўся. Засядаў Камітэт. Як цяпер памятаю, у залі быўшага Губэрнатарскага дому. Уся заля была залітая сьвятлом. Камітэт засядаў у вуглу, а ззаду чамусь хадзілі, гутарылі.

Ось к сталу, узяўшы слова ў старшыні, падышоў малады ваенны, судзячы па нашыўках, вольнаапрэдзяляюшчыйся…

Калі пачаў гаварыць Тамаш (тады я яшчэ ня ведала, што яго так завуць і яшчэ больш ня ведала, што гэтае імя для мяне будзе такім дарагім у будучыні), я неспадзеўкі падняла вочы і глянула на яго. Длінныя каштанавыя валасы, бакі, бледны твар і рэзкай формы сходзячыяся над носам бровы рабілі адразу яго заметным сярод другіх. Самае сільнае ўражаньне зрабілі на мяне яго вочы. Пачці незям-

ная дабрата, ціхая грусная насьмешка над суятой зямной, так і глядзелі з глыбіні ніто карых, ніто шэрых вялікіх вачэй яго.

“Вот каго можна палюбіць да канца”, буквальна такімі словамі…»

І на гэтым успаміны абрываюцца.

## Бальшавікі гоняць палякаў

Пакуль беларускія незалежніцкія палітыкі дыхалі ў Рызе балтыйскім паветрам, у Беларусі насьпявалі важныя падзеі. Чырвоная армія, здолеўшы да вясны 1920 году разьбіць амаль усе спробы белага супраціву на Ўсходзе, Поўначы і Поўдні, вызваліла дастаткова сілаў, каб заняцца Захадам.

На сьвітаньні 4 ліпеня Заходні фронт пад камандай 27-гадовага Міхаіла Тухачэўскага распачаў наступ па ўсім фронце ад Дзьвіны да Прыпяці. У канцы месяца чырвоныя былі ўжо на Бугу, прасунуўшыся амаль на 400 кілямэтраў.

11 ліпеня палякі пакінулі Менск (гэты дзень у міжваеннай БССР адзначаўся як Дзень вызваленьня з парадамі і народнымі гуляньнямі). Першы народны сакратар юстыцыі БНР Яфім Бялевіч апісваў тыя дні: «Пішу ў вельмі цяжкіх умовах, калі навокал паніка і ўсё бяжыць. Фронт прарваны, і палякі зусім пакідаюць Менск…»

Да канца ліпеня ўся беларуская тэрыторыя зноў апынулася ў руках бальшавікоў.

## У Маскве дзеляць Беларусь

З ваеннымі посьпехамі бальшавікоў на Захадзе Ўрад БНР, беларускія эсэры і беларускія незалежнікі наагул — як магчымыя саюзьнікі ў вайне з Польшчай — страцілі для Масквы якое б там ні было стратэгічнае або тактычнае значэньне. Ужо 12 ліпеня ў Маскве была падпісаная расейска-літоўская мірная дамова, паводле якой Літве адыходзілі беларускія землі аж да Маладэчна — разам з Горадняй, Лідай і Браславам.

У часе падпісаньня дамовы пасланы весьці перамовы ў Маскве Васіль Захарка марна чакаў недзе ў калідорах «наркоминдела» вырашэньня справы, якая бальшавікоў ужо перастала цікавіць. Тэрыторыі па ўсходні бок мяжы, паводле дамовы, адышлі да РСФСР. Ніякая Беларусь ні ў якім выглядзе ў дамове ня згадваецца.

## Але Літва-1920 ніколі ня стане рэальнасьцю

Васіль Захарка, яшчэ будучы ў Маскве, адрэагаваў на падпісаньне савецка-літоўскай дамовы нотай пратэсту, дзе заявіў:

«Зьяўляючыся паўнамоцным прадстаўніком Беларускай Народнай Рэспублікі, я ад імя майго Ўраду, складаючагася ў большасьці зь левых беларускіх сацыялістаў, уступіўшых у рэвалюцыйную барацьбу за вызваленьне Беларусі з-пад усіх акупацыяў, лічу сваім абавязкам заявіць перад Урадам Расейскай Сацыялістычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі рашучы пратэст супраць уступкі клерыкальна-буржуазнай Літве беларускай тэрыторыі.

Хачу верыць, што такі несправядлівы ў адносінах да беларускага народу акт не атрымае аканчальнага зацьверджаньня й што з аканчальнай пабедаю чырвонай арміі Радавай Расеі над панскай Польшчай вызваленаму працоўнаму беларускаму народу будзе дадзена незалежнасьць дзеля рэальнай магчымасьці зьдзяйсьненьня нацыянальна-палітычнага й сацыяльнага адраджаньня».

З пратэстамі Расеі і Літве супраць гандлю беларускімі землямі выступіў і Ўрад БНР, але адрасаты калі й пачулі іх, ужо мала на іх зважалі.

Што было б, калі б Літва ў межах дамовы 1920 году стала рэальнасьцю? Ці здолела б яна асыміляваць значную беларускую меншасьць, маючы асыміляцыйны патэнцыял істотна слабейшы, чым расейцы або палякі? Што магло б вырасьці з той падлітоўскай Беларусі? Як бы выглядала Вільня і на якой бы мове яна гаварыла?

Пакінем гэтыя пытаньні аматарам альтэрнатыўнай гісторыі. У рэальнасьці тая мяжа так ніколі і ня стала фактам палітычнай геаграфіі, хоць і пазначалася адмысловым пунктырам у савецкіх атлясах ледзь не да канца 1920-х гадоў.

## Другое абвяшчэньне БССР у шасьці паветах

Але беларускае пытаньне ў Маскве не было закрыта. Наадварот. 31 ліпеня ў Менску адбылося абвяшчэньне незалежнасьці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі (дзеля дакладнасьці гэтую падзею часам называюць другім абвяшчэньнем БССР). З гэтай нагоды была прынятая адмысловая дэклярацыя:

«Спакутаваная, змучаная Беларусь, краіна беларускіх, рускіх, польскіх і яўрэйскіх рабочых і сялян пры дапамозе доблеснай Расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі завяршае справу свайго вызваленьня. Чырвоныя войскі, разьбіваючы апошнія рэшткі шляхецкіх арміяў, падыходзяць да заходніх этнаграфічных межаў Беларусі. Рабоча-сялянскі народ Беларусі цяпер можа свабодна выявіць сваю волю і сам вызначыць свой лёс, формы свайго далейшага існаваньня і свае ўзаемаадносіны з суседзямі…»

Другое абвяшчэньне было ўжо куды больш сур’ёзнае, чым першае. ССРБ 1919 году была часовым тактычным утварэньнем з мэтай прасоўваньня рэвалюцыйнай хвалі на Захад. Калі ж бальшавікам зрабілася ясна, што з сусьветнай рэвалюцыяй давядзецца пачакаць, дык на пострасейскіх прасторах пачалі будаваць больш трывалыя квазідзяржаўныя будынкі.

Аднак другая Савецкая Беларусь, хай сабе і больш сур’ёзная і больш беларуская, чым першая, не давала шмат прасторы для нацыянальнага аптымізму. Абвешчаная была яна на моцна абгрызенай тэрыторыі — усяго ў шасьці паветах Менскай губэрні. А адным з кіраўнікоў яе — сакратаром Цэнтральнага бюро КП(б)Б — быў Вільгельм Кнорын, які ва ўпор ня бачыў ніякіх беларусаў. Сваё ўяўленьне пра іх ён ясна выказаў у кастрычніку 1918-га: «Мы считаем, что белорусы не являются нацией, и те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты».

Абвяшчэньне БССР у адпаведнасьці з дэкляраваным бальшавікамі правам нацыяў на самавызначэньне моцна звузіла поле палітычнага манэўру для дзеячоў БНР.

## Развагі БНРаўцаў пра здачу сваіх паўнамоцтваў БССР

Падзеі ў Менску прымусілі БНРаўцаў задумацца. У тыя дні міністар юстыцыі БНР Аляксандар Цьвікевіч вёў у Вене канфідэнцыйныя гутаркі з прадстаўнікамі РСФСР Варшаўскім і Дзятлавым. Ад імя Ўраду БНР ён заявіў ім, што калі савецкі ўрад прызна́е незалежную беларускую савецкую рэспубліку на ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі, то Ўрад БНР перадасьць такой рэспубліцы свае паўнамоцтвы. Гэтая заява была прынятая для перадачы ў Маскву.

Цяжка сказаць, наколькі Цьвікевіч быў упаўнаважаны рабіць такія заявы. Празь нейкі час пасьля гэтага Ластоўскі згадае ў адным зь лістоў пра «неарганізаванае выступленьне ў Вене», якое ня мусіла б больш паўтарыцца. Аднак што б ні абяцаў Цьвікевіч, БССР была абвешчаная ў мінімальным выглядзе, так што пытаньне пра перадачу паўнамоцтваў адпала само сабою.

## Складаць мандаты яшчэ рана

Думкі пра Менск не давалі спакою і іншым дзеячам БНР. Крачэўскі піша 2 жніўня з Бэрліну Ластоўскаму (яшчэ нават да таго, як даведаўся пра абвяшчэньне БССР):

«Аб незалежнасьці тым часам німа чаго і гаварыць у Нямеччыне, бо, мусі, вам вядома, што без Антанты немцы ня могуць і ня маюць права нікога ні прызнаваць чы не прызнаваць. Прыймаючы ўсё гэта пад увагу, мы тут і ў Коўне прыйшлі да перакананьня, што трэба ехаць на Бацькаўшчыну і працаваць з бальшавікамі, выгаварыўшы ад іх сабе як можна больш тых правоў, пры якіх такая праца была б магчымай».

17 жніўня, ужо ведаючы:

«Прызнаньне de facto і de jure Савецкай Беларусі — факт, зь якім нам прыходзіцца лічыцца, бо яно і нашу пазыцыю падкрапляе, калі зможам утрымацца, то мажліва, што дагаворымся і з усходам, бо ўсё ж такі будуць яны лічыцца з намі як зь сілай, якая ім будзе шкодзіць за кардонам. Складаць свае мандаты яшчэ рана і няма ніякага сэнсу, а гаварыць трэба моцна і падпіраць свае дамаганьні заграмічнымі сацыялістычнымі партыямі і Ўрадамі».

## Літва лічыць беларускае пытаньне «ўнутрырасейскай праблемай»

У Рызе беларускую дыпляматыю чакала чарговая параза. На Балтыйскай канфэрэнцыі ў Більдэрлінгсгофе (сёньня — Булдуры, Юрмала), дзе краіны былых расейскіх ускраінаў — Фінляндыя, тры балтыйскія, Польшча і УНР — плянавалі стварыць «Усходнюю антанту» дзеля палітычнага, эканамічнага, вайсковага ды іншага збліжэньня, важна было заявіць пра сябе і беларусам.

І тут зноў каменем сутыкненьня сталі літоўска-беларускія тэрытарыяльныя спрэчкі. Удзел дэле-

гацыі БНР быў магчымы пры згодзе ўсіх астатніх удзельнікаў. Зусім прадказальна Літва катэгарычна запярэчыла дапушчэньню беларусаў на канфэрэнцыю.

Старшыня беларускай дэлегацыя Янка Чарапук паведамляў: «Віленшчына і Горадзеншчына — гэта той Гордзіеў вузел, каля якога ўсё зьвязана. Гастрату адносін літоўска-беларускіх узмацаваў яшчэ пратэст Беларускага ўраду процiў аддачы літоўцам бальшавікамі беларускіх зямель і эксплюатацыі лясоў…» (Пратэст Ураду БНР супраць літоўска-савецкай мірнай дамовы ўсё ж быў пачуты!)

Прадстаўнік Літвы заявіў, што Літва не прызнае ніякай БНР, бо «ня хоча ўвязвацца ва ўнутрырасейскія праблемы».

## Мамонька бярэ ўладу. І аддае

3 верасьня ў Рызе адбыўся супольны сход Прэзыдыюму Рады і Ўраду БНР. Васіль Захарка расказаў сумную гісторыю пра бязмэтнае абіваньне маскоўскіх парогаў. Затое нашмат больш аптымістычнай была справаздача Язэпа Мамонькі, які вярнуўся з савецкага Менску.

Вось галоўныя пункты справаздачы: 1) палякі, пакідаючы Менск, спалілі шмат будынкаў і прычынілі Менску страшэнныя страты (руіны Мамонька сфатаграфаваў і прывёз з сабой фоткі, але ў архівах яны не захаваліся); 2) пасьля адыходу палякаў ўлада ў Менску была ўзятая беларусамі на чале з самім грамадзянінам Мамонькам; 3) але з прыходам Чырвонай арміі ўладу, на жаль, давялося аддаць Чырвонай арміі; 4) бальшавікі прапанавалі

беларускім партыям разьдзяліць зь імі ўладу, але ўсе партыі, апрача беларускіх камуністаў, ад гэтага адмовіліся; 5) беларускія дзеячы вядуць працу ў культурна-прасьветных установах і каапэратывах, усюды вынесеныя рэзалюцыі наконт абавязковасьці ва ўсіх школах беларускай мовы.

## Падпісаць ноту супраць Расеі не паднімаецца рука

Зьмена палітычнай сытуацыі ў Беларусі выклікала пошукі новых палітычных арыентыраў. Учорашні галоўны вораг — Польшча — перастала быць гаспадаром становішча ды імкліва адступала.

У гэтых умовах Вацлаў Ластоўскі вырашыў, што пазыцыя палякаў у справе прызнаньня незалежнасьці будзе мякчэйшай, і зьвярнуўся да польскага ўраду з адпаведнай нотай, зазначыўшы, што «беларускі народ ніколі ня можа пагадзіцца з маскоўскай акупацыяй, дабіваючыся поўнай палітычнай незалежнасьці» і што «непрызнаньне дагэтуль Польшчай незалежнасьці Беларусі зьвязвае беларускаму народу рукі. Ён ня можа актыўна выступіць проці маскоўскіх акупантаў».

Заадно Ластоўскі падрыхтаваў для дасланьня Канфэрэнцыі паслоў у Парыжы ноту пратэсту супраць бальшавіцкай акупацыі і гвалтоўнага абвяшчэньня Савецкай Беларусі, сфэдэраванай з Расеяй. Вакол гэтай ноты адбыўся сымптаматычны інцыдэнт. Старшыня Рады БНР Пётра Крачэўскі гэтую ноту падпісаць адмовіўся, пра што даведаўшыся, эмацыйны Кастусь Езавітаў рэзка адрэагаваў у прысутнасьці сябра Прэзыдыюму Рады Язэпа Ма-

монькі, які змусіў правесьці ў гэтай справе адмысловы разбор.

## У літоўскіх руках Вільня застаецца нядоўга

На моцы літоўска-расейскай мірнай дамовы 1 верасьня бальшавікі перадалі Вільню літоўцам. Так крыху больш, чым на месяц, Вільня зрабілася сталіцай Літвы-1920. З гэтай нагоды ў Вільні адбылося паседжаньне прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў. Удзельнікі прынялі рэзалюцыю, дзе заклікалі ўсіх беларусаў на далучанай да Літвы тэрыторыі злучыць усе свае сілы «дзеля згоднае, супольнае з братнім літоўскім народам дзяржаўнае працы і дзеля здабыцьця беларускаму народу належнага яму месца на роднай зямлі».

Беларускі актыў зьвярнуўся да літоўскіх уладаў з просьбай выдзеліць беларускую тэрыторыю ў межах Літоўскай дзяржавы ў асобную аўтаномію з сваёй беларускай адміністрацыяй.

Але пад літоўскаю ўладай Вільня заставалася нядоўга.

## Беларусы «ў лапцях і купальных касьцюмах»

У сярэдзіне жніўня адбыўся нечаканы паварот у польска-расейскай вайне — нястрымны наступ сусьветнай рэвалюцыі быў спынены каля Варшавы, дзе адбыўся «Цуд над Віслай». Польскае войска перайшло ў контранаступ, і ваенная навала пакацілася па беларускай зямлі назад на ўсход.

У гэты момант Ленін зноў падумаў пра Беларусь:

«Необходимо налечь изо всех сил, чтобы белорусские рабочие и крестьяне, хотя бы в лаптях и купальных костюмах, но с немедленной и революционной быстротой дали вам пополнение в тройном и четверном количестве», — пісаў ён у жніўні 1920-га, калі Чырвонай арміі катастрафічна не хапала людзкіх рэсурсаў, каб стрымаць новы наступ палякаў.

## Ластоўскі: «Узяўшы кій у рукі, пайду на Бацькаўшчыну...»

Аўген Ладноў працягваў слаць з Парыжу даўжэзныя лісты з падрабязнымі інструкцыямі Ластоўскаму якія яшчэ пастановы, ноты, мэмарандумы, пратэсты ці заявы трэба даслаць — і прызнаньне незалежнасьці БНР будзе ў кішэні. 12 верасьня 1920 Ластоўскі дасылае яму горкі эмацыйны ліст, бо сытуацыя падышла ўжо да апошняй мяжы:

«...Шосты ўжо год палаюць нашы вёскі і гарады, шосты ўжо год голадам морать 12-мільённы народ! За шэсьць гадоў мы перамянілі 6 акупацый, шэсьць жорсткіх ёрмаў. Цяпер што? Ізноў паўстаньні? Дзеля чаго? Каб узьдзець сёмы раз нядаўна скінутае ярмо? Усё гэта ўжо апрацівела. Народ атупеў ад болесьці, народ зьняверыўся, што ёсьць дзе-небудзь на сьвеце праўда. Прыходзяць бальшавікі, нас грабяць, рвуць нашу бацькаўшчыну і дзеляць... Прыходзяць палякі, таксама рвуць, дзеляць і грабяць...

Ня веру ў прызнаньне нашай Незалежнасьці Антантай. Намі проста іграюць, намі таргуюць. Злосна таргуюць...

Падаю да Вашага ведама палажэньне, у якім знаходзіцца Ўрад. У нікога ні граша. Я ўжо ўсё па-

распрадаваў, што можна было прадаць. Далей цягнуць лямку ня маю ні сіл, ні змогі. Калі апошнюю рэч прадам і апошні грош выпушчу — узяўшы кій у рукі, пайду на Бацькаўшчыну…»

## На перамовах у Рызе Чарвякоў сядзіць у гледачах

Лёс Беларусі тым часам вырашаўся тут жа, побач, у Рызе, куды 21 верасьня 1920-га былі перанесеныя распачатыя ў жніўні ў Менску польска-расейскія перамовы. Фонам для іх стаўся «Цуд над Віслай» і новы польскі наступ на ўсход.

Урад БНР зьвярнуўся да Мірнай канфэрэнцыі ў Парыжы, да ўрадаў Польшчы і Расеі з патрабаваньнем даць на перамовах месца Беларусі. Была сфармаваная дэлегацыя БНР на чале з Ластоўскім, якая выступіла з дэклярацыяй, дзе патрабавала ад Расеі і Польшчы прызнаньня незалежнасьці Беларусі і допуску на перамовы.

Расейска-ўкраінская дэлегацыя на перамовах прадстаўляла таксама і БССР, якая дэлегавала ёй свае паўнамоцтвы. Дэлегацыя БНР вяла неафіцыйныя гутаркі як з польскім бокам на розных узроўнях, так і з прадстаўніком БССР Аляксандрам Чарвяковым, які прысутнічаў на канфэрэнцыі толькі як староньні глядач. У гутарках Чарвякоў запэўніў, што «савецкі беларускі ўрад, стоячы на грунце этнаграфічных межаў з Польшчай, на падзел Беларусі ня згодзіцца, рыхтаваны мір будзе ігнараваць і лічыць сябе надалей у стане вайны з польскім імпэрыялізмам».

## Менск зноў пад палякамі

«Цудам над Віслай» паразы бальшавікоў ня скончыліся. Польскае войска працягвала пасоўвацца на ўсход і 20–26 верасьня разграміла Чырвоную армію ў бітве над Нёманам. 29 верасьня быў заняты Пінск, 30-га — Баранавічы, 15 кастрычніка — Менск. Гэта раздало польскай дэлегацыі ў Рызе поўныя рукі козыраў, цяпер можна было дамагацца ад бальшавікоў самых выгодных умоваў падпісаньня міру.

## Габрыеле Д'Анунцыё натхняе Люцыяна Жалігоўскага

Італьянскі паэт Габрыеле Д'Анунцыё ў верасьні 1919 году на знак пратэсту супраць рашэньня Парыскай мірнай канфэрэнцыі перадаць Югаславіі населены пераважна італьянцамі горад Фіюмэ (харв. Рыека) узьняў добраахвотніцкія вайсковыя аддзелы і насуперак пазыцыі італьянскага ўраду заняў горад, абвясьціўшы сябе Правадыром.

Паэт напісаў Канстытуцыю, дзе былі намяшаныя анархісцкія, протафашысцкія і дэмакратычна-рэспубліканскія ідэі. Д'Анунцыё спадзяваўся, што Італія далучыць горад да сваёй тэрыторыі, аднак замест гэтага яна абвясьціла Фіюмскай рэспубліцы блякаду. Дамова ў Рапала ў лістападзе 1920-га надала Фіюмэ правы незалежнай дзяржавы, але паэт дамову не прызнаў і абвясьціў Італіі вайну. Італьянская авіяцыя і флёт за пару дзён пакончылі з палітычнай паэзіяй.

Пра паэтычны акт Д'Анунцыё згадаюць газэты праз год у іншым кутку Эўропы. Падчас польска-

расейскіх перамоваў, на якіх польская дэлегацыя займала антыфэдэралісцкія пазыцыі — узяць менш, але безь ніякіх кампрамісаў зь мясцовымі прэтэндэнтамі на аўтаномію — і празь дзень пасьля падпісаньня польска-літоўскай дамовы ў Сувалках, на моцы якой спыняліся ваенныя дзеяньні паміж бакамі і да лепшых часоў зацьвярджаўся статус-кво (Вільня на гэты момант была ў літоўскіх руках), здарыўся падобны акт непаслухмянства.

Генэрал Люцыян Жалігоўскі «ўзбунтаваўся» і сіламі сваёй 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі заняў Вільню. Пілсудзкі, які і выдумаў гэтую камбінацыю, зрабіў выгляд, што ня мае да яе ніякага дачыненьня.

## Хітрая камбінацыя

На занятай «бунтаўнікамі» тэрыторыі (10 паветаў, зь Вільняй, Ашмяной, Сьвянцянамі, Трокамі і Смаргоньню) была абвешчаная Сярэдняя Літва — квазідзяржава з сваімі грашмі, сымболікай, паштовымі маркамі. 40 % насельніцтва складалі беларусы.

Двое беларусаў, якія прыехалі ў Вільню разам з дывізіяй Жалігоўскага — Вацлаў Іваноўскі і Браніслаў Тарашкевіч — увайшлі ў орган выканаўчай улады Сярэдняй Літвы, Часовую кіраўнічую камісію. Першы з іх кіраваў дэпартамэнтам прамысловасьці, другі — асьветы.

Пытаньне палітычнай прыналежнасьці Сярэдняй Літвы меўся вырашыць сойм, выбары ў які адбыліся 8 студзеня 1922 году пры байкоце беларускага і літоўскага насельніцтва. 20 лютага 1922-га сойм Сярэдняй Літвы прыняў рашэньне пра далучэньне да Польшчы.

## Дмоўскі перамагае Пілсудзкага

Прэлімінарная мірная дамова паміж Польшчай і РСФСР была падпісаная 12 кастрычніка 1920 году. На моцы дамовы, сярод іншага, Польшча афіцыйна прызнала БССР. Ваенныя дзеяньні былі спыненыя. У тэрытарыяльным пытаньні перамагла канцэпцыя ідэоляга польскіх нацыяналістаў Рамана Дмоўскага — ня браць зашмат, каб не ствараць лішніх праблемаў пры асыміляцыі мясцовага насельніцтва. (Апанэнт Дмоўскага Пілсудзкі быў гатовы вярнуць Польшчу да межаў Рэчы Паспалітай 1772 году і даць аўтаномію мясцовым народам.)

Васіль Захарка падаваў інфармацыю, нібыта старшыня расейскай дэлегацыі Ёфэ згадаў пра гатовасьць прызнаньня саветамі ўраду Ластоўскага, але польская дэлегацыя, ведаючы, што БНР будзе адстойваць правы на свае заходнія землі, пасьпяшалася прызнаць савецкую марыянэтку БССР, якая без дазволу Масквы ня будзе мець да Польшчы ніякіх тэрытарыяльных прэтэнзіяў. Так Менск застаўся на ўсход ад дэмаркацыйнай лініі. Пабыўшы там некалькі дзён, увечары 17 кастрычніка польскія вайсковыя аддзелы пакінулі горад.

## Польска-бальшавіцкія зьверствы

Польска-бальшавіцкая вайна вызначылася надзвычайнай жорсткасьцю (не параўнаць з ваеннымі дзеяньнямі на нямецка-расейскім фронце 1915 ці 1918 гадоў, дзе пад канец вайны варожыя салдаты ледзь не браталіся). Абодва бакі ня надта цырымоніліся з палоннымі — калі іх не забівалі

на месцы (Ісак Бабель красамоўна апісвае масавыя засекі палонных палякаў шаблямі), то яны гінулі ў нечалавечых умовах у лягерах для палонных. Былі сьведчаньні і больш вытанчаных катаваньняў — увесь сьвет абышоў фатаздымак пасаджанага на кол польскага афіцэра Расінскага.

Зазнала гора і цывільнае насельніцтва — калі немцы толькі рабавалі, палякі маглі запраста і зьбіць, і забіць. Ужывалася і практыка паленьня цэлых беларускіх вёсак. Пры адыходзе палякаў па Беларусі пракацілася хваля даўно (а можа й ніколі) ня бачаных тут пагромаў габрэйскага насельніцтва.

## Пахаваная жыўцом Беларусь жыве і жыць будзе

На падпісаньне прэлімінарнага міру паміж Расеяй і Польшчай адрэагавалі ўсе беларускія незалежніцкія асяродкі.

20–21 кастрычніка ў Рызе адбыліся нацыянальна-палітычная канфэрэнцыя і асобна канфэрэнцыя беларускіх сацыялістычных партыяў, якія прынялі рэзалюцыі з рашучым асуджэньнем несправядлівага міру і цынічнага падзелу Беларусі. Прэлімінарную дамову, якая мелася легчы ў аснову канчатковай мірнай дамовы, удзельнікі канфэрэнцыі прызналі для беларускага народу неабавязковай і заклікалі ўсімі спосабамі і сродкамі весьці барацьбу за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі.

На момант прачнулася ад летаргічнага сну і Найвышэйшая Рада БНР, выступіўшы з дэклярацыяй і пратэстам супраць «ганебнага акту, падпісанага

ў Рызе». Аўтары пратэсту — Лявон Дубейкаўскі і Браніслаў Тарашкевіч — асудзілі стварэньне «Савецкай Беларусі», якой была дадзеная на паперы фікцыйная незалежнасьць, але ў сапраўднасьці цэнтральная Беларусь была ператвораная ў звычайную маскоўскую правінцыю. «Разадраная на часткі, пахаваная жыўцом Беларусь жыве і жыць будзе і будзе змагацца, пакуль ня выйдзе з гэтай магілы, куды хацелі яе сьпіхнуць творцы рыскага міру».

## Коўна — сталіца БНР

Яшчэ 11 жніўня ў Рызе была падпісаная латыска-расейская мірная дамова, у якой бакі сярод іншага абавязаліся «не дапускаць утварэньня і знаходжаньня на сваёй тэрыторыі якіх бы там ні было арганізацый і групаў, што прэтэндавалі б на ролю ўраду ўсёй тэрыторыі другога дамоўнага боку або часткі яе». Урад БНР адназначна падпадаў пад гэты пункт дамовы.

Заўважым, што ў літоўска-расейскай дамове фармулёўка была крыху іншая: «не дапускаць на сваёй тэрыторыі ўтварэньня і знаходжаньня ўрадаў, арганізацый або груп, якія б ставілі сваёй мэтай узброеную барацьбу супраць другога дамоўнага боку». Такім чынам, пакуль Урад БНР ня ставіў сабе за мэту ўзброенае змаганьне з бальшавікамі, літоўскія ўлады маглі дапусьціць яго побыт на сваёй тэрыторыі, не баючыся парушыць дамову з Расеяй.

Гэтыя міжнародна-юрыдычныя нюансы абумовілі пераезд Ураду БНР на чале з Ластоўскім у Коўна. У дыпляматычным пашпарце старшыні Ўраду стаіць дата пераезду латыска-літоўскай мяжы: 28

кастрычніка 1920. На пару гадоў чарговай «перасоўнай сталіцай» БНР зробіцца Коўна.

## Літва — новы стары хаўрусьнік

Новая палітычная сытуацыя, якая ўзьнікла ў выніку страты літоўцамі Вільні, захопленай «бунтаўніком» Жалігоўскім, і падпісаньня прэлімінарнага польска-расейскага міру, паводле якога Заходняя Беларусь аддавалася Польшчы, стварыла ўмовы для беларуска-літоўскага збліжэньня. Ва ўчорашніх заядлых супернікаў зьявіўся супольны вораг — Польшча, якая заняла спрэчныя тэрыторыі Віленшчыны і Горадзеншчыны, што былі прычынай літоўска-беларускіх непаразуменьняў.

Прыбыўшы ў Коўна, Урад БНР падаў літоўскаму ўраду дэкларацыю, дзе зазначыў, што «слаўнае мінуўшае Вялікага Княства Літоўскага дае прыклады сходныя сучаснаму моманту: у час, калі літоўскаму і беларускаму народам загражаў заняпад пад навалай заходу і ўсходу, яны па мудрай мысьлі волатаў літоўскае дзяржаўнасьці знаходзілі ў аб'яднаньні сваім ня толькі моц абараніцца, але і давесьці да найбольшага росквіту сваё гаспадарства».

## Міжнародная дамова БНР з подпісамі і пячаткамі

Пасьля неабходных кансультацыяў 11 лістапада 1920 году была падпісаная дамова паміж Урадамі Беларускай Народнай Рэспублікі і Літоўскай Рэспублікі. За ўсю гісторыю БНР гэта была самая

сур'ёзная міжурадавая дамова — з узаемным прызнаньнем і абавязаньнямі ўзаемнай падтрымкі. На моцы дамовы Літва вызначала Беларускаму Ураду і Прэзыдыюму Рады БНР месца афіцыйнага побыту на тэрыторыі Літвы і надавала іх супрацоўнікам права экстэрытарыяльнасьці.

Паводле першага параграфу дамовы, Урад БНР абавязаўся «далажыць усіх высілкаў», каб пры будучым польска-літоўскім плебісцыце беларусы-жыхары падплебісцытных тэрыторыяў аддалі свой голас на карысьць Літвы. Што да пытаньня аб літоўска-беларускай мяжы — яго вырашэньне адкладалася да скліканьня «Правамоцнага Прадстаўнічага Збору Беларускае Народнае Рэспублікі».

## Слуцкі Збройны Чын

Урад БНР, ствараючы ў лістападзе 1920-га разам зь літоўскімі калегамі адзіны антыпольскі фронт, не падазраваў, што ў гэтыя самыя дні ў сэрцы Беларусі — на Случчыне — ад яго імя (і не без падтрымкі тых самых палякаў) узьнімаецца сьцяг антыбальшавіцкага змаганьня, які ўвайшоў у гісторыю як Слуцкае паўстаньне.

Пасьля падпісаньня прэлімінарнага польска-расейскага міру Случчына, занятая на той момант польскім войскам, апынулася ў нэўтральнай зоне. На месцах пачалі фармавацца аддзелы беларускай самаабароны, палякі, якія рыхтаваліся да адыходу, не чынілі ім ніякіх перашкодаў.

14 лістапада Зьезд Случчыны абраў Раду Случчыны і абвясьціў уладу Беларускай Народнай Рэспублікі ў Слуцку і навакольлях:

«Зьезд катэгарычна пратэстуе проці акупацыі родных зямель чужацкім наездам і проці самазванай Савецкай улады, як урад Кнорына і іншыя, якія паўтвараліся на Беларусі. Бацькаўшчына наша зруйнавана чужынцамі, якія нішчаць яе і дагэтуль, і мы, аддаючы справе адбудаваньня нашай Бацькаўшчыны ўсе нашы сілы і жыцьці, зьвяртаемся да ўсяго сьвету і Саюзу Народаў аб дапамозе ў стварэньні нашай вайсковай сілы».

26 лістапада Першы Слуцкі полк і Другі Грозаўскі полк, аб'ядналыя ў Слуцкую брыгаду, уступілі ў бой з бальшавікамі.

Няроўныя баі працягваліся каля месяца, паўстанцаў падтрымлівала мясцовае насельніцтва, аднак рэальна супрацьстаяць Чырвонай арміі случакі не маглі. Да канца сьнежня ацалелыя аддзелы паўстанцаў былі выведзеныя на тэрыторыю, занятую палякамі, дзе былі раззброеныя і інтэрнаваныя.

## Тожэ-беларус Балаховіч

Адначасна адбывалася яшчэ адна акцыя, якая на пэўным этапе таксама выкарыстоўвала беларускія лёзунгі, — палескі паход генэрала Станіслава Булак-Балаховіча. Сплянаваны і падрыхтаваны з удзелам Юзэфа Пілсудзкага і расейскага тэрарыста Барыса Савінкава, гэты паход ня меў нічога агульнага зь беларускай незалежніцкай ідэяй. Тым ня менш з групы палянафільскіх беларускіх дзеячоў пры войску Балаховіча быў створаны Беларускі палітычны камітэт, які служыў шыльдай для заваяваньня даверу і сымпатыяў мясцовага насельніцтва.

12 лістапада Балаховіч узяў Мазыр і вывесіў над горадам бел-чырвона-белы сьцяг. Праз пару дзён ён заявіў, што не прызнае ўрадаў ні Луцкевіча, ні Ластоўскага, пераназваў Беларускі палітычны камітэт ва Ўрад БНР, і гэты «ўрад» абвясьціў Балаховіча «Начальнікам Беларускай Дзяржавы». Аднак ужо 18 лістапада бальшавікі выбілі аддзелы Балаховіча з Мазыра, а 29 лістапада генэрал адступіў у нэўтральную зону.

Апрача спэкуляцыі на беларускіх палітычных лёзунгах, Балаховіч запісаў на свой рахунак і пагромы габрэйскага насельніцтва. Нягледзячы на тое, што ў Мазыры генэрал выступіў са зваротам да габрэяў, гарантаваў ім роўныя правы і заклікаў да супольнай барацьбы з бальшавікамі, падуладныя яму вайскоўцы масава рабавалі, гвалцілі і забівалі, на што камандаваньне заплюшчвала вочы.

## Ластоўскі на сэсіі Лігі Нацыяў у Жэнэве

Адным з вынікаў працы Парыскай мірнай канфэрэнцыі стала заснаваньне 10 студзеня 1920 году Лігі Нацыяў — папярэдніцы сёньняшняй ААН, галоўнай місіяй якое было захаваньне міру ў сьвеце. Займалася яна і ўпарадкаваньнем спрэчных пытаньняў пасьля Першай сусьветнай вайны. На сэсію ў Жэнэву, дзе была афіцыйная сядзіба Лігі Нацыяў, выправілася і дэлегацыя БНР на чале з Ластоўскім, каб узьняць пытаньне аб несправядлівым падзеле Беларусі і аб нявырашанасьці беларускай праблемы наагул.

У Жэнэве Ластоўскі падаў Лізе Нацыяў два мэмарандумы — у справе захопленых Польшчай заход-

небеларускіх земляў і аб агульным становішчы Беларусі. У мэмарандумах рабіўся націск на неабгрунтаванасьць польскіх прэтэнзіяў на Горадзеншчыну і Віленшчыну, прычым пра Вільню гаварылася як пра супольную беларуска-літоўскую каштоўнасьць:

«Пытаньне аб горадзе Вільні, аднолькава важным і дарагім як для літоўцаў, так і для беларусаў, і аб Віленшчыне наагул — ёсьць дамовае ўнутранае пытаньне толькі літоўцаў і беларусаў. Але, на жаль, у гэтым пытаньні, як відаць, ясным і простым, узьнік зацямняючы і затрудняючы яго рашэньне асаблівы варунак — гэта прыцязаньне на горад Вільню з боку Польшчы. Але горад Вільня ніколі ня быў польскім горадам».

Апрача гэтага, адбыліся кантакты з «аколічнымі» пострасейскімі рэспублікамі ад Эстоніі да Азэрбайджану. Ластоўскі разам з Ладновым наведаў сакратара палітычнага аддзелу Лігі Нацыяў, зь якім прагаварылі паўтары гадзіны. Сустрэўся Ластоўскі і з сіяністкімі дзеячамі Нахумам Сокалавым і Лео Моцкіным, якія абяцалі дапамогу. Тэмай беларуска-габрэйскага збліжэньня былі ўчыненыя палякамі і войскам Балаховіча пагромы на тэрыторыі Беларусі.

## Даволі цікава, але трывіяльна

У вольны час Ластоўскі хадзіў па вуліцах Жэнэвы:

«Вечарам у месьце гуляюць карнавал-маскарад. На вуліцах тысячы пераадзетых, гоман, крык, музыка. Выглядае ўсё гэта на староннага чалавека даволі цікава, але разам з тым і даволі трывіяльна».

## Пачаткі спрэчкі «Беларусь» ці «Белоруссия»

Ластоўскі піша ў сваім жэнэўскім дзёньніку: «Маю шмат труднасьцей з нарыхтаваньнем работы. Асабліва цяжка дзеля нязнаньня францускай мовы. Адшукаў тлумача жыда з Вітэбшчыны. Жыве ён 35 гадоў ужо ў Швайцарыі і рвецца на Беларусь — каб там памерці».

Ластоўскі, убачыўшы, што «тлумач», Жак Дыкер, перакладае на францускую мову Беларусь як Russie Blanche (Белая Расея), зрабіў яму заўвагу. І тады той уступае з апантаным беларускім моваведам у забаўную, цалкам актуальную і сёньня дыскусію, ужываючы іронію на мяжы з сарказмам:

«Многоуважаемый г-н Ластовский. Меня очень удивляет Ваше замечание, хотя я хорошо знаю русский язык, я не могу уловить разницы между “Белая Россия” и “Белорусь”, при переводе создавать несуществующих слов я не могу, но полагаю, что Вы можете это легко поправить, сделав этим самым текст малопонятным для французов».

## «Неабкнавенная, бязмэтная стральба, нічым неаб’ясьнімая»

На хвілінку адпачнем ад БНР і наведаем Беларускі асобны батальён, сфармаваны пры Літоўскім войску ў 1918 годзе. З кнігі загадаў:

«У прайшоўшым годзе пры спатканьні Новага году ва ўсім гарнізоне была неабкнавенная, бязмэтная стральба, нічым неаб’ясьнімая. Стралялі ня толькі салдаты, но і афіцэры, ваенныя чыноўнікі і нават штацкія людзі. Каб не было больш такога

беспарадку і ў гэтым гаду, прыказваю камандзерам усіх часьцей і начальнікам устаноў наблюдаць, каб не было ніводнага непатрэбнага выстралу».

«Многія ваеннаслужашчыя, асабліва салдаты, па начам пасьля 12 гадз. начы робяць на вуліцах непарадак. Камандзерам часьцей прыказваю салдат асвабажджаць у места да позьняга часу толькі тых, якія маюць радню».

«Нестраявой роты конь пад клічкай "Акула", адпраўленую на вылячэньне ў Армейскі Вэтэрынарны лязарэт, выключыць з фуражнага давольства».

«Капітана Васілеўскага і ст. лейтэнанта Самулевіча за нецьвярознае павядзеньне ў кінэматографе арыштоўваю на 10 дзён на гаўптвахце».

«20 января с. г. Командующий Армией, осмотрев войсковые части, находящиеся в Шанцах Понемуни, нашел: Во всех частях, за исключением Белорусского батальона, пища плохая. Это отчасти зависит от продуктов, отчасти от неумения их готовить, неопытный кашевар и хорошие продукты испортит».

## БНР працягвае руку Савецкай Беларусі

1921 год за ўсю кароткую гісторыю БНР быў першым годам без вайны. Нарэшце палітычная геаграфія Беларусі стабілізавалася на даўжэйшы час, і беларускія незалежніцкія палітыкі пачалі разважаць пра свае пэрспэктывы на новай карце Ўсходняй Эўропы.

На першае месца выйшла пытаньне дачыненьняў з Савецкай Расеяй і «незалежнай» Савецкай Беларусьсю. Перамовы ў гэтых пытаньнях вяліся

празь літоўскае пасярэдніцтва з кіраўніком савецкай місіі ў Літве Аляксандрам Аксэльродам. Той папрасіў удакладніць — якую пазыцыю БНР займае ў дачыненьні да БССР.

25 студзеня 1921-га Вацлаў Ластоўскі ўдакладняе: «Лічачы, што апавяшчэньне і ўстанаўленьне Беларускай Савецкай Рэспублікі ёсьць адна са ступеняй да поўнага зьдзяйсьненьня незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі ня толькі ня мае на мэце вясьці аружную ці іншую якую барацьбу зь ёю, але наадварот, будзе памагаць Савецкай Беларускай Рэспубліцы як у справе адраджэньня беларускага народу, так і ў справе поўнага зьдзяйсьненьня незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі».

## Савецкая Беларусь граміць беларускіх эсэраў

А ў Менску тым часам пачаў памалу ўсталёўвацца савецкі парадак. У лютым ГПУ арыштавала каля 860 актыўных сяброў партыі беларускіх эсэраў, у тым ліку ЦК партыі і амаль усе правінцыйныя камітэты — сярод іх Мамоньку, Бадунову, Трафімава, Маркевіча, Чаржынскага. Эсэраўская газэта «Змаганьне» была закрытая. Сымпатыя і прыхільнасьць кіраўніка Ўраду БНР да Савецкай Беларусі адказу не атрымалі.

## Латвія думае пра Беларусь

1 лютага 1921 году пад ціскам Савецкай Расеі ўлады Латвіі дамагліся закрыцьця Вайскова-дыпляматычнай місіі БНР у Рызе. Кастусь Езавітаў

пераехаў у Дзьвінск, дзе заняўся нацыянальна-культурнай працай сярод латгальскіх беларусаў.

## «Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, цёмных дарог махляры...»

18 сакавіка 1921-га ў Рызе была падпісаная канчатковая Мірная дамова паміж Польшчай і Расеяй. На два дзесяцігодзьдзі зямлю Беларусі парэзала напалам дзяржаўная мяжа.

Урад БНР выступіў з пратэстам «Усяму культурнаму сьвету»:

«У Рызе 18 сакавіка 1921 году учынен цяжкі праступак Урадамі Польскай і Савецка-Расейскай Рэспублік супроць 16-мільённага насяленьня Беларусі.

Гэты ганебны праступак носіць названьне Міравой умовы паміж польскай дэмакратычнай Рэспублікай і Расейскай Савецкай Рэспублікай.

Польшча і Расея, не маючы паміж сабою супольных граніц, тры гады ваявалі на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі: палілі, руйнавалі, грабілі і мучылі насяленне, а урэшце, завяршаючы бесканечны рад сваіх бяспраўій, раздзерлі жывое цела Беларускага народу на двое. Польшча заграбіла заходнія, а Расея — усходнія беларускія землі.

Рыжскі Польска-Бальшавіцкі мір — гэта кашмарная насьмешка над дэмакрацыяй і яе ідэаламі. Імя яму насільле і грабёж.

Урад Б.Н.Р. імянем Беларускага народу заносіць самы гарачы пратэст перад усімі культурнымі дзяржавамі і народамі сьвету, шукаючы заступніцтва і справядлівасьці, і заяўляе:

1) Мір, разрываючый на часьці жывы арганізм Беларусі, ніколі ня будзе прызнаны Беларускім народам;

2. Супраць гвалту і паняволеньня Беларускі народ бароўся і будзе бароцца да канца за сваю незалежнасьць і непадзельнасьць».

«Нас падзялілі — хто? Чужаніцы, цёмных дарог махляры…» — адгукнуўся на падзею Якуб Колас.

## БНР — дзяржава двух народаў

На 3-ю гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці Ўрад БНР выступіў з дэклярацыяй, якая задавала новы вэктар у беларускай палітыцы. Дэклярацыя пацьвярджала «сувэрэннасьць нацый беларускай і жыдоўскай і поўнае аб'яднаньне ў адзін дзяржаўны Беларускі Народ». У тым самым часе была прынятая адозва «Беларускія жыды, яшчэ за вамі слова і праца», дзе сярод іншага гаварылася:

«Не было ніводнай дзяржавы, якая б вашых прадзедаў, дзядоў і вас не выганяла, не прыгнятала, не прасьледавала, ня зьдзекавалася над самым сьвятым, што было і ёсьць у вас.

Мінуўшая гісторыя вашага народу ўся перапоўнена бязьвіннымі мукамі і крывёй.

Сучасная гісторыя ваша — таксама тоне ў бязьвіннай крыві сыноў вашага народу.

Пагромы ўчыняюцца над вамі ня толькі ў чужых странах, а нават і ў роднай вам старонцы — у Палестыне. Мала ёсьць дзяржаў, дзе б жыды ў поўнай меры карысталіся ўсімі грамадзкімі і палітычнымі правамі.

Толькі адна ёсьць дзяржава, у якой жыды прызнаны супольнай дзяржаўнай нацыяй — гэта Беларуская Народная Рэспубліка».

## Ладноў стварае Дзяржаўны Камітэт БНР

Найвышэйшая Рада БНР працягвала анабіёзнае існаваньне ў Вільні. У сярэдзіне красавіка 1921-га ў Вільні зьяўляецца эксцэнтрычная постаць беларускай палітычнай сцэны палкоўнік Аўген Ладноў, міністар замежных справаў БНР, кіраўнік беларускай дэлегацыі ў Парыжы.

Фракцыйная ляяльнасьць Ладнова была няяснай — ён нібыта захоўваў субардынацыю ва ўрадзе Ластоўскага, але пры гэтым ніколі не зракаўся ўдзелу ва ўрадзе Луцкевіча. Як бы там ні было, ва ўяўленьні абодвух варожых лягераў БНР ён трымаў у руках усе ніткі беларускай замежнай палітыкі.

У Вільні Ладноў пастанавіў «закрыць» пытаньне Найвышэйшай Рады і ініцыяваў заснаваньне 17 красавіка Дзяржаўнага Камітэту Беларускай Народнай Рэспублікі, пад парасонам якога аб’ядналіся б усе сілы, што стаяць на грунце незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі. Пры гэтым урад Ластоўскага быў абвінавачаны ў сувязі з расейска-нямецкімі манархічнымі коламі, што пакінула яго па-за рамкамі беларускага дзяржаўнага будаўніцтва.

«Дзяржаўнае будаўніцтва Беларускае Народнае Рэспублікі перажывае цяжкую хваробу, — пісалася ў надыктаванай Ладновым Дэклярацыі Дзяржаўнага Камітэту. — 13 сьнежня 1919 году паміж членамі Рады Рэспублікі прысланыя з Бэрліну агенты справацыравалі раскол…»

Старшынём Дзяржаўнага Камітэту быў абраны Луцкевіч, намесьнікам — сам Ладноў, сакратаром — Тарашкевіч. Для рэалізацыі дзяржаўных ідэалаў плянавалася стварыць беларускія збройныя сілы пад камандай… Балаховіча.

Найвышэйшая Рада БНР перадала свае мандаты Дзяржаўнаму камітэту і скончыла сваё існаваньне.

## Ладнова раскусваюць

Неўзабаве высьветлілася, што ляяльнасьць палкоўнік Ладноў захоўваў толькі ўласнай кішэні, напоўненасьць якой забясьпечвала «двуйка» — II аддзел польскага генштабу (вайсковая выведка). Дзяржаўны Камітэт БНР тут жа прыкрылі, а Ладнова павыключалі адкуль толькі можна і паведамілі ва ўсіх даступных сродках інфармацыі.

## Літва не дамаўляецца з Польшчай

Яшчэ адна нерэалізаваная карта беларускай палітычнай геаграфіі абмяркоўвалася на польска-літоўскай канфэрэнцыі ў Брусэлі ад красавіка да чэрвеня 1921-га. У якасьці вырашэньня канфлікту бакам быў запрапанаваны праект, падрыхтаваны бэльгійскім дыпляматам Полем Імансам. Паводле яго, спрэчныя тэрыторыі разам зь Вільняй перадаваліся Літве, але Літва мелася б складацца з двух кантонаў — Ковенскага і Віленскага (з гарантыяй польскіх уплываў у другім).

Сваю дэлегацыю ў асобе Аляксандра Цьвікевіча паслаў у Брусэль і Ўрад БНР. У адмысловай заяве Урад выклаў сваю пазыцыю ў справе канфэрэнцыі:

«У выпадку, калі на Літоўска-Польскай канфэрэнцыі ў Брусэлі будзе запрапанавана Літве перадача беларускай зямлі да лініі Рыскай польска-расейскай умовы (так званы другі “польскі” калідор), [Урад] дае сваю згоду на прыём Літвой гэтых зямель пад варункам, што этнаграфічна беларускія землі будуць выдзелены ў самаістую палітычную адзінку».

Пазыцыі польскага і літоўскага боку што да праекту Іманса вельмі моцна разышліся, і справа нічым ня скончылася. Аднак яшчэ й дагэтуль сярод літоўскіх гісторыкаў не сьціхаюць спрэчкі — ці праект Іманса ня быў унікальным страчаным шанцам захаваць Вільню і пазьбегнуць непатрэбнай канфрантацыі з Польшчай, якая на два дзесяцігодзьдзі ўскладніла міжнароднае становішча Літвы.

## За чысьціню і гігіену

Гэты тэкст сінім і чырвоным алоўкамі, напісаны рукою Ластоўскага на аркушы фармату А4, быў адрасаваны наведнікам ягонага працоўнага кабінэту:

*«Ку памети а ку розсудкови вашому* ***Достоиные Гости***

*Полировность свецкая яко і обычайливость людзкая наказують заховывати в господе певные годные добродчости* ***Вашое*** *прыстойности*

*а прото:*

*опалков серных, окурков папиросных і иншых речей, ачколечи зужитых, тым не меней плюгавостю тхнучых, на помостье не кидати, абы господа*

*негоднаго осельніка, сердце Вамі свое веселячого, не уподоблялася стайни Аўгіевое, яко то часто крот часу струячого бывае.*

*О што просечи полецаюся полировности Вашое.*

***Негодны Послуг Слуг Вашых***».

## Беларусь і Сіянісцкі кангрэс

14 ліпеня 1921 году (відавочна, у кантэксьце кантактаў зь сіянісцкімі дзеячамі і пэрспэктываў атрыманьня ад іх грашовай дапамогі) на сходзе Прэзыдыюму Рады і Рады Народных Міністраў БНР былі выслуханыя даклады прэм'ера Ластоўскага і міністра нацыянальных меншасьцяў Жытлоўскага пра гвалты і пагромы, якія чыняцца над габрэйскім насельніцтвам «у акупаваных бальшавікамі і палякамі частках Беларусі».

Было пастаноўлена зьвярнуцца да беларускага народу з антыпагромнай адозвай, выдаць адпаведныя кнігі і брашуры, праводзячы думку, што «народы беларускі і жыдоўскі ёсьць братнія і маюць поўнае права жыць і разьвівацца на Беларусі побач».

З пакетам дакумэнтаў на гэтую тэму Самуіл Жытлоўскі паедзе на XII Сіянісцкі кангрэс, які адбудзецца ў Карлсбадзе 1–14 верасьня.

## Дзе бадзяецца Смоліч

Дараднік Міністэрства замежных справаў БНР Аляксандар Галавінскі ў жніўні 1921 году выправіўся ў сваіх прыватных справах (а таксама зь неафіцыйнай дыпляматычнай місіяй) у Маскву, дзе спрабаваў прамацаць у калідорах замежнай

палітыкі пытаньне аб шанцах прызнаньня БНР. Сярод іншага ён паведамляў пра размовы, паводле якіх ужо да зімы было рэальна дамагчыся ад савецкай Расеі далучэньня да БССР усіх этнаграфічных беларускіх тэрыторыяў. У ліпені 1921-га ў Менску адбылася эканамічная нарада прадстаўнікоў Менскай, Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губэрняў.

Паўнамоцны прадстаўнік БССР у Маскве грамадзянін Мароз Галавінскаму спадабаўся: «Хоць і малады хлопец, але працуе добра». Дамо слова і самому Марозу: «Наша адраджэньне толькі што пачалося, шмат хто да гэтага часу нічога ня ведаў аб сваёй Бацькаўшчыне. Вялікая шкода ў тым, што тыя працаўнікі, якія пачалі працу беларускага адраджэньня, не знаходзяцца ў Менску. Напрыклад, Смоліч напісаў геаграфію, а бадзяецца чорт яго ведае дзе…»

## Зьмітро Жылуновіч і БНР

Беларусы з абодвух бакоў палітычных барыкадаў — з БНР і з БССР — тады, у 1921-м, маглі спакойна сустракацца, размаўляць і нават супрацоўнічаць. Аднак доўга такая сытуацыя не праіснуе.

Галавінскі сустрэўся ў Маскве зь Зьмітром Жылуновічам — першым старшынём Ураду ССРБ 1919 году, а цяпер кіраўніком Дзяржаўнага выдавецтва — і гаварыў зь ім зусім не пра палітыку, а пра літаратуру і выдавецкую справу. Жылуновіч рыхтаваўся выехаць у Бэрлін і выдаваць там беларускія кнігі, бо паліграфічныя магчымасьці ў Менску былі вельмі абмежаваныя.

У гэтай справе плянавалася супрацоўніцтва з кіраўніком БНРаўскага выдавецтва «Вызваленьне» ў Бэрліне Аляксандрам Цьвікевічам. Апрача таго, Жылуновіч зьбіраўся «выпісаць» зь Вільні Антона Луцкевіча, чакаў для выданьня творы Гарэцкага, якога прасіў напісаць прадмову да ягоных, Жылуновіча, твораў. «Чалавек партыйны, але не партыйнасьць яго сьвятая сьвятых. Апошнім, на мой погляд, зьяўляецца пісьменства», — падсумоўвае Галавінскі.

## Вялікая нарада ў Празе

Да лета 1921 году ў беларускім нацыянальным сусьвеце — пасьля ўсіх войнаў, рэвалюцыяў і «бамбічаскіх пераваротаў» апошніх некалькіх гадоў — сасьпеў час азірнуцца навокал і ацаніць актуальную сытуацыю, якая, як выглядае, памалу стабілізавалася. Вырашылі сабраць прадстаўнікоў усіх плыняў і кірункаў беларускай незалежніцкай палітыкі з розных краінаў Эўропы.

Такі збор — Беларуская нацыянальна-палітычная нарада — адбыўся ў Празе 26–28 верасьня 1921 году. На яго зьехаліся тры дзясяткі ўдзельнікаў зь Вільні, Коўна, Рыгі, Варшавы ды іншых беларускіх асяродкаў.

Нарада адбылася ў адным з самых імпазантных у Празе рэпрэзэнтацыйных памяшканьняў — Грамадзкім доме, дзе 28 кастрычніка 1918 году была абвешчаная незалежнасьць Чэхаславаччыны. Пасяджаньне 26 кастрычніка адкрыў Васіль Захарка дакладам пра наступствы Рыскага міру для Беларусі.

Нарада прыняла важныя рэзалюцыі: аб Рыскім трактаце (асудзілі), аб палажэньні беларускага народу пад расейскай і польскай акупацыямі (палажэньне горш няма куды), аб чыннасьці Балаховіча (лічыць узурпатарам і авантурнікам!), аб чыннасьці Савінкава (тут усё ясна), супраць габрэйскіх пагромаў (праводжаных бандамі Савінкава, Балаховіча і Будзённага), аб Слуцкім паўстаньні (слава героям!), аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі (аб'яднацца вакол Ураду БНР), па Віленскім пытаньні (забраць у Польшчы, а пасьля зь Літвой самі разьбярэмся), аб эканамічным палажэньні Беларусі (пратэст супраць акупантаў-рабаўнікоў), аб культуры і прасьвеце (змагацца з акупантамі за культуру і мову), аб дапамозе ахвярам вайны і голаду (і тут усё ясна).

У сваёй справаздачы начальству прысутны на нарадзе агент чэскай паліцыі напісаў: «За абодва дні нарады парадак прысутнымі парушаны ня быў». У трэці, апошні дзень нарады агент у залю паседжаньняў не прыйшоў.

## З Ладновым разьбіраюцца канчаткова

На маргінэсе нацыянальна-палітычнай нарады прадстаўнікі розных кірункаў беларускай палітычнай думкі скарысталіся нагодай, каб абмеркаваць іншыя важныя тэмы, якім не знайшлося месца ў парадку дня нарады. Сярод іншага была пастаўленая канчатковая кропка на Аўгену Ладнову, які за пару гадоў дзейнасьці ўнёс у беларускую палітыку дух шпіёнаманіі і авантурнага раману.

Удзельнікі адмысловай нарады ў гэтай справе зьняпраўдзілі выстаўленыя Ладновым абвінавача-

ньні ўраду Ластоўскага ва ўдзеле ў нямецка-расейскай манархічнай змове і запрапанавалі былому «дыплямату» паўстаць перад грамадзкім судом.

Ладноў, лішне казаць, прапанову праігнараваў і ў наступныя гады працягваў свае паранаідальныя расьсьледаваньні, плёнам чаго сталіся тры «дакумэнтальныя» кнігі-расьсьледаваньні — «Пратаколы Людэндорфа-Штынэса-Чычэрына», «Супраць блёку зь немцамі» і «Агнём і мячом, голадам і хваробамі». У рэцэнзіях на іх пісалася: «Дзіўны ўзор паваеннага псыхозу. Апублікаваныя дакумэнты, нават калі б яны былі аўтэнтычныя, нічым не даказваюць таго, што хоча даказаць аўтар. Надзвычайная мешаніна банальнасьці і бульварнага раману…»

## Урад Ластоўскага — адзіны законны Ўрад БНР

Была пастаўленая ў Празе і яшчэ адна тлустая кропка. Дзеля таго, што нацыянальна-палітычная нарада была найбольш прадстаўнічым форумам беларускіх палітыкаў за межамі БССР, там вырашылі разабрацца з суіснаваньнем некалькіх урадаў БНР, кожны зь якіх прэтэндаваў на манаполію.

Прадстаўнікі ўраду Ластоўскага зь ім самым на чале, колішняга кола Найвышэйшай Рады (Тарашкевіч), Беларускага нацыянальнага камітэту ў Варшаве (Дубейкаўскі), Віленскага нацыянальнага камітэту (Карабач), Горадзенскага нацыянальнага камітэту (Баран), беларусаў Латвіі (Езавітаў) пастанавілі лічыць адзінай законнай правадаўчай уладай Раду БНР, а праўна-выканаўчым органам — абраны Радай урад Ластоўскага. Усе іншыя спробы прэтэндаваць на дзяржаўную ўладу абвяшчаліся аванту-

рамі, шкоднымі для беларускага народу, «і дзеля гэтага зь імі павінна весьціся рашучая барацьба».

Браніслаў Тарашкевіч, падпісаўшы пастанову, зрабіў такую прыпіску: «Прызнаю, што ў даны момэнт ёсьць толькі адзін Урад БНР, не згаджаюся з тактыкай і палітыкай яго».

## Крачэўскі застаецца ў Празе

Старшыня Прэзыдыюму Рады Рэспублікі Пётра Крачэўскі пасьля вялікай нарады застаўся ў Празе. Там ён заняўся палітычнай працай — стварэньнем разам з украінцамі і кубанцамі «Саюзу Ўсходне-Эўрапейскіх народаў былой Расеі» і фармаваньня пры ім беларускіх, украінскіх і кубанскіх легіёнаў для падтрымкі незалежнай Чэхаславаччыны.

Тут зноў найбольшай перашкодай у працы сталася безграшоўе. «Пагроза, што мяне хутка выставяць з гатэлю, зусім паралізуе працу. Трудна пісаць, калі не хапае на маркі…», наракаў Крачэўскі.

## Жабрацкае існаваньне старшыні

Пра ўмовы нават не жыцьця — існаваньня — старшыні Прэзыдыюму Рады БНР Пётры Крачэўскага ў Празе сьведчаць яго лісты Вацлаву Ластоўскаму ў Коўна на працягу кастрычніка 1921 — лютага 1922. Вось некалькі фрагмэнтаў:

«Ужо аброс даўгамі з гаспадынямі, крамкамі і добрымі знаёмымі… Хоць галодны, але бодрасьці духу ня трачу і ўвесь час таўкусь паміж усімі групамі і партыямі… Няхай Цьвікевіч прывязе мне

хоць боты, бо ўжо босы хаджу, а калі можна, то і другія рэчы…

Самі зь дзядзькам (Вяршыніным) і зь сем'ямі абедаем толькі раз у тыдзень, а часамі і таго няма, дзе ж ужо тут думаць аб чым-небудзь… Аб Амэрыцы я нічога пэўнага не магу сказаць, бо ня ведаю, як гэта зрабіць бяз грошай. Калі ў вас не хапае грошай, каб прыслаць нам на абед, то як можна думаць аб Амэрыцы… Зараз каб нас усіх забіць разам — трое Вяршыніных і нас трое — то ня знойдзеш па дзесяць галераў на душу — ходзім і паветра нюхаем…

Чыста палітычнай працы зь Міністэрствамі не вяду, бо нават няма ў чым туды паказацца… Наагул наша жыцьцё тут такое паганае, што ледзьве-ледзьве дыхаем… Я цягну жабрацкае існаваньне. Ведаю, што і ў вас трудна, але галадоўка дае знаць…»

## Вільня адыходзіць да Польшчы

Стратэгічнае супрацоўніцтва зь Літвой, якая спадзявалася на Ўрад БНР як на падручны інструмэнт змаганьня за Вільню, памалу згасла. Распачатая ў кастрычніку 1920-га акцыя Жалігоўскага набліжалася да пасьпяховай разьвязкі. 8 студзеня 1922 году адбыліся выбары ў Сойм Сярэдняй Літвы, масава байкатаваныя беларускімі і літоўскімі насельнікамі краю. Сойм распачаў працу 1 лютага, а 20 лютага прыняў пастанову аб далучэньні да Польскай Рэчы Паспалітай.

Так на два дзесяцігодзьдзі сталіцай Літвы стала Коўна — «часовай сталіцай», паводле прынятай 1 жніўня 1922 канстытуцыі Літоўскай дзяржавы.

## Патрыярх Ціхан бачыць у БНР саюзьніка

Адзначыўся ў Архівах БНР і патрыярх маскоўскі і ўсяе Русі Ціхан. Яму быў дасланы мэмарандум пра становішча Праваслаўнай царквы ў Беларусі зь пералікам захадаў «для утверждения Православной Веры в борьбе с полонизмом и римско-католичеством».

Прапановы патрыярху спадабаліся, і ён паабяцаў дазволіць у падуладных яму япархіях ужываньне беларускай мовы ў дадатковых багаслужбах, казаньнях і катэхізацыі — калі бальшыня прыхаджанаў падасьць адпаведныя хадайніцтвы. (Акурат як цяпер для адкрыцьця беларускіх клясаў.)

Разьвітваючыся, патрыярх «малітоўна пажадаў, каб Госпад умацаваў сілы Беларускага народу ў адстойваньні інтарэсаў роднай для яго Праваслаўнай Царквы». І прыклікаў Божае блаславеньне на працы ўсяго Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Гарэцкі ў Дзьвінску

Клясык беларускай літаратуры Максім Гарэцкі трапіў у БНР, калі ў студзені 1922 году пасьля арышту польскімі ўладамі і зьняволеньня ў віленскіх «Лукішках» быў высланы ў Літву. Урад Вацлава Ластоўскага прыняў яго вельмі прыязна і дапамог выехаць у латыскі Дзьвінск, дзе Гарэцкі чатыры месяцы выкладаў на беларускіх настаўніцкіх курсах. З таго часу паходзіць гэты дакумэнт:

«Удостовереніе

Дано сіе Максиму Горецкому въ томъ, что онъ страдаетъ острымъ малокровіемъ, неврастеніей

и хроническимъ катарральнымъ бронхитомъ, вслѣдствіе чего онъ безусловно нуждается въ усиленномъ питаніи, продолжительномъ отдыхѣ и въ курортномъ леченіи до полнаго поправленія своего здоровья.

Двинскъ, 7 марта 1922 г.

Врачъ Б. Камеразъ».

## Езавітаў у Корсаўцы

Кастусь Езавітаў, езьдзячы па латгальскай правінцыі, спыніўся ў Корсаўцы — самым паўночным беларускім пункце на «Этнаграфічнай карце беларускага племені» Яўхіма Карскага:

«Седзючы на станцыі і чакаючы цягніка, успомніў я, што хоць і на самым паўночным атрозе, на самай мяжы, але ўсё-ж-ткі на роднай зямельцы сіжу я, і што шмат нашых працаўнікоў адарвалося ад роднай глебкі і пакутуе на чужыне, даўным-даўно ня чуючы шум бацькаўскіх лясоў, ня бачучы жартаўлівай мяцеліцы і не ўдыхаючы смаліста-сасновага паветра».

## Маркі слуцкіх паўстанцаў

Пра маркі Асобнага атраду БНР усе ведаюць, значна большая рэдкасьць — маркі слуцкіх паўстанцаў, іх маюць у сваіх калекцыях толькі самыя заўзятыя і ўдачлівыя.

Штаб Слуцкай брыгады 1 сьнежня 1920-га выпусьціў іх як наддрукоўкі на польскіх марках — 25 грошаў на зялёнай 5-грошавай і 50 грошаў на ружовай 15-грошавай. Наддрукоўка ўяўляла сабой

ручны чарнільны штэмпэль з выявай «Пагоні» і літарамі «Ч.Р.Сл.» (Часовая Рада Случчыны).

Усяго пасьпела выйсьці з палявой пошты каля 20 штук першай і каля 200 штук другой маркі, астатнія загінулі ў часе пажару. У недатаваным «удостоверении», якое захоўваецца ў архіве, сьведчыцца, што захавалася толькі некалькі штук — 3 камплекты, да якіх, мабыць, тое «удостоверение» і было далучана. Марак цяпер пры ім ужо няма.

## Некаторыя туга нацягнутыя ніці

Прэм'ер Ластоўскі пісаў афіцыйныя цыркуляры як паэмы:

«Высокапаважанае грамадзянства! Зацішша патрывае цяпер даўжэйшы час, магчыма да будучай вясны, але яно немінуча закончыцца бурай, у горне якой мы павінны выкаваць наш ідэал. Маюцца ў маіх руках некаторыя туга нацягнутыя ніці, якія ўвесь гэты час будуць іграць над Бугам і Немнам прэлюдзіі да будучых песень…»

Так напісаў Вацлаў Ластоўскі і накіраваўся ў Генную.

## Прапанова для Генуі: скасаваць Рыскі мір і прызнаць БНР

Генуэская канфэрэнцыя была апошнім міжнародным форумам, на якім дзеячы БНР паспрабавалі паставіць беларускае пытаньне. Яна адбывалася з 10 красавіка да 19 траўня 1922 году і мела за тэму аднаўленьне эканамічнага жыцьця Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Упершыню да ўдзелу ў форуме

такога ўзроўню была дапушчаная бальшавіцкая Расея, якая прадстаўляла і іншыя савецкія рэспублікі, у тым ліку БССР.

У мэмарандуме Ўраду БНР праводзілася думка, што галоўная праблема нармалізацыі Ўсходняй Эўропы — польска-расейскія дачыненьні. А ў іх цэнтры — барацьба за панаваньне над Беларусьсю.

«Прызнаньне за Рыскім трактатам моцы міжнароднага акту было б аграмаднейшым гвалтам над Беларускім Народам, гвалтам роўным падзелу Польшчы ў 1772 годзе. З падобным гвалтам нацыянальна адраджаючаяся Беларусь ніколі не пагодзіцца. Замест міру край будзе засуджан на бесьперапынную глухую барацьбу з акупацыяй. Народ ня спыніць змаганьня датуль, пакуль не даб'ецца свайго вызваленьня і аб'яднаньня», — заяўлялася ў мэмарандуме.

Вырашыць вузел гэтых праблемаў можна вельмі проста: скасаваць Рыскі мір і прызнаць незалежнасьць БНР у яе этнаграфічных межах.

## Ластоўскі аддае Вільню літоўцам

Ластоўскі прыехаў у Геную ў складзе літоўскай дэлегацыі. І ўжо там, падчас працы канфэрэнцыі, разам зь міністрам замежных справаў Цьвікевічам падаў яе старшыні Люіджы Факта зварот Ураду БНР, які пасьля будзе прадметам жорсткай крытыкі з боку апанэнтаў Ластоўскага. Тэмай звароту была прыналежнасьць Вільні, якая за пару месяцаў да таго была далучаная да Польшчы.

Урад БНР ад імя беларускага народу тлумачыў беспадстаўнасьць і згубнасьць такога вырашэньня

віленскага пытаньня. «Беларускае насяленьне годзіцца з тым, каб Вільня стала тым, чым яна заўсёды была — стольным местам Літоўскай дзяржавы... Мы сьведчым перад міжнарадовай Канфэрэнцыяй, што гэта ёсьць погляд беларускага насяленьня Віленскай тэрыторыі...»

«Ластоўскі ў Генуі прадаў Вільню літоўцам», — такі вэрдыкт ня раз прагучыць у наступныя месяцы і гады.

## Няхай згарыць тая канфэрэнцыя

«Хай яна згарыць тая Ваша Генуэская Канфэрэнцыя, яна мяне таксама падвяла на 200 карон з тэлеграмамі, пры нашай беднасьці гэта чорт ведае што», — наракае з Прагі Пётра Крачэўскі. З свайго галоднага палону ён вырвецца ў Коўна ў пачатку жніўня 1922-га.

## Рэха Генуэскай заявы

Вярнуўшыся з Генуі ў Коўна, Ластоўскі і Цьвікевіч засьпелі скрайняе ўзбуджэньне. З боку паплечнікаў гучалі дакоры ў здрадзе беларускіх інтарэсаў і запраданьні Літве. Прэзыдыюм Рады БНР у асобе намесьніка старшыні Васіля Захаркі рашуча адмежаваўся ад генуэскай заявы і абвінавацію дваіх яе падпісантаў у злачыннай самадзейнасьці. На сходзе Ўраду бальшынёю галасоў была прынятая адпаведная рэзалюцыя.

Застаўшыся ў меншыні, старшыня Ўраду і міністар замежных справаў заявілі аб сваёй адстаўцы,

якую Захарка прыняў, але папрасіў абодвух выконваць свае абавязкі да прыезду ў Коўна з Прагі старшыні Рады Крачэўскага.

## Дзяржаўная Калегія БНР

Вырашыць пытаньне з адстаўкай Ластоўскага ніхто толкам ня мог, бо для прызначэньня новага прэм'ера трэба было сабраць пленум Рады, што ў тых абставінах было малаверагодна. Выйсьце знайшлі ў перафарматаваньні дзяржаўна-ўрадавых структураў: 11 кастрычніка 1922 году была ўтвораная «Дзяржаўная Калегія» БНР, якая пераймала кампэтэнцыі груваcткай Рады. (Фактычна была перанятая ідэя Луцкевічавай «Найвышэйшай Рады».)

На чале Дзяржаўнай Калегіі стаў яе ініцыятар Пётра Крачэўскі. Ластоўскі застаўся прэм'ерам і ўвайшоў у Калегію (разам зь Цьвікевічам, Жытлоўскім і Зайцам), але расколіны ў будынку БНР ня толькі ня зьніклі, а рабіліся ўсё шырэйшыя.

## Адкуль Крывія

27 лістапада 1922 году Янка Станкевіч, колішні віленскі палітык-культурнік, а цяпер студэнт Карлавага ўнівэрсытэту ў Празе, піша Вацлаву Ластоўскаму ў Коўна:

«Маю да Вас гэткую вельмі важную справу: Як Вы ведаеце, многія (калі ня ўсе) сьвядомыя Беларусы незадаволены нашым цяперашнім назовам "Беларус" і г. д. Прызнаючы яго непрактычнасьць і шкоднасьць пры адраджэньні й наагул жыцьці нашага народу як рэклямуючага нас як нейкую

часьць, дадатак “рускіх”, я прастудыёваў усе нашыя нацыянальныя назовы ў розныя пэрыоды гісторыі нашага народу… Найправільнейшым, найпрактычнейшым і найлепшым нашым нацыянальным назовам зьяўляецца Крывіч, край Крывія і прымета крывіцкі або крыўскі».

Ластоўскаму гэтая ідэя настолькі спадабалася, што ён пачне сам актыўна ўжываць гэты тэрмін у сваёй далейшай дзейнасьці. А ў Славянскай бібліятэцы ў Празе беларускія выданьні дагэтуль маюць у каталёгу індэкс «К».

## Во як

Былы консул БНР у Канстантынопалі, а цяпер таксама праскі студэнт Іван Ермачэнка піша Вацлаву Ластоўскаму:

«Прашу Вас, калі можна, прыслаць мне гістарычны матэрыял аб паходжаньні беларусаў ад хеттаў, я хачу даказаць гэтым бязграматным у гісторыі людзям, якія нават Вашага аўтарытэту па гісторыі не вызнаюць, усё ж такі калі ўбачаць матэрыял, то можа згодзяцца з праўдай».

## Ад Ластоўскага хаваюць фінансавыя справы

Тэмай, якая немінуча вяла да канфлікту паміж кіраўнікамі БНР, былі фінансы. Яшчэ на пачатку 1921 году праз Бэрлінскую місію БНР былі навязаныя кантакты зь нямецкай экспартна-імпартнай фірмай IWEG і падпісанае гандлёвае пагадненьне. Урад БНР прыняў на рэалізацыю розныя прамысловыя і спажывецкія тавары. Тавары былі нізка-

ватай якасьці, і продаж іх праходзіў млява, але сяк-такія прыбыткі прыносіў.

У камісію, якая займалася рэалізацыяй тавару, уваходзілі Вальковіч, Заяц і Захарка. І вось у 1922 годзе прэм'ер Ластоўскі заўважыў, што на афіцыйных урадавых рахунках грашовыя паступленьні з продажу не заўважаюцца. Не давалася фінансавая справаздача і дзяржаўнаму кантралёру Кляўдыюшу Душэўскаму. Пагрозьлівыя лісты выканаўцу абавязкаў міністра фінансаў Вальковічу ніякага плёну не прыносілі.

## Дачыненьні зь Літвой канчаткова замярзаюць

Прайшло два гады ад падпісаньня дамовы паміж БНР і Літвой, аднак дамоўленасьці тыя засталіся на паперы. Realpolitik узяла сваё — страціўшы надзеі адваяваць Вільню з магчымай дапамогай беларусаў, літоўскія ўлады фактычна забылі пра іх існаваньне, а надзеі на вырашэньне віленскага пытаньня ўсклалі на міжнародныя інстытуцыі.

У студзені 1923 году беларускія арганізацыі ў Літве, у тым ліку Дзяржаўная Калегія БНР, падалі заяву прэзыдэнту Аляксандрасу Стульгінскісу з прапановай ажывіць беларуска-літоўскі палітычны кантакт. «У адваротным выпадку, — пісалі аўтары заявы, — мы павінны будзем прызнаць для сябе задачу, лёсам на нас узложаную, не да выкананьня, і прызнаць гэта адкрыта перад тымі ўсімі, хто з нашымі імёнамі зьвязвае нацыянальныя беларускія абавязкі».

# ПРЫЦЕМКІ

**красавік 1923 — кастрычнік 1925**

**Зноў раскол. Маргіналізацыя.
Рост Менску і Вільні. Бэрлінскі роспуск.
Самота**

# 1923

20 красавіка — Вацлаў Ластоўскі падае ў адстаўку з пасады прэм’ера Ўраду БНР

11 чэрвеня — у БССР да гадавіны вызваленьня ад польскай акупацыі абвяшчаецца амністыя тым дзеячам беларускага руху, якія не змагаліся з савецкай уладай са зброяй у руках

23 жніўня — зацьвярджаецца Кабінэт Міністраў БНР пад кіраваньнем Аляксандра Цьвікевіча

1 лістапада — кіраўніцтва БНР пераяжджае ў Прагу

8 лістапада — у Мюнхэне адбываецца «піўны путч» на чале з Адольфам Гітлерам

# 1924

21 студзеня — памёр правадыр бальшавікоў Уладзімір Ленін

7 сакавіка — прэзыдыюм ЦВК СССР пастанаўляе далучыць да БССР 15 паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрняў (першае ўзбуйненьне БССР)

15 ліпеня — набывае сілу закону рэзалюцыя пленуму ЦК КПБ(б) «Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі», у БССР пачынаецца беларусізацыя

18 жніўня — у Менску арыштаваны расейскі тэрарыст Барыс Савінкаў

# 1925

24 чэрвеня — у Заходняй Беларусі ствараецца Беларуская сялянска-работніцкая грамада

12–15 кастрычніка — на нацыянальна-палітычнай канфэрэнцыі ў Бэрліне падпісваецца пастанова аб ліквідацыі Ўраду БНР

15 кастрычніка — Прэзыдыюм Рады БНР не прызнае рашэньняў канфэрэнцыі і прымае на сябе ўсе ўрадавыя функцыі

## Канец ураду Ластоўскага

Канфлікт у нетрах БНР дасягнуў апагею, калі Ластоўскі пажадаў папрысутнічаць на пасяджэньні гандлёвай камісіі (Вальковіч-Заяц-Захарка), але яго адтуль проста прагналі. На пісьмовае патрабаваньне падаць фінансавую справаздачнасьць Вальковіч адказаў «ругацельным» лістом. З гэтым лістом Ластоўскі прыйшоў на сход Ураду, але і там апынуўся ў меншыні. Цярпеньне ў прэм'ера канчаткова лопнула, і 20 красавіка 1923 году ён напісаў такі ліст Пётру Крачэўскаму:

«Яго Дастойнасьці Пану Маршалку Прэзыдыюму Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Высокапаважаны Пётр Антонавіч!

Пры істнуючых узаемаадносінах далейшую працу лічу для сябе немагчымай, а дзеля гэтага прашу Вас ад сягоньняшняй даты лічыць мяне выбыўшым са складу Дзяржаўнай Калегіі.

Прыміце запэўненьне ў належнай да Вас пашане і прыхільнасьці.

В. Ластоўскі».

Адстаўка гэтым разам была прынятая зь вялікай ахвотай.

## Вяртаньне Власта

Вялікая ахвота была і з боку Вацлава Ластоўскага — жаданьне пакінуць вузкае кола палітычнай эміграцыі, дзе на той час, як выглядала, усе дарогі вялі ў глухі кут. Стары аматар беларускай філялёгіі і старасьветчыны з радасьцю аддаўся справе сваёй душы і ўсё часьцей падпісваў свае тэксты сваім старым псэўданімам — Власт.

Заручыўшыся літоўскім фінансаваньнем, Ластоўскі заняўся выдавецкай дзейнасьцю. Неацэнным плёнам наступных гадоў стануць выдадзеныя ім у Коўне дванаццаць нумароў часапісу «Крывіч», «Расійска-крыўскі слоўнік» і фундамэнтальная «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Закіданы Ластоўскаму былымі паплечнікамі папрок, што ён «запрадаў літоўцам беларускую палітыку», на сёньня ўжо даўно забыўся. А выдадзеныя за тыя грошы кнігі і да сёньня ўпрыгожваюць нашы бібліятэкі.

## Літоўцы спыняюць падтрымку Ўраду БНР

Ластоўскі пакінуў Дзяржаўную Калегію БНР (разам зь ім з структураў БНР выйшаў яго сябар і паплечнік Кляўдыюш Душэўскі, аўтар дызайну беларускага сьцяга), але беларускай справай займацца ня кінуў. У Коўне яму знайшоўся новы занятак

Удзел беларусаў у выбарах у польскі Сэйм, абраньне беларускіх паслоў і заснаваньне Беларускага пасольскага клюбу фактычна азначала, што беларусы пад Польшчай палітычна прызналі над сабой польскую юрысдыкцыю. З гэтай прычыны ўсялякае супрацоўніцтва літоўскіх уладаў з БНР страціла

сэнс — пра ніякае паўстаньне беларусаў Віленшчыны за далучэньне да Літвы ніхто ўжо ня марыў. А тут яшчэ з БНР выйшаў самы галоўны сымпатызант беларуска-літоўскага зблiжэньня Вацлаў Ластоўскі.

Літоўцы спынілі ўсялякую падтрымку Ўраду БНР на чале зь Цьвікевічам, усе дачыненьні замерлі, а Цьвікевіч з калегамі абвясьцілі байкот Міністэрству беларускіх справаў Літвы.

## Літоўскі МЗС стварае Беларускі цэнтар

Для працы на «беларускім фронце» была ўтвораная структура пад патранатам літоўскага МЗС — «Беларускі цэнтар у Літве». Цэнтар займаўся выданьнем прапагандысцкай літаратуры для Заходняй Беларусі і трымаў сувязі з заходнебеларускімі грамадзка-палітычнымі арганізацыямі.

Ад беларускага боку цэнтар узначаліў Ластоўскі і пераняў усе фінансавыя патокі, якія раней ішлі Ўраду БНР. Цьвікевіча з калегамі гэта нямала разззлавала, яны абазвалі Ластоўскага і Душэўскага «штрэйкбрэхерамі», абвясьцілі ім «маральны байкот усяго беларускага грамадзянства» і паабяцалі «пахаваць іх па першаму разраду».

## Беларуская акцыя ў Літве лопаецца

Новую сытуацыю красамоўна апісаў у лісьце калегам у Празе Пётра Крачэўскі:

«Беларуская акцыя ў Літве лопнула… Што б ні чакала нас, нават галодная сьмерць, усё роўна са свайго паста мы зысьці не павінны так ганебна, як

зь яго зышоў гр. Ластоўскі і Душэўскі… Наш фронт і нашы дамаганьні ў Літве разьбіты Ластоўскім і Душэўскім, якім… кінута падачка на журнал “Крывіч”, які хутка выйдзе. Але гэты крывіч будзе куплен цаною беларускай крыві крывому сумленьню Ластоўскага і Душэўскага за пагвалчаныя правы беларускага народу ў Літоўскай Дзяржаве».

## Іх застаецца шасьцёра

23 жніўня кіраўнікам Ураду БНР быў прызначаны Аляксандар Цьвікевіч. Празь некалькі гадоў Пётра Крачэўскі прызнае, што «Цьвікевіч зусім не адпавядаў становішчу Старшыні... але, на жаль, не было другой адпаведнай гэтаму становішчу асобы». Таму давялося даручыць утварэньне кабінэту Цьвікевічу, «асабліва пасьля яго раптоўнай і скромнай заявы, што яму будзе надзвычайна непрыемна, калі старшынства будзе аддана другому».

Новы кабінэт выступіў з дэклярацыяй, якую падпісалі старшыня Прэзыдыюму Рады БНР Пётра Крачэўскі, старшыня Ўраду і міністар замежных справаў Аляксандар Цьвікевіч, міністар прасьветы і паўнамоцны дэлегат у Амэрыку Язэп Варонка, намесьнік старшыні Рады Васіль Захарка, дзяржаўны кантралёр Лявон Заяц і дзяржаўны пісар Уладзімер Пракулевіч.

Гэтак за пяць гадоў штат службоўцаў Беларускай Народнай Рэспублікі скараціўся да шасьці чалавек.

## Завальваюць Жэнэву мэмарандумамі

А Ластоўскі тым часам далей займаўся беларускай палітыкай. У верасьні 1923-га ён разам з прадстаўнікамі ўкраінцаў, літоўцаў і немцаў падаў IV Асамблеі Лігі Нацыяў у Жэнэве мэмарандум ад імя прыгнечаных Польшчай народаў.

На гэта нэрвова зрэагаваў Захарка: «Усё гэта добра, але чаму гэта не было ўзгоднена з намі?» На ўсялякі выпадак новы прэм'ер Цьвікевіч сьпешна падрыхтаваў і даслаў у Жэнэву аналягічны мэмарандум ужо ад імя Ўраду БНР.

## «Засыпаўся серабром аж па грудзі»

У сваім эўрапейскім падарожным дзёньніку Ластоўскі пакінуў магічны запіс: «Перад выездам з Жэнэвы сьніў, што я знайшоў у зямлі скарб зь сярэбраных манэт: што капну, то горсьць серабра кругом старога пня. Урэшце адвярнуў кавалак пня, аж і той сярэбраны. Былі пры гэтым Юстын і Бацька. Увесь засыпаўся серабром аж па грудзі».

## Партыя ці Цэнтар

Аляксандар Цьвікевіч, заступіўшы на пасаду старшыні Рады Міністраў, пачаў спробы скаардынаваць беларускі нацыянальны рух, які з магутнай ракі за пяць гадоў расьцёкся на дробныя ручаінкі. Праглынуўшы старыя крыўды, ён распачынае перапіску зь нефармальным лідэрам беларусаў Вільні (і шырэй — падпольскай Заходняй Беларусі) Антонам Луцкевічам:

«Заданьнем майго ліста, як і наагул далейшай перапіскі, калі яна завяжацца, ёсьць высьвятленьне найбольш важных пытаньняў нашага сёньняшняга палітычнага дня і ўстанаўленьне згоднага разуменьня ўсяго таго, што і як трэба рабіць».

Цьвікевіч выступае з ідэяй стварэньня агульнабеларускай палітычнай партыі сацыялістычна-народніцкага кірунку, якая аб'яднала б усе раскіданыя па розных краінах незалежніцкія сілы.

Антон Луцкевіч, «нягледзячы на прыкрыя ўспаміны, якія падняло ўва мне Вашае пісьмо», даслаў адказ, у якім ідэю стварэньня партыі адхіліў, бо дзейнасьць партыі праз шматлікія межы лічыў нерэальнай. Затое, паводле яго, добра было б стварыць адзіны Нацыянальны цэнтар для каардынацыі ўсіх незалежніцкіх намаганьняў. Дык жа цэнтар ёсьць, адказвае Цьвікевіч — Урад БНР на чале зь ім самім.

## У Менск, апрача другарадных, ніхто не зьбіраецца

У апошнім лісьце Луцкевічу, датаваным 6 кастрычніка 1923 году, Цьвікевіч закранае адну казытлівую тэму, якая неўзабаве ў колах БНР загучыць на поўную моц. Тэма гэтая — пераезд у Менск. «Ехаць на ўсход пакуль што мы лічым для справы немагчымым. Рэч ня ў нашых асабістых выгодах, але ў тым, што адраджэнскі рух вымагае безварунковага захаваньня нацыянальнага цэнтру, вядучага самастойную, ні ад каго не залежную беларускую палітыку. Так што апрача некаторых другарадных ніхто туды не зьбіраецца…»

## Мэтафара і мэтанімія

У гэтым прыватным лісьце ўпершыню ў архівах зьяўляецца мянушка, якую Цьвікевіч, Крачэўскі і Захарка далі Ластоўскаму і Душэўскаму — «пара гнядых»:

«Ня менш прычынілася да проігрышу "акция пары гнедых", якія безь ніякага сораму пайшлі на службу, на цёплае месца і тым разарвалі ўсю сыстэму перагавораў. Імя гэткім "гнедым" адно — сволач, хлебная публіка, чыноўнікі…»

(Для тых, хто не знаёмы з аднайменным старадаўнім рамансам, працытуем першыя радкі:

«Пара гнедых, запряжённых с зарёю,
тощих, голодных и грустных на вид,
вечно бредёте вы мелкой рысцою,
вечно куда-то ваш кучер спешит.
Были когда-то и вы рысаками» і г. д.)

Затое свайго паплечніка Пётру Крачэўскага Цьвікевіч у лісьце фатаграфічна называе «Барада».

## І алегорыя

Застаючыся на паэтычнай хвалі, падамо тут без камэнтароў урывак зь верша Власта (г. зн. Ластоўскага) «Да …», напісанага прыблізна ў тым самым часе:

«Агідзен мне
ваш цесны сьветагляд,
ваш ум чарвя зямнога…
Арла душы маей

вам, карлікам сьляпым,
у цесну клетку не загнаць:
ён ўспоены маей сардэчнаю крывёй,
зь ім буду я
агністаю купінаю пылаць,
кідаючы сьвятло
і ў вашы цьвілыя закуткі,
таргоўнікі сьвятым,
шакалы, недалюдкі!»

## Ці законны ўрад Цьвікевіча

Яшчэ двое радных Рады БНР — віцэ-старшыня Прэзыдыюму Палута Бадунова і сакратар Язэп Мамонька — раптам нагадваюць з Прагі пра сваё існаваньне і дасылаюць старшыні Прэзыдыюму Рады Крачэўскаму і ягонаму намесьніку Захарку ў Коўна ліст з пратэстам супраць незаконнага, на іх думку, утварэньня новага Ўраду БНР на чале зь Цьвікевічам. Урад мае абірацца пленумам Рады, а ва ўтварэньні гэтага Ўраду бралі ўдзел толькі двое сяброў Прэзыдыюму, тым часам як яшчэ двое — Бадунова і Мамонька — нічога пра гэта ня ведалі.

У лісьце яны запатрабавалі, каб Цьвікевіч спыніў сваю ўрадавую працу і здаў усе справы Прэзыдыюму Рады БНР. У далейшым для вядзеньня нацыянальна-палітычнай акцыі за мяжою яны запрапанавалі склікаць не пазьней за 1 лістапада ў Празе Прэзыдыюм Рады.

«Калі ў да гэтага часу сябры Прэзыдыюму П. Крачэўскі і В. Захарка не дадуць ніякага адказу і не прыедуць у Прагу, дык мы выступім адкрыта супраць незаконнага Ўраду і нарушэньня Вамі канстытуцыі БНР», — выставілі свой ультыматум аўтары ліста.

## Дзяржаўная пячатка БНР

Вацлаў Ластоўскі, разьвітаўшыся з БНР, пакінуў сабе Дзяржаўную пячатку, якую цяпер канцылярыя Рады Народных Міністраў спрабавала ад яго выпатрабаваць. Пячатка была выробленая ў лістападзе 1920 годзу ў Коўне — вялікая, круглая, мядзяная, з «Пагоняй» на фоне герба Скарыны. З усіх захаваных у Архівах БНР дакумэнтаў яе выяву можна знайсьці на фатакопіі апошняй старонкі міждзяржаўнай дамовы паміж БНР і Літвой 11 лістапада 1920 году.

«Канцылярыя Рады Народных Міністраў просіць Вас вярнуць у Канцылярыю застаўшуюся ў Вас Дзяржаўную Пячатку… Разам з тым прашу Вас зьвярнуць у Канцылярыю РНМ дыпляматычныя пашпарты — Ваш і Вашай жонкі, разам зь літоўскімі ахароннымі граматамі — якія дакумэнты выданы былі Вам у свой час як Старшыні Ўраду БНР», — пісаў Ластоўскаму дзяржаўны пісар Уладзімер Пракулевіч.

## Пераезд у Прагу

Фізычна «беларуская акцыя ў Літве» скончылася 2 лістапада 1923 году, калі ўсе ковенскія дзеячы БНР пераехалі ў Прагу. Разам з тым скончылася і нешта іншае. Рэч у тым, што чэскія ўлады, не жадаючы сварыцца з палякамі, якія нібыта нават пратэставалі ў гэтай справе, дазволілі беларускім палітыкам прыехаць у Прагу выключна ў якасьці прыватных асобаў, палітычных эмігрантаў. Перад імі была пастаўленая ўмова: нідзе і ніяк адкрыта і публічна не

выступаць як Урад або нейкія іншыя структуры Беларускай Народнай Рэспублікі.

Выбар Прагі ў якасьці месца побыту найперш быў абумоўлены тым, што там на той час назьбіралася ладная беларуская грамада — паўтары сотні студэнтаў з Заходняй Беларусі, Латвіі, Літвы, а таксама эсэраўскія дзеячы. Важны быў і шырэйшы кантэкст — шматлікія расейская і ўкраінская эміграцыі, сярод якіх вядучае месца займалі дзеячы блізкага БНРаўцам сацыялістычнага кірунку.

Для арганізацыйнай і грамадзкай дзейнасьці была створаная надпартыйная Беларуская рада ў Чэхаславаччыне. У пастанове Міністэрства ўнутраных справаў Чэхіі пры зацьвярджэньні статуту Беларускай рады было падкрэслена:

«Паводле гэтага статуту, суполка ёсьць непалітычнай і ня можа ні весьці палітычную дзейнасьць, ні ўдзельнічаць у ёй… Абсалютна выключана, каб суполка вяла нейкую дзейнасьць, якая не прадугледжаная сфэрамі дзейнасьці, прадпісанымі ў Статуце».

## Эсэры дэзавуююць урад Цьвікевіча

Прыехаўшы ў Прагу, Крачэўскі, Захарка і Цьвікевіч паспрабавалі змусіць сяброў Прэзыдыюму Рады БНР Бадунова і Мамоньку адклікаць свой ультыматум, але гэтыя спробы вынікаў ня мелі.

Умоваў ультыматуму лідэры БНР таксама не прынялі, і ў выніку эсэры зрабілі абяцаны публічны стрэл — 8 сьнежня 1923 году запусьцілі ў прэсу «Паведамленьне Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў», дзе заявілі, што законна абраны

ў 1919 годзе Ўрад БНР пасьля выступу Ластоўскага ў Генуі перастаў існаваць фактычна, а з выхадам яго ў адстаўку ў красавіку 1923-га ён перастаў існаваць і юрыдычна. «Дзяржаўная калегія» была названая штучнай фікцыяй, якая неўзабаве і зьнікла. Утвораны пазьней урад Цьвікевіча, паводле аўтараў «Паведамленьня», ня можа лічыцца законным, будучы «безадказным і самазваным».

Сам Цьвікевіч у Празе не застаўся і ў канцы лістапада вярнуўся ў Коўна.

## «Крывіч» з СССР вяртаюць назад у Коўна

Вацлаў Ластоўскі, выдаючы «Крывіч», думаў пераважна пра Беларусь і каля трыццаці асобнікаў часопіса слаў на савецкія адрасы. Амаль з усіх адрасоў — бібліятэкаў, культурных і навуковых установаў — часопіс вяртаўся назад. У гэтай справе выдавец напісаў ліст-скаргу народнаму камісару асьветы БССР Усеваладу Ігнатоўскаму. Ці дайшоў ліст да адрасата — невядома.

Затое «Крывіч» дайшоў да бібліятэкі Петраградзкага ўнівэрсытэту, дзе выпадкова трапіў у рукі сапраўднаму рэлікту беларускай навукі і культуры прафэсару Браніславу Эпімаху-Шыпілу, лідэру беларускага культурнага руху пачатку 1900-х гадоў у Пецярбургу.

«Дарагія і каханыя рэдактары пане Вацлаве і пане Кляўдыюшу, — пісаў прафэсар, — успомніце аб сваім старым земляку, каторы цудам праве ўцалеў дагэтуль, астаўшыся тут адзінокім, як палец, і перажыўшы вельмі цяжкія гады холаду, голаду і небясьпекі. Будзьце ласкавыя прысляць мне поўны

камплект гэтага дарагога для мяне Вашага выданьня… Аж сьлёзы радасьці брызнулі ў мяне з вачэй, як пабачыў я Вашы назьвіскі… Сардэчна ўсьціскаю Вас, дарагія браты-землякі і, пасылаючы Вам і ўсім там беларусам свой нізенькі паклон, астаюся з пашанай адданы Вам Броніслаў Эпімах-Шыпілло».

## Пярсьцёнак Езавітава

Яшчэ адзін артэфакт эпохі БНР — пярсьцёнак Кастуся Езавітава. Гэты прадмет фігуруе ў дзіўнай просьбе, зь якою Езавітаў зьвяртаецца да Ластоўскага. «Ведаеце Вы маё кальцо, што я нашу на ўказальным пальцы левай рукі. Кальцо — залатое з выгравіраваным на ім малюнкам Пагоні, пад якой выгравіраваны сноп жыта, а на ім скрэшчаны (скрыжаваны) каса і граблі. Кругом абоіх малюнкаў выразаны літары: 1.Н.С. Б.Н.Р. (Першы нар. сакратар Бел. Нар. Рэсп.)».

Кастусь Езавітаў хацеў, каб гэты пярсьцёнак быў «пажалаваны» яму ад Ураду БНР як першаму вайсковаму беларускаму міністру, і папрасіў Ластоўскага задняй датай выдаць яму адпаведную грамату.

## Ластоўскі ў Парыжы і Жэнэве

Акцыя выступаў прыгнечаных Польшчаю нацыянальных меншыняў працягвалася. У жніўні 1924 году ў Парыжы пры падтрымцы МЗС Літвы ствараецца беларуска-ўкраінска-літоўскі Камітэт паняволеных Польшчай народаў, які ўзначальвае Ластоўскі. У верасьні ён падае на V сэсію Лігі На-

цыяў у Жэнэве чарговы мэмарандум у справе беларускіх земляў пад польскай уладай.

У гэтым яму зноў спрабуюць перашкодзіць колішнія паплечнікі. Старшыня Рады БНР Крачэўскі шле тэлеграму старшыні Лігі Нацыяў Полю Імансу, а таксама кіраўнікам польскай і літоўскай дэлегацыяў, дзе папярэджвае, што «Беларускі Народ нічога супольнага ня мае» з «п. Ластоўскім, урадоўцам міністэрства замежных справаў Літвы», і супраць яго дзейнасьці «ня раз пратэставаў».

Старшыня Рады пры гэтым спаслаўся на пастанову віленскага Краёвага цэнтру ад 11 сакавіка 1924-га аб пазбаўленьні Ластоўскага права на палітычныя выступы.

(Краёвы цэнтар — паўсакрэтная каардынацыйная арганізацыя, створаная ў Вільні Луцкевічам пасьля выбараў у Сэйм 1922 году, у якіх ён катэгарычна адмовіўся ўдзельнічаць.)

## Ластоўскі піша Луцкевічу!

Адна з тэчак архіўнага фонду мае загаловак «Личная переписла членов правительства БНР Луцкевича и Ластовского». Дык ці была тая «переписка»? І так, і не.

Ліставаньня не было, але адзін ліст Ластоўскі Луцкевічу ўсё ж напісаў. Выступаючы ў Жэнэве за вызваленьне беларускіх дзеячоў, асуджаных на беластоцкім «Працэсе 45-ці», ён вырашыў заручыцца падтрымкай Вільні.

Ліст, датаваны 24 жніўня 1924 году, канчаецца так: «Цісну руку Вашу, бо мінулае даў я ўжо ў забу-

дзь, а з другой стараны прышоў да пераконаньня, што нашай справе патрэбны аўтарытэты і што пакуль іх у нас ня будзе, будзе адзіна анархія, а дзеля таго, што Вы адзін з тых, які найбольш палажыў у нашу справу, я свой голас даю за Вас. З праўдзівай пашанай, В. Ластоўскі».

У публікацыі «Архіваў БНР» пад лістом стаіць камэнтар укладальніка: «Арыгінал. Магчыма, не адпраўлены».

## Вільня перастае заўважаць БНР

Пытаньне агульнабеларускага палітычнага прадстаўніцтва паўстала для старшыні Рады БНР Пётры Крачэўскага надзвычай балюча, калі ён у верасьні 1924 году атрымаў камунікат зь Вільні за подпісам Тарашкевіча, дзе гаварылася, што адзіным прадстаўніцтвам Заходняй Беларусі ёсьць Беларускі пасольскі клюб і Беларускі нацыянальны камітэт у Вільні (за сьпінамі якіх стаяў Краёвы цэнтар на чале з Луцкевічам). Ні пра Раду, ні пра Ўрад БНР у камунікаце не было ні слова, што моцна абразіла Крачэўскага.

«Што вы робіце цяпер! Вы самахоць, папёршы на ўсход, як быкі, задраўшы хвост прэцесь самі ня ведаючы куды… — піша ён прадстаўніку Краёвага цэнтру Антону Аўсяніку і прапануе — …адкінуць усякія асабістасьці і яднацца каля ядынага цэнтру, які мае права і павінен бараніць усю Беларусь».

Але Вільню ні Рада, ні Ўрад БНР ужо не цікавілі, нагэтулькі далёкія тыя былі ад рэаліяў заходнебеларускага палітычнага жыцьця.

## Краёвы цэнтар загаворвае пра ліквідацыю

У кастрычніку 1924-га ў Прагу прыехаў прадстаўнік Краёвага цэнтру Браніслаў Тарашкевіч. Паводле некаторых зьвестак, галоўнай мэтай падарожжа была «ліквідацыя Ўраду БНР». Паводле іншых — Вільня прапаноўвала знайсьці беларускаму палітычнаму прадстаўніцтву нейкую новую, больш гнуткую форму, для чаго прапанавалася склікаць у Данцыгу адмысловую канфэрэнцыю. Праскія лідэры БНР на канфэрэнцыю пагадзіліся, але настойвалі, каб яна адбылася ў Празе. Гэтая тэма будзе разьвівацца на працягу наступнага году.

Для сустрэчы з Тарашкевічам у Прагу выехалі з Коўна Ластоўскі з Душэўскім, але разьмінуліся зь ім на паўгадзіны. Застаўшыся на пару дзён у Празе, яны сустрэліся з тамтэйшым студэнцтвам. На сходзе выступілі абодва госьці, не абышлося бяз вострых момантаў і нязручных пытаньняў.

Паводле найлепшых правілаў пост-праўды, справаздачы варожых бакоў пра гэты сход істотна разыходзяцца. «Культурніцкая работа ў Літве зрабіла на студэнтаў вялікае ўражаньне і была ўсімі вітана. Закончыўся сход вельмі цёпла і дружна», — напісаў у сваім дакладзе Душэўскі. «Ластоўскі адчуваў сябе якасьці нялоўка і надзвычайна асьцярожна трымаўся. Адным словам, можна з пэўнасьцю сказаць, што згаўнялі ўсю абедню», — інфармаваў Захарка.

## Дамова зь Літвой скасаваная, Вільню забіраем сабе

Рыхтуючыся да сваіх новых жыцьцёвых паваротаў, прэм'ер Цьвікевіч канчаткова закрыў у Коўне літоўскую тэму. У сьнежні 1924-га ён піша міністру замежных справаў Літвы Вальдэмарасу Чарняцкісу ліст, дзе выкладае ўсе факты няўвагі літоўцаў да беларускага палітычнага прадстаўніцтва ад часу падпісаньня міжурадавай дамовы 11 лістапада 1920 году. «Урад Літвы акрэсьлена ўхіліўся ад таго, каб мець што-небудзь супольнае зь Беларускім Дзяржаўным Адраджэньнем. А самую Ўмову 11 Лістапада ён хацеў разглядаць толькі з пункту гледжаньня выключна сваіх эгаістычных інтарэсаў не даючы старане беларускай ніякіх кампэнсацый», — абураўся Цьвікевіч.

Далей ісьці, зразумела, няма куды, падсумаваў прэм'ер. Дамова 11 лістапада стала для Літвы нічога ня вартай паперкай. І таму «на аснове ўсяго вышэй сказанага» (на васьмі старонках шчыльнага машынапісу!) Цьвікевіч заяўляе:

«Па даручэньню свайго Ўраду і поўнай згодзе зь Беларускім Краявым Цэнтрам у Вільні, — гэтым маю гонар давесьці да Вашага ведама, што Ўмову 11 Лістапада 1920 году, зробленую ў Коўне паміж Урадам Беларускай Народнай Рэспублікі і Ўрадам Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі, — Урад Беларусі абвяшчае расторгнутай».

На моцы заяўленага ва ўсёй далейшай карэспандэнцыі Цьвікевіч падкрэсьлівае, што Вільню Ўрад БНР зь літоўцамі больш дзяліць не зьбіраецца і абвяшчае яе сталіцаю Заходняй Беларусі.

## Цьвікевіч вырашае зьехаць у Менск

Неўзабаве пасьля разрыву зь літоўцамі Цьвікевіч паведамляе віленскаму Краёваму цэнтру пра свае пляны выехаць з Коўна. І выехаць, піша прэм'ер, ён можа толькі на ўсход:

«Я шмат думаў аб гэтым сваім рашэньні і прыйшоў вось да якога вываду: мая падарож можа насіць ці зусім прыватны, ці палітычны характар. Калі я паеду як просты грамадзянін (знача — нават не як беларускі палітычны дзеяч і зусім не як былы старшыня Ўраду БНР), — дык я абайдуся як кажуць «своими средствами». Калі дадуць дазвол, дык вазьму візу на іхні пашпарт і паеду, — не для палітычнай працы, а для прыватнага жыцьця. Калі-ж я паеду як бел. палітычны дзеяч і былы старшыня Ўраду БНР, дык пры гэтым я лічу патрэбным зьвязацца з Вамі, каб мой пераезд сьведчыў ласьне аб нечым палітычным».

Цьвікевіч, шукаючы палітычную карысьць у сваім пераезьдзе, абгаворвае ў сваім лісьце ў Вільню патрэбы і магчымасьці злучэньня «заходняга» і «ўсходняга» франтоў агульнабеларускай працы.

Пры гэтым будучы рэпатрыянт паведамляе, што ён такі не адзін — зь ім гатовыя выехаць у Савецкую Беларусь «яшчэ 4–5 працаўнікоў». Але ўдакладняе, што «дзьве-тры асобы відаць застануцца, якіх тут няма».

## Падводныя плыні

Ад сярэдзіны 1923 году ў трыкутніку Коўна–Вільня–Прага вакол Ураду БНР пачаліся працэсы, што адбываліся прыхавана, амаль незаўважна ў агульным інфармацыйным полі.

У рамках сваёй дзейнасьці ў Беларускім цэнтры ў Літве Ластоўскі падтрымліваў неафішаваныя кантакты з заходнебеларускімі палітыкамі. Патаемныя сустрэчы адбываліся ў нэўтральным Данцыгу, куды можна было бязь цяжкасьцяў дабрацца як зь Літвы, так і з Польшчы. Зь віленскага боку ў іх найчасьцей удзельнічалі паслы Фабіян Ярэміч і кс. Адам Станкевіч. На сустрэчах узгадняліся каардынацыйныя пытаньні.

Ад імя Ўраду БНР перапіску з Краёвым цэнтрам вёў Цьвікевіч, які як адзіны прадстаўнік кіраўніцтва БНР застаўся ў Коўне. Пра сваё жаданьне ехаць у Менск ён даў зразумець і сваім калегам у Празе. У гэтым яму там ніхто не пярэчыў — з умовай, што ён падасьць у адстаўку і паедзе ў Савецкую Беларусь як прыватная асоба.

Аднак яшчэ праз нейкі час ён нібыта ад гэтай ідэі адмовіўся і, як пісаў пазьней Васіль Захарка, «застаючыся бескантрольна ў Коўне, павёў падвойную гульню». Відаць, з праскімі калегамі Цьвікевіч быў менш шчыры, чым з адрасатамі лістоў да Краёвага цэнтру. У Прагу прэм’ер слаў нацыянальна-незалежніцкія справаздачы аб сваёй дзейнасьці, а тым часам вёў у Коўне і Бэрліне размовы з савецкімі агентамі з мэтай падрыхтоўкі да здачы савецкай уладзе мандатаў БНР.

## Ластоўскі купляе 25 патронаў для рэвальвэра

У лютым 1925 году Ластоўскі піша свайму начальніку зь літоўскага МЗС Ігнасу Янінасу ліст з просьбай дазволіць яму зьезьдзіць на пару дзён у Кёнігсбэрг да акуліста — даць 3–4 вольныя дні і дапамагчы атрымаць візу.

Наступны дакумэнт у архіве, датаваны трыма днямі пазьней, — квіток аб уплаце Вацлавам Ластоўскім 4 літаў за 25 патронаў для рэвальвэра 6.35 калібру.

Праз пару месяцаў у архівах зноў усплывае Кёнігсбэрг. Стары віленскі знаёмы, нямецкі агент часоў выданьня «Гоману» Эдмунд Зузэміль піша Ластоўскаму: «Квартира г-жи Рейман с 30 мая к Вашим услугам. Если у Вас есть какая-нибудь интимная близкая подруга, то она также может здесь остановиться… Остальные темы Вашего письма я здесь не буду затрагивать, так как это слишком деликатное дело…»

## Настае час пераезду дадому

28 лютага Цьвікевіч зноў піша Краёваму цэнтру пра свой ад'езд: «Пішу я Вам (у каторы раз) — але ізноў ня маю надзеі на то, каб атрымаць адказ. Сумна гэта і абразьліва для мяне. Справа майго ад'езду ў Менск нагэтулькі сур'ёзна для агульнай нашай лініі, што мне здаецца, што на маё цяперашняе паведамленьне Вы павінны адгукнуцца…»

Краёвы цэнтар, як выглядае, ужо даўжэйшы час ціснуў на кіраўнікоў БНР, каб тыя перадалі свае

мандаты Менску, бо Ўрад БНР, паводле віленскіх палітыкаў, ня меў ніякай сувязі з народам. З узмацненьнем польскага шавінізму і агульным палявеньнем беларускай палітычнай прасторы ў Заходняй Беларусі Менск усё больш пачаў успрымацца як сапраўдны цэнтар беларускага жыцьця.

Пагатоў зь Менску прыходзілі ўсё новыя і новыя навіны, якія сьведчылі, што ў Савецкай Беларусі неадступна рэалізуецца амаль усё тое, пра што марылі заснавальнікі БНР. У сакавіку 1924 году адбылося ўзбуйненьне (не апошняе!) БССР — былі далучаныя Віцебшчына і Магілёўшчына. У чэрвені таго самага году быў узяты дзяржаўны курс на беларусізацыю. З-за рыскай мяжы гэтыя працэсы і сапраўды выглядалі прывабна…

«Усё разам узятае, — піша Цьвікевіч, — узмацняе мяне ў пераконаньні, што настаў час пераезду “дадому”…»

## Таварыш У

Актыўныя размовы пра рыхтаваную беларускую палітычную канфэрэнцыю або нават кангрэс для вырашэньня пытаньня пра беларускае палітычнае прадстаўніцтва за мяжою пачаліся сярод эмігрантаў у жніўні 1925 году. У арганізацыі канфэрэнцыі брала ўдзел Міністэрства замежных справаў Літвы, аднак Бэрлінская нарада была сплянаваная і арганізаваная зусім у іншым месцы.

Дасьледнік Сяргей Крапівін апублікаваў пастанову паседжаньня Бюро ЦК КП(б)Б у Менску 6 студзеня 1925 году, у якой было сказана:

«1. Считать целесообразным ликвидировать так называемое “Белорусское Народное Правительство” через соответствующую работу Наркоминдела.

2. Считать целесообразным, чтобы эта ликвидация сопровождалась декларацией так назыв. членов “Белорусского Народного Правительства” в пользу Советской Белоруссии.

3. Посылку белорусских деятелей для переговоров с белорусскими гр. за границей считать нецелесообразной.

Галоўным маторам усёй акцыі быў аташэ савецкага дыпляматычнага прадстаўніцтва ў Варшаве мянчук Аляксандраў Ульянаў.

Найперш былі апрацаваныя заходнебеларускія палітыкі, якія вясною 1925-га ўжо канкрэтна і даслоўна выказвалі патрабаваньне ліквідацыі Ўраду БНР. Як альтэрнатыву Ўраду БНР, які «асабліва гадзіў» савецкай краіне і «блытаўся ў Лізе Нацыяў са сваімі дурацкімі пратэстамі супраць прыгнёту ў БССР», саветы вырашылі стварыць у Заходняй Беларусі шырокую палітычную арганізацыю левага кірунку — Беларускую сялянска-работніцкую грамаду.

Асновы гэтага масавага руху былі закладзеныя ў жніўні 1925-га на нарадзе ў Цопаце пад Данцыгам з удзелам польскіх і заходнебеларускіх камуністаў і актыву заснавальнікаў БСРГ. Адным з пунктаў нарады было пытаньне ліквідацыі Ўраду БНР, з дакладам выступіў — Ульянаў, хто ж яшчэ...

## Цьвікевіч за ліквідацыю, Ластоўскі супраць

24 жніўня Янка Станкевіч перадае Ластоўскаму тэрміновае паведамленьне ад Краёвага цэнтру (канкрэтна ад кс. Адама Станкевіча): 2 верасьня Ластоўскі і Цьвікевіч мусяць быць у Данцыгу, дзе зь імі ў вельмі важнай справе будуць гаварыць людзі з Краёвага цэнтру.

Сустрэча адбылася ў Аліве — прадмесьці Данцыгу. На ёй прысутнічалі Ластоўскі, Цьвікевіч, Тарашкевіч, Ярэміч, Станкевіч.

У сваіх паказаньнях на сьледзтве ў справе «Саюзу вызваленьня Беларусі» ў 1930 годзе Вацлаў Ластоўскі расказваў пра тую сустрэчу:

«Цьвікевічам была пастаўленая прапанова аб ліквідацыі Ўраду БНР, я выступаў супраць ліквідацыі, бо мне здавалася, што зь ліквідацыяй Ураду БНР ня будзе за мяжою голасу на карысьць беларускага народнага руху. Ініцыятарам вяртаньня ў БССР быў Цьвікевіч, і яго падтрымлівалі грамадоўцы».

Сваім праскім калегам Цьвікевіч пра нараду ў Аліве не дакладаў.

## Цьвікевіч вядзе сваю гульню

Праскім калегам — Крачэўскаму і Захарку — Цьвікевіч падаў мэту рыхтаванай канфэрэнцыі так: кансалідацыя сілаў і аб’яднаньне вакол Прэзыдыюму Рады і Ўраду БНР усяго беларускага нацыянальнага фронту.

Далейшыя падзеі Васіль Захарка апісвае ў «Галоўных момантах беларускага руху»:

«Атрымаўшы належную згоду, гр. Цьвікевіч так заблутаў сваё паводжаньне перагаворамі з прадстаўнікамі Вільні, Менска, Рыгі, Коўны й літоўскага ўраду, што разабрацца ў ім за адсутнасьцю інфармацыяў было немагчыма.

Нягледзячы на запатрабаваньні пражскага цэнтру падробных інфармацыяў і адкладзе канфэрэнцыі да Каляд 1925 г., гр. Цьвікевіч самавольна назначае канфэрэнцыю ў Бэрліне на 10 кастрычніка 1925 г., на якой па яго інфармацыі будзе шырокае прадстаўніцтва ад Усходняй і Заходняй Беларусі, Літвы й Латвіі.

Воляй-няволяй прыйшлося ехаць і прадстаўнікам пражскай калёніі».

## На ўсялякі выпадак адстаўляюць Урад

Але яшчэ да выезду ў Бэрлін прадстаўнікоў Ураду Крачэўскі — на ўсялякі выпадак — прымушае сяброў Ураду Захарку, Зайца і Пракулевіча падпісаць заяву ад сваёй адстаўцы, каб «мець свабодныя рукі», калі ў Бэрліне паўстане пытаньне аб ліквідацыі Ўраду БНР. Заява падпісаная 4 кастрычніка, адстаўка прынятая Крачэўскім 10 кастрычніка.

Такім чынам, Захарка, Заяц і Пракулевіч бралі ўдзел у Бэрлінскай канфэрэнцыі ўжо як прыватныя асобы і ня мелі тых паўнамоцтваў, якія б маглі перадаць каму б там ні было.

## Канфэрэнцыя вызнае Менск цэнтрам адраджэньня

Парадак дня нарады, на якую зьехалася ўсяго 17 чалавек, не прадвяшчаў нічога надзвычайнага. Даклады зь месцаў пра беларуска-літоўскія дачыненьні, «крыўская» акцыя, латвійска-беларускія дачыненьні, становішча пад польскай акупацыяй, становішча ў Савецкай Беларусі, даклады культурна-прасьветнай, эканамічнай і палітычнай сэкцыяў, даклад Ураду БНР, кансалідацыя беларускіх сіл за кардонам.

Першы званок прагучаў у рэзалюцыі пра агульнае палітычнае становішча Беларусі, дзе было заяўлена: «Нарада вызнаець усю надзвычайную важнасьць імкненьняў Радавай Беларусі да зьдзяйсьненьня нацыянальна-дзяржаўнага ідэалу Беларускага Народу і, вызнаючы Менск як цэнтр беларускага адраджэньня, лічыць усялякія спробы актыўнай барацьбы супраць яго здрадай справе вызвольнага беларускага руху».

Рэзалюцыя была прынятая зь мінімальнай — адзін голас — перавагай.

## Пад гіпнозам

За рэзалюцыю галасавалі і Заяц з Пракулевічам, якія, як пісаў пазьней Крачэўскі, «пад гіпнозам Цьвікевіча пайшлі на здрадны крок авантурнага рэвалюцыянізму — сэпаратнага сходу Ўраду» без прысутнага на канфэрэнцыі Захаркі — і 15 кастрычніка падпісалі пратакол прызнаньня Савецкай Беларусі:

«У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў, замацаваная ў Менску — сталіцы Радавай Беларусі — запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, у поўным паразуменьні з краявымі арганізацыямі, ПАСТАНАВІЛІ: спыніць існаваньне Ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі».

Падпісалі — Цьвікевіч, Заяц, Пракулевіч.

## Урад БНР зьліквідаваны

Даведаўшыся пра пратакол, Захарка рашуча запратэставаў і прымусіў змоўнікаў напісаць іншую яго рэдакцыю — толькі пра ліквідацыю Ўраду, якую мог бы падпісаць і сам Захарка:

«У зьвязку з сучасным становішчам Беларусі, заходняя часьць якой знаходзіцца пад акупацыяй Польшчы, а ўсходняя — творыць Беларускую Савецкую Рэспубліку ў складзе Сацыялістычнага Савецкага Саюзу, у мэтах аб'яднаньня ўсіх сіл Народу для яго поўнага нацыянальна-сацыяльнага вызваленьня ў поўным паразуменьні з краявымі беларускімі арганізацыямі, — ПАСТАНАВІЛІ: абвясьціць ад сёньняшняга дня Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі зьліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць».

Пад пратаколам ужо стаяць подпісы Захаркі, Цьвікевіча, Зайца і Пракулевіча.

Аднак умяшаньне Захаркі нічога не зьмяніла — Цьвікевіч перадаў «прыёмшчыкам» зь Менску абедзьве рэдакцыі пратаколу.

## 400 даляраў

У Бюро ЦК КП(б)Б 22 кастрычніка адбылося закрытае пасяджэньне, на якім было пастаноўлена:

«1. Признать, что:

а) исход конференции подтвердил правильность позиции бюро ЦК КП(б)Б, занятой им в этом вопросе;

б) т. Ульянов выполнил целиком и полностью директивы бюро ЦК КП(б)Б в деле проведения конференции.

…

3. Признать целесообразным опубликование резолюций, принятых на конференции в Берлине, как в нашей, так и в заграничной прессе.

…

5. Разрешить въезд в БССР Головинскому, Цвикевичу, Прокулевичу и Зайцу. Оказать поддержку Головинскому и Цвикевичу по 400 долларов».

Да канца 1925 году старшыня Ўраду Цьвікевіч з паплечнікамі — былым дзяржаўным кантралёрам Зайцам і былым дзяржаўным сакратаром Пракулевічам — выехалі ў Менск.

## Прэзыдыюм Рады «ліквідацыі» не прымае

Зацятыя апанэнты здачы мандатаў — старшыня Рады БНР Крачэўскі і ягоны намесьнік Захарка — інтэрпрэтавалі пастанову Рады Народных

Міністраў у тым сэнсе, што яна азначае толькі адстаўку Цьвікевіча і ягонага Ўраду. Ніякія пратаколы аб здачы мандатаў і ліквідацыі Ўраду БНР без зацьвярджэньня старшынём Прэзыдыюму Рады БНР ня мелі юрыдычнай сілы.

Старшыня Прэзыдыюму Рады Пётра Крачэўскі праз год напіша пра бэрлінскія падзеі:

«Выйшла падвойная авантура. Замест ліквідацыі Ўраду як установы Цьвікевіч ліквідаваў толькі сябе і сваіх таварышоў — Зайца і Пракулевіча… Такім чынам, Цьвікевіч і кампанія ліквідавалі сябе і выкінулі свае імёны зь Беларускай Незалежніцкай Групы, але ўстанова як Урад засталася. Выканаўчая ўлада да часу перайшла ў рукі Прэзыдыюму Рады і можа быць узноўлена, калі гэта будзе патрэбна».

На гэтай цытаце канчаецца наша хроніка, але не гісторыя БНР. Аднак гэта ўжо іншыя архівы і іншае падарожжа.

## ЭПІЛЁГ

Засталося сказаць пару словаў пра тое, што сталася з героямі нашай кнігі пасьля даты, якою закончылася апавяданая ў ёй гісторыя.

Ініцыятары і галоўныя ўдзельнікі Бэрлінскай канфэрэнцыі на працягу паўгоду хто раней, хто пазьней пераехалі ў Менск. **Аляксандар Цьвікевіч**, **Лявон Заяц** і **Аляксандар Вальковіч** знайшлі працу ў наркамаце фінансаў, **Уладзімер Пракулевіч** — у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР.

У Менску яны сустрэліся з паплечнікамі, якія пасьля прыходу бальшавікоў у 1920 годзе так там і засталіся. **Язэп Лёсік** выкладаў у БДУ, займаўся навуковай дзейнасьцю, **Янка Серада** працаваў у наркамаце земляробства, выкладаў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

Некаторыя дзеячы БНР вярнуліся ў БССР яшчэ раней. **Аркадзь Смоліч**, панастаўнічаўшы ў Вільні, з дазволу савецкіх уладаў перабраўся ў Менск у жніўні 1922 году, дзе працаваў у наркамаце земляробства, а таксама выкладаў у БДУ. **Палута Бадунова** скарысталася правам амністыі тым дзеячам беларускага руху, якія не змагаліся са зброяй у руках, і пераехала ў Менск у студзені 1925-га.

**Вацлаў Ластоўскі** першы раз прыехаў у Савецкую Беларусь у лістападзе 1926-га для ўдзелу ў Акадэмічнай канфэрэнцыі па рэформе беларускага правапісу, пасьля якой, аднак, вярнуўся ў Коўна. Канчаткова пераехаў у БССР у красавіку 1927 году.

Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музэю, быў неадменным сакратаром Інбелкульту.

Савецкая лібэралізацыя ў эканоміцы (НЭП) і культуры (беларусізацыя) скончылася ў 1929 годзе — годзе «вялікага пералому на ўсіх франтах сацыялістычнага будаўніцтва». У траўні-чэрвені ў Беларусі працавала камісія пад кіраўніцтвам старшыні Цэнтральнай кантрольнай камісіі кампартыі Украіны Ўладзіміра Затонскага, якая абсьледавала практыку правядзеньня ў БССР нацыянальнай палітыкі. Вынікам працы быў крытычны даклад, дасланы ў Маскву. Высновы камісіі паслужылі падставай для разгрому беларускай палітычнай, грамадзкай, навуковай і творчай эліты.

Усе згаданыя беларускія дзеячы (апрача Бадуновай) у ліпені 1930 году былі арыштаваныя ў рамках сфабрыкаванай ГПУ справы «Саюзу вызваленьня Беларусі», асуджаныя і сасланыя на 5 гадоў у розныя месцы глыбіннай Расеі. У 1935–38 гадох усе яны (гэтым разам і Бадунова) былі паўторна арыштаваныя і ў бальшыні сваёй расстраляныя неўзабаве пасьля прысуду. Некаторыя памерлі ў ГУЛАГу ад хваробаў.

Заходнебеларускіх дзеячоў, зьвязаных з БНР, савецкія карныя органы арыштавалі пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да СССР. Так, **Антон Луцкевіч** быў арыштаваны ў Вільні праз два тыдні пасьля прыходу саветаў, этапаваны ў Менск, дзе 14 чэрвеня 1941-га яму прысудзілі 8 гадоў лягероў. Памёр у лягеры ў сакавіку 1943 году.

**Раман Скірмунт**, які адышоў ад беларускай палітыкі і жыў у сваім маёнтку Парэччы на Піншчыне, у кастрычніку 1939 году, пасьля заняцьця

Заходняй Беларусі саветамі, быў забіты мясцовымі жыхарамі на загад савецкага камісара.

**Кастусь Езавітаў** пасьля Бэрлінскай канфэрэнцыі застаўся жыць у Латвіі, дзе вёў беларускую грамадзка-культурную працу. Да беларускай палітыкі зноў далучыўся падчас нямецкай акупацыі, увайшоў ва ўрад БЦР. Затрыманы СМЕРШам у 1945 годзе, памёр у турме ў траўні 1946 году — афіцыйна ад сухотаў і дыстрафіі, паводле іншых зьвестак — расстраляны.

Найдаўжэйшае і больш-менш спакойнае жыцьцё з Айцоў БНР пражыў **Язэп Варонка**, які ў 1923 годзе выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі і жыў у Чыкага, дзе займаўся беларускай грамадзкай дзейнасьцю да сьмерці ў 1952 годзе.

Пазьбеглі сьмерці ад рук савецкай карнай сыстэмы і **Пётра Крачэўскі** з **Васілём Захаркам**, якія пасьля Бэрліну вярнуліся ў Прагу і працягвалі справу БНР на выгнаньні.

Крачэўскі памёр у Празе 8 сакавіка 1928 году. Было яму 48 гадоў, але на фатаграфіях апошніх гадоў ён выглядаў на ўсе 70 — даліся ў знакі гады выгнаньня і матэрыяльнай нястачы. Старшынёўства па ім пераняў ягоны намесьнік Захарка, які заставаўся апошнім самотным захавальнікам незалежнай дзяржаўнай традыцыі, распачатай актам 25 сакавіка, аж да самай сьмерці ад сухотаў 14 сакавіка 1943 году.

Абодва прэзыдэнты Рады БНР пахаваныя на Альшанскіх могілках у Празе.

# КАБ ДАБРУ НЕ ПРАПАДАЦЬ
Замест пасьляслоўя

## Да чытача

Першы том «Архіваў БНР» у дзьвюх кнігах выйшаў у сьвет дваццаць гадоў таму — акурат пад 80-ю гадавіну незалежнасьці. Усе гэтыя гады я спадзяваўся, што назьбіраны там матэрыял натхніць нейкага пісьменьніка на напісаньне па яго матывах нечага літаратурнага. Нечага такога, што бязь лішніх намаганьняў мог бы прачытаць любы чалавек, які трошкі цікавіцца мінуласьцю.

Аднак я зусім не спадзяваўся, што нешта падобнае паспрабую зрабіць я сам — і не гісторык, і не пісьменьнік. Папярэджваю чытачоў, што хоць кожны сказ у гэтай кнізе мае пад сабой дакумэнтальнае падмацаваньне, не спрабуйце браць зь яе цытаты для сваіх курсавых, дыплёмных, кандыдацкіх і доктарскіх працаў!

Мая задача — зацікавіць, даць імпульс, падказаць тэму або нечаканы паварот, а далей — шукайце першакрыніцы. Бо насамрэч яны бясконцыя і могуць адкрывацца нанова, казаць іншыя рэчы, чым казалі мне, даваць іншыя пэрспэктывы.

Было нямала тэмаў, дакумэнтаў, назіраньняў і проста думак, якія з розных прычынаў не ўпісаліся ў структуру кнігі. Каб дабру не прападаць, дам ім месца тут — без асаблівага складу і ладу, лягічнага абгрунтаваньня або нейкай задняй думкі.

## Аўтар і падарожнік

Гэтая кніга задумвалася як папулярны пераказ падарожнікам у часе архіўных матэрыялаў простай і даступнай мовай у лёгкай і выразнай форме. Каб адкрыць чытачу невядомае, зацікавіць, захапіць, узрадаваць, засмуціць, абнадзеіць.

Найцяжэй было стрымліваць таго падарожніка — ён увесь час ірваўся пракамэнтаваць апісаныя падзеі і факты, выказаць усё, што ён думае пра таго або іншага героя — таго асудзіць, гэтага пахваліць. Бо ж падарожнік з вышыні гістарычнага досьведу ведае ўсё. Хто што скажа або зробіць пасьля, дзе апынецца, як скончыць. Часам я дазваляў яму большую вольнасьць — каб была прастора да адступленьня. Часам наступаў ягонай песьні на горла — каб не навязваць чытачу празьмерна суб’ектыўных высноваў.

Вядома, часта хацелася знайсьці аналёгіі з сучаснасьцю, бо паралелі часам былі відавочныя. Але хай сёньняшнія беларускія палітыкі чытаюць гэтую кнігу і самі пазнаюць у тых героях сябе, прымяраюць да сябе іхныя ўзьлёты і падзеньні, дасягненьні і памылкі.

А яшчэ вельмі хацелася б пачуць уражаньні ад гэтай кнігі, напрыклад, Уладзімера Караткевіча, які сваімі кнігамі шмат каго прывёў у беларускі сьвет. Некаторыя старонкі архіваў БНР былі нібы напісаныя ягонаю рукою, дзякуючы чаму ў мяне ўвесь час захоўвалася ўражаньне, што гэты матэрыял просіцца хутчэй у літаратуру, чым у гістарычную манаграфію.

## Уладзя

У справаводзтве Народнага Сакратарыяту за выходным № 1381 зарэгістраванае пасьведчаньне, выдадзенае 2 верасьня 1918 году Ўладзімеру Каткоўскаму ў тым, што ён грамадзянін-беларус Менскай губэрні, Менскага павету, Койданаўскай воласьці, мястэчка Койданава і мае патрэбу выехаць у Кіеў.

Я знайшоў гэты дакумэнт амаль у тыя самыя дні, калі ў 1995 годзе пазнаёміўся праз рассылку Mailing List Belarus з Уладзімерам Каткоўскім, тады — студэнтам Амэрыканскага ўнівэрсытэту ў Благоеўградзе. Потым ён быў маім калегам на «Радыё Свабода», апантаным амбасадарам беларушчыны ў сусьветным сеціве, нястомным вэб-майстрам, заядлым блогерам... Уладзя трагічна загінуў у 2007 годзе, на яго помніку ў Менску — экран кампутара як акно ў вечны беларускі сьвет.

## У каго гісторыя весялейшая

Часта гэтае архіўнае падарожжа ў БНР засмучала мяне настолькі, што хацелася горка заплакаць — наколькі ж усё там было змрочна і безнадзейна і загадзя асуджанае на ўсё тое, што было пасьля. У чытальнай залі Дзяржаўнага архіву за пару сталоў ад мяне сядзела жанчына, якая ўвесь час усьміхалася, часам ледзьве стрымвала сьмех, а часам дык і ня стрымвала.

Праходзячы міма, я кінуў позірк — што ж яна там такога сьмешнага чытае. Шмат я не разабраў — дакумэнты былі на ідышы. Ну вядома, во ўжо ў каго самая вясёлая гісторыя і самыя сьмешныя архівы!

Але гэтае кароткае здарэньне крыху палепшыла настрой. Усё ж, нягледзячы ні на што, нашая гісторыя хутчэй аптымістычная — тое, чаму не было наканавана існаваць, ня толькі дажыло да нашых дзён, але і не зьбіраецца так проста паміраць.

## Пацалунак

Ужо чвэрць стагодзьдзя не пакідае мяне ў спакоі маленькая пісулька па-польску, закапаная ў дакумэнтах архіву за 1921 год. Падаю яе тут у перакладзе. Аўтар гэтага інтыму назаўсёды застанецца невядомы:

«Пану Ластоўскаму сардэчныя вітаньні. Страшна яго люблю, а ўжо жыцьцё нашае камунай ніколі ня выйдзе ў мяне з памяці. Найпрыемнейшы момант быў той, калі пан Ластоўскі ляжаў перад распаленай печчу паміж бабамі і ўсьведамляў нас гісторыйкамі. Пацалуй Ты яго за гэта».

Як важна зрабіць у жыцьці нешта такое — няважнае, дробнае, датклівае — каб нехта зь іншага часу і далёкага сьвету даслаў за гэта такі пацалунак.

## Дотык Езавітава

Адзін дзень я гартаў матэрыялы са збораў Кастуся Езавітава — нават ужо й ня памятаю, ці з часоў Вайскова-дыпляматычнай місіі ў Рызе, ці пазьней, зь ягонай культурніцкай дзейнасьці. Гэта былі аркушы, густа сьпісаныя чарнільным пяром, чарніла было густое, і калі за акном сьвяціла сонца, яно спэцыфічна пералівалася вясёлкай — можа хто яшчэ памятае такі аптычны эфэкт.

Скончыўшы свой архіўны дзень, я глянуў на свае рукі — мае пальцы былі перамазаныя ў тое латыскае чарніла 20-х гадоў мінулага стагодзьдзя.

## Хто разгадае — што гэта

Аматарам крыптаграмаў. Нататкі алоўкам Вацлава Ластоўскага:

«1. Прыём новых сяброў П. і І. Е.

II Ласт

II Душ. (і яшчэ зь дзясятак прозьвішчаў з рымскай лічбай II наперадзе)

IV Пігулеўскі (і яшчэ два — зь лічбай IV)

2. Выбары перш. ступені».

Што гэта? Трошкі патыхае масонствам, і мы ведаем, што ў Коўне было заснаванае квазімасонскае «Беларускае Брацтва». Але што такое «П. і І. Е.»?

## Што яшчэ

Калі б я ставіў задачы дасьледнікам гісторыі БНР, я б перш за ўсё накіраваў іх на пошукі самага сэрца Архіваў — справаводзтва Народнага Сакратарыяту за 1918 год. Добра было б знайсьці і ўпарадкаваць архівы замежных місіяў — у Бэрліне, Празе, Рызе, Вільні, Таліне, Хэльсынкі, Канстантынопалі і сямтам яшчэ.

Варта было б пашукаць у архівах Літвы, Латвіі, Фінляндыі, Эстоніі матэрыялы аб прызнаньні або непрызнаньні БНР.

Кожная гісторыя, нават гісторыя дзяржавы — гэта гісторыя людзей. Матэрыялы для гэтай гісто-

рыі дагэтуль хаваюцца ў архівах ЧК-ГПУ-НКВД-МГБ-КГБ.

Добра было б знайсьці канфіскаваныя ЧК пастановы Найвышэйшай Царкоўнай Управы РПЦ пра беларусізацыю Праваслаўнай царквы на прапановы Ўраду БНР.

Хацелася б таксама патрымаць у руках вялікую манаграфію гісторыі Беларусі 1917–1929 гадоў, якая ахапляла б падзеі ў БНР, Савецкай Беларусі і Заходняй Беларусі.

БНР яшчэ чакае свайго шырэйшага мастацкага ўвасабленьня. Не хапае біяграфічных раманаў пра вядучыя постаці беларускага руху — ну хоць бы пра Антона Луцкевіча і Вацлава Ластоўскага. Нават у гэтай кнізе знойдуцца дзясяткі завязак для раманаў або тэлесэрыялаў.

У навучальных установах варта ўвесьці курс «Беларуская нацыянальная рэвалюцыя» (БНР і БССР). І ўрэшце пазбавіцца ад расейскацэнтрычнай тэрміналёгіі — бо яшчэ і сёньня ўжываецца азначэньне «грамадзянская вайна і замежная інтэрвэнцыя», але ж у Беларусі грамадзянскай вайны як такой і не было...

Ну і пазначыць найбольш знакавыя мясьціны БНР мэмарыяльнымі шыльдамі — у Менску гэта былы Гарадзкі тэатар (сёньня — тэатар імя Янкі Купалы), былы Губэрнатарскі дом (пл. Свабоды, 7), былы Юбілейны дом (пр. Незалежнасьці, 26), будынак «Стройзапу» (вул. Валадарскага, 9)...

## Вясна

Маё падарожжа ў БНР пачалося аднойчы зімовым вечарам у Вільні. Заканчваецца яно праз чвэрць стагодзьдзя вясновай раніцай у Празе. З працоўных вокнаў можна пабачыць магілу пісьменьніка, які як ніхто разьбіраўся ва ўзаемадачыненьнях чалавека і дзяржавы, асобы і сілаў гісторыі. Франц Кафка да БНР непасрэднага дачыненьня ня мае, аднак некалькі гадоў ён хадзіў з маімі героямі па тых самых вуліцах, разумеў свой час, а таму — і іх час, іх дылемы, нявыкруткі і мары.

Сёньня яны ляжаць амаль побач. Невысокі мур аддзяляе Новыя габрэйскія могілкі ад Альшанскіх. Там спачываюць два апошнія прэзыдэнты даваеннай Рады БНР Пётра Крачэўскі і Васіль Захарка. Гэта бадай што адзіныя магілы дзеячоў БНР, якія мы сёньня маем магчымасьць наведаць.

Магутныя камяні з выявамі «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга перажылі чатыры дзесяцігодзьдзі камунізму. Цяпер побач зь імі — афіцыйныя мэмарыяльныя шыльды на чэскай мове. Магіламі прэзыдэнтаў апякуецца цяперашняя Рада БНР, штогод у памятныя дні сюды прыносяць кветкі, тут чытаюць малітвы, запальваюць сьвечкі.

Астатнія героі маёй кнігі ў пераважнай большасьці зьніклі ў пекле савецкага ГУЛАГу бяз памятнага сьледу на гэтай зямлі.

Сёньня, праз 100 гадоў, успомнім усіх іх — добрых і злых, разважлівых і апантаных, шчырых і хітрых, адукаваных і непісьменных, сяброў і супернікаў — са спагадай і ўдзячнасьцю. 100 гадоў таму ідэя беларускай незалежнасьці — з увагі на ўсе аб-

ставіны — ня мела ніякіх шанцаў. Але тыя людзі верылі ў цуд, і гэты цуд адбыўся.

Сёньня з увагі на ўсе абставіны краіна Беларусь хай і не выглядае дакладна так, як марылі пра гэта першыя беларускія незалежнікі, аднак беларуская незалежнасьць, прызнаная ва ўсім сьвеце, — неабвержны факт.

Усё астатняе дадасца — непазьбежна, як узыход сонца.

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

В



Г



Д

К



Л

# ПРА АЎТАРА

Сяргей Шупа нарадзіўся ў 1961 годзе ў Менску. Скончыў перакладчыцкі факультэт Менскага інстытуту замежных моваў, служыў у войску, навучаўся ў асьпірантуры Інстытуту мовазнаўства АН, працаваў у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у Скарынаўскім цэнтры.

З 1991 году ў Вільні. Працаваў у газэце «Наша Ніва», вучыўся ў дактарантуры на філялягічным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1999–2001 — галоўны рэдактар Радыё Балтыйскія Хвалі.

У 1997–99 і з 2001 году — супрацоўнік Радыё Свабода ў Празе.

Пераклаў на беларускую мову творы Дж. Орвэла, Э. А. По, Л. Дарэла, Дж. Джойса, Г. дэ Мапасана, П. Мэрымэ, Б. Віяна, Б. Шульца, Ф. Тугласа, М. Унта, Х. Л. Борхеса, Э. Керэта, О. Мілаша, Д. Буцаці, М. Ергавіча.

У 1998 годзе апублікаваў «Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі» ў 2-х кнігах.

Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

## SUMMARY

This book's publication coincides with the 100th anniversary of the declaration of Belarus's independence on March 25, 1918.

Twenty years ago, author Siarhiej Šupa collated and published the two-volume "Archives of the Belarusian National Republic" — a collection of over 3, 500 documents illuminating the wide panorama of events that occurred between 1917–1925, years which bore witness to the declaration, existence, and ultimate fall of the Belarusian National Republic.

An independent Belarus was born during WWI, upon the departure of the Bolsheviks from its lands. Soon after, however, the country was occupied by Germans who, under the terms of a 1918 Brest peace accord, were prevented from recognizing the independence of the BNR.

The German occupation was followed by a Russian one. This change forced the BNR government into exile, and allowed the Bolsheviks to declare a Belarusian Soviet republic — a puppet state with no true sovereignty.

The Belarusian National Republic, banned from the Soviet history books, is viewed now as a foundation of the present-day Belarusian State.

Siarhiej Šupa is a linguist, translator and journalist. He works at Radio Liberty and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –**
**Капэнгаген –**
**Парыж – Мадрыд –**
**Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.**
**50 аўтараў з этэру**
**Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень**
**палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.










*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.

*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.

*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.